**Сяргей Навумчык**

# Сем гадоў Адраджэньня, альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995)

**Варшава – „Беларускія Ведамасьці”,**
**Прага – „Člověk v tisni”,**
**2006 г.**

# КНІГА ПРА НЯДАЎНЯЕ БЕЛАРУСКАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ

Гэтая кніжка павінна б была зьявіцца даўно, але з-за розных прычынаў выходзіць толькі цяпер са спазьненьнем, у той час калі непрыяцелі беларушчыны (нават лютыя непрыяцелі) супраць якіх мы змагаліся за незалежнасьць Бацькаўшчыны, стварылі ўжо цэлую сваю літаратуру сфальшаваных падзеяў, наперабой пэцкаючы Беларускае Адраджэньне і здабыткі нацыянальнай рэвалюцыі. Прычыны такой іхняй пасьпешнасьці зразумелыя, бо вайна за Беларусь трывае далей. Але ёсьць адна галоўная схаваная прычына, якая пабуджае іх да актыўнасьці – гэта жаданьне ашукаць гісторыю. Марнае жаданьне, аднак, бо гісторыя падзеяў пачынаецца толькі тады, калі не жыве пакаленьне людзей, якія стварылі падзеі. Усё што пішацца сучасьнікамі – гэта працяг змаганьня, давядзеньня да іншых сваёй рацыі і сваёй праўды.

Аднак ізноў жа рацыя падзеяў мераецца праўдай рэальнасьці. Рэальнасьць нашай барацьбы такая – што ёсьць незалежная беларуская дзяржава і беларускія грошы, межы і мытня, амбасады і нацыянальнае грамадзянства. Ёсьць праўда пра Чарнобыль і генацыд, адроджаныя дзяржаўныя сымвалы нацыі, школа і гісторыя. За гэта змагаліся мы з Масквой і з камуністамі і гэта сьцьвярджалі.

Рэальнасьць іхнага дзеяньня (альбо бяздзеяньня) у тым – што існуе антыбеларускі рэжым, што палітычна ліквідаваная дзяржаўнасьць беларускай мовы, вынішчана беларуская школа, нацыянальная навука і вышэйшая адукацыя, зноў сфальсіфікавана гісторыя, зноў беларус ня ўласьнік зямлі і ня творца ўлады. Зноў над краінай савецкія сымвалы, зноў пад пагрозай незалежнасьць дзяржавы.

Каляніяльныя сілы пры падтрымцы Масквы вярнулі старое. Яны змагаюцца „за Беларусь” пад сьцягам каляніяльнай ідэі „злучэньня з Расеяй”. Мы, адрджэнцы, змагаемся „за вольную Беларусь” пад сьцягам нацыянальнай ідэі незалежнасьці і Беларускага Адраджэньня.

На гэтым палягае ўся розьніца і сутнасьць канфлікту ў Беларусі. Трэцяга тут ня існуе (і ня дадзена) вось ўжо 200 гадоў. І ня будзе дадзена пакуль жыве расейская імпэрыя і яе вялікадзяржаўная палітыка. Той хто „за вольную Беларусь”, той мусіць змагацца з Расеяй.

У кнізе Сяргея Навумчыка адлюстравана наша рацыя, наша беларуская праўда і наша змаганьне.

Кніга напісана фрагмэнтарна. Але адлюстраваныя важнейшыя падзеі, зьвязаныя зь незалежнасьцю і барацьбой з камунізмам. Месцамі аўтар падрабязна перадае напружаную атмасфэру таго часу, калі нешматлікай дэпутацкай Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту даводзілася, гаворачы ваеннай тэрміналёгіяй, змагацца за кожны куст і за кожны дом, кідаючыся ў адчайныя атакі, часам мімікрыруючы і ўдаючы адступленьне, і нападаючы зноў.

Дзейнасьць і, галоўнае, палітычныя здабыткі дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня – гэта абсалютна неверагодная і ўнікальная зьява ў гісторыі эўрапейскага парлямантарызму. Асэнсаваньне яе не паддаецца фармальнай лёгіцы. І тым ня менш гэта факт, што Апазыцыя БНФ, маючы восем адсоткаў дэпутатаў у парляманце рэгулярна перамагала камуністычную большасьць (амаль 90 дсоткаў дэпутатаў) у галоўных пытаньнях, здабыла неза-

лежнасьць парляманцкім мэтадам насуперак прамаскоўскай пазыцыі камуністычнае бальшыні, спыніла дзейнасьць КПСС у Беларусі рукамі і галасамі самых жа камуністаў, якія былі супраць БНФ.

Агульная рэальная колькасьць дэпутатаў сягала 345 асобаў (па канстытуцыі БССР патрабавалася 360). Дэпутацкая Апазыцыя БНФ мела менш за 30 дэпутатаў (23 – 27), а разам з Дэмакратычным дэпутацкім клюбам ня больш 70. Астатняе камуністычна-намэнклятурная большасьць жорстка падпарадкаваная ЦК КПБ і камуністычным кіраўнікам у парляманце. І тым ня менш быў такі фэномэн, які фармальна мяжуе з абсурдам – камуністы трымальнікі абсалютнай улады ў краіне і бальшыня ў парляманце цярпелі паражэньні ад Апазыцыі БНФ.

Мне якраз зразумела чаму яны прайгравалі (але тэма вымагае спэцыяльнай гаворкі). Найперш трэба згадаць, што сумарная колькасьць неадукаванага розуму не пераходзіць у калектыўную дозу розуму, колькасьць у якасьць. Гэта вядома. Тут закон Гегеля ня дзейнічае. Апазыцыя БНФ у сваім інтэлектуальным і адукацыйным разьвіцьці стаяла вышэй за камуністычную намэнклятуру. Але галоўнае – франтаўцы ў адрозьненьне ад камуністаў адлюстроўвалі моцную энэргічную ідэю свабоды, дзяржаўнай незалежнасьці і грамадзкай справядлівасьці, яны не былі заплямленыя ўдзелам у непапулярнай намэнклятурнай уладзе. Франтаўцы наступалі, заганялі камуністаў у абарону, у пазыцыю адкіданьня нашых добрых ініцыятываў. Мы пазбаўлялі іх магчымасьці да канструктыўных дзеяньняў (да якіх яны і так ніколі не імкнуліся). Усё гэта адбываася на вачах грамадзтва.

Істотна таксама тое, што маса дэпутатаў намэнклятуры ў Вярхоўным Савеце не была палітыкамі і мела пра парляманцкую дзейнасьць цьмянае ўяўленьне. Яны прывыклі выконваць загады партыйных сакратароў (у асноўным як трэба галасаваць), не разумеючы часам сутнасьці таго за што галасуюць. Літаральна ўсе парляманцкія палітычныя дыскусіі ў Вярхоўным Савеце Апазыцыя БНФ выйгравала ў камуністаў, што называецца, з сухім лікам, за які яны адыгрываліся кнопкамі галасаваньня. Але ж і тое – не заўсёды.

Дзеля рэальнай перамогі галасамі мы стасавалі ня толькі разумную кулюарную працу (дзе галоўнае было – чалавечая павага да апанэнта і не спрачацца, памятаючы, што ў спрэчках ніколі не нараджаецца ісьціна). Мы часта ўжывалі асаблівую тактыку, якую прыдумвалі на кожны выпадак сур'ёзна і скрупулёзна, а часам лёгка і са смехам. Часта, напрыклад, мы стасавалі прыём „паралельнай мэты" ці „пабочнай задачы". Гэта тады, калі непасрдна, адкрыта, „у лоб" дасягнуць мэты было немагчыма (большасьць галасавала б адмоўна). Тады мы акцэнтавалі дыскусію на пабочнай задачы, прыймальнай для большасьці (ці прыдумвалі такую). Прыняцьцё пабочнай задачы як галоўнай дазваляла часам закамуфляваць і незаўважна правесьці галоўную пазыцыю, якую мы хацелі. Гэта звычайна рабілася ў паартыкульнай дыскусіі і галасаваньні.

Парляманцкая камуністычная маса інтуітыўна адчувала гэтую нашу траянскую тактыку, але не заўсёды магла яе зразумець. Гэта выклікала ў іх псіхалягічны шок містычнай падазронасьці да ўсяго, пра што мы казалі і што прапаноўвалі. „Нам подбрасывают, – крычалі яны па любому поваду, – нас уводят в сторону" і г. д. Вынікам шоку стала імкненьне камуністаў усё рабіць наадварот, галасаваць ад адваротнага, насуперак усяму чаго хацелі дэпутаты Апазыцыі БНФ. Мы скарысталі гэты іхны псіхалягічны калапс і некалькі разоў з гумарам правалілі іхнымі ж рукамі іхныя ж ініцыятывы супраць Фронту і Беларускага Адраджэньня. Альбо наадварот быццам бы „нязгодай" правакавалі іхняе галасаваньне за нашыя ідэі (характэрны

прыклад галасаваньне за Дэклярацыю аб сувэрэнітэце). Некаторыя эфэктыўныя выпадкі такой тактыкі з камуністычнай масай Сяргей Навумчык апісвае ў гэтай кнізе.

Паражэньні абсалютнай камуністычнай бальшыні Вярхоўнага Савета перад нешматлікай палітычна і інтэлектуальна выробленай фронтаўскай фракцыяй паказалі поўную гніласьць, застой, дэградацыю і нікчэмнасьць камуністычнай каманднай сістэмы знутры. Наменклятурныя камуністы аб'ектыўна былі няздольныя ні на якую стваральную справу дзеля народа Беларусі, акрамя як быць перашкодай, ляжаць калодай на шляху народнага адраджэньня і нацыянальнага разьвіцьця ды цягнуць усіх пад Маскву. Палітычная дурнота камуністычных кіраўнікоў у тых крыху не стандартных для іх умовах мяне часам уражвала. Памятаю галасаваньне за Белавежскія пагадненьні. Зразумела, што большасьць намэнклятуры прагаласуе „за", бо пагадненьні падпісаў Кебіч (калі б падпісаў толькі адзін Шушкевіч, дык яны б яго тады зьнялі з пасады). І вось важна выходзіць кіраўнік камуністычнай большасьці ў Вярхоўным Савеце сакратар ЦК КПБ В. Ціхіня і выступае супраць пагадненьняў. Мала таго, ён яшчэ галасуе супраць („не паступіўся прынцыпамі") і аказаўся адзіным з прагаласаваўшых насуперак. Такое вось палітычнае харакіры вернага самурая. Пасьля гэтага самазьнішчэньня ён яшчэ зноў думаў кіраваць камуністычнай бальшынёй. (Потым, у 1996, Ціхіня яшчэ нашкодзіць Беларусі разам з Шарэцкім як ніхто – праваляць імпічмант Лукашэнкі). Так што нам, Апазыцыі БНФ, тады яшчэ, мжна сказаць, крыху пашчасьціла на палітапанэнтаў. З выробленымі ды разумнымі было б цяжэй.

Асабліва паказальным быў прыклад на травеньскай сэсіі Вярхоўнага Савета БССР у 1991 годзе адразу пасьля красавіцкіх масавых страйкаў і маніфэстацыяў рабочых у Менску (дэманстравалі больш ста тысячў рабочых). Камуністычная верхавіна Беларусі на той час была самай рэакцыйнай, самай антынароднай і самай прамаскоўскай у СССР. Першы сакратар ЦК КПБ і дэпутат Вярхоўнага Савета СССР А. Малафееў выступае тады за жорсткую палітыку і за ўвядзеньне надзвычайнага становішча ў СССР. Аналізуючы тыя падзеі, пачынаеш разумець як высьпявала ідэя ГКЧП і кадэбоўскі путч у Маскве.

На сэсію камуністы вынесьлі тры заканапраекты: аб увядзеньні прэзыдэнцкай пасады ў БССР, закон аб выбарах прэзыдэнта і закон аб надзвычайным становішчы. Камуністычнай верхавіне БССР (па ўзгадненьні з Масквой) хацелася расправы і дыктатуры. Заля Вярхоўнага Савета аж „рымела" ад рашучасьці намэнклятуры прыняць гэтыя законы. У гэтакіх умовах мы пачалі парляманцкую дыскусію з камуністамі і абмеркаваньне іхных праектаў. Дыскусійнае абмеркаваньне доўжылася 15 дзён. Гэта было адно з найцяжэйшых нашых змаганьняў. У выніку камуністычная бальшыня была разьбітая намі ўшчэнт, „ўдрызг", „пасечаная", падзеленая на групы, пераагітаваная супраць праектаў і ўсе яны (гэтыя праекты) былі праваленыя пры галасаваньні гэтай жа, рашучай на пачатку, бальшынёй.

Канешне, мы „выкладаліся" і ў залі, і ў кулюарах, і ў друку. Але магчымасьць нашай перамогі (там дзе ніякіх лягічных і статыстычных магчымасьцяў не існавала) была закладзена, як я лічу, ізноў жа ў палітычнай дурноце, у чванлівым цэкоўскім „банзізме" камуністычных намэнклятурных рэтраградаў, якія нешта плянавалі, пісалі і спускалі „к исполнению", шмат не аналізуючы.

Калі б гэтыя заканапраекты не падаваліся імі пакетам, калі б аддзялілі (на іншую сэсію) закон аб надзвычайным становішчы, нам цяжка было б аргумэнтавана „ўлічыць" гэтых недасьпелых „гэкачэпістаў" і выразна паказаць, што яны плянуюць зрабіць праз увядзеньне

прэзыдэнцтва на Беларусі. Пасьля паўмесяца штодзённых бесперапынных дыскусіяў і размоваў шмат якія дэпутаты зразумелі, на што разьлічвалі малафеевы. Цэкоўскай дыктатуры пабойваліся правінцыйныя намэнклятуршчыкі і шэраговыя камуністы. Я ўжо не кажу, што яны таксама былі падзеленыя на групы (умоўна, праўда) і мелі свае абласныя інтарэсы. Мы гэта ведалі і стараліся скарыстаць у змаганьні.

Тая травеньская перамога ў парляманце над камуністамі дала нам крылы, камень зваліўся з душы, мы верылі ў будучыню, у свае магчымасьці і ня ведалі страху. Потым было ГКЧП, правал путчу ў Маскве і спаўненьне надзей – вяртаньне незалежнасьці Беларусі.

У кнізе Сяргея Навумчыка добра і прасторна апісаныя галоўныя карціны гэтай падзеі, калі ўсё вісела на валаску, і ўсё удалося, сталася дзень у дзень, хвіліна ў хвіліну і мы не спазніліся, пасьпелі на апошні цягнік. Мы ўдзячны Богу, што зьлітаваўся Ён тады над Беларусяй.

Праца Сяргея Навумчыка цікавая ня толькі выразнымі апісаньнямі падзеяў, трапнымі характарыстыкамі асобаў, дакладнымі высновамі, але таксама адэкватным беларускім бачаньнем працэсаў, адраджэнскай канцэптуальнасьцю ацэнак, якія вынікаюць з галоўнай сутнасьці адвечнага змаганьня з Усходам – быць ці ня быць Беларусі.

З гэтых пазыцыяў нацыянальнага існаваньня, барацьбы і адраджэньня аўтар дакладна ацэньвае ня толькі падзеі і працэсы нядаўняга часу, але і аб’ектыўныя ролі асобаў, якія прымалі ўдзел у дзяржаўным кіраваньні і палітычных канфліктах. Яны паказаныя featureзнабакова (плюсы і мінусы) і цалкам аб’ектыўна, што тычыцца іхных дачыненьняў перад людзьмі і Айчынай.

Праніклівы чытач заўважыць і будзе, відаць ўражаны амбівалентнасьцю паводзінаў асобных афіцыйных палітычных постацяў Беларусі пэрыяду нядаўняга нацыянальнага Адраджэньня (1988 – 1995 гг. па С. Навумчыку). Гэта датычыць перш за ўсё Шушкевіча, у меншай ступені Кебіча, потым Гілевіча, Краўчанкі, Бутэвіча, Дзямчука і іншых, якія сфармаваліся ў камуністычнай сістэме, пад ціскам абставінаў выйшлі зь яе прэч, але так і не разьвіталіся зь яе звычкамі і псіхалёгіяй, засталіся адной нагой у Менску, другой у Маскве. На прыкладзе ацэнак апанэнтаў Сяргей Навумчык, які быў каардынатарам дэпутацкай Апазыцыі БНФ, гарачым удзельнікам канфліктаў і змагарных падзей, выявіў аб’ектыўнасьць, добрыя якасьці дасьледчыка, здольнага глядзець на падзеі з боку і з вышыні і ацэньваць іх па крытэрыях шкоды і дабра для Беларусі.

Сяргей Навумчык канстатуе, што палітычны працэс Беларускага нацыянальнага Адраджэньня прыпынены з прычыны захопу ўлады ў Беларусі прамаскоўскімі сіламі. Аналізуючы становішча і пэрспэктывы разьвіцьця Беларусі, аўтар (як і ўсе мы цяпер) ня можа не трывожыцца за лёс Бацькаўшчыны, якая апынулася нібы закладніцай уласнага лёсу. Ён піша пра гэта. Але ёсьць канкрэтныя прычыны ад якіх залежыць гэты яе лёс і шлях да перамогі. Чытаньне кнігі Сяргея Навумчыка, упэўнены, дапаможа беларусам убачыць хутчэй гэты шлях і лепей яго распазнаць.

***Зянон Пазьняк***

*17 чэрвеня 2006 г.*
*Варшава*

# СЕМ ГАДОЎ АДРАДЖЭНЬНЯ, АЛЬБО ФРАГМЭНТЫ НАЙНОЎШАЙ БЕЛАРУСКАЙ ГІСТОРЫІ (1988–1995)

## УСТУП

Пэрыяд апошняга Адраджэньня пасьпеў абрасьці гэткай колькасьцю мітаў, што прабрацца празь іх да ісьціны ўсё цяжэй.

З аднаго боку, лукашэнкаўская прапаганда цьвердзіць, што сувэрэнітэт Беларусі нібыта быў дасягнуты і замацаваўся выключна і толькі дзякуючы Лукашэнку (пры гэтым сама ідэя Незалежнасьці зьневажаецца, як зьневажаецца і беларуская мова, і нацыянальная культура – у інтарэсах Масквы).

У афіцыйных сродках масавай інфармацыі падзеі пачатку 90-ых замоўчваюцца, гэтак жа, як і падзеі 1918 года. І гэта не выпадкова – у гісторыі Беларусі ўтварэньне БНР і аднаўленьне Незалежнасьці Беларусі ў пачатку 1990-ых стаяць побач. Стэнаграмы сэсій Вярхоўнага Савета 12 скліканьня зрабіліся недаступнымі – на іх, фактычна, накладзены грыф сакрэтнасьці. У некаторых навучальных установах выкладчыкі гавораць студэнтам, што, нібыта, Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і „Пагоня" ніколі не былі дзяржаўнымі сымбалямі.

З другога боку – у праўдзівай рэтраспэкцыі не зацікаўленыя і некаторыя з тых, хто сёньня называе сябе лідэрамі апазыцыі, хто вёў да ўлады Лукашэнку ці ўмацоўваў антыбеларускі рэжым у першыя гады ягонага прэзыдэнцтва. Не жадаючы камэнтаваць іхныя цяперашнія заявы, лічу неабходным прааналізаваць іхныя дзеяньні ў пэрыяд ўздыму нацыянальнага Адраджэньня.

Зьявіліся і інтэрпрэтатары, якія замоўчваюць найважнейшыя аспэкты дзейнасьці Народнага Фронту, зводзячы яе альбо да „мітынгоўшчыны" (і ні слова пра амаль шасьцігадовую парлямэнцкую, заканадаўчую працу), альбо падаюць аднаўленьне Незалежнасьці як выпадковы вынік зьбегу акалічнасьцяў (маўляў, Незалежнасьць звалілася на беларусаў зь неба – нібы той дождж).

У выніку, маладое пакаленьне беларусаў (значная яго частка) ня ведае нядаўняй гісторыі, кіруецца сумнеўнымі ўяўленьнямі пра падзеі і пра асобаў. Гэта, зразумела, ўплывае і на палітычныя вынікі нацыянальнага змаганьня.

Пэрыяд гэты і сапраўды найменш дасьледаваны яшчэ і з той жа прычыны блізкасьці па часе і неўсьвядомленасьці ягонай гістарычнасьці.

Патрэбу зрабіць храналёгію апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня я адчуў падчас працы над укладаньнем кнігі радыёпубліцыстыкі Васіля Быкава – мае маладзейшыя калегі прасілі патлумачыць нейкія выказваньні, бо палітычны кантэкст таго часу быў ім папросту невядомы. Я са зьдзіўленьнем убачыў, што няма нейкага адзінага, больш-менш падрабязнага тэксту, прысьвечанага менавіта гэтаму пэрыяду. Давялося зьвяртацца да ўласнага архіву.

У свой час Быкаў узяў зь мяне слова, што я напішу гісторыю апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня і змаганьня Беларускага Народнага Фронту; аднаўленьне Незалежнасьці Беларусі Васіль Уладзімеравіч лічыў заслугай менавіта БНФ і яго лідэра Зянона Пазьняка. Абяцаньне я выканаю.

Але гэты тэкст – не мэмуары, хаця ў нечым ён зьяўляецца максымальна скарочаным іх канспэктам. Менш за ўсё мне хацелася зрабіць яго падобным на ўспаміны, з апісаньнем сустрэчаў, перамоваў, цытаваньнем перапіскі і запісаў, ацэнкай асобаў ды камэнтарамі іх паводзінаў, нарэшце, прыгадваньнем уласных адчуваньняў. На жаль, у некаторых месцах не ўдалося; выглядае, ўдзельніку нейкіх падзеяў нерэальна цалкам абстрагавацца ад суб'ектыўнага погляду. Прашу прабачэньня ў чытачоў і суцяшаюся тым, што, магчыма, суб'ектывізм дапаможа крыху больш дакладна адчуць атмасфэру таго часу.

Вядома, гэтая храналёгія ня поўная і фрагмэнтарная: у ёй ня згадваюцца некаторыя падзеі, якія хаця і былі яскравымі і цікавымі, аднак не адыгралі кардынальнай ролі ў працэсе нацыянальнага Адраджэньня. Тым ня менш, пасьля публікацыі часопіснага варыянту ў „ARCHE пачатак” (3-2006) я дадаў у гэты тэкст некаторыя новыя разьдзелы.

# ПАПЯРЭДНІКІ

У „Нарысе гісторыі Беларусі. 1795–2002” гісторык Захар Шыбека вылучае пяць пэрыядаў вызваленчай барацьбы беларусаў, дарэчы, дакладна і слушна характарызуючы яе памкненьнямі да незалежнасьці ад Расеі.

Першы – „пад сьцягам аднаўленьня страчанай дзяржаўнасьці Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай” – цягнуўся да 80-ых гадоў XIX стагодзьдзя. Другі быў зьвязаны з ідэяй „адміністрацыйна-культурнай аўтаноміі ў складзе Расейскай імпэрыі” (да 1915 году) і завяршыўся пазбаўленьнем ад царызму. Трэці пэрыяд Захар Шыбека вызначае межамі 1915–1945 гг. і вылучае ў ім ідэю поўнай незалежнасьці Беларусі (што на кароткі час увасобілася ў БНР). Чацьверты пэрыяд (50-80-ыя гады) гісторык акрэсьлівае як самы „змрочны”, калі пра Незалежнасьць марылі адзінкі, а змаганьне за беларускую дэмакратыю перамясьцілася ў эміграцыю. Нарэшце, апошні, пяты пэрыяд, пачаўся з гарбачоўскай лібэралізацыяй – гэта час „узнаўленьня і ажыцьцяўленьня незалежніцкіх ідэалаў у Беларусі”.

Як бачым, далёка не заўсёды барацьба мела посьпех і суправаджалася нацыянальным адраджэньнем. Што бясспрэчна – найвышэйшым посьпехам такой барацьбы ёсьць абвяшчэньне дзяржаўнай Незалежнасьці. У азначаны час гэта было двойчы: у 1918 і ў 1991 годзе. На жаль, Беларуская Народная Рэспубліка была зьнішчаная маскоўскімі камуністамі і не пасьпела стварыць умоваў для разьвіцьця нацыі. А вось падзеі 1991 году былі адначасна і вынікам, і каталізатарам нацыянальнага Адраджэньня – і на сёньня мы можам казаць пра гэты працэс як пра апошняе па часе Адраджэньне Беларусі.

І калі ў вызначэньні папярэдніх хваляў гісторыкі апэруюць тэрмінамі „плюс-мінус” год, а то і дзесяцігодзьдзе – дык апошняе Адраджэньне мы нават можам вылічыць па днях.

Падаецца, што гэты пэрыяд вызначаны 1988 годам, калі ў чэрвені быў надрукаваны артыкул Пазьняка і Шмыгалёва „Курапаты – дарога сьмерці”, а ў кастрычніку ўтвораны Аргкамітэт БНФ, – і да лукашэнкаўскага рэфэрэндуму ў траўні 1995 г. Калі больш канкрэтна – з 3 чэрвеня 1988 году да 14 траўня 1995-га.

Гэта – сем гадоў.

Альбо 2537 дзён.

Аб’яднаньні нацыянальнай накіраванасьці (нелегальныя альбо напаўлегальныя), якія сымпатызавалі ідэі беларускай Незалежнасьці, існавалі і ў папярэднія дзесяцігодзьдзі. Прыгадаем Саюз беларускіх патрыётаў, групы маладых інтэлектуалаў 60-ых гадоў (Баразна, Пазьняк, Разанаў, Чарняўскі і інш.), „Майстроўню” (пачатак-сярэдзіна 1980-ых), нарэшце, „Талаку” і „Тутэйшых”. Пры бясспрэчным маральным і ідэалягічным значэньні гэтых арганізацый, іх ролі ў фармаваньні сьвядомасьці эліты, мастацкіх здабытках (як у выпадку з „Тутэйшымі”) – яны ня мелі шырокага ўплыву на насельніцтва і ня выліліся ў масавы рух, які мог бы кардынальна ўзьдзейнічаць на палітычную сытуацыю. Тым ня менш, менавіта гэтыя суполкі (нароўні зь беларускай дыяспарай на чале з Радай БНР) увасаблялі ідэю неад’емнага права беларускага народу на сувэрэннае існаваньне, падрыхтавалі глебу для шырокага масавага руху і новай хвалі нацыянальнага Адраджэньня.

Тактыка камуністычнага кіраўніцтва палягала ў тым, каб спыніць праявы нацыянальнай сьвядомасьці ў самым іх пачатку, жорстка караць тых, хто асьмеліцца стварыць якія-небудзь нацыянальныя апазыцыйныя арганізацыі (так было з актывістамі Саюзу беларускіх патрыётаў), а вакол іх ініцыятараў стварыць інфармацыйны вакуум. Самым галоўным было – не дапусьціць стварэньня сеткі агульнанацыянальнай арганізацыі. Гэткая рэпрэсіўная палітыка была даволі эфэктыўнай.

У выніку адсутнічалі некалькі чыньнікаў, якія не дазвалялі пераўтварыцца беларускім суполкам ды акцыям энтузіястаў у масавы рух і распачаць Адраджэньне. Па-першае, яны былі лякальнымі і ня мелі агульнанацыянальнага маштабу. Суполкі Саюзу беларускіх патрыётаў дзейнічалі ў Паста-



(Фота: А. Руннер)

***Памятны знак.***

вах і Глыбокім – але ў іншых, усходніх раёнах Віцебскай вобласьці структураў СБП не было. Яўген Кулік зьбіраў мастакоў „На паддашку” – але пераважна менскіх, а гомельскія ці берасьцейскія мастакі пра гэта маглі і ня ведаць. Выступ Разанава ўскалыхнуў філфак БДУ – але на філфаку Віцебскага пэдінстытуту, напрыклад, усё было „ціха”. А вось у 1987 годзе нацыянальная моладзь аб’ядналася на вальным Сойме ў Канфэдэрацыю беларускіх суполак – здавалася б, агульнанацыянальная (ці, як тады казалі, „рэспубліканская”) арганізацыя, тым болей што адзін з „талакоўцаў”, Сяргей Абламейка, прыгадвае пра разьмеркаваньне адказных за вобласьці – аднак інфармацыі пра гэта ў СМІ было няшмат (і гэта – у час росквіту гарбачоўскай „галоснасьці”). У 1974 годзе Зянон Пазьняк напісаў у самвыдаце артыкул „Становішча ў Беларусі. 1974 год” пра сытуацыю, у якой апынулася нацыянальная інтэлігенцыя – але яго прычытала вузкае кола сяброў (што, праўда, не перашкодзіла ўладам выгнаць яго з працы, праўда, па іншых прычынах). Гэтая палітыка замоўчваньня вытрымлівалася цьвёрда – у газэтах 60–70-ых – пачатку 80-ых гадоў вы ня знойдзеце ніякай (нават адмоўнай) інфармацыі пра ініцыятывы ні тых жа Пазьняка і Разанава, ні Анатоля Сідарэвіча, ні – пазьней – Вінцука Вячоркі, Сяржука Вітушкі ці Сяргея Дубаўца. Але вось артыкул Барыса Сачанкі, надрукаваны ў 1957 годзе з прапановай перавесьці ўсе школы на беларускую мову, здавалася б, мог разьлічваць на шырокі грамадзкі розгалас, бо выйшаў не „самвыдатам”, а быў надрукаваны ў „ЛіМе”. Але, як пацьвярджае Захар Шыбека, ініцыятары публікацыі і тыя, хто падтрымаў аўтара, імгненна трапілі пад рэпрэсіі КДБ, таму рэалізацыі ў нейкіх шырокіх грамадзкіх ініцыятывах артыкул ня меў.

І ўсё ж вышэйсказанае а ні ў якім разе не зьмяншае значнасьці такіх выступаў. Узгадаю яшчэ ліст віцебскага настаўніка Францa Сіўко „Прашу вызваліць...” (аб нежаданьні бацькоў навучаць дзяцей на роднай мове) у ЛіМе, які выклікаў гарачую дыскусыю, і зварот прадстаўнікоў творчай інтэлегенцыі да Генэральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Гарбачова аб дыскрымінацыі беларускай мовы, – абодва ў 1986 годзе.

# ПРАЎДА ПРА КУРАПАТЫ

Але ў 1988 годзе адбылося тое, што (дзякуючы і больш спрыяльным і дэмакратычным і абставінам, але і асабістай мужнасьці ініцыятара) мела вынікам шырокае аб’яднаньне грамадзтва вакол ідэі нацыянальнага адраджэньня і – гэта галоўнае – стварэньне палітычнай арганізацыі, якая дамаглася аднаўленьня дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі.

Менавіта такой падзеяй зьяўляецца публікацыя 3 чэрвеня 1988 году ў „ЛіМе” артыкулу Зянона Пазьняка і Яўгена Шмыгалёва „Курапаты – дарога сьмерці” (артыкул увайшоў у гісторыю з падвоеным аўтарствам; насамрэч жа ад першага да апошняга слова пісаў яго адзін Пазьняк. Шмыгалёў разам з Пазьняком удзельнічаў у апытаньнях людзей у навакольлі Курапатаў, і Пазьняк палічыў карэктным паставіць пад артыкулам і ягонае прозьвішча).

Дасьледчыкі яшчэ прааналізуюць фэнамэналёгію той публікацыі ў грамадзкай сьвядомасьці беларусаў, мы ж адзначым некалькі істотных акалічнасьцяў. Пра сталінскія рэпрэсіі ў масавым савецкім друку пачалі пісаць недзе зь сярэдзіны 1986 году, і таму ў гэтым сэнсе публікацыя ў „ЛіМе”, здава-




***Дзяды.***

лася б, не магла лічыцца адкрыцьцём. У 1987 годзе „Тутэйшыя” нават правялі Дзяды з ушанаваньнем памяці рэпрэсаваных. З другога боку – у артыкуле ўжываюцца тэрміны „злачынствы 1930–1950 гадоў” (а не, напрыклад, з 1917-га), „сталінскія турмы і лягеры” (а не „бальшавіцкія”). Публікацыя стала магчымай дзякуючы прадмове Васіля Быкава, які піша пра „ахвяраў сталіншчыны” (а не камуністаў), „яжоўска-берыеўскія рэпрэсіі” (а не камуністычныя). У гэтым сэнсе, Салжаніцын у „Архіпелягу ГУЛагу” ці тыя эмігранты зь Беларусі (як Аляхновіч), якія пасьля адсідак здолелі ўцячы ў „вольны сьвет”, – былі бліжэй да ісьціны, бо канстатавалі рэпрэсіі як вынік і неад’емную частку ленінскай палітыкі і камуністычнай ідэалёгіі. Аднак кніга Аляхновіча, выдадзеная ў больш як дзесяці краінах, была невядомая ў Беларусі, Салжаніцына таксама не друкавалі ў СССР. Па-другое, фраза кшталту „бальшавіцкія рэпрэсіі” зрабіла б публікацыю ў 1988 годзе немагчымай; зрэшты, ад таго, што рэпрэсіі былі названыя не „камуністычнымі”, а „яжоўскімі” ці „сталінскімі”, яны не рабіліся менш жахлівымі.

Пазьняк упершыню сказаў іншае і ў той момант значна больш важнае, чым, напрыклад, сьцьвярджэньне, што „Ленін – бандыт”, калі б яго нейкім цудам і ўдалося апублікаваць.

Па-першае, было даказана, што рэпрэсіі мелі не эпізадычны характар і тычыліся ня двух ці трох дзесяткаў чалавек – у Курапатах паляглі тысячы і тысячы. Па-другое, у маскоўскай ды менскай прэсе шмат пісалася пра „трагічныя лёсы” Бухарына ды Тухачэўскага (якія ў 1917–1918 самі і ўсталёўвалі крывавымі мэтадамі бальшавіцкі рэжым), ці пра камуністычных функцыянэраў Галадзеда ды Шаранговіча, ці пра пагібель прадстаўнікоў творчай ды навуковай эліты. У ЛіМаўскай жа публікацыі выразна паказана, што расстрэльвалі простых людзей, сялян – якраз тых, хто, паводле камуністычнай ідэалёгіі, кваліфікаваўся як „кляса” (інтэлігенцыя лічылася „праслойкай”). Расстрэльвалі народ. І, нарэшце, у артыкуле ўжыты тэрмін „генацыд”. Гэта значыць – зьнішчэньне людзей паводле нацыянальнай прыкметы (цяпер ужо ня трэба даводзіць, што беларускае слова – размова па-беларуску – магло стаць дастатковым аргумэнтам для рэпрэсіяў). Істотным быў і „эфэкт прысутнасьці”: злачынствы адбываліся не ў Сібіры ці на маскоўскай Лубянцы, а вось тут, побач (а шмат для якіх менчукоў – у месцы іх адпачынку). Аўтары настойліва зьвярталі ўвагу і на праблему пакараньня арганізатараў і выканаўцаў расстрэлаў, пакараньня бяз тэрміну даўніны – а менавіта вэтэраны НКУС–КДБ складалі ў той час даволі забясьпечаную і палітычна актыўную касту.

Ніводнага з гэтых кампанэнтаў не было ў ранейшых маскоўскіх ці менскіх публікацыях – у ЛіМаўскім артыкуле ж яны прысутнічалі супольна.

У тыя часы я працаваў у абласной газэце „Віцебскі рабочы”, уваходзіў у склад клюбу „Ўзгор’е”, падтрымліваў кантакты зь менскімі актывістамі нефармальнага, як тады казалі, руху. Словам, быў чалавекам адносна інфармаваным, але шмат якія акцыі „Талакі” ці „Тутэйшых” былі невядомыя нават мне. Артыкул жа „Курапаты – дарога сьмерці” зрабіўся публікацыяй, эфэкт ад якой не магу параўнаць з вынікам ніякага іншага артыкулу. Тэкст імгненна быў перадрукаваны на ратапрынтах, яго чыталі на заводах, у інстытутах, яго абмяркоўвалі – я сьведчу пра правінцыйны Віцебск, у Менску ж розгалас, зразумела, быў куды большы.

# СХОД У ДОМЕ КІНО. „МАРТЫРАЛОГ” І АРГКАМІТЭТ БНФ

Вынікам публікацыі і шырокага яе розгаласу было ініцыяваньне стварэньня арганізацыі памяці ахвяраў рэпрэсіяў. Сход адбыўся 19 кастрычніка 1988 году ў будынку Дому кіно (цяпер Чырвоны касьцёл). Мы зьбіраліся туды, як было пазначана ў запрашэньнях, для ўтварэньня „Беларускага камітэту памяці ахвяраў сталінізму „Камітэт-58” (паводле назову рэпрэсіўнага артыкулу крымінальнага кодэксу). Асабіста я атрымаў запрашэньне ад Аляксандра Лукашука, кабінэт якога ў рэдакцыі „Зьвязды” быў адным зь месцаў збору ініцыятараў камітэту памяці ахвяраў сталінізму (здаецца, там я ўпершыню і пабачыў Пазьняка. Потым гэткая актыўнасьць каштавала Лукашуку рэдакцыйнай пасады).

Спачатку сход меркавалі правесьці 18 кастрычніка, потым перанесьлі на дзень пазьней. Ехаў я зь Віцебску ў Менск на сход разам з Тадзіянай Кляшторнай – дачкой рэпрэсаванага паэта Тодара Кляшторнага.

Колькі чалавек ведала пра тое, што будзе ўтвораны аргкамітэт Народнага фронту? Дакладна ведалі Пазьняк, Дубянецкі, Быкаў і яшчэ адна асоба.

Вось як пра падрыхтоўку да зьезду БНФ адмыслова для гэтай кнігі прыгадаў Зянон Пазьняк:

„Адносна таго, што Васіль Быкаў напісаў ва ўспамінах, што ня ведаў пра стварэньне БНФ. Быкаву і Дубянецкаму я сказаў пра намер аб’явіць аб стварэньні Аргкамітэту БНФ непасрэдна перад пачаткам Устаноўчага Сходу Мартыралогу. Маючы гэта на ўвазе, я пісаў пазьней, што пра ўтварэньне Фронту ведалі дзьве асобы (Быкаў і Дубянецкі). Плянаў маіх яны сапраўды ня ведалі. Я іх паставіў як бы перад фактам у падтрымцы якога зь іхняга боку я не сумняваўся, бо ведаў пазыцыю абодвух. У дадзеным выпадку сцьвярджэньні „ведаў” – „ня ведаў” ёсьць розначытаньнем.

Пасьля адкрыцьця Курапатаў вясной 1988 г. былі зробленыя мной першыя археалягічныя раскопкі пахаваньняў. Потым, у пачатку чэрвеня, быў надрукаваны артыкул „Курапаты – дарога сьмер-




(Фота: К. Войтка)

*Дзяды ў Курапатах. 1989 г.*



Паважаны Навумчык Сяргей Восіпавіч

Арганізацыйная група па стварэньню Беларускага камітэта памяці ахвяр сталінізму / Камітэт "58" / запрашае Вас прыняць удзел ва ўстаноўчым сходзе, які адбудзецца 19-га кастрычніка ў $18^{30}$ па адрасу Савецкая, 15 (Дом кіно) Мінск

На сходзе Камітэта "58" будзе прынята праграма дзеяньняў, статут, выбраны кіруючыя і рабочыя органы.

***Запрашэньне на Устаноўчы сход „Мартыралогу”.***

ці”. Затым, у ліпені, адбыліся больш шырокія археалягічныя дасьледваньні, якія я праводзіў з групай археолягаў ужо ў кантэксьце ўзбуджанай крымінальнай справы па факту пахаваньняў. Пасьля гэтага ў жніўні пачынаецца праца над стварэньнем мэмарыяльнай арганізацыі „Камітэт – 58”. Разам са мной працавала група асобаў. Гэта найперш Міхась Дубянецкі, Мікола Купава, Алесь Лукашук, Алег Белавусаў і іншыя.

У час працы над стварэньнем Камітэту – 58 нарадзілася ідэя ўтварыць Беларускі Народны Фронт па прыкладу прыбалтыйскіх, якія акурат у гэты час там былі створаныя. Ідэя была сьцісла дыскрэтнай (камуністычны рэжым на Беларусі трываў татальны і антыбеларускі). Размова вялася мной толькі зь Міхасём Дубянецкім. Мы не ўяўлялі яшчэ як у той спэцыфічнай, да дна рэакцыйнай і антынацыянальнай сытуацыі, якая існавала на Беларусі, можна было прыступіць да справы, калі КГБ і парткамы кантралявалі кожны ўздых, а ўзровень грамадзтва быў цалкам дэнацыяналізаваны.

Мы меркавалі, што каб даць штуршок – аб’явіць пра Фронт і пачаць рэалізоўваць ідэю стварэньня – павінна была зьявіцца нейкая аўтарытэтная асоба, якая хоць бы фармальна прылучылася да гэтай справы. Патрэбна было „імя”, настойваў Міхась Дубянецкі. Натуральна, што мы адразу зышліся на асобе Васіля Уладзімеравіча Быкава.

Размова з Быкавым адбылася неўзабаве ў верасьні. Мы спаткаліся непадалёк ад Дому літаратара ля мураванай брамы-уваходу ў Дзіцячы парк (тады парк імя Горкага, хаця пры чым тут Горкі) і хадзілі па сквэрыку ля пустых лавачак, размаўляючы. Быкаў вельмі прыхільна паставіўся да нашай ідэі, але лагодна адмаўляўся ад адказнай ролі, спасылаючыся на здароўе, свой характар, узрост, казаў што ён не ўпэўнены, што зможа тут нешта зрабіць. Мы казалі, што рабіць будуць іншыя (мы найперш), але каб зьвярнуць увагу на справу павінен быць на чале яе вядомы чалавек. Дубянецкі быў перакананы ў гэтым і я зь ім пагаджаўся, хоць і адчуваў, што зь „вядомымі” ў Беларусі нічога не атрымаецца. Лепш бы зь „невядомымі” ды энэргічнымі і безаглядднымі. Цікава, што Быкаў нібы падтрымаў мае думкі. Ён сказаў, што лепш бы маладзейшых, ды актыўных, навошта тая вядомасьць – справа ж новая. Словам, Быкаў адмовіўся і мы з Дубянецкім, седзячы на лавачцы, перабіралі па пальцах магчымыя кандыдатуры. І аказалася, што справа дрэнь: вядомых шмат ды ўсе „савецкія”.

– А што калі Гілевіча? – кажу я,– патрыёт, за мову змагаецца. Дубянецкі замаўчаў і стаў разглядаць кусты кізільніка, якім тады былі засаджаныя ўсе сквэрыкі Беларусі. Нарэшце пайшлі да Гілевіча.

– Гіблая справа, – кажа Дубянецкі.

– Калі ня згодзіцца? – пытаю.

– Калі згодзіцца,– адказвае Міхась Хведаравіч.

– Галоўнае пачаць, – кажу я, – а там пойдзем шырокім фронтам.

Гэтак размаўляючы, зайшлі ў кабінэт да Ніла Гілевіча. Ніл Сымонавіч зацікавіўся і крыху ўсхваляваўся. Пачаў задаваць пытаньні. А як, а што, а ці ведае ЦК (Ух!), а можа трэба пагаварыць з Краўчанкам (сакратар Менскага Гаркама КПБ па ідэалёгіі), бо справа добрая і г.д. Цікавая была размова – мізансцэна. Нарэшце Ніл Сымонавіч цьвёрда адмовіўся і мы пайшлі.



*Устаноўчы сход „Мартыралогу". (Зьлева направа: функцыянэр ЦК КПБ Р. Бузук, М. Хв. Дубянецкі, В. У. Быкаў.)*

Да самага 19 кастрычніка ніякай гаворкі пра кіраўніка больш не было. Аднак ідэя вісела ў паветры і да мяне прыходзілі шмат хто (і незнаёмыя) асабліва перад устаноўчым сходам „Камітэту – 58" і прапаноўвалі аб'явіць пра стварэньне Фронту. Я зразумеў, што КГБ цікавіцца намерамі і на ўсе прапановы адказваў адмоўна, прыкідваўся зацыкленым на „камітэце". У дзень сходу (19 кастрычніка 1988 г.) я склаў сьпіс будучага аргкамітэту Фронту з 23 асобаў і перад самым сходам паведаміў Быкаву і Дубянецкаму, што пры зручным моманце аб'явім пра Аргкамітэт БНФ і паставім на галасаваньне. Сытуацыя правамоцная, дэлегаты з усёй Беларусі, аб'явім, выберам, створым, прагаласуем, а там справа пойдзе, на руках панясем. Весьці сход павінен быў Міхась Дубянецкі.

Пасьля стварэньня „Камітэту – 58", які па маёй прапанове назвалі „Мартыралог Беларусі" (праўда, з цяжкасьцю, бо шмат хто не разумеў сэнсу слова „мартыралог"), я прапанаваў утварыць Аргкамітэт БНФ „Адраджэньне" і зачытаў сьпіс асобаў, які тут жа на Сходзе дапаўненьнямі зь месцаў павялічылі да 35 чалавек і прагаласавалі за яго.

Так быў створаны Аргкамітэт Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне". Больш падрабязна пра Устаноўчы Сход Мартыралогу і пра гэтую падзею я пісаў у артыкуле „Курапаты. 10 гадоў пасьля". Надрукаваны ў „Беларускіх Ведамасьцях" (скарочаны варыянт у „Нашай Ніве") за 1998 г.

Потым аказалася, што як я ні стараўся адразу надзейна вызначыць склад Аргкамітэту (прапановы зь месца на Сходзе таксама былі ўзгодненыя), агентура ўсяроўна пралезла і адразу пачала круціцца каля Быкава. Былі моманты, што ўсё вісела на валаску і Аргкамітэт проста трэсла. Цяпер з гумарам для сябе адзначаю, што нас уратавала тады толькі іхняя дурнота. (Подлыя справы, як правіла, робяць дурныя людзі.) Перад Устаноўчым Зьездам БНФ нам (адраджэнцам) удалося некаторых такіх „перабудоўшчыкаў" вытурыць, некаторых заблякаваць і праца пайшла хуткімі тэмпамі (пад гістэрычны лямант камуністаў). Але наш цягнік ужо набіраў ходу і сьмела імчаў наперад да волі і незалежнасьці Беларусі".

У ліку тых, хто ведаў пра ініцыятыву стварэньня Народнага Фронту, Пазьняк не называе, напрыклад,

Сяргея Дубаўца. Але калі мы зь Сяргеем ішлі ў Дом кіно, Сяргей выпытваў, як бы я паставіўся да ідэі ўтварэньня Народнага Фронту. А першае, што я пачуў ад Арлова, якога спаткаў у Доме кіно перад паседжаньнем, было – „Ну ты ведаеш, што будзем ствараць Народны фронт?". Для мяне гэта было навіной, хаця ідэя такой арганізацыі аднойчы абмяркоўвалася намі з Уладзімерам Арловым яшчэ ў ягонай наваполацкай кватэры. Усё гэта сьведчыць, што калі і ня ведалі, дык здагадваліся – словам, ідэя, як кажуць, „вісела ў паветры".

У Доме кіно я пабачыў, Васіля Быкава, Ніла Гілевіча, Максіма Танка, Віктара Казько, Аляксея Дударава, Янку Брыля, Рыгора Барадуліна, Сяргея Грахоўскага... Некаторыя зь іх тут жа паставілі подпісы супраць будаўніцтва Віцебскай АЭС. У залі былі актрысы Стэфанія Станюта і Марыя Захарэвіч, рэжысэр Валер Масьлюк, кампазытар Яўген Глебаў...

Спачатку на сходзе было ўтворана Беларускае гісторыка-асьветніцкае таварыства памяці ахвяраў сталінізму „Мартыралог Беларусі". Ад таго, хто будзе абраны старшынём, залежала далейшая праца сходу, а менавіта – ці ён прапануе людзям разыходзіцца, ці – паставіць на галасаваньне стварэньне Народнага фронту, да чаго ўжо заклікалі прамоўцы. Васіль Быкаў прапанаваў Пазьняка: „Гэты чалавек павінен быць пазбаўлены таго вялізнага недахопу, які ёсьць ва ўсіх нас, які выхаваны ўсімі папярэднімі гадамі, – ён павінен быць пазбаўлены страху. Найперш страху перад начальствам. І такім чалавекам (я думаю, што вы мяне падтрымаеце) я назаву Зянона Станіслававіча Пазьняка". Гэтаму запярэчыў прадстаўнік ЦК КПБ Расьціслаў Бузук, які паспрабаваў сарваць сход. Аднак Быкаў узяў мікрафон і правёў галасаваньне. Пазьняк быў абраны, і празь некалькі хвілінаў, а менавіта ў 22.15 пад воплескі залі выставіў на галасаваньне прапанову аб утварэньні Аргкамітэту Народнага фронту.

У склад Аргкамітэту увайшлі Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Анатоль Грыцкевіч, Уладзімер Конан, Зянон Пазьняк, Пімен Панчанка, Алег Белавусаў, Алесь Бяляцкі, Анатоль Варава, Вінцук Вячорка, Ніл Гілевіч, Павел Дзьмітрук, Юры Дракахруст, Міхал Дубянецкі, Алесь Емяльянаў, Вячаслаў Жыбуль, Яўген Кулік, Мікола Купава, Адам Мальдзіс, Аляксей Марачкін, Валеры Масьлюк,



*Дзяды – 88. Мітынг у полі пад Курапатамі.*

Пятро Садоўскі, Алесь Суша, Сымон Сьвістуновіч, Кастусь Тарасаў, Міхась Ткачоў, Алег Трусаў, Генадзь Тумаш, Ігар Чарняўскі, Міхась Чарняўскі, Яўген Шунейка, Васіль Якавенка (даю пералік у пасьлядоўнасьці, пададзенай у „Інфармацыйным паведамленьні" Аргкамітэту, якое выйшла празь некалькі дзён; пазьней у склад Аргкамітэту былі каапатаваныя некаторыя іншыя асобы, а некаторыя – сышлі).

Ужо ў першай праграмнай заяве – нароўні з падтрымкай „перабудовы", „распачатай лепшымі сіламі КПСС" – казалася пра неабходнасьць нацыянальнага адраджэньня, дзяржаўнасьці беларускай мовы, „рэальнага сувэрэнітэту Беларусі, абвешчанага Канстытуцыяй БССР і СССР". БНФ выступаў за „аднаўленьне праўдзівай, навуковай гісторыі Беларусі", „усебаковае разьвіцьцё культуры беларускага народу" і „свабоднае разьвіцьцё моваў і культур усіх нацыянальнасьцяў, што жывуць на Беларусі". Гаварылася і пра „поўны рэспубліканскі гаспадарчы разьлік" ( у тых умовах гэта азначала – эканамічную самастойнасьць ад Масквы).

На Дзяды 30 кастрычніка тысячы менчукоў сабраліся ля Маскоўскіх могілак (цяпер – Усход-

нія). Вось як піша пры тыя падзеі па-біблейску лягканічна Васіль Быкаў у „Доўгай дарозе дадому”: „Людзей пачалі разганяць, біць, арыштоўваць, труціць газам з партатыўных балёнчыкаў. Атруцілі і Пазьняка, які ішоў на чале калёны. Але Пазьняк не саступіў. Ён скіраваў натоўп на ўскраіну і павёў да Курапатаў. Аднак і там шлях калёне перагарадзілі войскі. Тады Пазьняк завярнуў усіх у поле. І ў чыстым полі пад сьняжком, які сыпаў з хмарнага неба, адбылося набажэнства. Угары разьвяваўся бел-чырвона-белы сьцяг, выступалі прамоўцы і сярод іх пісьменьнік Уладзімер Арлоў”.

Дадам, што там, пад Курапатамі, упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі перад вялікім сходам людзей быў узьняты бел-чырвона-белы сьцяг.

Разгон „Дзядоў” меў шырокі розгалас. Апраўдваючыся, улады былі вымушаныя казаць і пра ўтварэньне БНФ – хай і ў адмоўным ракурсе. Суполкі БНФ пачалі ствараца ня толькі ў Менску, але і ў рэгіёнах.

Пашыраліся патрабаваньні аб беларусізацыі, вяртаньні гістарычнай памяці. 16 лістапада група літаратараў (Уладзімер Арлоў, Алесь Асташонак, Лявон Баршчэўскі і іншыя) апублікавалі ў „ЛіМе” ліст з патрабаваньнем вярнуць у правапіс мяккі знак і пераднаціскное „я”, адначасна ацаніўшы моўную рэформу 1933 году як „рэпрэсіўную”.

# ДЭНАЦЫЯНАЛІЗАВАНЫЯ КАМУНІСТЫ

Увогуле, пэрыяд да вясны 1990 году, калі нацыянальныя сілы атрымалі прадстаўніцтва ў заканадаўчым органе, быў пэрыядам іх ідэалягічнага змаганьня з рэакцыйным, цалкам арыентаваным на Маскву, камуністычным кіраўніцтвам БССР.

І тут, на пачатку хвалі нацыянальнага адраджэньня, вельмі важную ролю мела пазыцыя камуністычнага кіраўніцтва Беларусі. Тое, што дэмакратычныя перамены вышэйшае кіраўніцтва ўспрымала як пагрозу ўласнаму становішчу, яшчэ можна зразумець. Гэта палітычная барацьба, і адбывалася яна і ў суседніх зь Беларусьсю Латвіі, Летуве, а таксама ў Эстоніі.

Але літоўскія, напрыклад, камуністы не асрэчвалі нацыянальныя каштоўнасьці, спрыялі разьвіцьцю літоўскай мовы, культуры і адукацыі. Нельга ўявіць, каб, напрыклад, кіраўніцтва кампартыі Летувы загадала зруйнаваць Троцкі замак альбо віленскую вежу Гедыміна. А вось у Менску Машэраў загадаў зруйнаваць Нямігу, Сьлюнькоў – знакавы для беларускай тэатральнай гісторыі будынак, у Віцебску быў зьнішчаны ледзь ня ўвесь гістарычны цэнтар, у тым ліку Дабравешчанская царква XII стагодзьдзя. Падобнае было немагчыма ні ў Летуве, ні ў Латвіі, ні ў Эстоніі – затое спрэс адбывалася ў Расеі. Беларускія камуністы пераНялі гэтую мэнтальнасьць з усходу.

Адрозьненьне паміж беларускім камуністычным кіраўніцтвам і іх літоўскімі калегамі выяўляецца нават у тым, што менавіта дзякуючы распараджэньню ЦК кампартыі Летувы ў Вільні змог адбыцца ўстаноўчы зьезд БНФ – пасьля таго, як у Менску яго праводзіць было забаронена.

Ня мною было заўважана, што ў канцы 80-ых гадоў у эшалёне вышэйшага кіраўніцтва былі толькі два нацыянальна арыентаваныя сакратары – сакратар Менскага гаркаму Пятро Краўчанка і сакратар Віцебскага абкаму Іосіф Навумчык. Тут, канешне, трэба зрабіць папраўку адносна абмежаванасьці іх нацыянальнай арыентацыі – гаворка ня можа ісьці, напрыклад, пра ўсьведамленьне імі ў той момант неабходнасьці нацыянальнай Незалежнасьці; да таго ж яны былі носьбітамі камуністычнай ідэалёгіі. Праўда, яны хаця б не цураліся публічна размаўляць па-беларуску. Аднак іх уплыў быў тэрытарыяльна абмежаваны. Кіраўніцтва ж ЦК было папросту антынацыянальнае, што асабліва выявілася пасьля высылкі другога сакратара ЦК Генадзя Барташэвіча, які сымпатызаваў нацыянальнай інтэлігенцыі, амбасадарам Савецкага Саюзу ў Паўночную Карэю. Так, быў у складзе ЦК КПБ Генадзь Бураўкін – але менавіта як старшыня Дзяржтэлерадыё; у аддзеле культуры ЦК нейкі час працаваў Сяргей Законьнікаў – але ў канцы 80-ых ён ужо быў рэдактарам „Полымя”.

Зусім магчыма, што калі б на пасадзе сакратара ЦК КПБ па ідэалёгіі застаўся Аляксандар Кузьмін, які спрыяў і Васілю Быкаву, і Ўладзімеру Караткевічу, які не баяўся сустракацца з творчай інтэлігенцыяй і не пазьбягаў дыскусіяў – настроі кіраўніцтва ў Беларусі ў канцы 80-ых гадоў не былі б нагэтулькі рэакцыйнымі. Аднак пасьля кан-




***Шэсьце на чарнобыльскую гадзіну смутку і маўчаньня. 1989 г. Менск.***

флікту са Сьлюньковым з прычыны Чарнобылю Кузьміна адправілі на пэнсію, а ягонае месца заняў Валер Пячэньнікаў – як ён сам сябе вызначаў, „інжынер”. Прыход жа першым сакратаром ЦК Яфрэма Сакалова, які атрымаў зорку героя сацпрацы за будаўніцтва экалягічна шкодных сьвінакомплексаў, канчаткова зрабіў немагчымым дыялёг партыйнага камуністычнага кіраўніцтва з нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыяй і, у далейшым, з кіраўніцтвам Народнага фронту.

ЦК КПБ абраў тактыку забаронаў і паклёпу.

Увесну 1989 году актывісты БНФ узялі ўдзел у першых адносна свабодных выбарах на тэрыторыі СССР. Практычна ўсе лідэры Народнага фронту былі вылучаныя „кандыдатамі ў кандыдаты” ў народныя дэпутаты СССР. Аднак дзеля таго, каб патрапіць у выбарчы бюлетэнь, трэба было прайсьці зацьвярджэньне праз так званыя „акруговыя сходы” (300-400 прадстаўнікоў „працоўных калектываў”, якія фармаваліся камуністычнымі органамі). Ніводзін зь лідэраў БНФ праз гэтыя сходы не прайшоў (напрыклад, я быў вылучаны шасьцю працоўнымі калектывамі Віцебска, у тым ліку ад найбуйнейшага прадпрыемства ў горадзе – тэлезаводу, але гэта ня мела ніякага значэньня). Паводле квоты Саюзу пісьменьнікаў дэпутатам стаў Васіль Быкаў, ад Саюзу кінематаграфістаў – Алесь Адамовіч. Акрамя таго, па шэрагу сталічных акругаў пры падтрымцы БНФ былі абраныя Аляксандар Дабравольскі, Станіслаў Шушкевіч, Мікалай Ігнатовіч і некаторыя іншыя. Трэба адзначыць, што ў Менску падтрымка БНФ мела вызначальную ролю: тыя, супраць каго агітаваў Фронт, абраныя не былі.

Маскоўскія зьезды ішлі ў прамой трансьляцыі і прыцягвалі да сябе вялізную ўвагу. Аднак адсутнасьць у складзе беларускай дэлегацыі колькі-небудзь значнай групы палітыкаў з выразна нацыянальнай арыентацыяй не дазволіла вынесьці на шырокае абмеркаваньне пытаньня аб незалежнасьці – як тое было зроблена дэпутатамі з прыбалтыйскіх краінаў. Падкрэсьліваю гэтую акалічнасьць, бо, напрыклад, прысутнасьць Быкава на зьезьдзе ва ўмо-

вах, калі шлях на трыбуну жорстка кантраляваўся, у гэтым сэнсе ня мела істотнага значэньня – літоўцы ці эстонцы бралі якраз масавымі калектыўнымі дэмаршамі (напрыклад, пакіданьнем залі). Зрэшты, і прыбалты даволі хутка пераканаліся, што Крэмль – ня тое месца, дзе будуць спакойна выслухоўваць пра дзяржаўны сувэрэнітэт.

Увесь 1989 год быў для БНФ часам нацыянальнай і антыкамуністычнай агітацыі. Распачаўся год 2-ім Вальным соймам беларускіх суполак, які прайшоў 14–15 студзеня ў Вільні; абмяркоўваліся аспэкты сувэрэнітэту, дзяржаўнасьці мовы, а таксама „рэспубліканскага грамадзянства” (існавала толькі грамадзянства СССР).

25 сакавіка мастак Алесь Пушкін правёў пэрформанс ля Дому друку, прымеркаваны да гадавіны ўтварэньня БНР. Гэтая акцыя каштавала яму суда і зласьлівых артыкулаў – зь якіх, аднак, шмат хто ўпершыню даведаўся пра БНР.

26 красавіка, у гадавіну Чарнобылю, Аргкамітэт БНФ правёў гадзінны мітынг на плошчы Леніна – каля 10-ці тысячаў людзей стаялі моўчкі; праз кожную хвіліну біў звон. Найважнейшай падзеяй стаўся арганізаваны БНФ у верасьні шматтысячны мітынг з патрабаваньнем абнародаваньня праўды пра Чарнобыль, пакараньня вінаватых у замоўчваньні вынікаў аварыі ды ліквідацыі яе наступстваў. Афіцыйны друк зьмясьціў скажоную інфармацыю, абвінаваціўшы лідэраў БНФ у „палітыканстве”.

І ўсё ж, дзякуючы намаганьням БНФ, маскоўскае і менскае кіраўніцтва вымушанае было пачаць казаць праўду пра Чарнобыль. Жыхары Беларусі ўбачылі хлусьню маскоўскіх чыноўнікаў, іх імкненьне пазьбегнуць адказнасьці і нежаданьне рэальна дапамагаць ахвярам Чарнобыля. Гэта спарадзіла шмат у каго першыя сумневы ў здольнасьці „саюзнага цэнтру” вырашыць праблемы, зьвязаныя з іхным жыцьцём і іх блізкіх.

# ВЫБАРЫ ПАД КАНТРОЛЕМ КАМУНІСТАЎ

26 студзеня 1990 году, перад спыненьнем сваіх паўнамоцтваў, Вярхоўны Савет 11-га скліканьня прыняў Закон аб мовах. Гэта было зроблена ў адказ на патрабаваньні грамадзкасьці – так, пры абмеркаваньні праекту ў друку 15 тысяч чалавек выказаліся за наданьне беларускай мове статусу адзінай дзяржаўнай мовы. За месяц да прыняцьця закону такі статус быў вымушаны прызнаць і ЦК КПБ на сваім пленуме, імкнучыся перахапіць ініцыятыву БНФ, які патрабаваньне гарантыяў беларускай мове зрабіў адным з галоўных сваіх праграмных палажэньняў.

Аднак грамадзкія настроі маглі б быць і ня ўлічаныя, як здарылася гэта на некалькі тыдняў раней з новым выбарчым законам, калі б у камісіі і непасрэдна на сэсіі ВС у абарону дзяржаўнасьці беларускай мовы ня выступілі дэпутаты Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Іван Чыгрынаў, Іван Шамякін, віцэ-прэм’ер Ніна Мазай, міністар адукацыі Міхаіл Дзямчук і сакратар менскага гаркаму кампартыі Пятро Краўчанка. Сярод дэпутатаў былі актыўныя праціўнікі закону, найперш зь ліку прамысловай намэнклятуры. Аднак гэта быў той самы выпадак, калі шматгадовая звычка галасаваць як загадвае партыйнае начальства спрацавала не на шкоду, а на карысьць нацыі.

Падаецца, што прыняцьцё Закону аб мовах было самым станоўчым крокам за ўсе часы існаваньня адзінаццаці кадэнцыяў беларускага Вярхоўнага Савета, пасьля далучэньня ў 1939 годзе Заходняй Беларусі (зрэшты, апошняе было шмат у чым і вынікам сталінскага геапалітычнага раскладу; у дачыненьні да Вільні расклад Крамля быў іншы).

Васіль Быкаў ацаніў Закон як палавінчаты, і гэта слушная ацэнка – але нават калі б улады выконвалі хаця б тое, што прадугледжваў Закон, мова не апынулася б пад пагрозай зьнішчэньня.

Прыняўшы Закон аб мовах, кіраўніцтва кампартыі, тым ня менш, імгненна пачало распаўсюджваць тэзу, што нібыта БНФ заклапочана толькі лёсам беларускай мовы, а не эканомікай, не жаданьнем „накарміць народ”. Гэтае сьцьверджаньне хутка пераўтварылася ва ўстойлівы стэрэатып, які суправаджаў парлямэнцкія выбары.

Выбары ў Вярхоўны Савет БССР 12-га скліканьня, які складаўся з 360 мандатаў, прайшлі ўвесну 1990 году. Яшчэ ўвосень 1989 году падчас прыняцьця новага Закону аб выбарах Вярхоўны Савет пад ціскам грамадзкасьці вырашыў ня ўводзіць гарантаванага прадстаўніцтва ад кампартыі і камсамолу (100 прадстаўнікоў ад КПСС на зьезь-



*Перадвыбарчы стотысячны мітынг у Менску. 1990 г. Ля мікрафонаў З. Пазьняк, Я. Сакалоў.*

дзе народных дэпутатаў СССР у народзе называлі „чорнай сотняй”). Аднак 50 дэпутатаў вылучаліся ад грамадзкіх арганізацыяў – а менавіта, пракамуністычнай вэтэранскай арганізацыі, а таксама таварystваў сьляпых, глухіх і інвалідаў.

На выбары дэмакратычныя сілы ішлі адзіным блёкам, у складзе БНФ, ТБМ, Беларускага экалягічнага саюзу, Беларускага сялянскага саюзу і Саюзу каапэратываў Беларусі.

Шмат у чым выбарчая кампанія 1990 году ў Вярхоўны Савет 12-га скліканьня (люты-сакавік 1990 г.) перадвызначыла будучыню Беларусі, паколькі менавіта гэтаму Вярхоўнаму Савету давялося аднаўляць незалежнасьць і ствараць дзяржаўныя інстытуцыі. Калі б дэпутатаў БНФ было болей, лёс краіны мог бы быць зусім іншым. Таму, канешне, тыя выбары калі-небудзь будуць прадметам глыбокага аналізу.

Пакуль жа адзначу, што кіраўніцтва ЦК КПБ на чале зь Яфрэмам Сакаловым і падкантрольны яму тагачасны Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета на чале зь Мікалаем Дземянцеем стварылі надзвычай неспрыяльныя ўмовы для дэмакратычных кандыдатаў.

Па-першае, Народнаму фронту было адмоўлена ў рэгістрацыі, і, адпаведна, ён ня мог вылучаць сваіх кандыдатаў. Выйсьце было знойдзена – вылучэньне „фронтаўцаў” праходзіла пераважна праз Таварыства беларускай мовы. Аднак гэтая арганізацыя знаходзілася пад кантролем кампартыі (у Менску яе курыраваў другі сакратар гаркаму Пятро Краўчанка, і адбыліся далёка ня ўсе заплянаваныя вылучэньні). Але не былі зарэгістраваныя і некаторыя кандыдаты Фронту, якія вылучаліся працоўнымі калектывамі (напрыклад, адзін з кіраўнікоў выбарчага штабу БНФ Віктар Івашкевіч).

Па-другое, парушаўся прынцып „роўных магчымасьцяў”, нібыта гарантаваных законам. Аглядальнік „ЛіМу” Андрэй Ганчароў у тыя дні слушна назваў такую палітыку „дыскрымінацыйнай”. Кожнаму кандыдату на агітацыю было выдаткавана 50 рублёў; перавышэньне пагражала скасаваньнем рэгістрацыі. Пры гэтым фармальна

кандыдаты мелі „роўную” магчымасьць праводзіць сустрэчы ў працоўных калектывах. Аднак кандыдатам ад БНФ патрапіць на завод ці ў НДІ было значна цяжэй; чыноўнікі ж лёгка праходзілі куды заўгодна. Да прыкладу, кандыдат у дэпутаты па адной зь віцебскіх акругаў, начальнік абласнога ўпраўленьня міліцыі Мечыслаў Грыб наведваў заводы, студэнцкія аўдыторыі, бацькоўскія сходы ў школах – каб праінфармаваць пра барацьбу са злачыннасьцю. Ягоны канкурэнт ад БНФ, кіраўнік клюбу „Ўзгор’е” археоляг Ігар Цішкін такой магчымасьці ня меў.

Трэцяе і, бадай што, галоўнае. Уся прапагандысцкая машына (тэлебачаньне, радыё, друк) знаходзілася пад кантролем улады і працавала супраць БНФ. Дэмакратычныя кандыдаты мелі некалькі хвілінаў на мясцовым тэлебачаньні і маглі надрукаваць свае праграмы ў мясцовых газэтах. Аднак кіраўніцтва Народнага фронту было пазбаўленае магчымасьці выступіць па агульнанацыянальным тэлебачаньні з тлумачэньнем праграмных палажэньняў БНФ ды абвергнуць інсынуацыі, якія штодня перадаваліся ў СМІ. Тым часам, кіраўніцтва КПБ свабодна праводзіла агітацыю ва ўсіх сродках масавай інфармацыі.

Праўда, аднойчы гэтае правіла было парушана – 25 лютага на плошчы Леніна БНФ арганізаваў мітынг пратэсту супраць проціпраўнай дзейнасьці Цэнтральнай выбарчай камісіі. Сабралося каля ста тысяч чалавек. Упершыню Менск бачыў такі масавы выступ, і ўпершыню на ім адбылася публічная дыскусія паміж БНФ і кіраўніцтвам КПБ, а менавіта – паміж лідэрам БНФ Зянонам Пазьняком і першым сакратаром ЦК КПБ Яфрэмам Сакаловым (выступ апошняга пачаўся пад воклічы „Шапку здымі! Перад народам гаворыш!”, а скончыўся скандаваньнем плошчы „У адстаўку!”).

Мітынг запатрабаваў тэрміновай адстаўкі кіраўніцтва БССР, была прынятая рэзалюцыя з патрабаваньнем ад Дзяржтэлерадыё прадастаўленьня жывога тэлеэфіру арганізатарам мітынгу. Стотысячная калёна рушыла па Ленінскім праспэкце да тэлецэнтру на вуліцы Камуністычнай. У 18 гадзінаў у прамой тэлетрансьляцыі выступілі Зянон Пазьняк, Вінцук Вячорка і Аляксей Марачкін. Пасьля іх выступу сорак хвілінаў на тэлеэкранах была нерухомая застаўка; затым зьявіліся першы сакратар ЦК Сакалоў, Старшыня Прэзыдыюму ВС Дземянцей, міністар юстыцыі Валер Ціхіня, сакратар ЦВК Лагір і некаторыя іншыя кіраўнікі, якія абрынуліся з абвінавачваньнямі на БНФ, а стотысячны мітынг назвалі „натоўпам экстрэмістаў”.

Ужо ў першым туры выбараў 4 сакавіка дэпутатамі ВС былі абраны Зянон Пазьняк, кіраўнік камітэту БНФ „Дзецям Чарнобылю” Генадзь Грушавы, рэдактар „ЛіМу” Анатоль Вярцінскі, прарэктар БДУ Станіслаў Шушкевіч, а таксама некаторыя іншыя асобы, якіх падтрымліваў БНФ (у тым ліку і аўтар гэтых радкоў) – за нас было пададзена больш як 50 адсоткаў галасоў выбарцаў (гэта былі вымушаныя прызнаць і выбарчыя камісіі; у маёй акрузе на ўчастках, дзе былі назіральнікі, колькасьць галасоў перавышала і 60 адсоткаў, але на двух участках, дзе назіральнікаў не было – не дасягала 50-ці; там, дзе мы не кантралявалі сытуацыю, адбыліся фальсыфікацыі). Іншыя кандыдаты ад БНФ (у тым ліку Юры Хадыка, Вінцук Вячорка, Міхась Ткачоў, Сяргей Законьнікаў, Аляксей Марачкін, Кастусь Тарасаў) прайшлі ў другі тур. Усе яны мелі шанцы быць абранымі ў Вярхоўны Савет.

11 сакавіка Летува абвясьціла незалежнасьць. У Беларусі камуністычная ўлада скарыстала гэты факт дзеля антыфронтаўскай прапаганды – маўляў, „экстрэмісты з БНФ хочуць, на прыклад сваіх паплечнікаў зь літоўскага „Саюдзісу”, разваліць СССР, а гэта прывядзе да крыві, паглядзіце, што адбываецца ў Баку”. Чаго БНФ жадае насамрэч, якімі шляхамі будзе гэтага дамагацца – сказаць пра гэта фронтаўцы ня мелі магчымасьці; тэле- і радыёэфір кандыдатам БНФ пасьля першага туру практычна не прадастаўляўся. Не атрымалася абвернуць і паклёпніцкія артыкулы ў газэтах пра кандыдатаў БНФ.

У другім туры 18 сакавіка ўсё ж прайшлі ў Вярхоўны Савет Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Валянцін Голубеў, Сяргей Папкоў, Пятро Садоўскі ды некаторыя іншыя прадстаўнікі БНФ. Аднак пераважную большасьць дэпутацкіх месцаў (каля 90 адсоткаў) ўзялі прадстаўнікі камуністычнай намэнклятуры.

І ўсё ж бясспрэчна, што менавіта абраньне кандыдатаў ад БНФ дэпутатамі Вярхоўнага Савета зрабілася галоўным вынікам папярэдняга пэрыяду.

# ПАЧАТАК БЕЛАРУСКАГА ПАРЛЯМАНТАРЫЗМУ

15 траўня 1990 году распачала працу першая сэсія Вярхоўнага Савета 12 скліканьня. Упершыню ў найноўшай гісторыі Беларусі нацыянальна арыентаваная палітычная сіла атрымала прадстаўніцтва ў вышэйшым заканадаўчым органе ўлады.

Цяпер ёсьць спробы прынізіць ролю БНФ і яго дэпутатаў; некаторыя дапісаліся да таго, што вынікі дзейнасьці Народнага фронту (аднаўленьне незалежнасьці ў 1991 годзе, беларусізацыю) называюць „квазіпосьпехам”.

Парадаксальна, што асобы, якіх я ніколі ня бачыў ні на адным зь мітынгаў, ні на Соймах БНФ, ні на паседжаньнях парлямэнцкай Апазыцыі БНФ ці яе Ценевага кабінэту – прыпісваюць сабе паплечніцтва з Пазьняком; а некаторыя ідуць далей і ўвогуле заяўляюць, што Пазьняк і БНФ нічога ня значылі. Псыхалягічна падобныя заявы асобаў, якія, адчуўшы прафэсійнае фіяска, жадаюць хоць вось так упісаць сябе ў падзеі, зразумелая. Але гэта ўжо сфэра псыхалёгіі.

А з гледзішча паліталёгіі і гістарычнай навукі ўсё проста. Ёсьць выпадкі – і ў гісторыі іх багата, – калі нацыя здабывае незалежнасьць вайной, баявымі дзеяньнямі. У такім разе цэнтрам робіцца ваенны ці партызанскі штаб, аргумэнтам змаганьня выступае зброя, а посьпех залежыць ад тых людзей у форме, якія выпрацоўваюць плян апэрацыі (зрэшты, і ад байцоў-выканаўцаў таксама). Там, дзе сувэрэнітэт дасягнуты мірным, заканадаўчым шляхам, дзе выкарыстоўваюцца палітычныя мэханізмы, цэнтрам змаганьня робіцца парлямэнт, а вызначальная роля адведзеная тым парлямэнцкім фракцыям (альбо фракцыі), якія вылучылі дасягненьне сувэрэнітэту як галоўную палітычную мэту. У канцы XX стагодзьдзя гэтая роля прыпала на парлямэнцкую фракцыю БНФ на чале з Пазьняком. Гэтыя палітыкі ды іх лідэр могуць падабацца альбо не падабацца, іх дзеяньні могуць і павінны аналізавацца, але гісторыю не перапішаш, і іншыя імёны ў яе не падставіш.

Мне даводзіцца пісаць гэтыя банальнасьці, бо беларуская нацыянальная эліта ўсё яшчэ гатовая цешыцца зь ня проста спрэчных, а папросту абсурдных сьцьверджаньняў розных псэўдаінтэлектуалаў.

Між іншым, цэнтрам палітычнага змаганьня за незалежнасьць фракцыя БНФ зрабілася не адразу – даволі працяглы час рашэньні прымалі не дэпутаты, а сябры Сойму БНФ; пры гэтым далёка ня ўсе дэпутаты былі сябрамі Сойму. На самым пачатку менавіта Сойм быў месцам выпрацоўкі палітычных рашэньняў, дэпутацкая фракцыя ж выступала ў ролі выканаўцаў. Магчыма, такое разьмеркаваньне мела сэнс: сябры Сойму мелі большы палітычны досьвед, асабліва ў параўнаньні з дэпутатамі з правінцыі, да таго ж там было шмат асобаў з даўняй „нацыянальнай” біяграфіяй. Аднак ужо праз год сытуацыя кардынальна зьмянілася: парлямэнцкі досьвед вывеў на ролю палітычнага цэнтру менавіта дэпутацкую апазыцыю.

Ужо на другі дзень сэсіі большасьць дэпутатаў адмовілася прагаласаваць за рэгістрацыю БНФ (супраць выказаліся 150 дэпутатаў – пераважна сакратары камуністычных камітэтаў, вайскоўцы, дэпутаты ад вэтэранскай арганізацыі). Гэта быў адзін зь першых парадоксаў Вярхоўнага Савета: прадстаўнікі палітычнай партыі былі абраныя ў парлямэнт, а самой партыі юрыдычна не існавала, больш за тое – парлямэнт адмаўляў ёй у праве на існаваньне.

Былі і іншыя парадоксы.

Беларусь была адзінай постсавецкай краінай, дзе вышэйшы заканадаўчы орган фактычна кантраляваўся тымі, хто адмаўляў незалежнае існаваньне краіны і дзяржаўнасьць мовы тытульнай нацыі. Арыентацыя абсалютнай большасьці дэпутатаў ВС ад першага да апошняга дня кадэнцыі 12 скліканьня была накіраваная на Маскву – спачатку як на сталіцу СССР, потым – „братэрскай” Расеі. Другая парадакасальная адметнасьць – дэпутаты ў большасьці не адчувалі сябе палітыкамі, успрымаючы наяўнасьць мандату выключна як спосаб ці то зрабіць уласную кар’еру ў выканаўчых структурах, ці наладзіць уласны бізнэс, ці, у лепшым разе, „выбіць” для калгаса, саўгаса ці завода нейкія матэрыяльныя рэсурсы.

„Я ўвогуле да мікрафона не імкнуўся выходзіць, ... увогуле два разы выступаў ад мікрафона: калі ішлі перавыбары сьпікера і яшчэ да таго, у

гадавіну Віскулёў. Я сказаў тады, што Віскулі – яшчэ большы ўдар па Беларусі, чым Чарнобыль" – прыгадвае сваё дэпутацтва ў ВС 12 скліканьня былы першы сакратар Магілёўскага абкаму партыі і архітэктар праекту „Адзіны кандыдат – 2001" Васіль Лявонаў („Работа над ошибками", Смаленск, 2003, с. 45). Зьвернем увагу не на ўспрыманьне дасягненьня незалежнасьці як катастрофы, а на стаўленьне да парлямэнцкай дзейнасьці, чыёй вайжнейшай часткай ёсьць дыскусія.

Наагул, дыскусію прадстаўнікі партнамэнклятуры весьці ня ўмелі (за выключэньнем хіба што Краўчанкі, якога адразу ж прызначылі міністрам замежных справаў). Словы „сувэрэнітэт" ці „геапалітыка" гучалі для іх, як незнаёмыя тэрміны. Яны не былі палітыкамі і нават уявіць не маглі, што ім трэба займацца палітыкай. „Займацца палітыкай" гучала як крамола. Гэта была прэрагатыва Палітбюро ЦК КПСС, ну, магчыма, першага сакратара ЦК КПБ, а дэпутатаў народ абраў – „зрабіць жыцьцё лепей": то асфальтаваць вуліцы ў горадзе, дапамагаць калгасу здабываць камбікармы і гэтак далей. Яны проста „ціснулі на кнопкі" паводле ўказаньняў з ЦК КПБ, а пасьля 1991 году з Саўміну – і бралі большасьцю.

Гэтыя людзі былі няздольныя пралічыць хаця б крок наперад.

Наўрад ці можна назваць самастойнымі палітыкамі і дэпутатаў, якія пасьля забароны КПБ-КПСС утварылі групу „Беларусь" – Казлова, Паўлава, Скарыніна.

З аднаго боку, вось яны якраз пралічвалі дзеяньні з д'ябальскай дакладнасьцю, прымушаючы парлямэнцкую большасьць прымаць рашэньні, адно за другім, у інтарэсах Масквы. Яны ў значнай ступені і прывялі да падпісаньня Дамовы аб калектыўнай бясьпецы СНД, і да ўвядзеньня прэзыдэнцтва (апошняе – ужо разам з Лукашэнкам, „маладымі ваўкамі" і групай Карпенкі). Аднак потым гэтыя дэпутаты падазрона хутка абсалютна сышлі з палітычнай арэны, што нельга патлумачыць, напрыклад, неперамогай на выбарах Кебіча ці неабраньнем дэпутатамі (не сышлі ж з арэны Пазьняк альбо Баршчэўскі). Нібыта папросту выканалі чыюсьці каманду – і зьніклі (за выключэньнем, бадай што, Валерыя Паўлава, які ў ВС прайшоў шлях ад падпалкоўніка да генэрала, а цяпер у Маскве, выступае ў друку супраць Лукашэнкі, за дэмакратычную Беларусь, але – падкрэслена – без нацыяналіста Пазьняка і „навязваньня" беларускай мовы).

Фразы кшталту „геапалітычная сытуацыя", „абарона нацыянальных інтарэсаў" – імі не ўспрымаліся. Скажам папросту: ім проста не хапала адукацыі – у Вышэйшых партыйных школах гэтаму не вучылі. Аднак гэтыя дэпутаты паслухмяна галасавалі, калі ішоў загад ад прадстаўнікоў Савета Міністраў у парлямэнце, а пазьней аб'ядналіся ў групу „Беларусь", якая хутка набыла прыкметы фракцыі (хай і ня ў той ступені, як Апазыцыя БНФ) – са сваім кіраўніцтвам і з парляманцкай дысцыплінай.

Толькі некалькі разоў парляманцкая большасьць прагаласавала радыкальна на карысьць сувэрэнітэту і дэмакратызацыі грамадзтва – калі на плошчы Незалежнасьці знаходзіліся дзесяткі тысяч людзей (жнівень 1991-га).

У траўні 1990-га „Дэмакратычная плынь" вылучыла сваіх прадстаўнікоў на пасады старшыняў Камісіяў ВС. Гэтыя пасады былі істотнымі, паколькі старшыні камісіяў аўтаматычна ўваходзілі ў склад Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета – органа, якому на бліжэйшыя гады было наканавана ажыцьцяўляць ролю своеасаблівага „калектыўнага прэзыдэнта" Беларусі. Аднак толькі пяць кандыдатаў ад „дэмплыні" былі абраныя на пасады старшыняў (Садоўскі, Булахаў, Сасноў, Сьлямнёў, Гілевіч – прычым Гілевіча рэкамэндавала камуністычная партгрупа, а „дэмплынь" падтрымала), астатнія месцы былі запоўненыя прадстаўнікамі камуністычнай намэнклятуры. Фракцыя БНФ правяла на пасаду Старшыні Камісіі толькі аднаго дэпутата – Пятра Садоўскага, які ўзначаліў камісію па міжнародных справах. Некаторыя дэпутаты БНФ былі зацьверджаныя намесьнікамі старшынь і сакратарамі Камісіяў.

Пэрыяд з траўня па ліпень 1990 году вызначаўся структурызацыяй Вярхоўнага Савета. Тут я працытую публікацыю ў „Народнай волі" Лявона Дзейкі – ён фіксаваў членства дэпутатаў.

„Рашэньне аб утварэньні дэпутацкай групы БНФ было прынятае на сходзе дэпутатаў Вярхоўнага Савета ў тагачасным Доме кіно, што месьціўся побач з Домам ураду ў Чырвоным

касьцёле. Сёньня варта паймена ўзгадаць тых, хто увайшоў у першае палітычнае аб’яднаньне дэпутатаў у вышэйшым заканадаўчым органе Беларусі: Валянцін Голубеў (каардынатар ДГ БНФ), Мікалай Крыжаноўскі, Зянон Пазьняк (старшыня ДГ БНФ), Уладзімір Грыбанаў, Сяргей Навумчык (каардынатар ДГ БНФ), Пятро Садоўскі, Юрась Беленькі, Уладзімір Заблоцкі (намесьнік старшыні ДГ БНФ), Уладзімір Новік (сакратар ДГ БНФ), Ігар Гермянчук, Алег Трусаў (намесьнік старшыні ДГ БНФ), Сяргей Антончык, Мікалай Маркевіч, Генадзь Грушавы, Барыс Гюнтар, Сяргей Слабчанка, Уладзімір Станкевіч, Лявон Дзейка, Лявонцій Зданевіч, Віктар Алампіеў, Галіна Сямдзянава, Мікалай Аксаміт, Віктар Какоўка, Сяргей Папкоў, Лявон Баршчэўскі (каардынатар ДГ БНФ), Вольга Галубовіч – усяго 26 чалавек...

Акрамя вышэйзгаданых 26 сябраў дэпутацкай групы БНФ, у склад Апазыцыі ўвайшлі: Васіль Шачак, Міхаіл Сукач, Яўген Глушкевіч, Віталь Малашка, Іван Герасюк, Аляксандар Сасноў, Аляксандар Шут, Аляксандар Паруль, Ігар Пырх, Яўген Цумараў, Станіслаў Бабачонак, Васіль Далгалёў, Валерый Зяленін, Лявон Тарасенка, Валерый Сярдзюк, Аляксандар Сьпіглазаў, Яўген Новікаў, Павел Холад, Іван Сямашка, Леанід Зьвераў, Генадзь Маісееў, Аляксей Канцэвіч.

Потым на аснове дэпутацкай Апазыцыі будзе ўтвораны Дэмакратычны дэпутацкі клюб, які складуць дэпутаты Апазыцыі і яшчэ больш за паўсотню акрамя вышэйзгаданых сябраў Апазыцыі дэпутатаў Вярхоўнага Савета, якія падтрымлівалі асноўныя палажэньні апазыцыйнай плятформы – дасягненьне сувэрэнітэту Беларусі, стварэньне парлямэнцкай сыстэмы ўлады, усталяваньне дэмакратычнага ладу ў Беларусі, ліквідацыя таталітарызму ў палітыцы, ідэалёгіі, эканоміцы і культуры, ратаваньне народа ад наступстваў чарнобыльскай катастрофы, адраджэньне беларускай культуры і г.д. Яны бралі ўдзел у сумеснай працы над законапраектамі, падтрымліваючы іх падчас абмеркаваньня або галасаваньня, падпісвалі ініцыяваныя апазыцыяй заявы па актуальных палітычных, сацыяльных ды іншых пытаньнях. Такімі вызначыліся найперш наступныя дэпутаты: Міхаіл Мацюшонак, Пятро Драган, Уладзімер Сапронаў, Уладзімер Хвошч, Генадзь Карпенка, Віктар Радамысьльскі. Пад асобнымі заявамі ставілі свае подпісы Віктар Ганчар, Анатоль Лябедзька, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, Сяргей Бярдаўцаў, Яўген Бядулін, Анатоль Барысенка, Ніна Салдатава, Міхаіл Сьлямнёў, Рыгор Вячэрскі, Анатоль Лятко, Эдуард Багаўцоў, Мікалай Каўбаска, Аляксей Даўлюд, Анатоль Кузьма, Аляксандар Шыпко, Генадзь Нікіцін, Ігар Палагеча, Леанід Сечка, Анатоль Янец, Віктар Уласенка, Анатоль Волкаў, Уладзімір Лазарэвіч, Раман Плоцкі, Уладзімір Шаўцоў, Барыс Савіцкі, Аляксей Шаўнін і іншыя”.

У апошнім сьпісе Лявон Дзейка пералічыў тых, хто меў хоць нейкае дачыненьне да дзейнасьці Апазыцыі; шмат хто з гэтых асобаў ужо ў 1992 годзе перайшлі на бок намэнклятуры. Як вядома, у склад каманды Лукашэнкі ўвайшлі Віктар Ганчар, Анатоль Лябедзька. Зрэшты, і сярод „фармальных” членаў Апазыцыі БНФ былі тыя, хто ў апошнія гады дзейнасьці ВС выступаў супраць прапановаў Апазыцыі – Уладзімер Новік і Яўген Новікаў. Вышлі з Апазыцыі БНФ потым таксама У. Грыбанаў і У. Станкевіч.

З аднаго боку, у параўнаньні зь іншымі прадстаўнікамі нацыянальнай эліты, дэпутаты ВС мелі непараўнальна большы ўплыў як на палітычныя працэсы, гэтак і на дзейнасьць дзяржаўных органаў улады. Гэтаму ў значнай ступені спрыяў сам дэпутацкі статус. У 1990–1992 гг. я займаў пасаду сакратара Камісіі ВС у справах галоснасьці, сродкаў масавай інфармацыі і правоў чалавека. У сыстэме, дзе вызначэньню статусу дзяржаўных службоўцаў надавалася падкрэсьленая ўвага, гэтая пасада фармальна была вышэйшая за міністэрскую, бо аплочвалася вышэй. Памятаецца, як аднойчы, падчас спрэчкі на нейкай нарадзе, Станіслаў Шушкевіч абарваў нейкага супрацоўніка Саўміну, які выказваўся ў бок дэпутата ледзь не з абразай: ”Не забывайцеся, хто Вы, а хто ён. Вы – чыноўнік, а ён – саноўнік”.

Аднак гэтыя „саноўнікі” былі пазбаўленыя колькі-небудзь рэальнай улады – калі не належалі да намэнклятуры, якая імгненна вылічвала розьніцу па прынцыпе „свой–чужы”.

Дэпутаты БНФ даволі лёгка – калі б пажадалі – маглі б здабыць сабе, напрыклад, кватэру ў самым прэстыжным раёне Менску – дастаткова

было зьвярнуцца да кіраўніцтва Саўміну. Да гонару дэпутатаў БНФ – ніхто гэтым не скарыстаўся (і таму калі Лукашэнку спатрэбілася запляміць апазыцыянэраў „карупцыяй", ён не знайшоў нічога, акрамя „іншамарак" Заблоцкага і Навумчыка – я быў купіў чатырнаццацігадовае аўто, якое літаральна сыпалася; машына Заблоцкага была не нашмат навейшая).

Але і дзеля грамадзкіх справаў (напрыклад, дапамогі нейкай газэце з паперай, тады гэта была вострая праблема) трэба было зьвяртацца да чыноўнікаў адпаведнага аддзелу Саўміну. Мой зварот да дырэктара друкарні ня меў ніякага выніку – званок самага звычайнага супрацоўніка апарату Саўміну вырашаў усё. У большасьці выпадкаў самы нізкапастаўлены чыноўнік райвыканкаму мог болей, чым дэпутат Вярхоўнага Савета – калі гэта дэпутат БНФ. Тут ужо працавала чынавенская, карпаратыўная салідарнасьць. З другога боку, пры гэтым дэпутат мог атрымаць аўдыенцыю ў Старшыні Саўміну Кебіча (прычым у той самы дзень і, як правіла, па-за чаргой) ці нейкага з ягоных намесьнікаў, і звычайна на просьбы накладаліся станоўчыя рэзалюцыі. Менавіта такім чынам былі прасунутыя шмат якія ініцыятывы адукацыйна-культурніцкага характару (напрыклад, Кебіч падпісаў распараджэньне аб стварэньні „коласаўскага" ліцэю).

Словам, можна было нечага дамагчыся – але толькі папрасіўшы Кебіча. Але зразумела, што па кожным пытаньні да прэм'ера ці віцэ-прэм'ера зьвяртацца ня будзеш (да таго ж, гэта апрыёры ставіла нас у сытуацыю пэўнайга маральнайга дыскамфорту, – бо часта на наступны дзень пасьля такога візыту трэба было крытыкаваць прэм'ера з парлямэнцкай трыбуны).

Ня менш важнай, чым заканадаўчая дзейнасьць (а паводле ўплыву на грамадзкую сьвядомасьць дык і непараўнальна больш выніковай), была прапагандысцкая праца дэпутатаў Апазыцыі БНФ. Першыя сэсіі ВС ішлі ў прамой радыётрансьляцыі; пазьней тэлебачаньне і радыё перадавалі даволі падрабязныя рэпартажы з сэсіяў, а выступы ў „Розным" перадаваліся без купюраў аж да 1995 году. Менавіта з вуснаў дэпутатаў праз тэле-радыётрансьляцыю большасьць жыхароў Беларусі пачулі раней ім невядомыя гістарычныя факты, а галоўнае – аргумэнтацыю неабходнасьці сувэрэннага існаваньня. Скарыстоўваўся дэпутацкі статус і для выступаў на тэлебачаньні і радыё, а таксама ў пэрыядычным друку (хаця кіраўніцтва дзяржаўных СМІ ігнаравала добрую палову такіх зваротаў).

# ПРА ТАКТЫКУ І ДЫСЦЫПЛІНУ

Тыя, хто сачыў за падзеямі ў Вярхоўным Савеце праз СМІ, назіралі вонкавы бок дзейнасьці Апазыцыі БНФ – выступы дэпутатаў, дыскусіі, прыняцьце законаў.

Аднак гэта была ўсяго толькі частка палітычнай дзейнасьці.

Паводле рэглямэнту, сэсіі ВС павінны былі склікацца два разы на год, але ў рэальнасьці яны зьбіраліся часьцей і звычайна цягнуліся пару месяцаў (за рэдкімі выключэньнямі – напрыклад, самая вызначальная, гістарычная пазачарговая сэсія ў жніўні 1991 году была і самай кароткай – два дні).

Паміж сэсіямі дзейнасьць дэпутатаў Апазыцыі не спынялася. Працавалі адмысловыя групы з ўдзелам экспэртаў (на пачатку – эканамісты А. Станкевіч, У. Тарасаў, пазьней В. Масквіч, С. Гусак, акадэмік Р. Гарэцкі, член-карэспандэнт акадэміі І. Нікітчанка, прафэсар У. Кулажанка – гэта толькі некаторыя імёны).

Увосень 1990 году прадстаўнікі парлямэнцкай большасьці былі зьдзіўленыя, калі Апазыцыя БНФ вынесла на 2-ю сэсію некалькі дзесяткаў заканадаўчых прапаноў, пераважна – датычных эканомікі і дзяржаўнага будаўніцтва. З гэтага моманту з вуснаў нашых апанэнтаў, ва ўсялякім разе ў Авальнай залі, практычна не гучалі папрокі, што „БНФ выступае толькі за беларускую мову і не займаецца эканомікай" (што, аднак, пазьней пачалі пісаць некаторыя лібэральныя палітычныя аналітыкі, спадзеючыся, відаць, на кароткую памяць цяперашняга грамадзтва). Апазыцыяй БНФ была падрыхтаваная праграма пераходу Беларусі да рынкавых ўзаемаадносінаў, падмацаваная адпаведнымі законапраектамі – аб банках і банкаўскай сыстэме, Зямельным кодэксам і інш.

Камуністы казалі, што ў Апазыцыі існуе жорсткая дысцыпліна; усе галасуюць так, як скажа Пазь-



*„Першы мікрафон". Юры Беленькі і Зянон Пазьняк*

няк. Насамрэч, палітычная тактыка выпрацоўвалася ў часе дыскусіяў, меркаваньне Пазьняка як палітычнага лідэра было, бясспрэчна важным, асабліва з улікам ягоных бязьмежных (вызначэньне Васіля Быкава) аналітычных здольнясьцяў і нейкай надзвычайнай палітычнай інтуіцыі. Аднак я не сказаў бы, што з боку Пазьняка назіраўся нейкі „інтэлектуальны дыктат" – што да тактыкі, дык досыць часта пад уплывам іншых меркаваньняў і лягічных аргумэнтаў ён зьмяняў пазыцыю (лінія на дзяржаўны сувэрэнітэт, бясспрэчна, заставалася непахіснай).

Тактыка дзеяньняў на сэсіі абіралася з улікам магчымых варыянтаў паводзінаў нашых апанэнтаў. Паколькі мы складалі 1/10 частку парлямэнту, дык усё даводзілася пралічваць вельмі дакладна. І ўжо калі тактыка прымалася – на сэсіі ў Авальнай залі яе трэба было трымацца ўсім. Вядома, часам пры абмеркаваньнях ці галасаваньні сытуацыя мянялася, раіцца не было калі, рашэньне даводзілася прымаць імгненна, і ў такіх выпадках вызначальнае слова заставалася, зразумела, за Пазьняком (але гэта – клясычны парлямэнцкі закон, які, да прыкладу, ў Брытаніі існуе ўжо некалькі стагодзьдзяў).

Усе дэпутаты Апазыцыі ведалі стратэгічныя мэты і тактыку іх дасягненьня. Таму калі ў нейкіх выпадках, напрыклад, нехта з нашых апанэнтаў (часам і сам Кебіч) ня маглі зьвязацца з Пазьняком, яны выходзілі ці на Баршчэўскага, ці на Голубева, ці на мяне (мы выконвалі функцыі каардынатараў Апазыцыі), і маглі быць пэўныя, што дамоўленасьці будуць выконвацца. Зразумела, што ў такім разе мы інфармавалі Пазьняка і іншых дэпутатаў. Зрэшты, нейкая іерархія ўнутры Апазыцыі адсутнічала, функцыі каардынатараў былі хутчэй тэхнічныя, чым палітычныя.

У тых выпадках, дзе прынцып узгодненасьці (ці, калі хочаце, палітычнай дысцыпліны) парушаўся, наступствы маглі быць вельмі сур'ёзныя. Так здарылася ў 1994 годзе, калі намесьнік Пазьняка па Апазыцыі і лідэр БСДГ Алег Трусаў разам з паплечнікамі нечакана падтрымалі на прэзыдэнцкіх выбарах не Пазьняка, а Шушкевіча.

І наадварот – пад час прыманьня Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце менавіта дакладна абраная тактыка прывяла да посьпеху (падрабязна пра гэта – пазьней).

Былі і ўнікальныя прыёмы, якія можна было скарыстаць толькі аднойчы.

Так, неяк парлямэнцкая большасьць вынесла заканадаўчую прапанову аб адкліканьні дэпутатаў – мэханізм быў такі, што даваў магчымасьць намэнклятуры адклікаць практычна ўсіх апазыцыйных дэпутатаў; нават калі б мы не вылазілі са сваіх акругаў, забыўшыся на палітыку і займаліся толькі асфальтаваньнем вуліц, пракладкай каналізацыі і г.д (для чаго яшчэ трэба было выпрасіць той асфальт ды трубы) – нас бы ўсё розна пазбавілі дэпутацкіх мандатаў.

Сытуацыя ўзьнікла цяжкая, крытычная, і, як падавалася – безвыходная. Намэнклятура была ўпэўненая, што заблякаваць гэты закон нам не ўдасца.

І тут было вырашана усім нам з таямнічым выглядам удаваць, рабіць выгляд, што мы вельмі зацікаўленыя прыняць гэты закон. Пры абмеркаваньні на карысьць закону выступае Валянцін Голубеў. А Зянон Пазьняк падышоў да мікрафону і заявіў, што

звычайна ў нас парадак прыняцьця законаў спачатку ў першым чытаньні, потым у другім, а гэты закон так дасканала распрацаваны, што трэба прымаць адразу ў другім чытаньні. Дэпутаты, натуральна, пагаджаюцца.

Абмеркаваньне скончылася – час галасаваць. Пазьняк уздымаецца з месца: „Так, Апазыцыя – галасуем ! Сяргей (гэта да мяне, бо я сядзеў ля дзьвярэй), паглядзі, хто там з нашых у фае, хай бягуць у залю!”. Баршчэўскі, Маркевіч, Гюнтэр з розных сэктараў з залі, гучна – „Хлопцы, дык галасуем, як дамовіліся! Цісьнем „За”.



(Фота: С. Брушко).

*„Першы мікрафон”. Лявон Дзейка, Уладзімер Грыбанаў, Зянон Пазьняк, Віталь Малашка.*

Сьпікер разгублены – а трэба ўжо вымаўляць „Хто – „за”? Прашу галасаваць”. Дэпутаты-камуністы бачаць, што БНФ чамусьці вельмі зацікаўлены ў законе – і значная іх частка „За” не галасуе (па прынцыпу ўсё рабіць насуперак таму што робіць БНФ, на што мы і разьлічвалі). Мы, натуральна, таксама не галасуем (кнопка для галасаваньня прыкрывалася пласьцінай, і калі ты жадаў – сусед мог ня бачыць, калі ты яе цісьнеш). Усё вырашылі літаральна дзесяць сэкундаў. Законапраект галасоў не дабраў. Паколькі, паводле прапановы Пазьняка, галасавалася адразу ў другім чытаньні, і закон не быў прыняты – ён не павінен быў галасавацца ізноў, павінен быў быць адпраўлены на дапрацоўку. Гэта быў апошні дзень сэсіі – у наступную сэсію палажэньне аб адкліканьні дэпутатаў ужо не ўключалі; (мы правялі з некаторымі кулюарную працу). Але ў той раз ўжо праз пяць хвілінаў усе ўсё зразумелі, ды і мы не маглі стрымаць сьмеху, калі камуністы нам казалі „Ну, вы нас і надурылі! Больш не паддадзімся”. Зразумела, што такі прыём скарыстаць ізноў было б немагчыма (хаця часам нешта падобнае і ўдавалася, улічваючы здольнасьць людзей наступаць на адны і тыя ж граблі).

Ну а па-за межамі Авальнай залі Дома ўраду ды офісу БНФ на Варвашэні, 8 у нас былі сустрэчы на прадпрыемствах, у інстытутах ды розных арганізацыях як у Менску, гэтак і ў рэгіёнах. Так, ўвосень 1994 году мы аб’езьдзілі дзясяткі раёнаў Беларусі – сотні выступаў у гарадах, мястэчках і вёсках.

Вышэй я спаслаўся на клясычную практыку парляманцкай дысцыпліны Вялікабрытаніі. Аднак у Лёндане дэпутаты ведаюць, што выкананьне партыйных патрабаваньняў дасьць ім магчымасьць пераабрацца на іншы тэрмін, магчыма, заняць нейкую пасаду ў парляманце, а пры зьмене ўлады – ўвайсьці ў склад ураду. Такіх гарантыяў дэпутатам Апазыцыі БНФ ніхто не даваў, ды і даць ня мог. Ўсё трымалася на веры ў найвышэйшую мэту – Незалежнасьць Беларусі.

Ну і, нарэшце, падаецца нялішнім абнародаваць фінансавы аспэкт нашай дзейнасьці.

За ўсе гады існаваньня Апазыцыі БНФ на распрацоўку ці экспэртны аналіз законапраектаў, Дэклярацыі і Канстытуцыі, ўвогуле на палітычную дзейнасьць, – мы не атрымалі ні ад Вярхоўнага Савета, ні ад замежных дзяржаў ці небеларускіх арганізацыйяў ніводнага, як цяпер модна казаць, „гранту”, ніводнага даляру, рубля, франку, маркі, злотага, кроны і г.д. Ніхто пра гэта і ня думаў, гэтага пытаньня для нас не існавала.

# ЧАРНОБЫЛЬ ЯК ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАБЛЕМА

Тут дазволю сабе парушыць храналёгію, каб зьвярнуцца да тэмы, якая ад 1986 году суправаджае і будзе суправаджаць не адно пакаленьне беларусаў.

Праўда пра Чарнобыль і дапамога яго ахвярам як адно з праграмных палажэньняў БНФ былі заяўленыя яшчэ ў момант яго ўтварэньня, у 1988 годзе. У тым жа годзе мне давялося змагацца супраць


(Архіў БНФ)

***Прэсавая канфэрэнцыя пасьля „Чарнобыльскага шляху” – 89. Менск.***

плянаў будаўніцтва АЭС на тэрыторыі Віцебскай вобласьці – і хаця супраць гэтага былі сабраныя некалькі дзясяткаў тысяч подпісаў, нашая перамога і цяпер здаецца мне нейкім цудам, паколькі „ядзерная мафія” – адна з самых магутных у сьвеце. На тэрыторыі ж тагачаснай СССР яна атрымлівала спрыяньне таталітарнай камуністычнай сыстэмы.

26 красавіка 1989 года Народны Фронт вывеў каля 10-ці тысячаў людзей да Дому ураду, пад жалобнымі транспарантамі, на якіх былі пазначаныя назвы пацярпелых гарадоў і мястэчак – Брагін, Быхаў, Ельск, Карма, Слаўгарад ды іншыя. Улады прыгналі на плошчу будаўнічую тэхніку, каб адбойнымі малаткамі і бульдозэрамі заглушыць выступы прамоўцаў. Але прамоў не было. Мы прастаялі гадзіну на плошчы ў маўчаньні – кожны трымаў сьвечку, званіў Чарнобыльскі звон у поўнай цішыні. Хвілінаў праз дваццаць тэхніку прыбралі.

А вось праз пяць месяцаў, 30 верасьня на арганізаваным БНФ першым Чарнобыльскім шляху, прамовы гучалі. Дзесяткі тысячаў людзей прайшлі ал парку Чалюскінцаў да плошчы Леніна, і на прыступках пэдагагічнага інстытуту выступілі Алесь Адамовіч, Станіслаў Шушкевіч, расейскі акадэмік Яўген Веліхаў, а таксама жыхары пацярпелых раёнаў. Дарэчы, ня з усіх раёнаў дэлегацыі здолелі прыехаць у сталіцу – шмат каго міліцыянты затрымалі па дарозе ў Менск. Вёў мітынг Зянон Пазьняк. Пасьля мітынгу ў будынку Чырвонага касьцёла прайшла прэсавая канфэрэнцыя, пад час якой былі упершыню агучаны вынікі дасьледаваньняў уплыву так званых „малых дозаў” радыяцыі на здароўе. Член-карэспандэнт АН Пятраеў паведаміў пра небясьпеку часьцінак плутонія, якія былі знойдзеныя ў лёгкіх тых, хто жыў на забруджаных тэрыторыях.

Арганізаваныя Народным Фронтам Чарнобыльскі шлях і прэсавая канфэрэнцыя мелі шырокі розгалас у сьвеце, пасьля яе камуністычнаму кіраўніцтву Беларусі было вельмі складана замоўчваць рэальную сытуацыю вакол Чанобыля. У падкантрольных ЦК КПБ газэтах зьявіліся абвінавачваньні арганізатараў шэсьця ў тым, што яны нібыта прагнуць скарыстаць народную бяду ў палі-




***Чарнобыльская Беларусь.***

тычных мэтах; пачаліся рэпрэсіі. Я быў у кабінэце Пазьняка ў інстытуце гісторыі АН, калі яго прыйшоў арыштоўваць нарад міліцыі (мой рэпартаж пра гэта, хаця і з некаторымі скарачэньнямі, быў надрукаваны ў газэце „Чырвоная зьмена", малады калектыў якой імкнуўся вырвацца з-пад кантролю партыі і камсамола).

Аднак ціск на Пазьняка і іншых арганізатараў акцыі толькі пашыраў яе розгалас.

Уласна, ад гэтага моманту дыскусія адносна „35-ці бэрнай" канцэпцыі пражываньня на забруджаных тэрыторыях пакінула межы навуковых лябараторыяў і выйшла ў грамадзтва (праўладныя маскоўскія навукоўцы імкнуліся давесьці, што ў гэтых межах радыяцыя нібыта бясшкодная; некаторыя нават дапісаліся да таго, што – і карысная).

25 лістапада 1989 года ў Чырвоным касьцёле прайшла Асамблея народаў „Чарнобыльскі шлях" з удзелам Васіля Быкава і Алеся Адамовіча – таксама арганізаваная БНФ.

Чарнобыльская тэма была адной з галоўных і на выбарах у Вярхоўны Савет увесну 1990 года. І ў першыя ж гадзіны працы ВС 13 скліканьня дэпутаты БНФ (Лявон Баршчэўскі ды іншыя) запатрабавалі стварыць камісію па рассьледаваньню дзеяньняў службовых асобаў, вінаватых ва ўтойваньні інфармацыі аб рэальных наступствах аварыі на Чарнобыльскай АЭС. Такая камісія (часовая) была утвораная, на чале з дэпутатам Рыгорам Вячэрскім. Мне давялося быць яе сакратаром. На працягу некалькіх месяцаў мы апыталі міністраў, генэралаў, навукоўцаў. Выявілася, што ўжо з першых дзён пасьля катастрофы ўтойваньне інфармацыі мела мэтанакіраваны і сьвядомы характар. Менскія, гомельскія і магілеўскія начальнікі пакорліва выконвалі распараджэньні Палітбюро ЦК КПСС, якое найперш было зацікаўлена не ў мінімізацыі наступстваў аварыі, а ў захаваньні „іміджу" СССР. І тут таксама беларускі народ быў ахвярай імпэрскай палітыкі.

У чэрвені 1990 году ў працы першай сэсіі Вярхоўнага Савета быў зроблены перапынак на некалькі дзён – усе дэпутаты паехалі ў „чарнобыльскія" раёны. Разам з Пазьняком і іншымі

дэпутатамі я быў у Магілёўскай вобласьці. Паўсюль – гора, галеча, скаргі на недахоп сродкаў, якія чуў і раней, пад час журналісцкіх камандзіровак.

Як вызначыў 29 чэрвеня на сэсіі ВС Пазьняк, перасяленьне насельніцтва з забруджаных тэрыторыяў, наогул выратаваньне нацыі ня будзе зьдзейсьнена. „пакуль мы застаемся калёніяй, залежнай ад Масквы, пакуль будзем стаяць на каленях, плакацца і прасіць, пакуль існуе таталітарная сыстэма”. Дарэчы, Пазьняку так і не ўдалося на сэсіі зачытаць поўны тэкст свайго выступу, дзе ён распавядаў пра дзейнасьць Камітэту БНФ „Дзеці Чарнобыля” на чале з дэпутатам Генадзем Грушавым. Да гэтага моманту Камітэт, дзейнасьць якога замоўчвалася уладамі, арганізаваў выезд дзяцей у Нямеччыну, Польшчу, Чэхаславаччыну (больш як семсот дзяцей).

У сярэдзіне чэрвеня Пазьняк разам з Грушавым былі ў Нямеччыне, наведалі і лягер пад Бэрлінам, дзе адпачывалі беларускія дзеці. Вынікам перамоваў Пазьняка і Грушавога ў Бэрліне былі два рэйсы транспартных самалётаў, якія даставілі ў Менск бясплатна 12 тонаў дзіцячага харчаваньня для чарнобыльскіх дзяцей. Незадоўга перад гэтым стала вядома пра круізы, якія арганізавала начальства на чарнобыльскія грошы, пра перадачу часткі ахвяраваньняў... міністэрству атамнай энэргіі СССР. Нарэшце, 28 чэрвеня стала вядома, што на Кубе памерла два дзіцяці зь Беларусі – улады арганізавалі „аздараўленьне” ў субтрапічным клімаце. Да таго ж, кубінскія камуністычныя ўлады выставілі Беларусі рахунак у чвэрць мільёна даляраў.

„Ці задумаліся вы, шаноўныя калегі, чаму, калі за гуманную справу бяруцца афіцыйныя структуры, то альбо нічога не атрымліваецца, альбо выходзіць кепскасьць і марната?” – пытаўся Пазьняк і заўважыў, што „праблема выратаваньня нацыі ад наступстваў Чанобыля – гэта перш за усё праблема палітычная і вырашаецца яна палітычнымі сродкамі. Дзеля яе рэальнага вырашэньня неабходны дзьве умовы. Першае – гэта дзяржаўны сувэрэнітэт.... Другая умова – гэта дэмакратычны лад... Вырашэньне чарнобыльскай праблемы, выратаваньне людзей ад радыяцыі ва умовах таталітарнай камуністчнай сыстэмы і манаполіі КПСС – утопія. Гэта нерэальна, колькі б мы не гаварылі тут на сэсіі пра трагедыю Чарнобыля. Чатыры гады экспэрымэнтальнага выжываньня добра гэта пацьвярджаюць. Гэтая партыйна-манапалістычная сыстэма антычалавечая па сваёй сутнасьці, і пакуль яна існуе, пакуты беларускага народа ніколі не скончацца”.

Дадамо, што высновы пра таталітарызм як прычыну нявырашанасьці чарнобыльскай праблемы пацьвердзіў і „Народны трыбунал”, які БНФ правёў 27-га красавіка 1991 году ў Доме літаратара.

У сьнежні 1991 году Станіслаў Шушкевіч пад час наведваньня Апазыцыі БНФ (адзінага за увесь час ягонага сьпікерства) абвінаваціў мяне ў тым, што я увагнаў Беларусь у радыяфобію, гіпэртрафуючы чарнобыльскую пагрозу. Мяркую, Станіслаў Станіслававіч якраз гіпэртрафавана ўспрымаў мой сьціплы уплыў на грамадзкую думку, а магчыма, у маёй асобе ён проста бачыў прадстаўніка ўсіх журналістаў (прысутнасьці іншых дэпутатаў БНФ, журналістаў па прафэсіі – Гермянчука, Маркевіча, Шачака, – пратаколам пасяджэньня не зафіксавана). У кожным выпадку, у ў трагедыі, якая будзе цягнуцца стагодзьдзямі і колькасьць ахвяраў якой не падаецца вымярэньню, наўрад ці можна нешта перабольшыць. На жаль, чарнобыльская небясьпека беларускім грамадзтвам увесь час недаацэньвалася – нават у гады адноснай свабоды інфармацыі.

Таму чарнобыльская тэма была пад увагай дэпутатаў Апазцыі БНФ цягам усіх амаль шасьці год існаваньня Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня.

Менавіта дэпутаты БНФ паставілі пытаньне пра адказнасьць Сьлюнькова, Камая, Бур’яка ды іншых кіраўнікоў, якое было правалена пры галасаваньні камуністамі. Менавіта Апазыцыя БНФ дамаглася стварэньня заканадаўства аб дапамозе пацярпелым ў выніку Чарнобыльскай катастрофы. Мы запатрабавалі кампэнсацыі ад СССР за Чарнобыль – яна была вызначаная ў 30 мільярдаў савецкіх рублёў; нагадаю, што сярэднямесячны заробак спэцыяліста – інжынэра, настаўніка, – складаў у той час 200 рублёў. І, нарэшце, менавіта дзякуючы распачатай па ініцыятыве Народнага Фронту шырокай грамадзкай дыскусіі была пахаваная злачынная 35-ці бэрная канцэпцыя, якая

дапускала пражываньне людзей на „адносна забруджаных” тэрыторыях.

На заклік БНФ адгукнуліся і прадстаўнікі беларускай дыяспары – адзін толькі канадыйскі Чарнобыльскі фонд пад кіраўніцтвам Івонкі Сурвіллы сабраў і накіраваў у Беларусь лекаў на мільёны даляраў.

Шмат што засталося па-за стэнаграмамі сэсіяў ВС – дэпутацкія запыты, арганізацыя дапамогі пацярпелым. Але было бессэнсоўна ўздымаць чарнобыльскія пытаньні па-за кантэкстам палітыкі, бо ні камуністы, ні пазьней Лукашэнка былі няздольныя яго вырашыць.

Прыкметна, што ў дзень свайго ад’езду зь Беларусі ў сакавіку 1996-га лідэр Народнага Фронту рыхтаваўся да выступу на міжнароднай Чарнобыльскай канфэрэнцыі, арганізаванай Генадзем Грушавым. А праз месяц Зянон Пазьняк вярнуўся ў Менск менавіта на Чарнобыльскі шлях, і ягоная прамова на шматтысячным чарнобыльскім мітынгу была апошнім публічным выступам у Беларусі.

Пры ўладзе Лукашэнкі распачалася злачынная практыка вяртаньня людзей ў забруджаныя раёны, выраб на радыяцыйнай тэрыторыі прадуктаў харчаваньня, рэпрэсіі супраць навукоўцаў, якія спрабуюць абнародаваць праўдзівую інфармацыю пра чарнобыльскую небясьпеку. Нарэшце, ізноў загаварылі пра будаўніцтва АЭС. Усё гэта толькі пацьвярджае выснову, што Чарнобыль у Беларусі – праблема, найперш, палітычная, – выснову, зробленую Народным Фронтам яшчэ ў першыя пасьлячарнобыльскія гады.

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ АБ СУВЭРЭНІТЭЦЕ: ПАКУЛЬ ШТО – У СКЛАДЗЕ СССР

Паказальна, што ў траўні 1990 году ў Сойме БНФ некаторыя яшчэ вялі дыскусіі наконт незалежнасьці.

„Супраць незалежнасьці цяпер выказаўся Юры Дракахруст. „Людзі не гатовыя да аддзяленьня. (А хіба мы ўжо заўтра выходзім? – кінуў рэпліку Ўладзімер Крукоўскі). Таму незалежнасьць ня можа быць сёньня галоўным палітычным лёзунгам. Трэба, – працягваў Ю. Дракахруст, – узьняць галоўны лёзунг цяперашніх пераўтварэньняў у ГДР: „Камунізм – больш ніколі!” З-за лёзунгу незалежнасьці мы прайгралі выбары”. Міхась Чарняўскі: „Нельга сказаць, што мы прайгралі выбары. Да выбараў мы ня мелі нічога, а цяпер маем дэпутатаў”. („Свабода”, №5–6, травень 1990).

Зазначу, што я ні ў якім разе не хачу закінуць Юрыю Дракахрусту папрок у жаданьні пазбавіць Беларусь незалежнасьці наагул; гаворка на Сойме ішла пра тое, што павінна быць спачатку – дэмакратызацыя альбо Незалежнасьць. У нечым тая дыскусія паказальная, калі ўлічыць далейшае разьмежаваньне ў дэмлягэры па лініі „агульныя дэмакраты” – „незалежнікі”. (На практыцы аказалася, што „агульныя дэмакраты” арыентаваліся ў асноўным на Маскву, на супольную палітыку з Расеяй, „незалежнікі” – на аднаўленьне незалежнай нацыянальна-дэмакратычнай Беларусі).

Але трэба сказаць, што аднадушша наконт незалежнасьці не было напачатку і ў дэпутатаў, якія ўвайшлі ў „Дэмакратычную плынь”, якая пазьней пераўтварылася ў „Дэмакратычны клюб”. Усьведамленьне неабходнасьці сувэрэнітэту прыйшло паступова, хоць і даволі хутка: ужо праз два месяцы пасьля пачатку першай сэсіі да дэпутатаў ад БНФ далучыліся тыя, хто меў пра праграму Фронту цьмянае ўяўленьне альбо нават канкураваў на выбарах з франтаўскімі кандыдатамі. Шмат у чым паспрыялі гэтаму цынізм, зь якім дэпутаты-прадстаўнікі камуністычнай намэнклятуры адкідвалі кадравыя прапановы „дэмклюбу” падчас выбараў старшыняў парлямэнцкіх Камісіяў.

11 траўня Сойм БНФ заявіў, што дасягненьне сувэрэнітэту немагчымае ў складзе СССР, а 30 чэрвеня –1 ліпеня БНФ правёў канфэрэнцыю „Незалежная Беларусь”, з удзелам больш як пяцісот чалавек, у тым ліку і 62 дэпутатаў Саветаў усіх ўзроўняў – ад раённых да Вярхоўнага. З дакладам выступіў Зянон Пазьняк, які канстатаваў, што БНФ, хаця і мае прадстаўніцтва ў парляманце, але не зарэгістраваны, паколькі камуністы бачаць у ім рэальную палітычную сілу. Пазьняк вызначыў галоўную праблему Беларусі як „радыяцыйны генацыд” і адзначыў, што вырашыць яе можна




(Калекцыя З. Пазьняка)

*27 ліпеня 1992 г. у Менску.*

толькі палітычным шляхам пры выкананьні двух умоваў: дзяржаўны сувэрэнітэт і дэмакратычная ўлада. Канфэрэнцыя прыняла праект Дэкларацыі аб незалежнасьці Беларусі, які пазьней дэпутаты БНФ прадставілі ў Вярхоўны Савет.

Цікава, што праз два тыдні група дэпутатаўкамуністаў у ВС распаўсюдзіла сярод дэпутатаў тэкст рэпартажу Сяргея Шапрана з канфэрэнцыі, надрукаванага ў латыскай газэце „Советская молодёжь” – акцэнтаваўшы ўвагу на тым, што БНФ абірае курс на Незалежнасьць бяз камуністычнага таталітарызму. Такая канцэпцыя „развалу Саюза”, ва ўсьведамленьні дэпутатаў-камуністаў, павінна была скампрамэтаваць БНФ.

Такім чынам, парляманцкая большасьць упарта не жадала прымаць дэкларацыю. Але пасьля прыняцьця дэкларацыяў Вярхоўнымі Саветамі Расеі і Украіны сытуацыя зьмянілася. Старшыня ВС Мікалай Дземянцей заявіў, што і Беларусь павінна прыняць аналягічны дакумэнт.

Але ў камуністаў ніякага праекту не было – затое ён быў у нас. Вярхоўны Савет адкінуў фронтаўскі праект дэкларацыі. Тады фронтаўскія дэпутаты агулам пайшлі працаваць у адпаведную Камісію ВС па суверэнітэту і неўзабаве падрыхтавалі там новы сумесны праект, які йшоў ужо пад грыфам Камісіі (Старшынём Камісіі быў Л. Козік) і на 90 адсоткаў грунтаваўся на нашых ідэях. Гэты праект і ўзялі за аснову.

Пазьней Станіслаў Шушкевіч будзе казаць, што пад час прыняцьця Дэкларацыі дэпутаты БНФ ня бралі ўдзел у галасаваньні, сышлі з залі – некарэктна замоўчваючы вельмі істотныя акалічнасьці.

Па-першае, сама Дэкларацыя была амаль цалкам напісаная дэпутатамі БНФ.

Па-другое, мы бралі ўдзел у абмеркаваньні ўсіх артыкулаў і галасаваньні па іх (толькі на пленарным паседжаньні 26-27 ліпеня дэпутаты БНФ бралі слова больш за сто разоў!) .

Ужо пасьля заявы Дземянцея, калі была ўтвораная рабочая група ў справе падрыхтоўкі Дэкларацыі, Зянон Пазьняк прапанаваў дэпутатам сабрацца ў перапынку паміж пасяджэньнямі.

У „менскім сэктары” Авальнай залі (з правага боку, калі стаць тварам да прэзыдыюму), засталіся ня толькі дэпутаты БНФ, але і дэпутаты „дэмклюбу”, і нават некаторыя камуністы. На працягу гадзіны З. Пазьняк, В. Голубеў ды іншыя дасьведчаныя ў беларускай мінуўшчыне дэпутаты распавядалі пра Вялікае Княства Літоўскае, БНР, пра пераемнасьці ідэі беларускай дзяржаўнасьці. Шмат якія дэпутаты ўсё гэта чулі ўпершыню.

Прыняцьце Дэклярацыі адбывалася ў некалькі этапаў – спынюся на, бадай што, самым драматычным, на пасяджэньні Вярхоўнага Савета 26-27 ліпеня 1990 году.

Хаця прапанаваны БНФ праект Дэклярацыі і быў прыняты за аснову, пад час абмеркаваньня і галасаваньня зь яго выкрэсьлівалася ўсё тое, што прадугледжвала рэальную Незалежнасьць.

Нягледзячы на намаганьні дэпутатаў БНФ, не праходзіць прэамбула Дэклярацыі, у якой рабілася спасылка на „пераемнасьць дзяржаўнай ідэі БССР ад Беларускай Народнай Рэспублікі і неабходнасьць рэспубліканскай парляманцкай формы праўленьня”.

Не прайшла прапанаваная дэпутатамі БНФ назва – замест БССР - „Беларуская Рэспубліка, альбо Беларусь”.

Прынялі, што „Беларуская ССР ахоўвае і абараняе нацыянальную дзяржаўнасьць беларускага народа”. Але дадатак – „... адраджае гістарычныя, нацыянальна-дзяржаўныя сымбалі народа” набраў толькі 91 голас (а для прыняцьця станоўчага рашэньня трэба было 170).

Дыскусія разгарнулася – вакол тэрмінаў „абвяшчае” сувэрэнітэт альбо „пацьвярджае”. Мы прапанавалі запісаць „пацьвярджае”, паколькі Беларусь у дваццатым стагодзьдзі ўжо мела Незалежнасьць, увасобленую ў БНР. Нам падавалася істотным падкрэсьліць, што ідэя Незалежнасьці ўзьнікла ня сёньня, што яна мела канкрэтныя ўвасабленьні, а сёньня аднаўляецца гістарычнае права народа на сваю дзяржаву. Да таго ж, гэта надавала Дэклярацыі, ды і самой ідэі дзяржаўнасьці, гістарычны падмурак і пазбаўляла яе налёту каньюнктуры.

Голубеў: „…дзяржаўны сувэрэнітэт у нас ужо быў абвешчаны і ёсьць у нашай Канстытуцыі. Нам неабходна пацьвердзіць і абвясьціць поўную незалежнасьць рэспублікі”.

Садоўскі: „. Мы сувэрэнная дзяржава. Я дапускаю, што якая-небудзь дзяржава, член Арганізацыі Аб’яднаных Нацый можа паставіць пытаньне аб новым прыняцьці нас у ААН... Вы зразумейце. Калі мы абвяшчаем сувэрэнітэт, не прымаючы пад увагу, што мы паўнацэнна прызнаны суб’ект міжнароднага права, то можна ставіць пытаньне аб новым прыёме нас, аб скасаваньні членства, а тады аб прыёме. Калі вы не прымаеце пад увагу нават факт Устаноўчага сходу, абвяшчэньня БНР, давайце паглядзім на дзьве апошнія акалічнасьці, толькі на гэта. І гэта прымусіць нас напісаць „пацьвярджае”.

Пазьняк: „Юрыдычна мы валодаем сувэрэнітэтам.. Мы ня маем фактычнага сувэрэнітэту. Гэта таксама факт. Таму ставіцца пытаньне, што мы пацьвярджаем дэ-юрэ, што мы пацьвярджаем наш сувэрэнітэт. І адначасова расшыфроўваем, абвяшчаем, што пад гэтым крыецца, і дзеля гэтага прымаецца Дэклярацыя. Такія юрыдычныя моманты вельмі важныя, у нас яшчэ няма палітычнага міжнароднага вопыту, але, калі мы наробім памылак, ён можа праз нейкі час узьнікнуць”.

Адрынаньне камуністамі нашых аргумэнтаў было не выпадковым – яны не жадалі бачыць Беларусь незалежнай ад Масквы.

Прыкметна, што ў ліпні 1990-га шмат якія палажэньні праекту Дэклярацыі, накіраваныя на падмацаваньне Незалежнасьці, аспрэчваў дэпутат Аляксандар Лукашэнка.

Так, сярод іншых ён выступіў за фармулёўку „абвяшчае”.

Лукашэнка: „…моя мотивация: суверенное мы государство или нет? Коль Декларацию мы принимаем, значит, я считаю,”.

У пацьвярджэньне сваіх аргумэнтаў Лукашэнка працытаваў расейскія слоўнікі Даля („Декларация – объявление, оглашение, провозглашение”) і Ожагава („официальное торжественное заявление”).

Дыскусія дасягнула такога напалу, што фармулёўкі галасаваліся ў шасьці варыянтах – і не адна (нават з „абвяшчэньнем”) не набрала патрэбнай колькасьці. Пасьля чаго віцэ-сьпікер Шушкевіч зрабіў рэмарку, якая красамоўна характарызавала шмат якіх дэпутатаў.

Шушкевіч: „...Магчыма, у нашым Вярхоўным Савеце беларускія фармулёўкі не асэнсоўваюцца ўсімі так, як трэба. Я з вашага дазваленьня прачытаў бы дзьве фармулёўкі, якія набралі большасьць галасоў, на рускай мове..”

Была пазначана яшчэ адна матывацыя прыняцьця рашэньняў:

Германчук: „Некаторыя супраць галасуюць, калі зьяўляецца прозьвішча Зянона Пазьняка”.

Дземянцей: „Не разжигайте вы таких моментов”.

Яшчэ два галасаваньні – і зноў ні які варыянт не праходзіць (пазьней прагаласавалі за „абвяшчае”).

Не жадалі камуністы саступаць і ў эканамічных артыкулах Дэклярацыі.

Не прайшла прапанова, што „усе віды маёмасьці з'яўляюцца ўласнасьцю грамадзян БССР” („Пазьняк: „Калі мы не пакінем сабе ўсе віды маёмасьці, то мы выйдзем у сувэрэнітэт жабракамі”).

Дэбаты выклікала і прапанова дэпутатаў БНФ стварыць уласную грашовую адзінку.

Някрасаў: „Я предложил исключить положение о собственной денежной единице. Почему? Представьте себе, вы едете на Украину, в Россию или ещё куда-нибудь, и надо уже менять деньги, это раз. Во-вторых, в иностранных финансовых кругах, о чём были сообщения в нашей печати, выражают серьёзное беспокойство по поводу того, что в некоторых республиках собираются вести собственную валюту. Для них это очень и очень неудобно. Поэтому я полагаю, что валюту нужно сохранить общую”.

Сасноўскі: „… я тоже просил, чтобы национальную валюту исключить.”

Леўчык: „Я… против ввода своей денежной единицы.”

(Някрасаў быў дэпутатам ад інвалідаў, Сасноўскі – ад вэтэранаў; падобны баляст усе гады існаваньня Вярхоўнага Савету цягнуў на дно нашы прапановы. Былы партыйны сакратар Леўчык быў членам Прэзыдыюму ВС – няцяжка ўявіць, як „ахвотна” ён і ягоныя аднадумцы, якіх у Прэзыдыюме была большасьць, „спрыялі” Незалежнасьці краіны).

Праўда, дэпутаты прагаласавалі за тое, што Беларусь ўтварае Нацыянальны банк, падпарадкаваны Вярхоўнаму Савету, стварае фінансава-крэдытную сыстэму, ўласную падаткава-мытную службу – але прапанова БНФ аб тым, што Беларусь „стварае ўласную грашовую сыстэму”, ізноў выклікала неразуменьне.

Камісія, а таксама асобныя дэпутаты (у тым ліку Лукашэнка) прапанавалі абмежавацца фармулёўкай „мае права на стварэньне”.

Беленькі: „Дзякуючы таму, што не існуе зараз сваёй грашовай сыстэмы, Беларусь штогод губляе больш паўмільярды рублёў”.

Пазьняк: „Я хачу засяродзіць ўвагу на прынцыповым палажэньні, не „мае права” а „утварае”. Таму што мы маем права і на забесьпячэньне жыльлём, і на жыцьцё, і на што хочаш... Калі мы прымем такую папраўку, што „маем права”, то мы гэтага права мець ня будзем... Гэта даволі расплыўчатая фармулёўка, таму што калі мы ня будзем мець сваёй грашовай сыстэмы, сваіх грошай, свайго банка, сваёй крэдытнай сыстэмы, ні аб якім сувэрэнітэце ня можа ісьці гаворка”.

Аднак наша фармулёўка набрала толькі 127 галасоў. Запісалі, што ўсяго толькі – „мае права…”.

Затое прайшла прапанова Ўладзімера Заблоцкага, што Беларусь мае права на сваю долю ў агульнасаюзным алмазным і валютным фондах і залатым запасе.

Сумненьне ў большасьці дэпутатаў выклікала фармулёўка „Ня могуць дзейнічаць арганізацыі, палітычныя партыі, якія падпарадкоўваюцца замежным цэнтрам”.

Канешне, гэтая наша прапанова была накіраваная, галоўным чынам, супраць КПСС. У адрозьненьні ад літоўскіх сваіх калег, беларускія камуністы, адданыя Маскве, адмовіліся прыняць уласны статут КПБ – і жылі па статуце КПСС. Маскоўскае ЦК цалкам кіравала беларускім ЦК, а апошняе, у сваю чаргу, кантралявала парлямэнцкую большасьць у Вярхоўным Савеце.

Абараняючы папраўку, Пазьняк ні слова не сказаў пра камуністаў, але засяродзіў увагу на іншым (гаварылася пад прарасейскіх ветэранаў, каб прыдбаць галасы): „Мы ведаем, як дзейнічае каталіцкі касьцёл зараз. І якая падаплёка за гэтым стаіць” (Мелася на ўвазе палянізацыя; пад час сустрэчы з дэпутатамі ад БНФ міністар замежных спраў Польшчы Скубішэўскі прагаварыўся, ўжыўшы выраз „касьцёл польскі”).

Тое сапраўды была небясьпека, але галоўную небясьпеку камуністы бачылі ў іншым – пазбыцца ЦК КПСС.

З месца: „Вопрос есть. ЦК КПСС как сейчас будет относиться, как к «замежным» или «незамежным»?"

Дземянцей: „Через некоторое время, да. Первый микрофон".

Пазьняк: „Адносна ЦК КПСС, паважаныя калегі, як камуністы вырашаць, так і будзе".

Але для камуністаў усё даўно вырашана – цэнтар павінен заставацца ў Маскве. Вынік – прапанова недабірае 69 галасоў.

Дэпутат БНФ Аляксандар Шут ўносіць крыху зьменены варыянт папраўкі і апэлюе да аргумэнтацыі, якая павінна была б быць зразумелая камуністам і вэтэранам: „значыць, у нас тут могуць намі кіраваць і ЦРУ, і фашысцкія арганізацыі" – але ягоная папраўка набірае яшчэ менш галасоў, чым папярэдняя…

Абмяркоўваецца прапанова З. Пазьняка і іншых дэпутатаў БНФ аб тым, што „Беларусь патрабуе ад ураду СССР безумоўнай і тэрміновай кампэнсацыі стратаў, зьвязаных з пераадоленьнем наступстваў Чарнобыльскай катастрофы".

Пазьняк: „Шаноўныя дэпутаты, усе нашы дзеяньні, якія датычаць лёсу рэспублікі, нашага народу, зараз праходзяць пад знакам чарнобыльскай бяды. І насельніцтва, разважаючы аб сувэрэнітэце, часта задае пытаньне: а як будзе з Чарнобылем? У гэтай сытуацыі было б карысна пацьвердзіць, што сувэрэнітэт даць нам магчымасьць выкарыстаць свае нявыкарыстаныя сілы для выхаду з гэтай бяды".

За прапанову Пазьняка галасуе 241 дэпутат, і ў Дэкларацыі запісваецца, што „Сваю свабоду і сувэрэнітэт Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ў першую чаргу выкарыстоўвае на выратаваньне беларускага народа ад вынікаў Чарнобыльскай катастрофы".

Супраць гэтага прагаласавалі толькі чатыры дэпутаты.

А вось прапанова аб забароне манапалізацыі СМІ галасоў не набірае.

Калі падышлі да галасаваньня па першай частскі артыкула 10 аб тым, што „Беларуская ССР мае права на ўласныя Узброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай і грамадзкай бясьпекі, падначаленыя Вярхоўнаму Савету Беларускай ССР", першым супраць выступіў Віктар Ганчар, які заявіў, што пералічаныя структуры ня могуць быць падпарадкаваныя парляманту. Заўважу, што фармулёўка вылучалася камісіяй (у БНФ варыянт быў больш радыкальны). Пройдзе два гады, і калі ва ўжо незалежнай Беларусі ўрад Кебіча не пажадае рэалізоўваць прынятую парлямантам вайсковую дактрыну, Апазыцыя БНФ ізноў паставіць пытаньне аб падпарадкаваньні Ўзброеных Сілаў Вярхоўнаму Савету.

Дэпутат ад вэтэранаў Міхаіл Сасноўскі заявіў, што „я считаю, что слова „ўласныя Узброеныя Сілы" нам надо убрать. Я не думаю, что мы, белорусы, не можем создать все роды войск.."(у даведніку нацыянальнасьць дэпутата Сасноўскага, між іншым, пазначана – „расеяц". Але заявіў ад імя беларусаў).

І тут зусім нечакана для нас у абарону ўласнага войска выступіў палкоўнік міліцыі Мікалай Серада: „До войны в Белоруссии были свои национальные Воружённые Силы".

Пазьняк: „Я ўношу папраўку, якая зьмяняе адно толькі слова... Сутнасьць вось у чым. У першую чаргу я прапаную напісаць наступнае: „Беларуская ССР мае ўласныя Ўзброеныя Сілы". Абгрунтаваньне. Усё, што мы гаворым „мае права", на практыцы застаецца толькі „правам". У нас ужо дэпутат Серада паведамляў, што ў 20-ыя гады былі свае Узброеныя Сілы. Вы цудоўна ведаеце, Воінскі Статут быў на беларускай мове, маршал Жукаў быў у Беларусі, выдатна валодаў беларускай мовай і не забыў яе да сьмерці. Так што ў нас ужо ёсьць і вопыт. Я думаю,што калі мы прымем больш імпэратыўную форму, гэта будзе больш гарантавана.."

Разьлік быў дакладны – для вэтэранаў аўтарытэт Жукава быў бясспрэчны. Аднак да мікрафону падышоў намесьнік старшыні КДБ, дэпутат Генадзь Лавіцкі: „Мне сегодня понравилось, что нам говорил Гончар. Но мы как-то пропустили его слова мимо ушей. О том, что мы вот так, под эмоции, принимаем всё. Но если подойти реально, надо посмотреть. То, что у нас были свои Вооружённые Силы в 20-х годах, возможно, были. Тогда, наверное, это и обусловлено было.

Но какие это были Вооружённые Силы?... Я поддерживаю предложение комиссии ветеранов, что первые два пункта на сегодняшний день пока ещё не созрели и нереальны. Потому что идёт нарушение статьи 73 Конституции СССР. Но мы принять можем, чисто символически, что мы имеем такое право, как суверенное государство".

(Пазьней генэрал Серада будзе абраны членам Канстытуцыйнага Суда, падтрымае імпічмант Лукашэнку ў 1996 годзе, за што Лукашэнка выключыць яго са складу КС. Лавіцкі зойме пасаду старшыні КДБ, а пры Лукашэнку атрымае ранг амбасадара і будзе ўзначальваць дыпмісыю ў Ізраілі – нашмат даўжэй, чым звычайна. Міжволі прыходзіш да высновы, што вызначэньне „свой-чужы" Лукашэнка ўжо тады рабіў паводле стаўленьня чалавека да Незалежнасьці).

Галасаваньне па гэтай частцы артыкула адклалі і перайшлі да разьдзелу, які дэкляраваў, што „Беларуская ССР... ажыцьцяўляе правы на добраахвотнае аб'яднаньне зь іншымі дзяржавамі і свабоднага выхаду з дзяржаўных саюзаў. Беларуская ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі новага Саюзнага дагавора".

Валянцін Голубеў прапанаваў цалкам выключыць гэтае палажэньне, паколькі ва ўжо прынятым раней разьдзеле канстатаваліся правы Беларусі як сувэрэннай дзяржавы. Голубева падтрымалі толькі 124 дэпутаты. Кампрамісны варыянт прапанаваў Пазьняк, замяніўшы слова „аб'яднаньне" на слова „саюзы" (тэрмін „аб'яднаньне" быў тоесны страце дзяржаўнай самастойнасьці, і ў Дэклярацыі было пажадана яго не ўзгадваць).

Леанід Козік, наадварот, заклікаў прызнаць „сфэры адносінаў у межах Саюза ССР".

Пасьля кароткіх дэбатаў 208 дэпутатаў прагаласавалі за „аб'яднаньне". „Аб'яднаньне – гэта можа быць паглынаньне" – заявіў Пазьняк і прапанаваў перагаласаваць.

„Видите, как Вы поступаете: если того голосовать – это смех, если Вы – давайте в первую очередь. Давайте уважительно относиться друг к другу" – парыраваў Дземянцей фразай з няўцямным зьместам.

Пазьняк: „Шаноўныя калегі. Я не затрымаю вашай увагі. Я іменна так і мяркую, таму што пры саюзе застаюцца два сувэрэнныя бакі, пры аб'яднаньні гэты сувэрэнітэт можа быць згублены". Папраўка Пазьняка ўсё ж галасуецца – і набірае толькі 120 прыхільнікаў.

Тут жа слова бярэ Пётра Садоўскі: „Людзі, калі яны галасуюць, яны думаюць пра зьмест таго, за што яны галасуюць. Калі людзі ня думаюць, яны адключаюцца... Калі мы прагаласавалі, што нехта заключае, ідзе на аб'яднаньне зь іншай дзяржавай, ён траціць сувэрэнітэт, і мы тады не прымаем нашу Дэклярацыю пра сувэрэнітэт. Вы зразумелі, што гаварыў дэпутат Пазьняк? Мы проста прымаем абсалютна нелягічныя фармулёўкі".

Сямдзянава: „Удивляет та поспешность, с которой мы только пытаемся обрести реальный суверенитет и тут же пытаемся его ликвидировать. Ведь мы же политики. Давайте рассуждать трезво. Давайте мы узнаем, что такое „новый договор на новой основе".

Галасуецца сфармуляваны рабочай камісіяй артыкул „Беларуская ССР прапануе неадкладна прыступіць да распрацоўкі Дагавора аб саюзе сувэрэнных сацыялістычных дзяржаў".

„Чаму сацыялістычных – пытаецца Лявон Баршчэўскі. – Я не разумею, хай мне растлумачаць. Які – кампучыйскі сацыялізм? Ці швэцкі?"

Лявонцій Зданевіч вяртае ўвагу да прапановы Галіны Сямдзянавай дазнацца, які ж варыянт саюзнай дамовы распрацаваў Крэмль, і дзеля гэтага заслухаць дэлегацыю дэпутатаў, якія высьвятлялі гэта ў Маскве.

Слова даецца члену дэлегацыі Уладзімеру Заблоцкаму, які паведамляе, што Масква прапануе пакінуць за СССР наступныя функцыі: Савецкая Армія, дзяржбясьпека, памежныя войскі, унутраныя войскі, юрыспрудэнцыя, мытня, ваенная прамысловасьць, энэргетыка, нафтагазавыя рэсурсы і пераапрацоўка нафтапрадуктаў, трубаправодны транспарт, зьнешнепалітычныя функцыі МЗС, зьнешнеэканамічная дзейнасьць, крэдытна-фінансавая сыстэма, банкаўская і грашова-манэтарная сыстэмы, чыгуначны, паветраны і марскі транспарт, сувязь і камунікацыі, космас, інфарматыка, тэлебачаньне і радыё, фундамэнтальныя навука. „Всё остальное остаётся республикам" – падсумаваў Заблоцкі пад сьмех і апладысмэнты.

Што разумела Масква пад „астатнім" – заставалася здагадвацца; зрэшты, яна адназначна не




(Фота: Я. Пясэцкага).

*„Трэці мікрафон". Генадзь Майсееў, Сяргей Навумчык.*

прэтэндавала на стратную прамысловасьць ды калгасы, затое нафта-газавы комплекс і „труба" былі ўведзеныя ў ранг стратэгічных інтарэсаў Крамля нароўні са зьнешнепалітычнай дзейнасьцю і функцыямі КДБ.

Алег Трусаў прапануе выключыць узгадваньне пра саюзную дамову і наогул зьняць гэты пункт з галасаваньня – Дземянцей выступае ў абарону дамовы, заяўляючы, што ні Расея, ні Украіна не выключыла ў сваіх дэкларацыях магчымасьць яе падпісаньня.

Пачынаецца галасаваньне – і за саюзную дамову выказваюцца 184 дэпутаты пры кворуме для прыняцьця рашэньня ў 170. Супраць – 34 дэпутаты – практычна поўны склад фракцыі БНФ ды яшчэ некалькі чалавек.

Тут патлумачу, што адбывалася. Як бачна, шмат якія прапанаваныя намі палажэньні Дэкларацыі хаця і пасьля гарачых дыскусіяў, але, з большага, прымаліся. Заставаўся апошні артыкул – у які прыхільнікі СССР жадалі уключыць пункт аб неабходнасьці падпісаньня „саюзнай дамовы". Да таго ж большасьць адмаўляла нашае патрабаваньне – надаць Дэкларацыі статус канстытуцыйнай сілы (гэта значыць – у выпадку супярэчнасьці Канстытуцыі і законаў СССР Канстытуцыі і законам Беларусі перавагу б мелі апошнія).

Узьнікала і яшчэ адна пагроза – пасьля паартыкульнага галасаваньня Дэкларацыя павінна была прымацца „у цэлым", і тут магла пачацца рэвізія раней прынятых палажэньняў, іх выхалошчваньне (гэта было б парушэньнем рэгляменту, але нязначным). Ішло да таго, што Дэкларацыя ўвогуле магла быць не прынятая. Так, дэпутат Леанід Козік (член Прэзыдыюму ВС, пры Лукашэнку – лідэр праўладных прафсаюзаў) пад час абмеркаваньня заявіў, што „если мы примем эту Декларацию, то она направлена на сто процентов на выход из Союза".

У гэтых умовах Пазьняк прапанаваў дэпутатам БНФ, калі большасьць будзе настойваць на „саюзнай дамове" і адмовіцца ад канстытуцыйнасьці Дэкларацыі – выйсьці з Авальнай залі. Гэта мела б псыхалягічны эфэкт, заблытала б дэпутатаў, яны б дзейнічалі ад „супрацьлеглага" („насуперак" БНФ. Пра што раней і сказаў Гермянчук – шмат хто галасуе насуперак Пазьняку). У фракцыі БНФ адбылася дыскусія. Прапанова была вельмі рызыкоўная, але Пазьняку ўдалося пераканаць ў яе слушнасьці; некалькі чалавек ўсё ж вырашылі пакінуць у залі ў якасьці назіральнікаў.

Фактычна, у той момант Пазьняк паставіў на карту свой аўтарытэт сярод калег і палітычную будучыню; калі б тактыка не спрацавала і Дэк-

лярацыя была не прынятая, ці адбылася б рэвізія ўжо прынятых артыкулаў – ён успрымаўся б сваімі ж паплечнікамі як авантурыст. Аднак мэта сувэрэнітэту была нагэтулькі важная, што ён пайшоў на такую рызыку, будучы ўпэўненым, што пераможа.

Калі дайшлі да апошняга артыкулу – была адкінутая канстытуцыйнасьць Дэкларацыі і ўведзеная „саюзная дамова", слова ўзяў лідэр БНФ.

Пазьняк: „Паважаныя дэпутаты, я не затрымаю доўга вашай увагі. Але прашу мяне выслухаць адну мінуту. Тое, што мы зараз пачулі зьвесткі, што нам рыхтуе „саюзны дагавор", і тое, што зараз сэсія прагаласавала за гэты „саюзны дагавор", гэта тое самае, што сунуць галаву ў пятлю. Гэта значыць, што далейшая размова аб сувэрэнітэце ня мае сэнсу. Гэта значыць, што наша праца два дні была без патрэбы. На вялікі жаль, народныя дэпутаты, відаць, мы ўсё ж такі не дарасьлі да сувэрэнітэту. Таму я, Пазьняк Зянон Станіслававіч, заяўляю, што я адмаўляюся далей удзельнічаць у гэтай сэсіі ў выніку таго, што Вярхоўны Савет ня здольны прыняць Дэкларацыю аб сапраўдным сувэрэнітэце. Тых дэпутатаў, якія мяне падтрымліваюць, прашу зрабіць тое самае. Я пакідаю залю".

Выйшлі 30 чалавек. Сабраліся ў памяшканьні за прэзыдыюмам, дзе па тэлевізары ішла трансьляцыя (той самы пакой, дзе ў часы Машэрава зьбіралася ў перапынках сэсіяў вышэйшае кіраўніцтва).

Я быў сярод пакінутых у Авальнай залі і бачыў, які эфэкт зрабіў выхад з залі трох дзесяткаў дэпутатаў на чале з Пазьняком на дэпутатаў-камуністаў: „Яны ня хочуць галасаваць? Ну дык мы прагаласуем".

Большасьць дэпутатаў была ў шоку – і ў гэтым стане працягвалі галасаваць за іншыя пункты Дэкларацыі. Тыя дэпутаты фракцыі БНФ, якія былі пакінутыя ў залі, працягвалі адстойваць нашу канцэпцыю.

У адказ на прапанову дэпутата палкоўніка Леаніда Прывалава паставіць беларускія Ўзброеныя Сілы ў залежнасьць ад Канстытуцыі СССР і „з улікам забесьпячэньня бясьпекі СССР", Васіль Шачак запытаўся – „Чаму ад Масквы ў 80 кілямэтрах ніводнай ракетнай базы няма? А я вось гляджу, 80 кілямэтраў ад Слуцка. Як так можна, таварыш палкоўнік?"

Таварыш палкоўнік не адказаў. Шачака падтрымаў Шушкевіч: „З улікам забесьпячэньня бясьпекі СССР" – гэта заўсёды можна сказаць, што „ўлік" не дазваляе нам нічога рабіць". Таму гэта перакрэсьлівае ўвесь сувэрэнітэт".

Навумчык: „Аўганская вайна пачалася не ў Кабуле, яна пачалася ў сьнежні 1979 года на аэрадроме пад Віцебскам, калі Брэжнеў ўзьняў Віцебскую дэсантную дывізію. І вось гэтыя сумныя і ганебныя ляўры дасталіся Крамлю, але сьлёзы, сіраты, інваліды і магілы – ўсё гэта дасталося нам. Ці можам мы сёньня даць гарантыю, калі большасьць дэпутатаў прагаласавала за заключэньне новага „саюзнага дагавору", што заўтра да ўлады ў краіне ня прыйдзе чалавек, які паўторыць гэта самае?.... Таму я прасіў бы, вельмі прасіў бы, не баяцца слова „нацыянальныя фармаваньні".. Шмат дзесяцігодзьдзяў нашы людзі, грамадзяне Беларусі, плацілі падаткі, і … мы можам ставіць пытаньне аб нацыяналізацыі нашай арміі, аб цалкам падпарадкаваньні яе камандаваньня Вярхоўнаму Савету.."

У выніку за разьдзел аб тым, што Беларусь „мае права на ўласныя Ўзброеныя Сілы, унутраныя войскі, органы дзяржаўнай бясьпекі, падкантрольныя Вярхоўнаму Савету" прагаласавала 230 чалавек – пад аплядысмэнты!

Пераканаць дэпутатаў у тым, што Беларусь трэба ўжо зараз абвясьціць безьядзернай зонай, нам з Шачакам не ўдалося – аднак 229 чалавек прагаласавалі за тое, што Беларусь „ставіць на мэце зрабіць сваю тэрыторыю бяз'ядзернай зонай, а рэспубліку – нэўтральнай дзяржавай".

Як ня дзіўна, і прапанова дэпутатаў БНФ, што „ніякія вайсковыя фармаваньні іншых краін, іх вайсковыя базы і пабудовы ня могуць быць разьмешчаныя на тэрыторыі Беларускай Рэспублікі бяз згоды Вярхоўнага Савета" – прымаецца (натуральна, са зьменай назвы на БССР).

Вярнуліся да прэамбулы – ізноў пачалі абмяркоўваць, „абвяшчае" ці „пацьвярджае" Беларусь свой сувэрэнітэт.

Гілевіч: „45 гадоў Беларуская ССР – член Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяй. І які б ня быў гэты сувэрэнітэт, не хачу характарызаваць яго там

– недастатковы, недасканалы, каб не гаварыць вастрэй, але ўсё-такі ў сьвеце нас прызнавалі як дзяржаву раўнапраўную у аб'яднаньні дзяржаў сьвету”.

Бойка: „Мне непонятно, где был ранее закреплён наш суверенитет? Толи в тех грамотах, которые были приняты БНР, то ли в Конституции?”

Навумчык: „Я разумею, што некаторых дэпутатаў засмучае Трэцяя і Другая Устаўныя граматы. У такім разе я прапаную вам зьвярнуцца да 1922 года, да Дэкларацыі аб утварэньні СССР. СССР быў утвораны як Саюз сувэрэнных дзяржаў”.

Лукашэнка: „... Зачем мы разворачиваем эти бесполезные дискуссии?”

Даўлюд: „... когда депутат Лукашенко подходит к пятому микрофону, ему сразу слово. Иногда не добьешься: стоишь, стоишь... Но не об этом речь. Я был автором дополнения „провозглашает”. Подумав, решил, что мы должны пойти на компромисс. Давайте мы будем умнее Украины и России, которые „провозглсили”. Давайте „подтвердим”.

Ніяк не магла прайсьці прэамбула – розныя варыянты аб тым, што Беларусь абвяшчае сувэрэнітэт, не набіралі належнай колькасьці галасоў. Аж да таго моманту, пакуль Анатоль Вярцінскі не прапанаваў дадаць да слова „сувэрэнітэт” вызначэньне „поўны”

Я прапанаваў вярнуцца да тэмы „саюзнай дамовы” і выключыць узгадку пра яе з тэксту – але безвынікова.

Мы ізноў паспрабавалі дамагчыся, каб Дэкларацыі быў нададзены статус канстытуцыйнай сілы.

Нечакана супраць гэтага выступіў Шушкевіч, які сказаў, што „на пераходным пэрыядзе, калі мы будзем ісьці па клясычнаму праву, па законах, мы нікуды не прыйдзем... канстытуцыйную норму надаць Дэкларацыі цяпер проста немагчыма”, што адразу ж выклікала заяву Віктара Ганчара: „Я вынужден заявить решительный протест по поводу последнего заявления Первого заместителя Председателя Верховного Совета, поскольку фактически он призвал нас к беззаконию… пункт 12 в той редакции, в которой он стоит – это перечёркивание всей Декларации, которую мы приняли. Это пустой политический треск”.

Мне падалося, што варта паспрабаваць вярнуць дэпутатаў да тэрміну аб „аб'яднаньні” і запісаць, што Беларусь ажыцьцяўляе права на добраахвотныя саюзы з іншымі дзяржавамі. Гэта была адна з прапановаў БНФ, якую ўпарта не жадалі прыняць. Папраўдзе, ніякага лягічнага абгрунтаваньня, што ўдасца яе правесьці, у мяне не было. Але інтуіцыя падказвала, што паспрабаваць варта. Было нейкае адчуваньне, што камуністы пасьля выхаду іншых дэпутатаў БНФ настроеныя паказаць, што яны, насуперак заяве Пазьняка, „гатовыя да сувэрэнітэту”. ”. Многім ветэранам, што заўсёды йшлі ад адваротнага, карцела насаліць „бэнээфовцам во главе с Пазьняком”, (на што Пазьняк і разьлічваў) і паказаць сваю значнасьць у прыняцьці рашэньняў. Пра рэвізію палажэньняў Дэкларацыі, прынятых пад напорам фронтаўскіх дэпутатаў, здаецца, ня думалі (маўляў, „Пазьняк протів, значіт всё в порядке”). Гэта быў хвалюючы момант.

Сюрпрызам было, што мяне ад мікрафону падтрымаў былы другі сакратар Віцебскага абкаму Яўген Радзецкі. Дэпутат Котаў, які прадстаўляў артыкул, зачытвае фармулёўку Пазьняка (якую раней „зарэзалі”) – і яна праходзіць, набіраючы – пад аплядысмэнты – 219 галасоў.

Усё гэта выглядала лагічным абсурдам. Але, відаць, ніхто з нас так добра не разумеў (і не адчуваў) гэты ўнікальны Вярхоўны Савет, як Пазьняк. Тут кіраваліся ня логікай, а псіхікай, карпаратыўнымі інтарэсамі і думкамі начальства. Гэта была наша выдатная і тонкая перамога ў камуністычным і прамаскоўскім парляманце, у якім мы, дэпутаты ад БНФ, складалі толькі восем адсоткаў ад усёй колькасьці дэпутатаў.

За Дэкларацыю „у цэлым” прагаласавалі 229 дэпутатаў – пры ніводным „супраць” альбо „устрымаўся”.

У выніку, Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце БССР была прынятая (праўда, з „саюзнай дамовай” і без канстытуцыйнага статусу, што будзе выпраўлена ў жніўні 91-ага). Канешне, нават і ва „ўсечаным” варыянце Дэкларацыя была велізарным крокам наперад. Важна што тэкст быў напісаны намі, фронтаўцамі, і праведзены праз Камісію ВС, і што прадстаўляў гэты тэкст на абмеркаваньні па прапанове Старшыні

Камісіі Л. Козіка (які проста не валодаў тэмай) Зянон Пазьняк. Як ні стараліся камуністы і ветэраны перакуліць зьмест Дэкларацыі, ім усё ж не ўдалося зламаць партытуру гэтага гістарычнага дакуманта, бо складзены ён быў ня імі, ня іхняй логікай і ня іхнымі галовамі. Прышлося ім усё ж плаваць у нашым рэчышчы і танцаваць па нашых схемах, хоць і ламаючы што магчыма па дарозе. Але на працягу двухдзённых дэбатаў 26-27 ліпеня нам удалося адстаяць шмат што і з некаторых істотных палажэньняў (напрыклад, бязьядзернасьць Беларусі).

## „МАСКВА ПЛЯНУЕ ЗАБРАЦЬ САБЕ ЎСЁ, А НАМ ПАКІДАЕ ТОЛЬКІ ЧАРНОБЫЛЬ."

Увечары таго ж дня, 27 ліпеня, на сэсіі ВС было абвешчана аб утварэньні парлямэнцкай Апазыцыі. Пасьля перапынку ў залю вярнуліся дэпутаты БНФ.

Пазьняк: „Паважаныя дэпутаты! Сёньня Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэклярацыю аб незалежнасьці, якая стане, аднак, пустой паперкай. Бо адкінутае важнейшае палажэньне, што да прыняцьця новай Канстытуцыі Беларусі дзейнічаюць тыя артыкулы Канстытуцыі БССР, якія не пярэчаць прынятай Дэкляраціі. Аднак ня толькі ў гэтым прычына нашай нязгоды. Прычына ў прынцыповай пазыцыі. Прымаць артыкул, які прадугледжвае заключэньне новага „саюзнага дагавора" ў той час, калі Савецкі Саюз развальваецца і зжывае сябе як унітарная звышдзяржава – гэта ні што іншае, як самагубства. Плян новага „саюзнага дагавору", прадугледжаны Масквой, пра які паведаміў нам сёньня дэпутат Заблоцкі, гэта цынічны зьдзек з сувэрэнітэту рэспублік. Масква плянуе забраць сабе ўсё, а нам пакідае толькі Чарнобыль. Мы прынялі ўчора 10 з 12 пунктаў гэтай дэклярацыі. Але адмовіцца ад свабоды мы ня можам. Акрамя таго, сувэрэнітэту нельга здабыць бяз пераходнага пэрыяду, на палажэньні аб якім мы настойвалі. Мы спадзяёмся, што нашы выбаршчыкі зразумеюць нас і падтрымаюць.

Паважаныя калегі, прайшло два месяцы нашай сумеснай працы на першай сэсіі. Час дастаткова, каб, па-першае, зрабіць шмат, па-другое, каб абазначыцца ўсім палітычным сілам. Затрачана шмат энэргіі, шмат дзён, а зроблена недастаткова. Недастаткова таму, што ў Вярхоўным Савеце ў асобе большасьці дэпутатаў дамінуе сіла, не гатовая да выпрацоўкі і прыняцьця радыкальных праграмаў і законаў, якія даўно насьпелі ў грамадзтве.

Усе спробы дэмакратычных дэпутатаў палепшыць становішча ні да чаго не прывялі. У сувязі з гэтым шэраг дэмакратычных дэпутатаў і дэпутацкая група Беларускага Народнага Фронту заяўляюць аб стварэньні дэпутацкай Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце Беларускай ССР. Апазыцыя накіравана супраць палітыкі камандна-адміністрацыйнай большасьці. Мы ня можам несьці адказнасьць за яе палітыку ў Вярхоўным Савеце. Бо гэта палітыка стагнацыі, палітыка, якая не стварае будучыні нашаму народу, мы адмяжоўваемся ад яе.

Дэпутацкая Апазыцыя ў Вярхоўным Савеце БССР за асноўную мэту ставіць выратаваньне беларускага народа і беларускай нацыі ад чарнобыльскай, экалягічнай і сацыяльнай катастроф, забесьпячэньне годнага жыцьця народа шляхам набыцьця дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі, пераходу на рыначную эканоміку і пабудовы дэмакратычнай парлямэнцкай Беларускай Рэспублікі. У будучай Беларусі павінны быць гарантаваныя правы чалавека, сацыяльная абароненасьць насельніцтва, свабода інфармацыі, слова, друку, сумленьня, прыярытэт грамадзянскай супольнасьці перад дзяржавай, адраджэньне беларускай культуры, мовы, гістарычнай сьвядомасьці, культурна-нацыянальная аўтаномія ўсім нацыянальным меншасьцям Беларусі.

Апазыцыя мае канструктыўны характар. Акрамя крытычных распрацовак, яна стварае свае структуры і альтэрнатыўныя законапраекты, удзельнічае альбо ня ўдзельнічае ў пленарных паседжаньнях сэсіі і ў працы некаторых пастаянных камісій. Апазыцыя адкрытая. Гэта значыць, што іншыя дэпутаты могуць далучыцца да яе".

Пазьняк зачытаў прозьвішчы тых, хто падпісаў заяву (Пазьняк, Шачак, Аксаміт, Какоўка,


НАРОДНЫ ДЭПУТАТ БЕЛАРУСКАЙ ССР | НАРОДНЫЙ ДЕПУТАТ БЕЛОРУССКОЙ ССР

№ ______ „8“ кастрычніка 1990 г.

У сакратарыят Вярхоўнага Савета БССР.

У адпаведнасці з "Часовым рэглямантам Вярхоўнага Савета БССР" просім памножыць у колькасці 360 экз. і распаўсюдзіць паміж народнымі дэпутатамі БССР наступныя праекты, падрыхтаваныя дэпутацкай апазіцыяй БНФ:

1. "Закон "Аб грамадзянстве Беларускай ССР"
2. "Зямельны кодэкс Беларускай ССР"
3. "Закон Беларускай ССР аб уласнасці"
4. "Закон Беларускай ССР аб банках і банкаўскай дзейнасці"
5. "Закон Беларускай ССР аб мясцовым самакіраванні"
6. Дэкрэт аб уладзе ў Беларускай ССР
7. Пастанова Вярхоўнага Савета БССР аб паясным часе
8. Заява ВС БССР па ваенных пытаннях
9. Пастанова ВС БССР аб стварэнні камісіі ВС БССР па пытаннях абароны і дзяржаўнай бяспекі БССР
10. Пастанова ВС БССР аб асноўных задачах і парадку дзейнасці камісіі ВС БССР па пытаннях абароны
11. Пастанова ВС БССР аб першачарговых мерах па рэалізацыі прынцыпаў Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у галіне дзяржаўнай ваеннай палітыкі БССР
12. Пастанова ВС БССР аб ахвярах палітычных рэпрэсій у 60-80 г.
13. Пастанова ВС БССР аб дэнансацыі Саюзнага дагавору 1922 г.
14. Пастанова ВС БССР аб назве рэспублікі.

(Архіў С. Навумчыка).

***Сьпіс 14 - ці законапраектаў, падрыхтаваных дэпутатамі Апазыцыі БНФ на асеньнюю Сэсію ВС 8 кастрычніка 1990 г.***

Тэкст: **8 кастрычніка 1990 г. У сакратарыят Вярхоўнага Савета БССР. У адпаведнасьці з „Часовым рэглямантам Вярхоўнага Савета БССР” просім памножыць у колькасьці 360 экз. і распаўсюдзіць паміж народнымі дэпутатамі БССР наступныя праекты, падрыхтаваныя дэпутацкай Апазыцыяй БНФ: 1.Закон „Аб грамадзянстве Беларускай ССР”, 2. „Зямельны кодэкс Беларускай ССР”, 3. Закон Беларускай ССР аб уласнасьці”, 4. Закон Беларускай ССР аб банках і банкаўскай дзейнасьці” 5.Закон Беларускай ССР аб мясцовым самакіраваньні” 6.Дэкрэт аб уладзе ў Беларускай ССР 7. Пастанова Вярхоўнага Савета БССР аб паясным часе 8. Заява ВС БССР па ваенных пытаньнях 9. Пастанова ВС БССР аб стварэньні камісіі ВС БССР па пытаньнях абароны і дзяржаўнай бясьпекі БССР 10. Пастанова ВС БССР аб асноўных задачах і парадку дзейнасьці Камісіі ВС БССР па пытаньнях абароны 11. Пастанова ВС БССР аб першачарговых мерах па рэалізацыі прынцыпаў Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у галіне дзяржаўнай ваеннай палітыкі БССР 12. Пастанова ВС БССР аб ахвярах палітычных рэпрэсіяў у 60-80 гг 13. Пастанова ВС БССР аб дэнансацыі Саюзнага дагавору 1922 г. 14 Пастанова ВС БССР аб назве Рэспублікі. С. Навумчык, Л. Баршчэўскі, В. Голубеў, Г. Сямдзянава, Л. Дзейка, І. Гермянчук, Л. Зданевіч, У. Грыбанаў, П. Садоўскі, В. Галубовіч, А. Шут, М. Сукач, П. Драган, А. Паруль, С. Антончык, Г. Маісееў, Ю. Беленькі, М. Крыжаноўскі, З. Пазьняк.**

Сукач, Глушкевіч, Антончык, Трусаў, Зданевіч, Сямдзянава, Гюнтэр, Сасноў, Маркевіч, Дзейка, Голубеў, Заблоцкі, Германчук, Галубовіч, Шут, Крыжаноўскі, Новік, Беленькі, Папкоў, Станкевіч, Паруль, Пырх, Садоўскі, Цумараў, Бабачонак). Сьпіс не зусім супадае з раней утворанай фракцыяй БНФ, якая, паводле заявы Пазьняка, увайшла ў склад Апазыцыі – напрыклад, Глушкевіч і Сасноў у фракцыю не ўваходзілі, а маё прозьвішча не прагучала, – напэўна, у момант, калі падпісвалі, мяне не было. Хаця, канешне, я паставіў свой подпіс пад заявай у той жа дзень.

Аднак ні фракцыяў, ні Апазыцыі кіраўніцтва Вярхоўнага Савета не прызнавала – юрыдычна існавалі толькі Камісіі ВС, аддзелы ў апараце ВС, а Апазыцыі БНФ нібыта і не было. Не было – юрыдычна – і самога БНФ. Праўда, Пазьняку ўдалося „выбіць" пакой нумар 363 на трэцім паверсе Дома ўраду, у правым крыле (калі стаць тварам да фасаду). Насуперак нашым чаканьням, нічым нам не спрыяў і Станіслаў Шушкевіч, які пасаду першага намесьніка старшыні ВС ня мог бы заняць без падтрымкі дэпутатаў БНФ, не кажучы ўжо пра тое, што без падтрымкі „фронтаўцаў" ніколі не абраўся б дэпутатам.

# ПАДЗЕІ Ў ЛЕТУВЕ

13 студзеня 1991 года па загаду Крамля савецкія ўзброеныя сілы і падразьдзяленьне КГБ штурмавалі тэлевізійны цэнтар у Вільні і тэлевежу. Былі забітыя чатырнаццаць чалавек; сярод мірных жыхароў, якія выйшлі абараняць Незалежнасьць Летувы, былі і дзесяткі параненых.

У той жа дзень раніцай дэпутаты Апазыцыі БНФ прынялі Заяву з асуджэньнем гвалтоўных дзеяньняў Масквы. Пайшлі ў Авальную залю. У большасьці камуністычных дэпутатаў панаваў нейкі ўзрушаны настрой; некаторыя жартавалі. Я лавіў пераможныя погляды, у якіх чыталася: „Сёньня пакаралі іх – заўтра тое ж самае будзе і з вамі". Па нашым патрабаваньні дэпутатам усё ж давялося зьвярнуцца да тэмы падзеяў у Вільні. Мы прапанавалі Вярхоўнаму Савету выступіць з адмысловай заявай, аналягічнай нашай, але большасьць дэпутатаў адмовіліся. Выказваліся прапановы, перш чым пра нешта заяўляць, „вывучыць" сытуацыю ў Летуве (хаця сытуацыя была зразумелая – імпэрыя пачала развальвацца, і Масква імкнулася ўтрымаць рэспублікі сілай, не спыняючыся перад кравапраліцьцем).

Пачалі абмяркоўваць склад дэлегацыі; прагалаасавалі за прадстаўнікоў розных палітычных плыняў – у тым ліку Валянціна Голубева, Генадзя Карпенку, Сяргея Шабашова (дэпутат ад вэтэранаў, былы першы сакратар Віцебскага абкаму), Аляксандра Лукашэнку, а ўзначаліў дэлегацыю Ніл Гілевіч.

Тым часам, у перапынку Пазьняк сабраў паседжаньне Апазыцыі, і вырашылі накіраваць уласную дэлегацыю ў складзе Барыса Гюнтэра, Ігара Пырха і мяне. Я прапанаваў далучыцца да нас супрацоўніку „ЛіМа" Андрэю Ганчарову. З гаражу ВС нам далі „Волгу", і мы паехалі ў Вільню.

Потым выявілася, што мы нашмат апярэдзілі афіцыйную дэлегацыю – у момант, калі мы набліжаліся да беларуска-летувіскае мяжы, ў Менску яшчэ вырашалі пытаньне з суправаджэньнем іх аўтамабіляў „мігалкамі" спэцыяльнага міліцэйскага падразьдзяленьня. Верагодна, нехта хацеў, каб усё было „паводле пратаколу", у тым ліку і эскорт.

На мяжы нас спаткала дэпутатка Вярхоўнага Савета Летувы Раса Растаўскене, і запыталася, куды паедзем – уладкоўвацца ў гатэль ці да парлямэнту? Але сытуацыя небясьпечная: парлямэнт у любы момант можа быць аб'ектам штурму савецкімі войскамі. Мы адказалі, што, канешне, едзем у парлямэнт.

Аўтамабілі спыніліся за квартал ад будынку – далей праехаць было немагчыма, бо на плошчу выйшлі дзесяткі тысяч людзей. Яны спадзяваліся, што сваімі целамі абароняць дэпутатаў, якія выступілі за незалежнасьць ад Масквы, што танкі па людзях не паедуць (але ўжо праехаліся каля тэлецэнтру) . Па пэрымэтру завяршаўся мантаж бэтонных плітаў. На вуліцы былі вынесеныя дынамікі, ішла трансьляцыя пасяджэньня Вярхоўнага Савета Літвы.

Праз фае і калідоры нас прывялі ў залю паседжаньняў Вярхоўнага Савета. Здаецца, у гэты момант Ландзбэргіс зачытваў праект рашэньня аб

утварэньні вышэйшай ўзнагароды Летувы і ўганараваньні ёй забітых савецкімі войскамі. Былі ў залі Мікалай Дземянцей (накірваны туды Гарбачовым, хутка ён пакінуў залю) і старшыня ВС Армені Тэр-Петрасян. Нехта з летувіскіх дэпутатаў запытаўся, ці хацелі б мы выступіць. У мяне быў тэкст заявы Апазыцыі БНФ, да якой далучыліся і дзесяткі дэпутатаў „дэмклюбу”.




(Архіў С. Навумчыка).

*Значок дэпутацкай Фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. 1990 г.*

З трыбуны летувіскага парлямэнту я зачытаў гэты тэкст і сказаў, што мне сорамна, што ня маю магчымасьці прачытаць афіцыйную заяву ВС Беларусі, паколькі большасьць у нашым Вярхоўным Савеце складаюць камуністы, прыхільнікі савецкай імпэрыі. Але беларускі народ – салідарны зь летувісамі.

Перадаў тэст нашай заявы Ландзбэргісу, а потым сказаў, што мы, дэпутаты БНФ, у гэтую крытычную ноч, калі над парлямэнтам пагроза штурму, застаемся начаваць тут, у гэтых сьценах, і заклікаў далучыцца да нас дэпутатаў парлямэнтаў іншы краінаў. Гэтыя словы ўсе дэпутаты летувіскага парлямэнту сустрэлі стоячы апладысмэнтамі.

У тую ноч у гутарках з абаронцамі парлямэнту я пераканаўся, што Маскве ня ўдасца насадзіць сваю ўладу летувіскаму народу, – людзі выказвалі рашучасьць памерці. І верагоднасьць іх гібелі была рэальнай.

Міністар аховы краю Аўдрус Буткявічус (фактычна, ён сумяшчаў функцыі і міністра абароны, і кіраўніка спэцслужбаў) вадзіў мяне па „баявых пазыцыях” у будынку.

– Колькі вы здолееце пратрымацца? – запытаўся я міністра.

У адказ ён прамаўчаў.

Канешне, ні шматтысячны натоўп вакол будынку парлямэнту, ні бэтонная агароджа не маглі б быць перашкодай для дэсанту – пазьней савецкія генэралы пахваляліся, што пры жаданьні, маглі б захапіць ўсіх дэпутатаў летувіскага парлямэнту за 15 хвілінаў. Сапраўды, з тэхнічнага гледзішча, такая апэрацыя не ўяўляла асаблівых цяжкасьцяў. Аднак вынікам такога штурму былі б шматлікія ахвяры сярод абаронцаў.

Было зразумела, што стрэльбы (як мне падалося, пачатку 20-га стагодзьдзя) – нішто супраць „калашнікавых”, але іх уладальнікі ізноў казалі пра сваю гатовасьць памерці, але не здавацца. Аўтаматы я заўважыў толькі ў ахоўнікаў Ландзбэргіса. Дарэчы, пасьля пасяджэньня сэсіі і прэсавай канфэрэнцыі, пакуль я размаўляў з абаронцамі парлямэнту, Барыс Гюнтэр і Ігар Пырх сустрэліся з Ландзбэргісам у ягоным кабінэце. Ён папрасіў дапамагчы Летуве зброяй. На тэрыторыі Беларусі зброі хапала – але дэпутаты Апазыцыі дапамагчы нічым не маглі, ды і кіраўніцтва БССР, калі б нават пажадала (што абсалютна было выключана) не магло гэтай зброяй распарадзіцца. Войскі падпарадкоўваліся Маскве (праз год Саўмін ужо незалежнай Беларусі адмовіць Летуве прадаць частку зброі з былых савецкіх сховішчаў, але падпіша кантракт з чэскай пасярдніцкай фірмай на продаж зброі на 350 мільёнаў даляраў; хто быў канчатковым пакупнікам той зброі – да гэтага часу невядома).

Афіцыйная дэлегацыя нашага Вярхоўнага Савету сустрэлася зь некаторымі кіраўнікамі неканстытуцыйнага, утворанага Масквой "камітэту" нацыянальнага выратаваньня. Мы наведалі палац, дзе адбывалася разьвітаньне з ахвярамі савецкай агрэсіі, прайшлі каля трунаў. Потым адбывалася пахаваньне. Члены афіцыйнай дэлегацыі былі запрошаныя ў касьцёл, мы ж з Гюнтарам і Пырхам засталіся на вуліцах, куды выйшла, здавалася, уся Летува.

Пад час сустрэчы з нашымі калегамі з афіцыйнай дэлегацыі я адчуў нейкае насьцярожанае да сябе стаўленьне з боку Ніла Гілевіча, ды, бадай, і іншых дэпутатаў– за выключэньнем Валянціна Голубева. Праўда, з Лукашэнкам у мяне ніколі не было прыязных адносінаў, зь некаторымі іншымі мы часам дэбатавалі на сэсіях, і я не надаў гэтаму асаблівай увагі. Зрэшты, тое, што мы ўсе пабачылі ў Вільні, зусім не спрыяла добраму настрою, і спахмурнеласьць калег мне здалася цалкам псыхалягічна матываванай.

Але па вяртаньні ў Менск, пад час абмеркаваньня падзеяў у Летуве на сэсіі, прычына непрыязні раскрылася. Ніл Гілевіч у сваім выступе (ён рабіў асноўную справаздачу) сказаў, што калі члены афіцыйнай дэлегацыі прыехалі ў Вільню і пачалі ўладкоўвацца ў гатэль, дык першае, што пачулі ў фае – трансьляцыю пасяджэньня ліетувіскага парляманту. Трансляцыю сапраўды слухала ўся Летува. І якраз выступаў дэпутат Навумчык, і тое, што ён казаў, на жаль, ня лепшым чынам характарызавала Вярхоўны Савет Беларусі. Маўляў, нельга выносіць сьмецьце з хаты. Выглядае, што пачуў Гілевіч якраз той фрагмэнт майго выступу, дзе я казаў пра камуністычную, прамаскоўскую большасьць дэпутатаў. Але я ж быў назваў рэчы сваімі імёнамі.

Гэтая рэмарка Гілевіча (а сэсія перадавалася ў непасрэднай радыётрансьляцыі на ўсю Беларусь) зьявілася ўдарам у сьпіну. Гілевіч быў вядомым паэтам, ён успрымаўся ў грамадзтве як прыхільнік адраджэньня нацыянальнай культуры, і такі дэмарш супраць дэпутата Апазыцыі БНФ быў імгненна скарыстаны нашымі апанэнтамі – камуніст і заняты прыхільнік захаваньня СССР дэпутат Самошчаў заявіў, што «депутат Гилевич очень здорово выступил».

Мяркую, тут варта спыніцца на ацэнцы асобы Ніла Гілевіча ў палітычным кантэксьце. Інакш можа быць незразумела, як апынуўся ён у сьпісе тых, чыёй адстаўкі мы патрабавалі ў жніўні 1991 года; а замоўчваць факт таго прынцыповага патрабаваньня нельга.

Ніколі ў мяне не выклікалі сумневу адданасьць Ніла Сымонавіча нацыянальнай ідэі, ягоная шчырасьць у адстойваньні правоў беларускай мовы. З аднаго боку, на пасадзе старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны. Але нехта трапна вызначыў палітычнае рэнамэ Гілевіча як „сувэрэн-камуніста”. І гэтыя сымпатыі камуністычнай ідэалёгіі, а таксама звычка аглядацца на начальства, часам ставілі яго ў сумнеўныя сытуацыі – на працягу ўсёй ягонай палітычнай кар’еры.

Вось урывак з інтэрвью першага сакратара Саюза пісьменьнікаў БССР Ніла Гілевіча карэспандэнту БЕЛТА:

„Частка моладзі учапілася за гэтак званую „нацыянальную сымволіку. Але задамося пытаньнем: што дасьць перабудове „Пагоня”?.. Наўрад ці хто будзе пярэчыць супраць выкарыстаньня гэрбу Вялікага Княства Літоўскага ў мастацкіх творах на тэмы гісторыі. Але ж найактыўнейшае разьвіцьцё беларускай эканомікі, навукі, сапраўдны росквіт культуры, якія прыйшліся на дваццатыя гады, калі яшчэ не адчуваліся дэфармацыі сацыялістычнага курсу, – ішлі пад гэрбам БССР, пад сьцягам БССР! Так што ж пярэчыць ажыцьцяўляць ідэі перабудовы пад гэтым гэрбам, пад гэтым сьцягам? Нічога. Іншы падыход – альбо наіўнасьць, альбо нешта яшчэ горшае, што адкрыта шкодзіць справе перабудовы” (газэта „Советская Белоруссия”, 4 лістапада 1988 год).

Тады ж, у канцы 80-ых, зьяўляліся ягоныя вершы, у якіх чыталіся зьедлівыя закіды ў бок лідэраў новаўтворанага Народнага Фронту.

Да прыкладу: „Пышна фразы кудзеляцца. Пылу-дыму – слупы. Штосьці хітрае дзеецца... Ды народ не сьляпы. Хто вы – левыя-бравыя? Што гуртуе вас? Боль? Хто вы – гнеўныя правыя? Дзе ваш чэсны мазоль? Разьятрэўшы ў амбіцыях, Вы за што змагары? Крык аб розных пазыцыях – Гэта ўсё да пары. Люта будучы прагнымі Да жыцьцёвых украс, Вы аднолькава з правымі Асядлаеце нас. Слоў адкінеце магію – Для чаго яна там, Дзе зьядноюцца ў мафію Злодзей, цынік і хам?” („Звязда”, 16 лістапада 1989 г.). ”

„Правымі” тады называлі прыхільнікаў камуністычнай сыстэмы, намэнклятуру, „левымі” – дэмакратаў, якія ў Беларусі ўвасабляў найперш БНФ. Намёк на адсутнасьць працоўнага „мазаля” ў намэнклятуры быў зразумелы – тады шмат казалі пра прывілеі чынавенства. А вось сумненьне ў тым, што „левых” турбуе боль народа, цалкам кладаліся ў рэчышча афіцыйнай камуністычнай прапаганды, якая сьцьвярджала, што лідэры БНФ нібыта імкнуцца скарыстаць і Курапаты, і Чарнобыль ва ўласных інтарэсах, каб „дарвацца да ўлады” (паводле камуністычнай тэорыі і практыкі, уладу толькі і можна было выкарыстоўваць ва ўласных мэркантыльных інтарэсах). Такім чынам, аўтар ставіў знак роўнасьці паміж камуністамі і Народным Фронтам.

Парадаксальным чынам, праз некалькі гадоў гэтыя тэзы – пра мафію, што нібыта аб’ядноўвае левых і правых, і што і левым, і правым у аднол-

кавай ступені нельга давяраць, – скарыстае Лукашэнка. У сваім „антыкарупцыйным” дакладзе ён па-хамску заявіць, што „возле кормушки правые и левые хрюкают одинаково”, а дэструктыўны, разбуральны для ідэі грамадзянскай супольнасьці лёзунг „Я не с левыми, я не с правыми, я – с народом!» (гэта клясычны папулізм) будзе галоўным слоганам ягонай прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі.

Ва усялякім разе нічога падобнага не магчыма было ўявіць з-пад пяра Рыгора Барадуліна альбо Генадзя Бураўкіна (які нават быў членам ЦК КПБ).

Ды што казаць: Барадулін, як і Быкаў, адразу і катэгарычна падтрымалі Народны Фронт. Гілевіч – не. Пасьля ўтварэньня Аргкамітэту БНФ (куды яго прапаноўвалі ўключыць) ён імкнуўся „раіцца” ў ЦК КПБ. Пазьней, на сесіях Гілевіч вельмі рэдка калі публічна падтрымліваў БНФ, затое часта рабіў рэвэрансы ў бок пракамуністычнай большасьці. Нарэшце, у жніўні 1991 года Апазыцыя БНФ была вымушаная патрабаваць адстаўкі Гілевіча з пасады старшыні камісіі і члена Прэзыдыюму ВС за „бязьдзейнасьць і безадказнасьць ў справе абароны Канстытуцыі і сувэрэнітэту” у час маскоўскага пракамуністычнага путчу.

Была, як падаецца, яшчэ адна прычына такіх паводзінаў – амбіцыйнасьць. Гэтая якасьць, абсалютна натуральная (і магчыма, неабходная) для творцы, у палітыцы часам перашкаджае. У Вярхоўным Савеце Ніл Сымонавіч паводзіў сабе як патрыцый. Было цікава назіраць, як ён павольна устае, як павольна і годна ідзе да мікрафону, як павольна прамаўляе... Мне ён здаваўся забранзавелым (вызначэньне, якое ніяк не магу прыкласьці да Быкава). Такая саноўная манера паводзінаў, напэўна, натуральная дзе-небудзь ў сэнаце – верхняй палаце парлямэнту, дзе толькі зацьвярджаюць раней прынятыя ніжняй палатай рашэньні і рэдка калі дэбатуюць. Ды і тое – у краіне, дзе дэмакратыя даўно ўсталявалася. А ў нашых умовах трэба было „пабегаць” – прычым часам ў літаральным сэнсе пабегаць па залі: з адным нешта ўдакладніць, другога аб нечым папрасіць, у трэцяга – перахапіць ініцыятыву, сюды, туды, а яшчэ сабраць подпісы пад чарговай заявай, а яшчэ зьбегаць да ксэраксу – рэглямэнт патрабаваў памножыць праекты для кожнага дэпутата (апарату памочнікаў у Апазыцыі БНФ не было) – і ўсё гэта хутка, бо сьпікер Шушкевіч любіў „лавіць” дэпутатаў Апазыцыі на парушэньні працэдуры; не пасьпееш – і сэсія ідзе далей... Словам, даводзілася паводзіць сябе „несалідна”. Калісьці я пачуў ад Гілевіча вызначэньне нас, дэпутатаў БНФ, як „хлопчыкаў” – без сымпатыяў. А гэтыя „хлопчыкі” зьдзяйсьнялі тое, пра што Гілевіч пісаў у сваіх артыкулах ды вершах яшчэ ў 1960-ыя гады, нічога дзеля напісанага ня робячы ў палітыцы.

У 1993 годзе вялікай папулярнасьцю сярод дэпутатаў-камуністаў карысталася надрукаваная ў „Звяздзе” вялізная паэма Ніла Гілевіча, у якой карыкатурна і вельмі зьедліва былі выведзеныя дэпутаты Апазыцыі БНФ і некаторыя прагрэсіўныя журналісты. Камуністы раздрукавалі паэму на ксэраксе, насілі па Авальнай залі, радаваліся як Гілевіч „выдал бэнээфовцам по первое число”.

Нарэшце, Гілевіч заўсёды іграў „сола” і ніколі не выступаў у „камандзе”, а ў палітыцы, тым больш у парлямэнце гэта вельмі істотна. Няўзгоднены выступ можа перакрэсьліць усю працу і „праваліць” галасаваньне. Зянон Пазьняк перакананы, што непрадуманы і нечаканы выступ Гілевіча ў верасьні 1991 года пры прыняцьці „Пагоні” і Бел-чырвона-белага сьцяга як дзяржаўных сымбаляў, хаця і быў ў сваёй сутнасьці на карысьць нацыянальнай сымболікі, але тактычна быў абсалютна залішнім, шкодным у пасажах і ледзь не сарваў станоўчы вынік галасаваньня. Сам Пазьняк, убачыўшы адмоўную рэакцыю рэтраградаў, якую выклікаў „сольны” выступ Гілевіча, тут жа свой выступ зьняў (ужо каб не дражніць гусей сваёй асобай) і па ўзгадненьні з Шушкевічам пабег тэлефанаваць прэзыдэнту Акадэміі Навук Ул. Платонаву, каб ён імгненна прыехаў і выступіў (трэба было супакоіць раззлаваных камуністаў). Зь вялікімі цяжкасьцямі і затратамі энэргіі удалося паправіць становішча.

Падаецца, што і тая „літоўская” рэпліка Гілевіча ў мой бок мела не палітычную, а асабістую прычыну – нейкі „хлопчык” (мне сапраўды тады толькі-толькі споўнілася 29 гадоў) апярэдзіў кіраўніка афіцыйнай дэлегацыі, выступіў і выклі-

каў авацыі. Што ж – ня трэба было чакаць аўтамабіляў –"мігалак", а па прыезьдзе ў Вільню варта было накіроўвацца не ў гатэль, а ў парлямант; як гаворыцца, ня час для цэрымоніяў. Дарэчы, на наступны дзень Ніл Сымонавіч таксама выступіў у Сэйме Летувы, і вельмі пранікнёна, праўда, без авацыі. Але ці той гэта быў момант, калі варта было зводзіць рахункі амбіцыяў? Выглядае, пазьней Гілевіч гэта зразумеў, і выкрасьліў словы пра мяне са зборніка публіцыстыкі, куды ўключыў свой выступ на сэсіі.

Крыўда на мяне аказалася нагэтулькі моцнай, што праз чатыры гады, на раніцы пасьля зьбіцьця дэпутатаў БНФ у Авальнай залі, я быў адзіным з галадоўшчыкаў, якому Ніл Сымонавіч не падаў руку.

Нягледзячы на ўсё гэта, лічу Ніла Гілевіча выдатным паэтам, нязломным прыхільнікам беларушчыны. Паўтараю, што шмат карыснага ён зрабіў на пасадзе старшыні Камісіі ВС па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны. Але з другога боку – палітычна ён хутчэй перашкаджаў Апазыцыі БНФ, чым спрыяў. Ва ўсялякім разе, асабіста для мяне ён застаецца прыкладам, як заігрываньне з камуністамі і асабістыя амбіцыі могуць прывесьці да сумнеўных крокаў. І гэтымі крокамі (несьвядома ці наўмысна) Гілевіч паспрыяў аслабленьню палітычнага авангарду беларускага Адраджэньня (вызначэньне Васіля Быкава) – Беларускага Народнага Фронту.

... Пасьля абмеркаваньня падзеяў ў Летуве на сэсіі ВС афіцыйная дэлегацыя падрыхтавала праект пастановы. Апазыцыя БНФ, як ўжо казалася вышэй, прыняла заяву яшчэ ў дзень трагедыі. Дэпутаты-камуністы прапанавалі свой варыянт, на што Пазьняк заўважыў: „тая група камуністаў, якая прадставіла праект заявы, няхай яна ад групы камуністаў гэтую заяву і прыме. Так як прыняла Апазыцыя ў той дзень, калі група камуністаў сьмяялася".

Аднак Шушкевіч, які вёў паседжаньне, даў магчымасьць зачытаць праект заявы, падрыхтаваны камуністамі. Зачытваў яго дэпутат Самошчаў.

У прапанаваным камуністамі варыянце патрабавалася аднавіць на ўсёй тэрыторыі Летувы «дзеяньне Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі Літоўскай ССР» – такім чынам, фактычна скасоўвалася б абвешчаная раней незалежнасьць Летувіскай Рэспублікі. Таксама казалася пра «палітычны экстрэмізм і безадказнасьць» якія абярнуліся «эскаляцыяй гвалту», «раскол народа сее страх і злобу, разьвязвае рукі палітычным авантурыстам» – пад носьбітамі экстрэмізму, бясспрэчна, меліся на ўвазе прыхільнікі незалежнасьці Летувы.

*Самошчаў У.В.* «.. Мы обращаемся к Президенту страны для принятия всех необходимых мер, чтобы прекратить дальнейший рост насилия и возможного кровопролития не только в Прибалтике, но и в других регионах страны. Наш путь – демократия, реальный суверенитет всех народов страны в составе обновлённого Союза СССР»

Ніл Гілевіч выказаўся за кампрамісны варыянт фармулёвак– «Я думаю, што гэта ня той дакумант, дзе павінны быць выпады нейкага экстрэмальнага парадку», «і з аднаго боку, і з другога». Пад „адным бокам" Гілевіч меў на ўвазе камуністаў і прыхільнікаў імпэрыі. Але пад „другім" – нас, дэпутатаў БНФ, прыхільнікаў Незалежнасьці. Ніл Сымонавіч ужыў вызначэньне «выпады» у тым ліку і да нас.

Чуць такое нам было ня ўпершыню, але прапанаваная Гілевічам „кампраміснасьць", на нашую думку, была непрымальнай у сытуацыі, дзе трэба было ясна і недвусэнсоўна выказацца ў абарону народа, які хацелі вярнуць у ярмо імпэрыі.

*Пазьняк З.С*: Паважаныя дэпутаты, ... тут гаворыцца пра трагедыю: „по случаю трагедии, приведшей к человеческим жертвам», пра «погибших»…Трагедыя можа быць, калі цягнік з рэек зышоў. Таксама будуць чалавечыя ахвяры. Таму я настойваю усё ж такі запісаць: семьям не «погибших», а «семьям убитых».

Прапанова Пазьняка не прымаецца.

Мы запатрабавалі ўключыць патрабаваньне недапушчальнасьці ўвядзеньня ў Летуве прэзыдэнцкага кіраваньня (мелася на ўвазе – кіраваньня Прэзыдэнтам СССР, якое аўтаматычна б скасоўвала незалежнасьць Летувы). Акрамя таго, лічылі неабходным паставіць патрабаваньне аб адстаўцы прэзыдэнта СССР Гарбачова і Міністра абароны маршала Язава, якія несьлі асабістую адказнасьць за кроў у Летуве.

*Пазьняк З.С.* Паважаныя дэпутаты, пасьля тбіліскіх падзеяў Зьезд народных дэпутатаў СССР прыняў рашэньне аб недапушчальнасьці выкарыстаньня войскаў супраць мірнага насельніцтва. Такім чынам, прэзыдэнт СССР парушыў гэтае рашэньне З'езда....

*Навумчык С.І.* І ўсё ж я пацьвярджаю сваю прапанову пра недапушчальнасьць увядзеньня ў Летуве прэзыдэнцкай улады. Таму што гэта непазьбежна – вы пераканаецеся – прывядзе да новай крыві. І потым, пастаўце на галасаваньне прапанову аб адстаўцы прэзыдэнта Гарбачова і міністра Язава.

*Старшынствуючы (С. Шушкевіч):* Я хачу адразу ўдакладніць наступнае. Я не магу гэту прапанову паставіць на галасаваньне, таму што мы зьвяртаемся да прэзыдэнта з гэтай самай заявай і ў ёй будзем патрабаваць яго адстаўкі. Калі ласка, першы мікрафон.

*Пазьняк З.С.* Гэтага трэба было і чакаць, калі мы пакінулі слова „Прэзыдэнт" у тэксьце. Цяпер яно выключаецца, і няма магчымасьці выразіць вотум недаверу гэтаму чалавеку. Я настойваю тады на другіх прапановах, якія былі выказаныя. А менавіта: патрабаваць ад Вярхоўнага Савета і Прэзыдэнта ў дадзеным выпадку спыненьня агрэсіі супраць прыбалтыйскіх рэспублік і вываду дэсантных войскаў з Летувы, Латвіі і Эстоніі.

За гэтую прапанову Пазьняка выказаліся толькі 68 дэпутатаў.

І ўсё ж, Вярхоўны Савет хаця і ў вельмі мяккіх фармулёўках, але асудзіў дзеяньні Масквы ў былой савецкай рэспубліцы, якая абвясьціла сябе незалежнай.

Праз некалькі дзён, 20 студзеня, кроў пралілася ўжо ў Рызе. Дэпутаты ад Апазыцыі БНФ і «дэмклюбу» прынялі заяву, у якой зьвярнуліся ў Раду Бясьпекі ААН з просьбай разглядзець пытаньне аб пагрозе сувэрэнітэту і парушэньні права нацыяў на самавызначэньне ў Летуве і Латвіі, а таксама накіраваць у гэтыя краіны афіцыйных назіральнікаў ААН. Першым пад Зваротам стаіць імя Пазьняка, але, акрамя дэпутатаў Апазыцыі БНФ, яго падпісалі некалькі дзесяткаў чалавек – усяго 84 дэпутаты.

Некаторыя з гэтых дэпутатаў потым адмовяцца ад сваёй пазыцыі і падтрымаюць на прэзыдэнцкіх выбарах Лукашэнку, які выступіць, фактычна, за скасаваньне беларускай Незалежнасьці. Сам Лукашэнка, які ў студзені 1991 года крытыкаваў праімпэрскі зварот дэпутатаў-камуністаў (аднак заўважу, што на карысьць Незалежнасьці Беларусі ў Вярхоўным Савеце Лукашэнка не выступаў ніколі) – праз некалькі гадоў заявіць пра аднаўленьне імпэрыі, верне камуністычныя сымбалі і накіруе бронетранспарцёры і ўзброеных вайскоўцаў на беларускіх патрыётаў.

Падзеі ў Летуве абярнуліся драмай для некаторых парлямэнтарыяў, якія мелі ўстойлівы пракамуністычны імідж. Пасьля расповяду членаў дэлегацыяў камуністы ўжо не сьмяяліся. Дэпутат ад вэтэранскай арганізацыі Мілаванаў, нечакана асудзіў дзеяньні савецкіх войскаў у Летуве. Але за гэта ён быў падвергнуты цкаваньню калег-вэтэранаў і ў хуткім часе памёр (уся Апазыцыя БНФ у поўным складзе прыйшла на яго пахаваньне). Былы першы сакратар Віцебскага абкама партыі Сяргей Шабашоў, пасьля наведваньня Вільні сказаў з трыбуны Вярхоўнага Савету, што ня варта прымушаць летувісаў заставацца ў Саюзе ССР, калі яны гэтага ня хочуць, і склаў дэпутацкія паўнамоцтвы.

Тыя студзеньскія дні 91-ага, на маю думку, былі істотнымі ў справе ўсьведамленьня шмат якімі дэпутатамі той простай ісьціны, што Масква заўсёды абараняе інтарэсы імпэрыі, не спыняючыся перад праліцьцём крыві. І ня толькі ў далёкіх ад Беларусі месцах, у Аўганістане ці ў Тбілісі, але і тут, у Эўропе, у некалькіх дзясятках кілёмэтраў ад Менску. А значыць – пры патрэбе, пральле кроў і ў самой Беларусі.

## НАПАЎСУВЭРЭННАСЬЦЬ

Зь ліпеня 1990 году па жнівень 1991-га доўжыўся пэрыяд напаўсувэрэннасьці Беларусі.

Апазыцыя БНФ у гэты час распрацавала і прадставіла на разгляд Камісіяў і Вярхоўнага Савета некалькі дзесяткаў законапраектаў, накіраваных найперш на ўмацаваньне беларускай дзяржаўнасьці – аб уласнай грашова-фінансавай банкаўскай сыстэме, а таксама рынкавых формах гаспадараньня (сярод якіх і блёк законапраетаў, аб'ядналых

у Зямельны Кодэкс з правам прыватнай уласнасьці на зямлю).

Але практычна ўсе законапраекты Апазыцыі БНФ былі адрынутыя пракамуністычнай парлямэнцкай большасьцю, і хаця шмат якія нашыя напрацоўкі былі прынятыя ў выглядзе асобных артыкулаў у законах, Беларусь імкліва губляла час, які прыбалты ды палякі выкарыстоўвалі для стварэньня рынкавай эканомікі.

У сакавіку 1991 году з ініцыятывы М. Гарбачова быў праведзены рэфэрэндум аб захаваньні СССР. Сам „плебісцыт" у Беларусі быў прызначаны пры адсутнасьці беларускага Закону аб рэфэрэндуме, з парушэньнямі нават так званага „саюзнага" заканадаўства, з фальсыфікацыямі. Агітацыя вялася на карысьць Саюза – Пазьняку, Сямдзянавай і мне адмовілі ў тэлеэфіры для агітацыі супраць захаваньня СССР. Зрэшты, галоўнае было нават ня ў гэтым. Пазыцыя БНФ палягала ў тым, што, паколькі СССР ўтвараўся не праз рэфэрэндум, а шляхам падпісаньня Дамовы, не рэфэрэндум павінен вызначаць і лёс імпэрыі. З гэтага гледзішча пазьнейшае падпісаньне Віскулёўскага пагадненьня аб скасаваньні Саюзу і ратыфікацыя яго Вярхоўнымі Саветамі краін-заснавальніц СССР было абсалютна легітымным рашэньнем і, скажам так, цалкам юрыдычна адэкватным падпісаньню Дамовы аб утварэньні СССР у Маскве ў 1922 годзе.

Тым часам Крэмль губляў кантроль над сытуацыяй у рэспубліках; эканамічная палітыка Гарбачова, якая абапіралася на інтарэсы ваенна-прамысловага комплексу, прывяла да паглыбленьня інфляцыі і ўзьнікненьня дэфіцыту на самыя элемэнтарныя тавары (посуд, электралямпачкі, цыгарэты і г.д.).

У красавіку 1991 году некалькі дзесяткаў тысяч рабочых менскіх прадпрыемстваў распачалі страйк і выйшлі на плошчу перад Домам ураду. Першапачатковай прычынай было падвышэньне цэнаў; аднак ужо ў першы дзень актывістам БНФ удалося прапанаваць страйкамаўцам палітычныя лёзунгі, у тым ліку і патрабаваньне аб новых выбарах у Вярхоўны Савет. Але кіраўніцтвуа Савета Міністраў ўцягнула некаторых лідэраў страйкаму ў бясплённыя перамовы пра падвышэньне заробкаў, і страйк скончыўся. А празь некалькі месяцаў інфляцыя „зьела" і тыя сьціплыя падвышэньні зарплатаў.

Літаратар Валянцін Акудовіч у адным з інтэрвію сказаў, што рабочыя выйшлі з трывогай за існаваньне Савецкага Саюзу. Словы пра трывогу – выразны прыклад таго, як пад нейкія „высновы" (інтэрвію было прысьвечанае „нізьвяржэньню" Пазьняка) падбіваюцца не адпаведныя сапраўднасьці факты. Сярод патрабаваньняў удзельнікаў страйку няма пункту аб захаваньні СССР; яго і не магло быць, таму што адным зь лідэраў страйкаму саміммі ж рабочымі быў абраны дэпутат Апазыцыі БНФ Сяргей Антончык.

Больш за тое. Патрабаваньне сувэрэнітэту гучала ўжо і з вуснаў кіраўнікоў прадпрыемстваў. Так, у траўні 1991 году мне як дэпутату ад Віцебскай акругі быў перададзены „Зварот сходу прадстаўнікоў працоўных калектываў прамысловых прадпрыемстваў г. Віцебску", падпісаны дырэктарамі, кіраўнікамі прафкамаў і старшынямі страйкамаў пяці самых буйных прадпрыемстваў гораду – станкабудаўнічага завода імя Кірава, завода заточных станкоў, станкабудаўнічага завода імя Камінтэрну, тэлевізійнага завода і вытворчага аб'яднаньня „Маналіт", на якіх працавала некалькі дзесяткаў тысяч чалавек. У пераліку палітычных патрабаваньняў першым стаіць: „Надаць дэкларацыі аб сувэрэнітэце Беларусі канстытуцыйны характар".

# ПАГРОЗА НОВАГА „САЮЗУ"

У чэрвені 1991 года Вярхоўны Савет абмяркоўваў новы тэкст „саюзнага дагавору", на якім настойваў Гарбачоў і які Дземянцей і кіраўніцтва ЦК КПБ згодныя былі ўхваліць. Мы ацанілі дамову як новы варыянт калянізацыі Беларусі, але, нягледзячы на нашы пратэсты, большасьць дэпутатаў 12 чэрвеня ўсё ж прагаласавала за яе падпісаньне (у наступных цытатах я буду ўжываць не слова „дамова", а „дагавор" – як было прынята ў той час).

У ліпені мы з жонкай з дапамогай знаёмых „дасталі" пуцёўку на адпачынак у Крым. Дэпутаты ВС маглі зьвярнуцца ў так званую „лечкамісію" ды



*Красавік 1991 г. Рабочая дэманстрацыя каля Дому ўраду; першы дзень.*

ўзяць накіраваньне ў адзін з урадавых санаторыяў, прычым за траціну кошту. Але ішла „барацьба з прывілеямі", і для дэпутата Апазыцыі БНФ такое падавалася недапушчальным. У Крыме жылі ў трох ці чатырох месцах, у вельмі сьціплых пакойчыках, затое надвор'е было сонечным, мора цёплым, і гэта, фактычна, быў наш „мядовы месяц" – больш як праз год пасьля вясельля, якое супала з выбарчай кампаніяй. Аднойчы, па дарозе ў Севастопаль, экскурсавод паказала новую дачу Гарбачова – усе кінуліся да вокнаў аўтобуса, але за кіпарысамі толькі на імгненьне мільгануў чырвоны дах. Праз месяц пад ім адбыліся падзеі, якія кардынальна паўплывалі на лёс народаў Савецкага Саюза, у тым ліку і Беларусі.

12 жніўня маскоўская прэса паведаміла пра тое, што ў Маскве адбудзецца падпісаньне саюзнай дамовы. Апошні варыянт, які распаўсюдзіў Дземянцей, быў яшчэ больш імпэрскі за папярэднія. Не ўлічваліся нават прапановы, выказаныя ў чэрвені Вярхоўным Саветам Беларусі. Новае ўтварэньне захоўвала старую абрэвіятуру – СССР, толькі цяпер ужо расшыфроўвалася як „Саюз Савецкіх Сувэрэнных Рэспублік". Мы вырашылі патрабаваць ад Дземянцея не падпісваць дамову („задержать процесс", як пазьней ён вызначыў).

На дэпутацкіх блянках кіравалі лісты на імя Старшыні Вярхоўнага Савета, у якіх далі ацэнку як сутнасьці новага варыянту Дамовы, так і асобных яе палажэньняў.

Так, дэпутат Апазыцыі БНФ, сакратар Камісіі ВС па прамысловасьці, энэргетыцы, транспарту, сувязі і інфарматыцы Уладзімер Новік адзначыў, што пры падпісаньні Артыкула 5 Дамовы, у частцы перадачы ў сфэру вядзеньня Саюза ССР кіраваньня паветраным рухам, агульнасаюзнымі

сыстэмамі сувязі і інфармацыі, неабходна сыходзіць з Дэкларацыі аб сувэрэнітэце. „Сыстэма кіраваньня паветраным рухам Беларускай ССР павінна стаць састаўной часткай агульнаэўрапэйскай сыстэмы паветранага транспарту... Паколькі Беларусь знаходзіцца ў цэнтры Эўропы і над ёй перасякаюцца многія міжнародныя паветраныя шляхі, то пераход сыстэмы кіраваньня паветраным рухам у вядзеньне Беларускай ССР дазволіць папаўняць бюджэт рэспублікі.. Сёньня Беларусь ня мае права валоданьня, карыстаньня і распараджэньня паветранай прасторай рэспублікі. Ёю распараджаюцца цэнтральныя (маскоўскія – С.Н.) ваенныя ведамствы, якія разьмясьцілі і працягваюць разьмяшчаць тут дзесяткі ваенных аэрадромаў і ракетных баз бяз згоды беларускага ўраду. Гэта стварае праблемы для рэспубліканскіх органаў улады і кіраваньня. Напрыклад, міністэрства сувязі і інфарматыкі Беларускай ССР ня можа займацца ўкараненьнем сучасных радыётэлефонных сотавых і саталітарных сыстэм, якія прынятыя і дзейнічаюць у разьвітых краінах сьвету, толькі таму, што гаспадарамі радыёэфіру (выдзяленьне рабочых дыяпазонаў радыёчастотаў) з'яўляюца цэнтральныя і ваенныя ведамствы"..." (Ліст да М. Дземянцея ад 14 жніўня 1991 г.).

Дэпутат Апазыцыі БНФ, старшыня Камісіі ВС па міжнародных справах і зьнешнеэканамічных сувязях Пётра Садоўскі 15 жніўня зьвярнуў увагу Дземянцея на тое, што нават заўвагі, прынятыя Вярхоўным Саветам, не ўлічаныя ў апошніх двух варыянтах Дамовы, прапанаванай Масквой. „Лічу, што пры такім падыходзе да канкрэтыкі дагавору яго нельга падпісваць... Практыка апошняга часу паказвае, што Цэнтар не сьпяшаецца выконваць свае абяцаньні.... Трэба паставіць падпісаньне Дагавору ў залежнасьць ад выкананьня Цэнтрам умоў дадатковых пратаколаў да Дагавору. Тэкст Дагавору і дадаткаў трэба прагаласаваць паартыкульна на нечарговай Сэсіі, якую досыць склікаць на 2-3 дні зараз у жніўні. Не абавязкова ж падпісваць Дагавор першымі. Гэта можна зрабіць і пазьней".

Тым ня менш, Дземянцей быў згодны падпісаць Дамову як хутчэй, без абмеркаваньня на сэсіі, так, як жадала Масква.

„Падпісаньне гэтага дагавору без ухваленьня (Вярхоўным Саветам – С.Н.) – гэта першае грубейшае парушэньне ня толькі рашэньняў сэсіі Вярхоўнага Савета БССР, але і пачатак цэлага ланцугу парушэньняў нормаў самога Дагавору... – пісаў дэпутат Апазыцыі БНФ Уладзімер Станкевіч 16 жніўня. – ... падпісаньне „гэтага Дагавору" без дадаткаў, у якіх выкладзеныя дастатковыя ўмовы ўваходу, выхаду і г.д., – гэта шлях у мышалоўку. У выпадку падпісаньня „гэтага Дагавору" без яго канчатковага абмеркаваньня Вярхоўным Саветам БССР мы ўжо ніколі ня здолеем сказаць „дзяржаўная паўнамоцная дэлегацыя", бо Беларусь згубіць статус дзяржаўнасьці і набудзе ўжо ня новы для яе статус „паўночна-заходняга краю Расейскай імпэрыі альбо гэнерал-губэрнатарцтва...".

Сваё меркаваньне ў лісьце да старшыні ВС БССР Мікалая Дземянцея выказаў і член камісіі ў справе падрыхтоўкі саюзнай дамовы, які ў ліку іншых яе членаў павінен быў ехаць на падпісаньне, дэпутат Апазыцыі БНФ Уладзімер Заблоцкі: „Падпісаньне прапанаванага тэксту Дагавору аб Саюзе Савецкіх Сувэрэнных Рэспублік для мяне непрымальнае, паколькі размовы аб яго дапрацоўцы засталіся толькі размовамі. Тэкст дагавору гэта паўтор сталінскай канстытуцыі, пабудаванай на хлусьні і супярэчнасьцях.... Для мяне відавочна, што, па сутнасьці, прапанаваны тэкст дагавору цалкам супярэчыць прынятай Вярхоўным Саветам Дэкларацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларускай СССР. У сакавіку 1991 года на нарадах па Дагавору былі зробленыя прапановы па асэнсаванай яе дапрацоўцы са спэктрам прапаноў, якія рэгулююць дэталёва адносіны праз распрацаваныя працэдуры і мэханізмы, аднак Цэнтар плянаваў падпісаньне Дагавору ў красавіку і з прычыны адсутнасьці часу адмовіў у магчымасьці дапрацоўкі. Цяпер ужо жнівень, а тэкст Дагавору яшчэ горшы, чым быў у сакавіку, з майго пункту гледжаньня. Лічу, што падпісваць такі Дагавор нельга, яго падпісаньне надоўга прасуне нашу рэспубліку пад дыктат таго ж Цэнтра... У сьвятле вышэйсказанага я ... прынцыпова не магу ўдзельнічаць у падпісаньні прапанаванага Дагавору аб саюзе сувэрэнных дзяржаў" (13 жніўня 1991 г.)

Нарэшце, 14 жніўня мы перадалі Мікаляю Дземянцею заяву ад імя Апазыцыі БНФ. „У сувязі

нечаканым паведамленьнем газэты „Известия” 12 жніўня гэтага года аб тым, што „паўнамоцная дэлегацыя” БССР будзе падпісваць 20 жніўня саюзны дагавор, са зьмененым тэкстам якога не знаёмыя народныя дэпутаты БССР і на Вярхоўным Савеце ён не абмяркоўваўся, заяўляем аб неправамоцнасьці, безадказнасьці Вашых дзеяньняў. Вы імкняцеся заключыць дагавор пра лёс Беларусі без праходжаньня ўсіх неабходных у такіх выпадках экспэртызаў, абмеркаваньняў і рашэньняў. Калі, нягледзячы ні на што, такі дагавор Вамі будзе падпісаны, ён усё роўна ня будзе мець юрыдычнай, прававой і палітычнай сілы, бо ня можа быць прызнаны ні беларускім грамадзтвам, ні міжнароднай супольнасьцю. Фактычна размова ідзе пра падпісаньне новага каляніяльнага для Беларусі дагавора. Крок, які Вы зьбіраецеся зрабіць, ставіць пытаньне аб Вашай асабістай адказнасьці перад беларускім народам”. Зварот падпісалі З. Пазьняк, У .Заблоцкі, С. Навумчык, У. Новік і Я. Новікаў.




(Фота В. Драчова).

*„Урад у адстаўку. Незалежнасьць!” 1991 г. Менск*

Мы занесьлі свой ліст Дземянцею, аднак нашы аргумэнты яго не перакалі, старшыня ВС лічыў сваёй галоўнай мэтай падпісаньне „саюзнага дагавору”. Мы вырашылі зьбіраць подпісы з патрабаваньнем склікаць нечарговую сэсіі ВС. Зрабіць гэта было цяжка – большасьць дэпутатаў былі ў адпачынках. Але іншага выйсьця ў нас не было.

Але праз некалькі дзён давялося патрабаваць сэсіі ўжо з зусім іншай прычыны.

## ЖНІВЕНЬ 1991: ПРАІМПЭРСКІ ПУТЧ

Раніцай 19 жніўня 1991 году маскоўскае тэлебачаньне і радыё паведаміла пра адхіленьне ад пасады Міхаіла Гарбачова і стварэньне Дзяржаўнага камітэту ў справе надзвычайнага становішча (у гісторыю ён увайшоў з расейскай абрэвіятурай – ГКЧП).

Мы не былі ад Гарбачова ў вялікім захапленьні, уласьцівым маскоўскай лібэральнай інтэлігенцыі і іх менскім адэптам. Асабіста ў мяне апошнія ілюзіі зьніклі пасьля кароткай размовы зь ім у лютым 1991 году пра дзеяньні кіраўніцтва СССР падчас Чарнобылю. Генэральны сакратар ЦК КПСС і Прэзыдэнт ядзернай звышдзяржавы паводзіў сабе як вучань, які выправіў ацэнку ў дзёньніку. У той жа дзень, выступаючы ў беларускай Акадэміі навук, Гарбачоў абрынуўся з рэзкімі выпадамі на дэмакратаў; я сядзеў у першым радзе, Міхаіл Сяргеевіч паказваў на мяне пальцам, тэлекамэры трансьлявалі, і цешча ў Глуску думала, што гэта – канец. Аднак было абсалютна зразумела, што пры адным зь яго папярэднікаў – Андропаве – за мае пытаньні мяне б чакаў арышт, а пры яшчэ ранейшым папярэдніку, Сталіне – расстрэл. Разумелі мы і тое, што замест адносна лібэральнага, хоць і непасьлядоўнага Гарбачова, на трон можа ўзысьці пасьлядоўны ў сваёй рэакцыйнасьці вылучэнец ваенна-прамысловага комплексу.

Яшчэ за некалькі тыдняў да абвяшчэньня ГКЧП у СМІ зьявілася заява групы „дзеячоў літаратуры і мастацтва” пра небясьпеку распаду СССР з заклікам прыняць рашучыя меры; ГКЧП і стаў выразьнікам вяртаньня ў старыя часы. Наяўнасьць у ГКЧП сілавых міністраў і кіраўнікоў ваенна-прамысловага комплексу не пакідала ілюзій наконт антыдэмакратызму і рэпрэсіўнасьці мэтадаў, якімі будуць захоўваць СССР ад распаду.

Той жа раніцай 19 жніўня дэпутаты Апазыцыі БНФ сабраліся ў Вярхоўным Савеце і зрабілі шэраг заяваў, ацаніўшы падзеі як спробу захаваць

савецкую імпэрыю шляхам усталяваньня ваеннай дыктатуры. „Беларускі народ добра памятае жудасныя злачынствы сталінскай дыктатуры і не даруе патураньня тым, хто зноў імкнецца растаптаць яго сувэрэнітэт і свабоду”, – гаварылася ў нашым Звароце да Дзямянцея.

Раніцай 19 жніўня мы, шэсьць дэпутатаў Апазыцыі БНФ – Л. Баршчэўскі, Ю. Беленькі, І. Гермянчук, В. Голубеў. У. Заблоцкі, С. Навумчык – прыйшлі ў кабінэт Старшыні ВС Мікалая Дзямянцея. Вось скарочаны запіс гутаркі.

„Ул. Заблоцкі: Аналіз сытуацыі сьведчыць што з парушэньнем Канстытуцыі і законаў СССР уладу ў Крамлі спрабуе захапіць так званы камітэт па надзвычайным становішчы. Апазыцыя лічыць неабходным тэрмінова склікаць сэсію ВС БССР і абмеркаваць становішча. Мы лічым, што сем чалавек, які ўвайшлі ў склад гэтага камітэту, ня маюць права вырашаць за кожную рэспубліку.

М.Дзямянцей: Нічога яны за нас не вырашаюць.

Ул. Заблоцкі: Яны за нас вырашаюць усё. Гэта відавочна. Таму ВС БССР павінен тэрмінова сабрацца і заявіць, што гэты камітэт антыканстытуцыйны і не паўнамоцны ўводзіць надзвычайнае становішча.

В. Голубеў: Мікалай Іванавіч, наш Вярхоўны Савет павінен вызначыць: падтрымліваем мы гэтых самазванцаў ці будзем усё ж кіравацца канстытуцыйнымі прынцыпамі. Мы ведаем, што Вы званілі Лукьянаву (старшыня ВС СССР – С.Н.). Зразумела яму нічога не заставалася сказаць Вам, як толькі тое, што „усё робіцца па закону”. Але Беларусь павінна вырашаць сама за сябе.

М. Дзямянцей. Вы з Гарбачовым асабіста сустракаліся? Вы ведаеце, чаму ў Гарбачова нарадзілася гэтая заява?

В. Голубеў: Якая заява?

М. Дзямянцей. Ну будзе гэтая заява. Гарбачоў прыйшоў за шэсьць гадоў да цяжкага становішча, у якім ён заўсёды быў. Гэта група, а дакладней казаць – Янаеў, былі зь ім разам, калі гэтая заява нарадзілася разам з Гарбачовым. Па стане ягонага здароўя...

С. Навумчык: Дзе заключэньне дактароў? Давайце пазвонім Гарбачову ад Вас па ВЧ.

М. Дзямянцей: Яшчэ раз паўтараю: Гарбачоў псыхалягічна вычарпаў сябе. Ён ня ведае, што далей яму рабіць. Ён кажа: я далей не магу, давайце думаць разам. Вось і давялося па Канстытуцыі часова выконваць абавязкі Янаеву. Прэзыдэнт за суткі да гэтага пайшоў у адстаўку. На працягу тыдня будзе склікана сэсія ВС СССР. Усё робіцца па Канстытуцыі. У нашы рэспубліканскія справы ніхто ня ўмешваецца. Нам няма патрэбы зьбіраць сэсію. Гарбачоў сам за сябе вырашыў. Ён сышоў, а жыцьцё будзе працягвацца. Не парушайце ніякага грамадзкага парадку. Вы сёньня са значкамі БНФ прыйшлі (так Дзямянцей вызначыў бел-чырвона-белыя сьцяжкі – С.Н.). Што, абвешчана з вамі нейкую вайну весьці? Ну, не, вы ўсё ведаеце, а я займаю пасаду і нічога ня ведаю. Я вас прашу, не рабіце паніку. Не сутыкайце людзей, не падбухторвайце людзей. Вось гэта я вас прашу: не займайцеся падбухторваньнем людзей.

І. Гермянук: Выходзіць, што Вы прызнаеце законнасьць камітэту на чале з Янавевым і бузеце выконваць яго распараджэньні?

М. Дзямянцей: А што Вы хочаце, каб я выконваў?

І. Гермянчук: Канстытуцыю і законы, а ня ўказы незаконнага камітэту. У Маскве на вуліцах ужо бронетэхніка. Вашае бязьдзеяньне можа прывесьці да таго, што танкі з’явяцца на вуліцах Беларусі.

М. Дзямянцей. Усё, далей я ня буду працягваць размову...

Ул. Заблоцкі: Вы можаце казаць нам усё што заўгодна. Аднак усе разумеюць, што ў СССР адбываецца неабальшавіцкі пераварот. Таму мы настойваем на тэрміновым скліканьні сэсіі Вярхоўнага Савету БССР. Калі Вы адмаўляецеся гэта зрабіць, мы будзем зьбіраць неабходныя 115 подпісаў дэпутатаў”.

Была ў нас і сувязь з Масквой, з „Белым домам”, дзе знаходзіўся Прэзыдэнт РСФСР Б. Ельцын, які адназначна назваў путчыстаў „дзяржаўнымі злачынцамі” і заклікаў грамадзянаў Расеі выконваць распараджэньні толькі тыя, якія сыходзяць з „Белага дому”. У мяне захаваліся перасланыя нам па факсу ад Ельцына падпісаныя ім дакумэнты. Аднак мы былі пераканаdebня, што лёс Беларусі павінен вырашацца ў Менску.



Гэты здымак быў зроблены 20 жніўня ў Менску на ст. Радыятарная. Адкуль і зь якой мэтаю прыгналі сюды восем вагонаў —"закаў", зробленых, відавочна, насьпех? Цікава таксама, што праз два дні краты з вагонаў пачалі зразаць.

*Закратаваны вагон.*

Тады ж, 19 жніўня, мы накіравалі звароты да старшыні Саўміну В. Кебіча, міністра ўнутраных справаў, старшыні КДБ, у якіх канстатавалі, што „спроба антыканстытуцыйнага перавароту, зробленая... групай палітычных авантурыстаў у Маскве, накіраваная супраць дэмакратыі, законных органаў улады і сувэрэнітэту рэспублік, зьяўляецца дзяржаўным злачынствам. Безадказныя дзеяньні путчыстаў у СССР не павінны мець ніякай падтрымкі на Беларусі. Усе іхнія распараджэньні зьяўляюцца незаконнымі і не павінны выконвацца ніякімі органамі ўлады Беларускай ССР. Мы заклікаем Вас праявіць дзяржаўную мудрасьць, вытрымку, вернасьць беларускай рэспубліцы...”

І старшыня КДБ, і міністар унутраных справаў занялі нэйтральную пазыцыю (але пазьней стала вядома, што на чыгунчанай станцыі былі падрыхтаваныя эшалёны для „транспартаваньня” тых, хто, як выказаўся ў той дзень Дземянцей“, падбухторвае людзей”).

Нам так і не ўдалося пераканаць большасьць членаў Прэзыдыюму ВС адназначна асудзіць путчыстаў.

Кіраўніцтва ЦК КПБ на чале зь першым сакратаром Малафеевым цалкам падтрымала дзеяньні ГКЧП, абавязаўшы партыйныя камітэты выконваць яго распараджэньні. Старшыня Дзяржтэлерадыё А. Сталяроў спыніў вяшчаньне беларускага каналу і пераключыў яго на Маскву, з трансляцыяй распараджэньняў ГКЧП. Члену Прэзыдыюму ВС М. Сьлямнёву, які хацеў выступіць супраць ГКЧП, было адмоўлена ў радыёэфіры.

Увечары 19 жніўня перад будынкам Дома ўраду мы правялі мітынг – на яго прыйшло некалькі соцень чалавек. Мітынг адбыўся і 20 жніўня, ужо больш шматлюдны. Да патрабаваньня аб скліканьні сэсіі далучыліся і іншыя дэпутаты, у тым ліку першы намесьнік Старшыні ВС С. Шушкевіч. Аднак шмат хто вырашыў заняць пазыцыю чаканьня, і на 13 гадзін 20 жніўня мы мелі ўсяго 33 подпісы дэпутатаў (для скліканьня нечарговай сэсіі іх патрабавалася 120).

Пасьля мітынгу мы з жонкай паехалі да Аляксандра Лукашука – там ужо былі журналісты Дзьмітры Філімонаў, Вераніка Чаркасава, кірарэжысэр Юры Гарулёў. Ні ў каго не было страху – затое была злосьць і жаданьне супраціўляцца. У выдавецтве „Беларусь”, дзе Лукашук быў галоўным рэдактарам, ён правёў сход – разьлічваў, што ўдзельнікі асудзяць хунту. Шмат хто пабаяўся галасаваць адкрыта (але некалькі чалавек усё ж падпісалі ліст пратэсту).

Большую частку тых дзён я правёў у будынку Дома Ўраду і на плошчы.

Увечары 21 жніўня ГКЧП пацярпеў паразу. У 16 гадзін на чале з Пазьняком мы ізноў былі ў кабінэце М. Дземянцея; цяпер ужо ён быў вымушаны прымаць рашэньне аб скліканьні нечарговай сэсіі, якая прызначалася на 24 жніўня.

Пазьней у сваіх успамінах Дземянцей напіша: „Перад пачаткам пленарнага паседжаньня да мяне ў працоўны кабінэт зайшла група дэпутатаў ад Апазыцыі на чале з З. Пазьняком і С. Навумчыкам. Двое апошніх папярэдзілі мяне, каб я не выступаў за захаваньне Саюза ССР. Інакш можа здарыцца непапраўнае. Я пажартаваў:

– Павесіце на вяроўцы бяз мыла?

Яны засмуціліся і, прамармытаўшы нешта няўяцямнае, сышлі.” (М. Дземянцей, „Уроки жизни”, стар.148).

Размова, якая гэтак уразіла Дземянцея, насамрэч адбылася ня ў дзень сэсіі, а 21 жніўня, адразу пасьля таго, як з Масквы паступілі паведам-

леньні аб паразе ГКЧП. Захаваўся пісьмовы запіс той гутаркі, які я вёў і які падаю без скарачэньняў.

„21 жніўня. 16 гадзін. Дэлегацыя ў складзе: Пазьняк, Голубеў, Беленькі, Навумчык. Кабінэт старшыні ВС БССР М. Дземянцея.

Дземянцей: Добры дзень!

Пазьняк: Добры. Шаноўны Мікалай Іванавіч, мы да Вас ужо ня першы раз заходзім, і мы зварот ад дэпутацкай Апазыцыі БНФ Вам абавязаныя ўручыць. Вось, калі ласка, прачытайце.

Дземянцей: Вы присаживайтесь...

Пазьняк: Ня трэба…

Голубеў: Ведаеце, якія зьвесткі ідуць па цэнтральнаму радыё? Ведаеце?

Дземянцей: Нет...(Далейшыя словы Дземянцея не запісаныя, якраз тут ён і запытаўся, ці не рыхтуем мы яму намыленую вяроўку з пятлёй, і мне давялося яго супакойваць – С.Н.)

Навумчык: Мы ніколі не заклікалі да пятлі...

Дземянцей: Ну хорошо.. С мылом, без мыла..

Навумчык: Мы ніколі не заклікалі да пятлі.

Дземянцей: Ну я с вами тоже очень вежливо, вежливо...

Пазьняк: Мікалай Іванавіч, калі Вам хочацца пагаварыць, то ў 18 гадзін мы можам пагаварыць тут, на плошчы. Калі ласка. Мы Вас запрашаем.

Дземянцей: Спасибо!.”

Аднак на плошчу Дземянцей не прыйшоў.

У тыя дні ня толькі мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, патрабавалі аднаўленьня Незалежнасьці Беларусі. На мітынгах і стыхійных сходах гучалі заклікі надаць Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус канстытуцыйнай сілы. Так. У тыя дні да мяне як дэпутата ад Віцебску паступіў зварот прадстаўнікоў працоўнага калектыву завода заточных станкоў, падпісаны дырэктарам Я. Кісялёвым і старшынём прафкаму Я. Белагузавым, у якім патрабавалася надаць Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце статус канстытуцыйнай сілы.

На наступны дзень нам прадставілі жывы тэлеэфір. У сваёй заяве дэпутаты Апазыцыі БНФ выказалі ўпэўненасьць, што „народ Беларусі ў гэтыя дні канчаткова зразумеў неабходнасьць поўнай незалежнасьці Рэспублікі... Толькі ў свабодзе і незалежнасьці наша будучыня”. Акрамя таго, мы запатрабавалі неадкладнага прыняцьця новага Закона аб выбарах дэпутатаў, праект якога мы перадалі ў Прэзыдыюм ВС яшчэ ў траўні) і прызначэньня новых парлямэнцкіх выбараў.

23-га жніўня мне перадалі рашэньне сходу калектыву выдавецтва Беларусь: „Супрацоўнікі выдавецтва „Беларусь” вітаюць дзейнасьць членаў дэпутацкай Апазыцыі БНФ і ўсіх тых сумленных дэпутатаў, якія ў дні антыдзяржаўнага перавароту адстойвалі Канстытуцыю і свабоду. Мы патрабуем прыцягненьня да адказнасьці калябарацыяністаў – старшыню Вярхоўнага Савета БССР Дземянцея, тых членаў прэзыдыюма, якія не адмежаваліся, а фактычна падтрымалі путчыстаў, а таксама урада Беларусі, іншых службовых і афіцыйных асобаў, кіраўніцтва ЦК КПБ, якія сталі на шлях здрадніцтва. Патрабуем неадкладнай дэпартызацыі ўсіх дзяржаўных установ, прадпрыемстваў, КДБ, МУС, арміі, нацыяналізацыі маёмасьці КПСС-КПБ. Па даручэньню сходу дырэктар В. Дубоўскі, галоўны рэдактар А. Лукашук, вядучы рэдактар А. Вячорка.”

# АДНАЎЛЕНЬНЕ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

У выніку ціску з боку дэпутатаў Апазыцыі БНФ і „дэмклюбу”, Прэзыдыюм ВС быў вымушаны прызначыць сэсію на 24 жніўня. Напярэдадні Прэзыдыюм распаўсюдзіў праект Парадку дня сэсіі.

Што ж мы прачыталі? „Прапануецца правесьці сэсію на працягу 24 жніўня 1991 года з 12 да 21 гадзіны” – пазначалася ў праекце. Акрамя пратакольных пытаньняў (адкрыцьцё сэсіі, утварэньне яе сакратарыяту і камісіі па кантролю сыстэмы галасаваньня, прызнаньне паўнамоцтваў новаабраных дэпутатаў, вызначэньне парадку асьвятленьня і прыняцьце павесткі дня), прапаноўвалася толькі два (!) пытаньні: „Аб бягучым моманце” і „Аб Саюзнай дамове”. У абодвух выпадках, дакладчыкам павінен быў выступаць М. Дземянцей.

Распаўсюдзіў Прэзыдыюм і праекты пастаноў па гэтых двух пытаньнях.

У першай, „Аб бягучым моманце”, Вярхоўнаму Савету прапаноўвалася „асудзіць




(Фота С. Грыца)

***Жнівень 1991. Мітынг БНФ перад Вярхоўным Саветам. Выступае Аляксандар Сасноў.***

антыканстытуцыйныя дзеяньні членаў ДКНС і падтрымаўшых іх грамадзка-палітычных утварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня" – „асудзіць", калі хунта ўжо была арыштаваная, а іх прыхільнікі чакалі пакараньня. Прапаноўвалася ўтварыць Часовую камісію ВС „па ацэнцы іх дзеяньняў" і „адзначыць, што Прэзыдыюм Вярхоўнага Савета ... зьвярнуўся да беларускага народа з заклікам аб захаваньні спакою, ... але ня даў дакладнай палітычнай ацэнкі неканстытуцыйнасьці дзеяньняў гэтага камітэта". Трэці параграф прадугледжваў „ажыцьцявіць дэпартызацыю органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, праваахоўных, судовых органаў, органаў юстыцыі і ваеннаслужачых" –тое, чаго БНФ дамагаўся некалькі гадоў. Але – праект Прэзыдыюму не прадугледжваў спыненьне дзейнасьці злачыннай КПБ-КПСС. Ды і дэпартызацыя плянавалася не адразу – а толькі пасьля таго, як чатыры Камісіі ВС падрыхтуюць „адпаведныя прапановы па зьмяненьню дзеючага заканадаўства".

Гэта значыць, месяцаў праз некалькі. Альбо праз некалькі год. Альбо – ніколі, бо тут жа ў тэксьце была агаворка: „Варыянт. Пункт 3 выключыць". Выглядала, што „пункт 3" быў напісаны, каб пацешыць вока дэпутатаў Апазыцыі БНФ. А парлямэнцкая камуністычная большасьць прагаласавала б за выключэньне гэтага пункта аб дэпартызацыі, і ўсё засталося б па-старому.

Пункт чацьвёрты канстатаваў, што „надзвычайныя падзеі, якія адбыліся, не павінны паслужыць прычынай да разладу паміж людзьмі, да зьвядзеньня палітычных рахункаў" (гэта значыць – ня трэба ніякіх адставак. А тым часам цягнуліся дзесяткі крымінальных спраў над удзельнікамі антыкамуністычнага мітынгу на плошчы Леніна 7-га лістапада 1990 г.; камуністычныя улады рукамі падпарадкаванай пракуратуры ахвотна „звозілі палітычныя рахункі" з БНФ).

Праект Прэзыдыюму „Аб праекце Саюзнага дагавору" прадугледжваў працяг падрыхтоўкі „саюзнага дагавору" і канстатаваў, што „надзвычайныя падзеі ў краіне, што адбыліся перад падпісаньнем Саюзнага дагавору, не пахіснулі ўпэўненасьці беларускага народа ў неабходнасьці пабудаваць абноўленую дэмакратычную прававую дзяржаву, якая зьяўляецца гарантам сапраўднага сувэрэнітэту Беларускай ССР".

І – усё. Больш ніякіх праектаў, заканадаўчых прапаноў Прэзыдыюм ВС на сэсію ня вынес.

Не прадугледжвалася ні спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС і камсамола, ні дэпартызацыя дзяржаўных установаў і прадпрыемстваў, ні аб пэрсанальнай адказнасьці Старшыні і членаў Прэзыдыюму ВС за бязьдзейнасьць у небясьпечныя для лёсу Беларусі дні.

А галоўнае – не было і намёку на канстытуцыйнае замацаваньне сувэрэнітэту Беларусі – наданьне Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы.

Як пазьней на сэсіі скажа Станіслаў Шушкевіч, гэта „самае лепшае", што Прэзыдыюм „мог зрабіць" (хаця і будзе абараняць такую „канцэпцыю" сэсіі).

Члены Прэзыдыюму плянавалі даць магчымасьць выгаварыцца дэпутатам Апазыцыі, „спусьціць пару", а пасьля гэтага спыніць сэсію, даручыўшы Дземянцею працягваць працу над „саюзным дагаворам".

Уступаць у палеміку з членамі Прэзыдыюму ВС не было ні часу, ні жаданьня – мы разумелі,



(Фота Сяргея Навумчыка)

*Пакой Апазыцыі БНФ. Позьняя праца над законапраектамі. На здымках відаць Сяргей Папкоў, Лявон*

што гэта бясплённа. Разгубленасьць, якая ахапіла намэнклятуру, трэба было імгненна выкарыстоўваць. За тры дні і ночы (21-24 жніўня) мы падрыхтавалі пакет законапраектаў, якія былі неабходныя для аднаўленьня і замацаваньня Незалежнасьці. Цяпер, калі я прыгадваю тыя суткі, не магу падзяліць дзень і ноч – здаецца, яны зьліліся ў адно.

Патрабаваньне аб наданьні Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы, зразумела, было галоўным – нароўні з патрабаваньнем аб роспуску КПБ–КПСС і адстаўцы тых, хто падчас путчу не выканаў сваіх канстытуцыйных абавязкаў. Так, прапаноўвалася „асудзіць бязьдзейнасьць і безадказнасьць у справе абароны Канстытуцыі і сувэрэнітэту Беларускай ССР членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета БССР Дземянцея М.І, Шаладонава В.І., Гаркуна У.Г., Гілевіча Н.С., Грыба М.І., Жуковіча Я.Б., Жукоўскага М.Д., Капытава М.Я., Каратчэні І.М., Козіка Л.П., Кулічкова А.М., Котава С.М., Леўчыка У.К., Міцько П.А., Савіцкага Б.П., Смоляра І.М., Сівіцкага Д.А., Унучкі Р.І. у час спробы дзяржаўнага перавароту 19–21 жніўня г.г. Лічыць немагчымым далейшае выкананьне імі абавязкаў членаў Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета Беларускай ССР... Выказаць недавер і вызваліць ад займаных пасадаў Старшыню Савета Міністраў БССР Кебіча В.Ф. і яго намесьнікаў, міністра юстыцыі Беларускай ССР Дашука Л.А., Старшыню Дзяржтэлерадыё БССР Сталярова А.Р., кіраўніцтва Пракуратуры БССР за бязьдзейнасьць і неканстытуцыйныя паводзіны падчас спробы дзяржаўнага перавароту”.

Я адмыслова прыводжу тут гэтую даўгую цытату, таму што адразу пасьля сэсіі ў бок дэпутатаў Апазыцыі БНФ пасыпаліся папрокі, што, нібыта, мы „купіліся” на згоду нашых палітычных апанэнтаў прыняць сувэрэнітэт і ледзь не падпісалі зь імі пагадненьне.

Другі міф, які ўжо пераўтварыўся ва ўстойлівы стэрэатып – што Незалежнасьць была вынікам падзеяў у Маскве і толькі, што яна „звалілася зь нябёсаў” . Пра гэта больш падрабязна пазьней, пакуль жа зьвярну ўвагу, што ўжо пасьля правалу маскоўскага путчу Прэзыдыюм ВС ня меў намеру надаваць Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статус



(Фота Сяргея Навумчыка)

*Зданевіч, Уладзімер Заблоцкі, Вялянцін Голубеў, Зянон Пазьняк, Галіна Сямдзянава, Сяргей Антончык.*

канстытуцыйнай сілы. Запатрабавалі гэта дэпутаты Апазыцыі БНФ.

Раніцай 24 жніўня Народны Фронт вывеў на плошчу Леніна дзесяткі тысяч людзей. Дэпутаты ішлі на сэсію праз натоўп, які запоўніў ня толькі плошчу, але і тратуары перад Домам ураду, адкуль іх не асьмельваліся зганяць міліцыянты. Пазьней шмат пісалі, што сакратара ЦК КПБ Валерыя Ціхіню нібыта ледзь ўратавалі ад лінчаваньня – насамрэч ніхто Ціхіню не чапаў, яго проста абплявалі; праўда, актывістам БНФ сапраўды прышлося „эвакуяваць" яго з плошчы.

Калі мы ўвайшлі ў Авальную залю, то ўбачылі што ўсе камуністы разгубленыя і перапалохныя ды прыгнечаныя. Мы, наадварот, былі поўныя рашучасьці.

Прад пачаткам сэсіі ў Авальную залю быў унесены Бел-Чырвона-Белы Сьцяг. Да залі яго несла Галіна Сямдзянава, мы з Зянонам Пазьняком і Валянцінам Голубевым ішлі разам зь ёй. У залі Пазьняк папрасіў Голубева пераняць сьцяг і Валянцін вынес яго на сцэну за прэзыдыюмам – у поўнай маўчаньні залі. Камуністы, якія раней істэрычна рэагавалі на нацыянальныя сьвятыні, маўчалі, нібыта зразумеўшы, што адбываецца непазьбежнае.

У першыя хвіліны сэсіі, адразу пасьля таго, як дэпутаты ўшанавалі хвілінай маўчаньня памяць загіблых пад час абароны маскоўскага „Белага дому", да мікрафону выйшаў лідэр БНФ. У гэты момант стала зразумела, што сцэнар сэсіі, падрыхтаваны членамі Прэзыдыюму, праваліцца.

Пазьняк З. С. Паважаны Прэзыдыюм, просьба ад дэпутатаў Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту прымацаваць побач зь дзяржаўным сьцягам Беларускай ССР нацыянальны сьцяг Беларусі. Права на гэта дае нам наша гісторыя і Дэкларацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі (Аплядысмэнты).

Дземянцей М.І. Прошу народных депутатов проголосовать за то, чтобы в зале Верховного Совета находился национальный флаг Белоруссии, который использует Оппозиция от БНФ. Кто против? Кто воздержался? («за» прагаласавалі 107 дэпутатаў пры патрэбных для прыняцьця станоўчага рашэньня 173-ох – С.Н.) Я вас прошу показать пример хорошей работы. Есть

Канстытуцыя, и мы не будем тут спорить Прошу не настаивать”.

(Пытаньне пра дзяржаўныя сымбалі было для нас вельмі важным, але цяпер ўзьнікала пагроза, што дыскусія пойдзе „ўбок”, што пачнуць ацэньваць учынак Голубева, і нам ня ўдасца атрымаць падтрымкі па пытаньнях аднаўленьня Незалежнасьці, ліквідацыі КПБ-КПСС, адстаўцы кіраўніцтва ВС... Пазьняк папрасіў Голубева забраць сьцяг са сцэны – але ня з залі; Валянцін ўзяў сьцяг (захаваўся фотаздымак гэтага эпізоду) і паставіў яго ў сэктары, дзе сядзелі дэпутаты БНФ ад Менску (правы сэктар, калі тварам да прэзыдыюму). На наступны дзень калі ўжо былі прынятыя рашэньні аб спыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС і камсамола ў Беларусі дэпутат, касманаўт Уладзімер Кавалёнак узяў у кагосьці з мітынгоўцаў на плошчы Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і таксама прынёс яго ў залю (побач зь ім увайшлі ў залю дэпутаты Інэса Драбышэўская і Аляксандар Лукашэнка; адсюль нядаўна прыдумалі, што нібыта Лукашэнка ўсталяваў у залі нацыянальны сьцяг). Потым мы аднак зноў паставілі сьцяг на сцэне; аднаўленьне Незалежнасьці адбывалася пад нацыянальным сымбалем)..

Пазьняк З.С.: Мне вельмі шкада, што заля прыняла такое рашэньне. Мы пачакаем. Але ў мяне ёсьць іншая прапанова. У сувязі з тым, што дакумэнтальна засьведчана аб падтрымцы хунты Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР спадаром Дземянцеем і Яго намесьнікам Шаладонавым, я прапаную даручыць гэтае паседжаньне весьці першаму намесьніку (Шушкевічу _ С.Н.), а не Старшыні Вярхоўнага Савета, пытаньне аб якім будзе пастаўлена на гэтай сэсіі. (аплядысмэнты)

Словы Пазьняка гучалі ў абсалютнай, мёртвай цішыні.

Адразу прагучалі выступы ў падтрымку прапановы Пазьняка, хаця дэпутаты ад вэтэранаў спрабавалі абараняць Дземянцея; дайшло да камічнага, калі дэпутат Міхаіл Качан скарыстаў сталінскую лексіку, заявіўшы, што „работа камунистов на местах обеспечила нормальную работу”. Але прапанова не набрала належнай колькасьці галасоў.

Пад час абмеркаваньня павесткі дня ў абарону прапанаванага Прэзыдыюмам варыянта выступіў


ПЕРШЫ НАМЕСНІК
Старшыні Вярхоўнага Савета
Беларускай ССР

ш. Ануйчыка А.П.

размножыць і раздаць дэпутатам да пачатку сесіі. (на старонках)
С. Шушкевіч
24.08.91

НАРОДНЫЙ ДЕПУТАТ
БЕЛОРУССКОЙ ССР

23. жніўня 1991 г.

У Сакратарыят Вярхоўнага Савета
Беларускай ССР

Просім размножыць і распаўсюдзіць перад пачаткам нечарговай пятай Сесіі Вярхоўнага Савета БССР дакументы, падрыхтаваныя Апазыцыяй Вярхоўнага Савета на 25 лістах.

Народныя дэпутаты Беларускай ССР:

*Заява на раздрукаваньне заканадаўчых праектаў, падрыхтаваных Апазыцыяй БНФ на Сесію ВС 24–25 жніўня.*

Станіслаў Шушкевіч, заявіўшы, што „мы даволі доўга абмяркоўвалі павестку дня нашай сэсіі і вырашылі прапанаваць яе ў тым выглядзе, у якім яна ёсьць у дакумэнтах, што вы атрымалі… – „Аб бягучым моманце” і „Аб Саюзным дагаворы”…. Мы б хацелі правесьці гэтую сэсію за адзін дзень, таму што пытаньні гэтыя ўсім добра вядомыя і трэба было б рабіць ня мітынг, а сэсію – па дзеламу, дакладна, коратка”.

Аднак правесьці ўсё так, як жадаў Прэзыдыюм, не ўдалося. Прычым супраць такога сцэнару выступілі ня толькі мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, але і Уладзімер Кавалёнак, які першы і апошні раз прадставіўся на пачатку выступу – „от оппозиции”: „я посмотрел, как скомканы самые острые проблемы белорусского народа, республики в одну фразу «о текущем моменте» и о проекте договора. Я понял одно, что нынешнее руководство

намерено и впредь не управлять республикой, а двурушничать, обманывать всех нас: и депутатов, сидящих здесь, и тех, кто здесь не присутствует, весь народ”.

Потым ад імя Апазыцыі БНФ Валянцін Голубеў агучыў нашы патрабаваньні, у тым ліку – і аб наданьні Дэкларацыі аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнага закона. Голубеў таксама „павіншаваў „усіх сумленных людзей Беларусі, усіх сумленных народных дэпутатаў, усе дэмакратычныя рухі і партыі Беларусі, рабочых, іх страйкавыя камітэты, сялянаў, інтэлігенцыю, усіх, хто падтрымаў Апазыцыю ў гэты цяжкі час змаганьня са злачынцамі, з перамогай над фашыстоўска-камуністычнай хунтай”.



*24 жніўня 1991 г. Вярхоўны Савет. В. Голубеў з Нацыянальным Сьцягам.*

У Авальную залю даходзіў роўны, але моцны шум з плошчы ад дзесяткаў тысяч людзей; сотні тысяч, мільёны – слухалі радыётрансьляцыю. Валянцін заклікаў людзей далучыцца да тых, хто жо стаіць на плошчы перад Домам Ураду, „ваша падтрымка для нас будзе вельмі важнай у гэтай залі, таму што вы бачаце па выніках галасаваньня, большасьць якіх людзей сядзіць тут”.

Нашая прапанова аб адстаўцы Дзямянцея была крытычна успрынятая Станіславам Шушкевічам, які навогул прапанаваў не абмяркоўваць паводзіны старшыні: „я лічыў бы немэтазгодным ўключаць пункт аб дзеяньнях Старшыні Вярхоўнага Савета па адной простай прычыне. Мне здаецца, што Старшыня, нават калі мы зьменім старшыню, прабачце, пры гэтым Вярхоўным Савеце ніякіх зьмен не адбудзецца. І будзе дзень мітусьні, і нічога ня зьменіцца ў становішчы рэспубліканскім”.

Гэтыя словы можна лічыць першай публічнай заявай пра мадэль real politic, якая ў будучым наробіць гэтулькі шкоды. Прыкметна, што і фіяска яна пацярпела адразу, як была абвешчаная.

Але Шушкевіч паспрабаваў разьвіць свой тэзіс у адказ на просьбу Галіны Сямдзянавай пагадзіцца з прапановай Апазыцыі, заявіўшы, што „трэба ставіць тыя пытаньні, якія можна вырашыць. І мне здаецца, што марнаваць час на вырашэньне пытаньняў, якія немагчыма вырашыць пры дадзеным складзе, ня трэба… І мне здаецца, што Апазыцыя павінна зрабіць вывады пэўныя”.

Шушкевіч сказаў, што „мы не павінны ўзьвінчваць сёньня нашы адносіны” і першым пытаньнем ў павестку дня прапанаваў уключыць… Саюзны дагавор.

Сяргей Папкоў прапанаваў Шушкевічу „не размазваць павестку дня”, паставіць на галасаваньне прапановы Апазыцыі БНФ, а Уладзімер Заблоцкі заявіў, што яму сорамна працаваць у Вярхоўным Савеце, старшынём якога зьяўляеца Дзямянцей.

Навумчык С.І. „Паважаныя дэпутаты-камуністы! Тое, што прапанавала Апазыцыя, гэта падтрымана дзесяткамі, сотнямі прадпрыемстваў у абласьцях, у раёнах. Сёньня, калі за дзесяць хвілін да пачатку гэтай сэсіі я, вось калега Глушкевіч, калега Трусаў выступалі перад тымі тысячамі людзей, якія стаяць на плошчы, мы іх прасілі (былі заклікі пайсьці граміць ЦК і гэтак далей), мы прасілі іх захоўваць спакой: „Мы ўсё вырашым законна, канстытуцыйным шляхам”. Дык вы што хочаце? Калі вы гэтыя прапановы не прымеце – дэпартызацыю і народ правядзе, але ён правядзе гэта ня так, як мы, культурна, цывілізавана, а ён правядзе, выцягнуўшы вас за валасы”.

У перапынку мы, некалькі дэпутатаў БНФ на чале з Пазьняком, пайшлі ў кабінэт да намесьніка

Старшыні ВС Васіля Шаладонава і паспрабавалі пераканаць яго сысьці ў адстаўку. Шаладонаў нэрваваўся, апраўдваўся... У адстаўку добраахвотна ён не падаў, а большасьць дэпутатаў не падтрымала нашу прапанову.

Падчас сэсіі Алег Трусаў паказаў Пазьняку копію дакуманта – распараджэньне старшыні Дзяржбанку Станіслава Багданкевіча кіраўнікам рэгіянальных філіяў, дзе загадвалася выконваць распараджэньні ГКЧП. Далей цытую ўспамін Пазьняка:

„Якраз пасьля гэтага, у часе перапынку, выпадкова, мы сутыкнуліся з Багданевічам у Авальнай залі. Ён пачаў мне нешта казаць, даваць нейкія рэкамэндацыі.

– Што Вы тут выступаеце, спадар Багданкевіч, трэба яшчэ з Вашай пазыцыяй пад час путчу разбарацца, – кажу.

– В чём разбираться? Как Вы смеете...

Я паказаў копію ягонага распараджэньня. Багданкевіч літаральна зьбялеў, пачаў дрыжачым голасам нешта казаць, апраўдвацца. Я махнуў рукой і пайшоў – не было жаданьня ўступаць зь ім ў разборкі, ён ніколі ня быў у палітыцы самастойнай фігурай, а як выканаўца – меў імідж неблагога спэцыяліста. Я тады падумаў, што ўжо гэтая наша размова будзе для яго добрай лекцыяй. І ў далейшым Багданкевіч, з большага, паводзіў сябе прыстойна. ” (Забягаючы наперад, адзначу, што ў пачатку 1994 года Багданкевіч разам з Кебічам падпісаў у Маскве пагадненьне аб адзінай з Расеяй „рублёвай зоне”; як прыгадвае М. Грыб, на Прэзыдыюме ВС нават абмяркоўваўся варыянт арышту членаў дэлегацыі па вяртаньні ў Менск. Праўда, Багданкевіч пры падпісаньні зрабіў агаворку адносна адзінага эмісійнага цэнтру, што ўскладніла стварэньне „адзінага рубля”. Але магчымасьць ўвядзеньня „адзінай валюты” з таго часу надоўга зрабілася адной з пагрозаў сувэрэнітэту).

Ішла сэсія нэрвова. Адно толькі абмеркаваньне павесткі дня заняло некалькі гадзінаў – пракамуністычная большасьць упарта не жадала прымаць прапановы Апазыцыі БНФ.

З інфармацыяй аб сытуацыі ў Беларусі выступіў Дзямянцей, заявіўшы, што „Президиум контролировал ситуацию на протяжении всех тревожных дней, ...исходя из принципа, заложенного в Декларации о государственном суверенитете Белорусской ССР, ещё в прошлом году началась работа над проектом Союзнаго договора… Таким образом, выбор сделан, и неконституционные попытки повлиять на решение Верховного Совета просто авантюристичны. И всё же лидеры БНФ не оставляют надежды задержать процесс… Я должен сегодня откровенно сказать народным депутатам и о том, какие угрозы и шантаж пришлось мне и некоторым членам делегации выдержать со стороны Пазьняка З.С., Наумчика С.И., Новикова Е.В. перед намечавшимся отъездом на подписание. Нам они с угрозой заявляли, что если не откажемся от участия в официальной процедуре подписания, то народ Белоруссии этого не простит, а я лично буду отвечать как преступник. Как вы знаете, подписание не состоялось из-за ГКЧП». (цытую па кнізе М. Дземянцей. „Уроки жизни”, Менск. БЕЛТА, 2005 г.).

Выступ Дзямянцея пацьвердзіў, што асноўная ягоная мэта – падпісаньне „саюзнай дамовы”.

Неўзабаве да трыбуны выйшаў першы сакратар ЦК КПБ Малафееў – адзіны член Прэзыдыюму ВС СССР, які адкрыта падтрымаў путч (Старшыня саюзнага парлямэнту Лук’янаў, хаця і быў ідэйным натхняльнікам перавароту, абышоўся двухсэнсоўнымі заявамі).

Малафееў ня быў дэпутатам ВС Беларусі, але як народны дэпутат СССР меў права на выступ. Здаецца, ён нават не запісваўся, а неяк падаў знак Дзямянцею, ўзьняў руку і імгненна, не чакаючы рашэньня Дзямянцея, ўпэўнена, як гаспадар, пайшоў да трыбуны. Ніколі раней ён не выступаў на сэсіі ВС, не лічыў гэта патрэбным – і вось выйшаў абараняць кампартыю.

І тут мы не стрымаліся. Сама манера паводзінаў Малафеева, іхны зьмест ўвасаблялі найвышэйшую ступень нахабства. Не згаворваючыся, некалькі дэпутатаў – Галіна Сямдзянава, Ігар Гермянчук, Барыс Гюнтэр, Віктар Ганчар, Яўген Глушкевіч, Аляксандар Лукашэнка ды я, усталі з крэслаў і рушылі да трыбуны. „Пайшоў вон”! „На месца!” – выразы былі экспрэсіўныя, але без „рукапрыкладаньня”. Малафеева мы пальцам не кранулі. Вось толькі адзін дэпутат зьвяртаўся



*Дэпутаты Апазыцыі БНФ праганяюць А. Малафеева з трыбуны.*

не да Малафеева, а да нас, імкнучыся „пагасіць страсьці” – Аляксандар Лукашэнка. Здаецца, ён нават адцясьніў Галіну Сямдзянаву ад трыбуны.

Малафееў быў вымушаны сысьці. Гэта было для дэпутатаў-камуністаў псыхалягічным шокам і магутным палітычным ударам – яшчэ ніколі за семдзесят зь нечым гадоў панаваньня кампартыі з асобай „нумар адзін” (фактычным кіраўніком БССР) такога не здаралася.

Пазьней Малафееў усё ж атрымаў магчымасьць выступіць. Ні слова пакаяньня, не намёку на адказнасьць, ні нават спробы неяк патлумачыць здраду, апраўдацца (не прызвычаіліся першыя сакратары ЦК апраўдвацца). Малафееў заявіў, што выходзіць з Палітбюро ЦК КПСС, і што кампартыя Беларусі будзе самастойнай (а за некалькі месяцаў да гэтага на зьезьдзе КПБ адрынаў ідэю стварэньня ўласнага, аўтаномнага ад КПСС Статуту). Не забыўся Малафееў і пра маёмасьць; як член Палітбюро ён хіба лепш за астатніх ведаў пра перапампоўваньне мільёнаў у падстаўныя фірмы і карпарацыі.

Мы працягвалі настойваць на адстаўцы Дземянцея, членаў Прэзыдыюму і спыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС. Нашы патрабаваньні падтрымала плошча – людзі перад Домам ураду не разыходзіліся, далучаліся новыя.

Нарэшце, Дземянцей зразумеў, што ня вытрымае ціску (да дэпутатаў Апазыцыі БНФ далучыліся Уладзімер Кавалёнак, Генадзь Карпенка і іншыя прадстаўнікі „дэмклюбу”). Ён заявіў, што падае ў адстаўку. Дземянцей выступаў эмацыйна, нават закасаў штаніну і прадэманстраваў голую нагу, у якую быў паранены ў дзяцінстве. Шушкевіч таксама быў расчулены. Сказаў, што шмат чаму навучыўся ў Дземянцея, што дзякуючы Дземянцею ў Беларусі не пралілася кроў. Чуць такое было дзіўнавата – у Беларусі адсутнічалі ўсялякія намёкі на міжэтнічныя ці нейкія іншыя ўзброеныя канфлікты.

Адстаўка Дземянцея з пасады старшыні ВС, якой мы дамагліся, была найважнейшым крокам ў справе дасягненьне Незалежнасьці Беларусі – пазьней у сваіх мэмуарах Дземянцей напіша:

„моей подписи под беловежскими соглашениями не стояло бы" (М. Дземянцей. „Уроки жизни", Менск. БЕЛТА, 2005 г., стар. 148.)

Таксама Шушкевіч, які з адстаўкай Дземянцея рабіўся вышэйшай службовай асобай, сказаў, што ня варта пачынаць паляваньня на вядзьмарак. Маўляў, ў людзей ёсьць сем'і, некаторыя проста не зарыентаваліся ў сытуацыі. Праз дзесяць год, і нават меней, гэтыя чыноўнікі цудоўна зарыентуюцца, падтрымаюць рэпрэсіі антыбеларускага лукашэнкаўскага рэжыму, а пра сем'і і дзяцей рэпрэсаваных, звольненых з працы ды абкладзеных вялізнымі штрафамі беларускіх патрыётаў хваляваецца ня будуць.

Дамагліся мы і спыненьня дзейнасьці КПБ-КПСС.

Галасаваньне было пайменным. Прыкметна, што ў галасаваньні па ключавых пытаньнях („Аб забесьпячэньні палітычнай і эканамічнай самастойнасьці", „Аб дэпартызацыі органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня Беларускай ССР, дзяржаўных прадпрыемстваў, установ, арганізацый і ўласнасьці камуністычнай партыі Беларусі і Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі Беларусі", аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ-КПСС на тэрыторыі Беларусі, па якіх дэпутаты Апазыцыі БНФ галасавалі „за", дэпутат Лукашэнка ўдзелу не прымаў. І ня проста не галасаваў (у пратаколе вынікаў насупраць тых дэпутатаў, якія не галасавалі, пазначана „Нг"). Лукашэнка наогул ня быў зарэгістраваны і адсутнічаў у залі, і насупраць ягонага прозьвішча адзнака „Ад" („адсутнічаў"). Варта дадаць, што галасаваньне па асноўных пунктах адбывалася ўвечары 25 жніўня, бліжэй да завяршэньня сэсіі. Некаторыя замест напружнай працы аддалі перавагу адпачынку ў гатэлі...

Нарэшце, надыходзіць час галасаваць аб наданьне Дэкляраці аб сувэрэнітэце статусу канстытуцыйнай сілы. Дэпутаты-камуністы ўжо прагаласавалі за спыненьне дзейнасьці КПБ-КПСС, дэпартызацыю. Здаецца, некаторыя зь іх ужо пачынаюць адыходзіць ад шоку і разумець, што занадта ўжо шмат, вельмі празьмерна саступілі сваім палітычным апанэнтам з Народнага Фронту.

Супраць наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статуса канстытуцыйнага закону выступіў дэпутат Лукашэнка.

„Лукашэнка А.Р.: В связи с тем. что вчера и сегодня Центральным Комитетом Компартия республики или по его инициативе вдруг, неожиданно, неспроста начал муссироваться вопрос о том, что Белоруссия должна стать исключительно суверенная государством, я хотел бы заявить следующее. Вчера Михаил Сергеевич, Горбачев, заявил, что партия должна самораспуститься.

Центральный Комитет нашей партии заявляет о суверенитете для того, чтобы бросить нам кость, пойти на какие-то „уступки", Я имею в виду прежде всего департизацию правоохранительных органов, органов государственной власти, и тем самым сохранить власть в Белоруссии, используя то, что в Верховной Совете и в Правительстве находится подавляющее большинство их сторонников. Этого позволить мы сегодня не должны.

Второе. Попытка государственного переворота и последовавшие за ним события создали в стране ситуацию, характеризующуюся быстрой эволюцией в сторону демократизации всех сфер жизни общества, В сложившейся ситуации критерием гражданской позиции каждого советского человека является его поведение во время драматических судьбоносных событий, позиция, занятая им. Тем важнее это для государственных деятелей, эа спиной которых Белоруссия с ее многомиллионным народом....

События последних дней и часов позволяют сделать вывод о том, что Белоруссия может оказаться в экономической и политической изоляции от России и других республик, занявшим четко выраженную позицию, характеризующуюся резким осуждением путчистов и попытки государственного переворота. По этой причине мы можем быть отвергнуты и Президентом страны Горбачевым, в результате чего окажемся на эадворках формирования новых органов управления Союза".

Паказальнае слова, ужытае для вызначэньня размовы аб сувэрэнітэце – „мусироваться", з пагардай і са зьдзекам. Канешне, ініцыятарам сувэрэнітэту ЦК камуністаў ніколі ня быў – проста у тыя дні ўжо было відавочна, што ідэі Народнага Фронту непазьбежна ўвасобяцца, і некаторыя з камуністаў імкнуліся „ўскочыць у цягнік". Заявы Лукашэнкі пра „адказнасьць" выявіліся пустой

Народным дэпутатам БССР
У. Дзямянцей 22.08.91 г.

**Прапановы дэпутацкай Апазіцыі БНФ**
**у павестку дня надзвычайнай сесіі**
**Вярхоўнага Савета БССР**
**24 жніўня 1991 г.**

1. Аб дзеяньнях Старшыні Вярхоўнага Савета БССР у час спробы дзяржаўнага перавароту ў СССР

2. Аб дзеяньнях членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР і службовых асобаў рэспублікі ў час перавароту

3. Аб дзеяньнях грамадска-палітычных арганізацый у час спробы дзяржаўнага перавароту

4. Аб наданьні канстытуцыйнага статуса Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР

5. Аб зьменах у артыкуле 72 Канстытуцыі БССР

6. Аб Саюзным дагаворы

7. Аб асноўных пытаньнях павесткі дня пятай сесіі Вярхоўнага Савета БССР

...АТАРЫЯТ ...ГА САВЕТА БССР
22 08 1991
5СС/7663
...ЛЬНЫ АДДЗЕЛ

Старшыня дэпутацкай Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце БССР Зянон Пазьняк

22 жніўня 1991 г.

(Архіў С. Навумчыка)

*Прапановы Апазыцыі БНФ у парадак дня Надзвычайнаў Сэсіі ВС 24 жніўня 1991 г.*

рыторыкай у кантэксьце ягоных наступных дзеяньняў – члены Прэзыдыюму ВС, якія падтрымалі путч, пад час ягонага прэзыдэнцтва былі прызначаныя віцэ-прэм'ерамі, міністрамі і амбасадарамі. Галоўным у гэтым выступе была якраз спроба перашкодзіць прыняцьцю беларускай Незалежнасьці. Лукашэнка не ўспрымаўся значнай часткай дэпутатаў сурьёзна, але выказаныя ім тэзы маглі запасьці ў галовы тых, хто ў пытаньні сувэрэнітэту вагаўся і, такім чынам, паўплываць на вынікі галасаваньня.

Рашэньне магло і не набраць належнай колькасьці галасоў (а патрабавалася ня простая, а „кваліфікаваная", „канстытуцыйная" большасьць – дзьве траціны дэпутатаў).

Больш таго: Шушкевіч, прапанаваўшы „давайце заканчваць нашу работу", выказвае сумнеў у станоўчым выніку галасаваньня: „Вы ведаеце, канстытуцыйная большасьць патрэбна нам. Я б хацеў зьвярнуць вашу ўвагу, што вельмі цяжка гэта пытаньне нават пры самых станучых аносінах вырашыць".

Казаць такое было а ні ў якім разе нельга, бо значная частка дэпутатаў пры галасаваньні (па любых пытаньнях) кіравалася эмоцыямі і была схільная падтрымліваць пазыцыю таго, хто вёў сэсію (не істотна, быў гэта Дземянцей, Шушкевіч, ці вёў сэсію нехта з намесьнікаў). Цяпер жа, пасьля двух дзён нэрвовага напружаньня, дэпутаты папросту былі стомленыя, і нехта мог падумаць – „ну, калі гэта нерэальна, дык навошта галасаваць" (адсотак тых, хто не галасаваў ці ўстрымліваўся, таксама заўсёды быў значны).

І тут раптоўна, ад мікрафону, выступіў Пазьняк. Гэты выступ у лёсе Беларусі адыграў вызначальную ролю, таму прывяду яго цалкам.

Пазьняк З.С. „Я хачу зрабіць некалькі заўваг па гэтаму пытаньню, паколькі тут у зале выступалі некаторыя дэпутаты, у прыватнасьці, дэпутат Лукашэнка, які проста заблытаў гэтае пытаньне.

Справа ў тым, шаноўныя калегі, што зараз мы ўступілі ў прынцыпова новую сытуацыю. Усе рэспублікі вакол нас аб'явілі аб сваёй нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці. У тым ліку ўчора гэта зрабіла Украіна. Практычна пытаньне аб Саюзным дагаворы здымаецца на нейкі пэрыяд. Саюз існуе толькі намінальна. І калі ў гэтай сытуацыі мы не прымем адпаведнага закона аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, мы трапім у вельмі кепскае становішча. Таму што тыя рэспублікі, якія вакол нас, яны будуць разьвівацца, і разьвівацца як нацыянальныя дзяржавы на прынцыпова новай аснове. Яны ідуць да рынку, у іх будзе больш мабільная эканоміка, і мы трапім у непасрэдную залежнасьць ад гэтых рэспублік. Тым больш, я ў сваім дакладзе гаварыў (а я дастаткова добра знаёмы з расейскай дэмакратыяй на працягу многіх гадоў) і з усёю адказнасьцю магу сказаць, што на Усходзе ў нас фармуецца маладая агрэсіўная імпэрыя ў форме дэмакратыі. Тыя дэмакраты, якіх мы добра ведаем, не прызнаюць фактычна нас як нацыю, яны не глядзяць на нас, як на асобную дзяржаву і на асобную тэрыторыю, а глядзяць на нас, як на вотчыну, на якую яны маюць пэўнае права.

На вялікі жаль, гэта так. І менавіта зыходзячы з гэтых меркаваньняў, я неаднойчы выказваўся і пісаў аб тым, што я сумняваюся ў дэмакратычным характары будучай Расеі. Таму што асноўны прынцып дэмакратыі – гэта прызнаньне права нацыі на самавызначэньне. Калі ў грамадстве існуе імпэрская мэнтальнасьць, дасягнуць дэмакратыі поўнасьцю вельмі цяжка. І тыя высновы, якія мы можам зрабіць зараз, сутыкаючыся з палітыкай з Усходу, прыводзяць нас да думкі, што зараз нам, каб выратаваць наш народ, нашу эканоміку, абавязкова патрэбен дзяржаўны сувэрэнітэт. Тыя хуткія тэмпы, якімі зараз пойдуць разьвівацца дзяржавы, якія заснаваны на дзяржаўнай незалежнасьці, яны прывядуць да таго, што іхняя эканоміка высмакча з нашай рэспублікі рабочую сілу, высмакча тавары. І калі ў нас ня будзе сваёй валютнай сыстэмы (а мы можам яе мець толькі тады, калі будзем мець нацыянальную незалежнасьць), мы трапім у вельмі цяжкае эканамічнае і залежнае становішча. Ужо Расія некалькі тыдняў назад паведаміла, Ельцын паведаміў аб тым, што зьбіраецца павысіць цэны на нафту. Гэта быў у пэўнай ступені шантаж нашай Рэспублікі. І ён быў ня першы раз.

Калі мы не будзем мець дзяржаўнай незалежнасьці, ня зможам свае рэсурсы, свае ўсе сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народа і нашай дзяржавы, мы не зможам супраць-

стаяць гэтай палітыцы. А яна будзе, і будзе абавязкова.

Мы ўступаем у новы стан дзяржаўных узаемаадносінаў. Таму, шаноўныя калегі, я вельмі вас прашу, паколькі палітычная абстаноўка зьмянілася рэзка і хутка і некаторыя з нас не пасьпелі яе адразу ацаніць, я заклікаю ўсіх дэпутатаў зараз ацаніць гатую абстаноўку самым належным чынам. Таму што ўсялякае замаруджваньне пойдзе нам на шкоду.

Ня трэба баяцца, што тут, як казалі некаторыя дэпутаты, узьнікне Альбанія, Куба, Карэя. Нічога падобнага. Працэсы, якія пайшлі ў нас, нават ход нашай сэсіі пацьвярджаюць: яны неабарачальныя, яны ідуць на карысьць нашаму грамадзтву. А сувэрэнітэт дасьць нам магчымасьць стаць свабоднымі і незалежнымі, дасьць нам магчымасьць разьвіць тыя асновы, якія мы закладваем, ідучы да рэформ. Я прашу вас паставіць гэтае пытаньне і вырашыць яго сёньня. Бо заўтра можа быць позна. Нас тут ня вельмі многа, і патрэбна канстытуцыйная большасьць. Таму я вырашыў выступіць перад вамі, і, можа, для некаторых было гэта нечаканым. Але я дастаткова добра ведаю, якія ўзаемаадносіны ў тых маладых структурах, якія зараз нараджаюцца. І калі мы спаткаемся зь імі потым, не падрыхтаваўшыся, мы проста апынемся ў невырашальным стане. Дзякуй за ўвагу".

Гэты выступ Пазьняка потым шматкроць крытыкаваўся лібэральнымі публіцыстамі – у тыя дні Ельцын у грамадзтве (як і ва ўсім сьвеце) успрымаўся выключна як абаронца дэмакратыі, пераможца ГКЧП і камунізму, і было проста немагчыма ўявіць, што дэмакратычную рыторыку выцесьняць імпэрскія амбіцыі. Павінен прызнацца, што ў тыя сэкунды і ў мяне ўзьнікла думка – „Навошта ён так пра Ельцына? Ельцын цяпер на піку папулярнасьці" (потым даведаўся, што быў не адзіным дэпутатам БНФ, хто так падумаў. Але ў той момант у Пазьняка не было магчымасьці раіцца з намі. Усё вырашалі сэкунды).

Тут зноў жа падкрэслю, што дэпутаты-камуністы былі супраць незалежнасьці Беларусі, але баяліся трапіць пад уладу Ельцына (які забараніў КПСС у Расеі), а на Гарбачова яны ўжо не спадзяваліся. Спадзяваўся хіба адзін Лукашэнка, пра што і сьведчыў ягоны істэрычны выступ. Некаторыя стаялі на раздарожжы і ня ведалі што рабіць. Задача выступу Пазьняка перад самым галасаваньнем – напалохаць камуністаў Ельцыным, каб прыдбаць больш галасоў за незалежнасьць. І настроіць залю галасаваць цяпер, не адкладаючы на „потым" (гэтага „потым", як паказалі падзеі наступных месяцаў, магло і ня быць). Гэтую тактычную мэту Пазьняк выдатна рэалізаваў, што пацьвярджаюць выступы нашых апанэнтаў.

У палітыцы вельмі важная здольнасьць аналізаваць зьявы, вызначаць правільныя мэты і пасьлядоўна дамагацца іх рэалізацыі, Гэтаму, напэўна, можна навучыцца з вопытам. А вось палітычнай інтуіцыі навучыцца нельга. Можна правільна растаўляць словы і сказы – але каб напісаць „Лілеі" ці „Знак бяды", трэба быць Барадуліным ці Быкавым.

Можна стварыць партыю і нават прывесьці яе да ўлады – але для стварэньня дзяржавы патрабуюцца іншыя якасьці. Шмат разоў у Вярхоўным Савеце (але ня толькі ў ім) Пазьняк рабіў крокі, якія маглі падавацца спантаннымі, нечаканымі, нават супярэчнымі традыцыйнай лёгіцы падзеяў – але потым, пры спакойным аналізе, яны падаваліся адзіна правільнымі і адзіна магчымымі. Як мінімум двойчы (у ліпені 1990-га, пад час прыняцьця Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, і ў жніўні 1991-га, пры наданьні ёй статусу канстытуцыйнай сілы), гэтыя крокі вызначылі лёс Беларусі (Інтуіцыі не пазбаўлены і Лукашэнка, але ў яго яна накіраваная выключна на ўласнае палітычнае самавыжываньне – тым часам як інтуіцыя Пазьняка накіраваная на выжываньне Беларусі).

Адразу пасьля Пазьняка ўстае дэпутат Міхаіл Мачуленка, другі сакратар Гомельскага абкаму партыі – не выходзячы да трыбуны, непасрэдна з сэктару заяўляе, што „я стопроцентно поддерживаю народного депутата Пазьняка и предлагаю здесь же, сейчас же, проголосовать за то, что он сказал (апладысмэнты)".

Старшыня камісіі па заканадаўству Дзьмітры Булахаў заяўляе: „Уважаемые народные депутаты! Я боюсь в ваших глазах выглядеть ретроградом, но я стараюсь обосновывать все ваши действия. Я ставлю вас в известность, а дальше принимайте решения сами. Мы нарушаем Конституцию республики".

Выступае старшыня Віцебскага аблвыканкаму Уладзімер Кулакоў: „Я бы просил тоже поддержать вопрос о том, чтобы мы приняли это решение, потому что, действительно, положение в экономике сегодня такое, что если нам сейчас не защитить экономически и политически республику, будет хаос и республика пойдёт к экономическому краху”.

Старшыня Саўміну Вячаслаў Кебіч: „Я только что имел разговор с очень высокопоставленным руководителем России, и должен призвать вас после этого разговора именно принять такой закон, потому что обстановка подписания союзного договора резко изменилась. Вряд ли такое подписание в ближайшее время вообще состоятся (а ўжо праз некалькі дзён праца над „саюзнай дамовай” аднавілася зь яшчэ большым ціскам Гарбачова і сваёй гульнёй Ельцына – вось чаму прымаць рашэньне трэба было адразу. На верасьнёўскай сэсіі, як, магчыма, плянаваў Шушкевіч, магло б і не прайсьці. Закон аб сьцягу і гэрбу прайшоў голас у голас, але для яго патрэбна было на шэсьцьдзесят галасоў менш, чым для Дэклярацыі, бо канстытуцыйнае пытаньне прымалася двума трацінамі дэпутатаў – С.Н.). Поэтому я тоже призываю вас найти такую форму, чтобы не нарушать Конституцию (а адзіным спосабам якраз і было наданьне Дэклярацыі статусу Канстытуцыйнай сілы – С.Н.) Но такой закон надо сегодня принять (апплядысмэнты)”.

Былы першы сакратар Ваўкавыскага райкаму Міхаіл Жэбрак: „Я до вчерашнего дня стоял за обновлённый союзный договор. Но после вчерашнего дня, то, что произошло на Украине, меня заставляет сделать заявление о том, что если мы сегодня не примем такой закон, то, что предлагает Зенон Станиславович, то надо принять тогда решение о входе Западного края в состав Российской Федерации. Другого выхода нет. И Белоруссия не будет существовать, потому что тогда Белоруссии абсолютно не будет”

Вось ужо і Шушкевіч заяўляе, што раней „лічыў, што гэта будзе неканстытуцыйнай зьявай, што мы зробім нейкія юрыдычныя складанасьці і гэтай далей. Але чакаць немагчыма”.

Пазьняк ізноў бярэ слова і па пунктах зачытвае праект, падрыхтаваны дэпутатамі Апазыцыі БНФ, «якая ў пэўнай ступені ўдакладняе тыя заўвагі, якія нам выказаў шаноўны дэпутат Булахаў. Праект Апазыцыі, дарэчы, прадугледжвае і „нулявы варыянт” ў дачыненьні да „агульнасаюзнай „уласнасьці, і стварэньне камітэту па вызначэньні долі рэспублік-правапераемніцаў СССР у абавязальніцтвах і ўласнасьці (пазьней адзінай правапераемніцай абвесьціць сябе Расея, забраўшы і залаты, і алмазны запас, і ўсю маёмасьць за мяжой). Але супраць выступіў дэпутат Віктар Ганчар, заявіўшы – „что касается развёрнутых предложений Оппозици, то это уже вопросы, относящиеся к механизму реализаци Декларации о суверенитете”. А варта было б прыняць нашыя прапановы, бо, прагаласаваныя канстытуцыйна, яны б праз некалькі месяцаў абавязалі і Шушкевіча, і кіраўніка ўраду Кебіча, і міністра замежных спраў Краўчанку на сустрэчы ў Алма-Аце ў сьнежні 1991-ага і іншых самітах патрабаваць долі Беларусі ў „агульнасаюзнай” маёмасьці; магчыма, і ў структуры распрацоўкі нафты і газу.

Пачынаецца галасаваньне. „За” галасуюць 253 дэпутаты з 265 прысутных (для станоўчага рашэньня трэба было 232, дзьве трацінь ад агульнай колькасьці абраных дэпутатаў).

У 20 гадзін 08 хвілінаў Беларусь вяртае Незалежнасьць.

Спраўджваецца мара пакаленьняў змагароў за свабоду беларускага народа.

Літаральна на наступныя дні пачаліся абвінавачваньні з боку розных прамаскоўскіх лібэралаў, што, маўляў, камуністы „скарысталі” БНФ, каб захавацца пры ўладзе, пагадзіўшыся прагаласаваць за Незалежнасьць і тым самым утварыць „камуністычны запаведнік”. Рэальнасьць жа была іншай – якраз дэпутаты Апазыцыі БНФ скарысталі разгубленасьць камуністаў, каб дасягнуць найвялікшай мэты, за якую пакаленьні беларусаў плацілі жыцьцямі. Была адноўленая Незалежнасьць, фактычна, утварылася новая дзяржава. Усё астатняе перад гэтай мэтай выглядае другасным.

На сэсіі была ўтвораная Часовая камісія па ацэнцы дзеяньняў членаў ГКЧП і грамадзка-палітычных ўтварэньняў, органаў дзяржаўнай улады і кіраваньня, службовых асобаў і грамадзянаў, якія падтрымалі путч. Кіраўніком камісіі быў абра-



***Першая ноч незалежнасьці перад Вярхоўным Саветам.***

ны дэпутат Апазыцыі БНФ, афіцэр міліцыі Ігар Пырх.

Заклікі „не распачынаць паляваньне на вядзьмарак” пачалі гучаць яшчэ на сэсіі; гучалі яны і ў прэсе.

„... Сочачы за тым, як праходзіла нечарговая сэсія Вярхоўнага Савета Рэспублікі, з жалем канстатаваў, што асобным народным дэпутатам яўна не хапала тактоўнасьці і культуры паводзін. Лічу, што, абмяркоўваючы ўдзел камуністычнай партыі ва ўказаных падзеях, трэба правесьці нейкі водападзел. І ня толькі ў адносінах да камуністаў, сярод якіх многа сумленных людзей, але і да ўсіх дзяржаўных і гаспадарчых кіраўнікоў, якія па-рознаму паводзілі сябе ў гэтыя трывожныя дні. І нельга тут дапускаць разгулу страсьцей натоўпу, а яны ўжо пачынаюць дзе-нідзе ўсё больш актыўна праяўляць сябе. Няўжо і гэта – культура? Не, гэта пена на хвалях дэмакратыі ..” В. Слуцкі, вадзіцель Гомельскай аўтабазы нумар 1.” („Звязда”, 27 жніўня 1991 г.; просты слуцкі кіроўца пасьпеў прааналізаваць сэсію, напісаць ліст і даставіць яго ў рэдакцыю да выхаду нумару – не інакш, асабіста. А супрацоўнікі газэты імгненна падрыхтавалі яго да друку. І ўсё гэта – за адзін дзень (калі Інтэрнэту ў Беларусі яшчэ не было).

„Дэмагагічна гучалі на сэсіі заявы тых членаў Прэзыдыюму, якія сваю дваістую, згодніцкую пазыцыю тлумачылі выключна клопатам аб спакоі і захаваньні парадку на Беларусі. Ня выключана, што ў хуткім часе газэты пачнуць пісаць і пра цкаваньне былых партыйных сакратароў, а то і простых камуністаў. Усё гэта ўжо было ва Усходняй Эўропе, ёсьць у Прыбалтыцы. Няўжо чужы вопыт нічому нас не навучыў?» – пытаўся Валянцін Жданко ў артыкуле „Ня плюйце ў твары партакратам!” (тая ж «Звязда», 27 жніўня 1991 г.).

Як вядома, хваляваньні былі дарэмныя – ніхто нікога не цкаваў. Ігар Пырх публічна заявіў, што «паляваньня на вядзьмарак» ня будзе. Ён сур’ёзна ўзяўся за справу, праз некалькі месяцаў зрабіў папярэднюю справаздачу, у выніку якой парлямэнцкая большасьць палічыла за лепшае спыніць працу камісіі.

Для нас, дэпутатаў Апазыцыі БНФ, з завяршэньнем сэсіі пачынаўся новы этап працы – трэба было ствараць уласную грашова-фінансавую сыстэму, уласнае войска, памежныя службы, неадкладна распачынаць рынкавыя рэформы, каб

стварыць гарантыі сувэрэнітэту і пазбавіцца залежнасьці ад Масквы.

...Гэта была самая кароткая – і самая вызначальная сэсія Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня; магчыма, у гісторыі Беларусі ёй будзе адведзенае месца адной з найвялікшых гістарычных падзеяў 20-га стагодзьдзя. Яна запатрабавала ня толькі інтэлектуальнай, але і нэрвовай, эмацыйнай напружанасьці і вялікай палітычнай працы.

А на плошчы перад Домам Ураду не разыходзіўся народ – тысячы людзей пад Бел-Чырвона-Белымі Сьцягамі віталі Незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны.

„Я не чакаў, што мы так дружна і так слаўна закончым сэсію – заявіў Станіслаў Шушкевіч журналістам БЕЛТА. – Прынятыя законы – самая вялікая радасьць і нечаканасьць. Мне нават хочацца верыць, што адпадзе пытаньне аб новых выбарах...Паглядзіце на твары народных дэпутатаў. Яны сталі іншымі, яны шчасьлівыя. Я знаходжу гэта цудоўным. А цяпер, прабачце, сьпяшаюся на маскоўскі цягнік”...

## ЧАМУ НЕ БЫЛО ШТУРМУ

І тут ёсьць адна важная акалічнасьць – запатрабаваўшы адыходу з палітычнай сцэны намэнклятуры, забароны КПБ–КПСС, Пазьняк у першы ж дзень аднаўленьня незалежнасьці зьвярнуўся да „былых камуністаў” з заклікам далучыцца да стваральнай працы па адбудове дзяржаўнасьці. Нам была абсалютна зразумелая неабходнасьць пазбаўленьня былых камуністаў вышэйшых кіраўнічых пасадаў. Аднак у кампартыі было больш за паўмільёна чалавек – і нельга было забараніць ім працаваць паводле спэцыяльнасьці.

У верасьні Сойм БНФ прыняў адмысловы Зварот „Да былых камуністаў”, дзе было сказана: „Заклікаем вас да стваральнай працы дзеля пабудовы нармальнага дэмакратычнага грамадзтва, рынкавай эканомікі, дзеля адраджэньня беларускае культуры, мовы, нацыянальнае сьвядомасьці. Зараз, як ніколі, патрэбнае яднаньне ўсіх грамадзянаў нашае Рэспублікі ў адстойваньні незалежнасьці. Мінулае не павінна падзяляць наш народ”.

Гэтыя заклікі Пазьняка і Сойму БНФ не надрукавала ніводнае афіцыйнае выданьне, пра іх ўвогуле ня ўзгадваюць. Намэнклятуры, старой ды новай, было куды выгадней выдумваць і ляпіць з Пазьняка чалавека, які „будзе страляць ды вешаць камуністаў” (пройдзе час, і былыя камуністы ў лукашэнкаўскіх структурах будуць звальняць людзей з працы за адну толькі прыналежнасьць да Народнага Фронту).

Паказальная пазыцыя лібэральных (прамаскоўскіх) „агульнадэмакратычных” публіцыстаў, якая выявілася ў тым ліку і ў дыскусіі ў расейскамоўнай газэце „Знамя юности”.

„Такім чынам, мы свабодныя і незалежныя... Але чаму, чаму, вяртаюся я да ранейшай думкі, няма народнай радасьці, таго, што называюць грамадзкім уздымам? – пытаўся Сямён Букчын у артыкуле ў „Знамя юности” за 27 жніўня, – Незалежнасьць Рэспублікі мы атрымалі з потных рук партакратычнай большасьці ў Вярхоўным Савеце... І гэта абражае маю годнасьць грамадзяніна”.

„Сама ідэя сувэрэнітэту не вінаватая ў тым, што да яе прысмакталася розная камуністычная шваль. Мне асабіста ўсё роўна, з чыіх рук атрыманыя свабода і незалежнасьць”, – адказаў яму Віталь Цыганкоў. „Вас задавальняе намэнклятурна-партыйная сувэрэнізацыя Беларусі?.. Можна сотні разоў заклікаць да прыватызацыі, да рынку і г.д., але вызначаць гэтыя працэсы, тым ня менш, будзе тая ж намэнклятура. І Ваш, Віталь, чэкісцкі заклік „быць пільнымі”, каб „яны не скарысталі наш сувэрэнітэт”, абсалютна бясплённы. Яны ім ужо скарысталіся. І вельмі звыкла і своечасова”, – пісаў Букчын.

Букчын ня бачыў (дакладней, не пажадаў бачыць), што сувэрэнітэту дамаглася не партнамэнклятура – гэта было якраз патрабаваньне тысячаў людзей на плошчы. Не сказаў ён ні слова й пра тое, што Апазыцыя БНФ, дамогшыся суверэнітэту, запатрабавала і адставак, і новых выбараў.

Ну, а тое, што за сувэрэнітэт прагаласавалі і „рукі партакратыі” (пад страхам і прымусам) – дык такі ўжо быў на той момант Вярхоўны Савет (зрэшты, ні раней, і ні пазьней лепшага і не было). Мы якраз і скарысталі парляманцкі мэханізм, у тым ліку і „рукі партакратыі” (у дадзеным выпадку мэханізм палітычнага ціску), каб шляхам

галасаваньня канстытуцыйна зацьвердзіць незалежнасьць.

Дзякуй Богу, што нам удалося здабыць незалежнасьць палітычным, парляманцкім мэтадам.

Гісторыя, аднак, ведае багата прыкладаў, калі сувэрэнітэт дасягаўся зусім іншымі спосабамі, коштам сотняў і тысячаў ахвяраў, коштам крыві. У некаторых нацыяў такое змаганьне цягнецца дзесяцігоддзямі, а колькасьць палеглых пры гэтым вымяраецца дзесяткамі тысячаў.

Паўтараю, што ў нас не было ніякай магчымасьці зьмяніць кадры вышэйшай ўлады ў Менску і ў рэгіёнах. Пры тым, што палітычныя патрабаваньні пра такую зьмену ў тыя жніўеньскія дні мы выказалі – і з парляманцкай трыбуны, і праз СМІ.

Былі вычарпаныя ўсе легальныя спосабы – заставаліся нелегітымныя.

А менавіта тыя, якія, паводле меркаваньня некаторых сёньняшніх камэнтатараў, мы маглі б скарыстаць: заклікаць да захопу будынкаў ЦК, КДБ, сілавых міністэрстваў.

Што да ЦК – дык разам зь Сяргеем Антончыкам і Валянцінам Голубевым мы літаральна выкінулі Малафеева з кабінэту першага сакратара (былы машэраўскі, потым – шушкевічаўскі, а цяпер лукашэнкаўскі кабінэт). Будынак ЦК быў апячатаны.

Для захопу ж іншых месцаў нам неабходны былі зусім ня тыя сілы, на якія мы маглі разьлічваць. Па Мінабароны і па КДБ Вярхоўным Саветам не было прынята ніякага рашэньня, але галоўнае – ні КДБ, ні Мінабароны яшчэ юрыдычна не знаходзіліся ў падпарадкаваньні Менска (так было да сьнежня 1991-га, да Віскулёў. У Летуве абаронцы Вярхоўнага Савета мелі хоць нейкую зброю – у нас яе не было абсалютна. У нас не было нават дзясятка ўзброеных людзей, нават аднаго чалавека.

Не было ніякай гарантыі, што не пачнецца страляніна па тых, каго б мы падштурхнулі на захоп будынкаў (фактычна, па моладзі, па жанчынах і дзецях, якія сабраліся на плошчы Незалежнасьці). Таму ўсе гэтыя развагі пра „захопы" – зь ліку падлеткавых уяўленьняў і нерэальных варыянтаў.

А вось што было рэальна ў тыя дні – гэта выяўленьне палітычнай волі Станіслава Шушкевіча, які пасьля адстаўкі Дзямянцея заняў найвышэйшую ў краіне пасаду і атрымаў непараўнальна большыя магчымасьці, чым лідэр Апазыцыі Пазьняк. Аднак Станіслаў Станіслававіч імгненна пачаў шукаць „згоду" з тымі, хто праз два гады адправіць яго ў адстаўку.

## НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ – ВЫНІК ЗМАГАНЬНЯ ПАКАЛЕНЬНЯЎ

Ёсьць і яшчэ адна прыдумка, якая раз-пораз гучыць падчас ацэнак падзеяў 1991 году, гэта: „беларусам незалежнасьць звалілася зь неба", бо „ўсё вырашылі падзеі ў Маскве".

Паказальныя ў гэтым сэнсе словы таго ж Акудовіча: „Плыня таго бурапеннага часу самахоць рабіла патрэбную нам справу, яна сама разбурыла бэрлінскую сьцяну, камуністычны блёк, Савецкі Саюз... Дарэчы, менавіта ў эпохі тэктанічных пертрусаў найлепей бачная ўся пустата ды нікчэмнасьць палітыкі і палітыкаў. Нічога яны... не маглі тады зрабіць: ні стрымаць вялікага распаду, ні скіраваць яго ў патрэбнае ім рэчышча... Бадай тут якраз да тэмы будзе згадаць, што бліскучае ўмельства прыўлашчваньня чужога як свайго напрыканцы 80-х – у першай палове 90-х прадэманстраваў Зянон Пазьняк. Ён, ачоліўшы нацыянальна-дэмакратычны рух, які фармаваўся літаральна на маршы, на ўсе сто (ці мо і значна болей) адсоткаў скарыстаўся плёнам расейскай дэмакратычнай публіцыстыкі, прыбалтыйскіх народных франтоў, заходняй прапаганды і дыпляматыі, інтэлектуальным наробкам і палітычнай энэргіяй ўласна дэмакратычнай і лібэральна настроенай інтэлігенцыі", – гаворыць Акудовіч і далей абвяргае сам сабе: „Калі б слова „геній" можна было дастасоўваць да палітыка, то трэба было б прызнаць, што ў тую пару Зянон Пазьняк быў геніяльным палітыкам, паколькі скарыстаўся з сытуацыі значна больш, чым яна мела ў сваім патэнцыяле для нацыянальна-вызвольнага руху" („Свободные новости", 25 красавіка 2002).

З практычнага гледзішча, такі падыход лягічна павінен прывесьці да высновы, што ніякая палітычная дзейнасьць, ніякае змаганьне не патрэб-

ныя ўвогуле. Напрыклад, змаганьне з дыктатурай: усё адно, рана ці позна, кожнага дыктатара прыбірае Бог.

Навідавоку і перакручваньне фактаў: калі ж гэта „расейская лібэральная публіцыстыка” хоць слова напісала пра неабходнасьць сувэрэнітэту Беларусі ці адраджэньня беларускай мовы? Наконт жа выкарыстаньня Пазьняком інтэлектуальнага наробку нацыянальнай эліты пагаджуся, дадаўшы сюды, праўда, і ранейшыя пакаленьні – а інакш і быць не магло, бо дасягненьне сувэрэнітэту было марай і мэтай і Каліноўскага, і Купалы...

Зрэшты, у мяне няма жаданьня камэнтаваць супярэчлівыя сэнтэнцыі гэтага літаратара – здаецца, большасьць ягоных тэкстаў якраз і пабудаваная на прынцыпе абсурду, і калі знаходзяцца ахвотныя чытаць і ўспрымаць падобнае – дык калі ласка. Іншая справа, што гэты экстравагантны прынцып абсалютна некарэктны для аналізу рэальных палітычных падзеяў.

Але ёсьць і сур’ёзныя дасьледчыкі, якія грунтуюцца не на аргумэнтах кшталту „плыні бурапеннага часу”, а на аб’ектыўным і цьвярозым дасьледаваньні магчымых варыянтаў – і вось такія выказваньні вартыя аналізу.

Так, у якасьці пацьверджаньня фармулёўкі „сувэрэнітэт зь неба” прыводзіцца прыклад рэспублік, дзе нацыянальна-вызвольныя рухі практычна адсутнічалі – але, вось жа, пасьля жніўня 1991 году і яны атрымалі сувэрэнітэт.

Пры аналізе прычынаў распаду любой імпэрыі цяжка аспрэчваць важнасьць падзеяў у яе сталіцы. Гісторыя ж ведае і выпадкі, калі тэрыторыі адна за другой адвальваліся, але цэнтар працягваў выконваць свае імпэрскія функцыі, і таму краіна захоўвала ўсе прыкметы імпэрыі (такой застаецца Расейская Фэдэрацыя). Падзеі ў Маскве ў жніўні 1991-га, бясспрэчна, мелі вызначальны характар як сыгнал да распаду імпэрыі – але трэба ўлічваць, што шмат у чым яны самі былі перадвызначаныя сытуацыяй у тагачасных саюзных рэспубліках (ідэі народнага фронту, суверэнітэту і выхаду з СССР нарадзіліся і пайшлі з Эстоніі, у гэты час у Маскве яшчэ казалі пра „перабудову”).

Найперш гэта вызначалася нацыянальна-вызвольнымі рухамі, якія дамагаліся сувэрэннасьці сваіх рэспублік, і Ельцын быў вымушаны ўлічваць такія настроі. Менавіта на гэтых тэндэнцыях, дарэчы, і згуляў Ельцын падчас амаль чатырохмесячнага (жнівень–сьнежань 1991-га) супрацьстаяньня з Гарбачовым, які спрабаваў фарсіраваць падпісаньне „саюзнай дамовы” (так званы „новаагароўскі працэс”). Ужо не кажу пра тое, што менавіта падзеі ў Курапатах на Дзяды 1988 году сталіся ці ня першым гучным масавым выступам на тагачасных „імпэрскіх ускраінах”, першым гучным сыгналам Маскве аб зьмярканьні савецкай імпэрскай эры.

Уласна, Масква толькі на некалькі дзён аслабіла імпэрскія ланцугі – і мы гэтым імгненна скарысталіся. Ну, а калі б не скарысталіся?

Не запатрабуй дэпутаты Апазыцыі БНФ неадкладнага наданьня Дэклярацыі аб сувэрэнітэце статусу Канстытуцыйнай сілы – зусім верагодна, што захаваўся б „статус кво”; прыгадаем, што лідэр кампартыі Малафееў (а камуністы былі ў ВС у большасьці) казаў толькі пра эканамічную самастойнасьць рэспублікі. І менавіта з боку Апазыцыі БНФ ішоў штодзённы прэсінг на Станіслава Шушкевіча ўсе тыя месяцы, што папярэднічалі Віскулям – з патрабаваньнем не падпісваць гарбачоўскую „саюзную дамову”.

Без канстытуцыйнасьці Дэклярацыі Масква магла б утрымліваць Беларусь як частку сваёй тэрыторыі – пры поўнай згодзе Захаду (ён і згаджаўся з гэтым аж да Віскулёў). Ці былі ў Масквы сілы нэўтралізаваць у такой сытуацыі (пры згодзе Захаду) нацыянальна-вызвольныя выступы ў Беларусі? Бясспрэчна, былі.

У падобных сытуацыях істотнае значэньне мае пазыцыя сілавых структур і, найперш, войска. Неўзабаве пасьля аднаўленьня незалежнасьці было ўтворанае міністэрства абароны і быў прызначаны выканаўца абавязкаў міністра (генэрал Пятро Чавус). Аднак міністэрства складалася з некалькіх кабінэтаў. А арміі і дывізіі ўсё яшчэ знаходзіліся ў падпарадкаваньні начальніка акругі генэрала Кастэнкі, які непасрэдна падпарадкоўваўся маскоўскаму Генштабу. І на камандзе з Масквы апошні дзейнічаў бы гэтак, як ён і дзейнічаў у дні ГКЧП – у інтарэсах Масквы. Падобным чынам паводзіў сябе ў Малдове расейскі генэрал Лебедзь – і Маскве ўдалося, фактычна, адкалоць Прыднястроўе.

У Беларусі было моцнае войска, якое, акрамя стратэгічных ракетных ды дапаможных фармаваньняў, складалася з трох танкавых арміяў (гэта дзевяць танкавых і мотастралковых дывізыяў). Эфэктыўнасьць выкарыстаньня такіх войскаў для задушэньня пратэстных выступаў была пацьверджаная ў Будапэшце, Празе і ў некалькіх меншых маштабах у Польшчы. У студзені 1991 году ў Вільні тактыка не спрацавала, але толькі таму, што на абарону парляманту выйшла некалькі соцень тысяч мірных літоўцаў (у тыя дні я быў у літоўскім парляманце і ведаю, пра што кажу). У Менску столькі б людзей на абарону намэнклятурнага Вярхоўнага Савета ня выйшла – зрэшты, войскам і не спатрэбілася б яго штурмаваць, калі б ён заняў (а ён потым і заняў) прамаскоўскую пазыцыю.

Некаторыя „агульнадэмакратычныя” палітолягі, імкнучыся зьменьшыць значнасьць канстытуцыйнасьці Дэкларацыі аб сувэрэнітэце, супрацьпастаўляюць ёй як лёсавызначальную падзею падпісаньне Віскулёўскіх пагадненьняў.

Калі ўжо разглядаць падзеі ў такім ракурсе, дык ёсьць некаторыя акалічнасьці, якія ніяк не дазваляюць ўспрымаць 25 жніўня 1991 году як другарадную падзею ў параўнаньні з Віскулямі.

Маю на ўвазе дакумэнты сакрэтных фондаў, якія нядаўна былі абнародваныя.

Ніводны аналітык ня будзе аспрэчваць ролю сілавых, рэпрэсіўных структураў у працэсе стрымліваньня сувэрэнізацыі рэспублік былога СССР. На працягу дзесяцігодзьдзяў выступы нацыянальных сілаў падаўляліся з рознай ступеньню жорсткасьці. Прыклады – кастрычнік 88-га ў Менску, красавік 89-га ў Тбілісі, Баку на пачатку 1990-га; нарэшце, нават шматтысячны выступ літоўцаў у студзені 91-га быў задушаны спэцвойскамі КДБ.

Аднак аналіз абнародаванных фондаў ЦК КПСС і КДБ СССР паказвае, што ў канцы 80-пачатку 90-ых гадоў рэпрэсіўныя мэтады патрабавалі фармальнай легітымізацыі і абапіраліся на прававыя рашэньні (іншая справа – наколькі дэмакратычна прымаліся тыя рашэньні).

Так, пастановай Кабінэту Міністраў СССР ад 10 красавіка 1991 года і загадам старшыні КДБ СССР ад 17 красавіка таго ж году было



(Архіў БНФ)

*Канец камунізму ў Беларусі.*

створанае Ўпраўленьне па кіраўніцтву адмысловымі часткамі войскаў КДБ (так званае Упраўленьне „СЧ”). Гэтыя спэцчасткі павінны былі ўдзельнічаць ў „забесьпячэньні канстытуцыйнага ладу, бясьпекі і тэрытарыяльнай цэласнасьці СССР”.

Заўважым: спэцчасткі створаныя пасьля т.зв. сакавіцкага „рэфэрэндуму” аб захаваньні СССР, КДБ атрымаў ў выніку „рэфэрэндуму” і „волі народу” нібыта легітымную падставу для сілавой абароны існаваньня СССР.

У жніўні былыя савецкія рэспублікі абвясьцілі незалежнасьць, пераважна праз наданьне Дэкларацыям статусу канстытуцыйнай сілы. Некалькі месяцаў Гарбачоў спрабаваў захаваць СССР, але 22 кастрычніка 1991 г. Дзяржсавет СССР (нароўні з прэзыдэнтам СССР, у яго ўваходзілі кіраўнікі рэспублік) скасоўвае КДБ СССР і стварае службы выведкі, аховы мяжы, так званую міжрэспубліканскую службу бясьпекі.

А 3 сьнежня 1991 года прэзыдэнт Гарбачоў падпісвае закон, які абавязвае „лічыць органы




(Архіў БНФ).

*„Хай здохне Палітбюро і ЦК!". Канец камунізму ў Беларусі.*

бясьпекі рэспублік ў выключнай юрысдыкцыі сувэрэнных рэспублік (дзяржаў)" („Лубянка. Органы ВЧК-ОГПУ-НКВД-НКГБ-МГБ-МВД-КГБ. 1917-1991", Международный Фонд «Демократия», Москва – Издательство Йельского университета, США, 2003").

Такім чынам, юрыдычная ліквідацыя цэнтральнага кіраваньня агульнаімпэрскай рэспрэсіўнай сыстэмы адбылася пасьля прыняцьця Дэклярацыі – і перад Віскулямі (ці не адкрыла менавіта гэтая ліквідацыя Ельцыну, Краўчуку і Шушкевічу шлях да падпісаньня праз некалькі дзён пагадненьня – тэма асобнага дасьледваньня).

Нарэшце, – і, магчыма, гэта галоўнае – адсутнасьць канстытуцыйнасьці Дэклярацыі, якая была нададзеная ў жніўні 91-га, стварыла б зусім іншую атмасфэру ў вышэйшых уладных і элітных колах Беларусі ў сьнежні. Да Віскулёў справа і не дайшла б. Бо пасьля канстытуцыяналізацыі Дэклярацыі Шушкевіч і Кебіч былі проста вымушаныя рабіць наступны крок (ды і тое зь невялікай ахвотай – пра рэальную пазыцыю Шушкевіча ў дні перад Віскулямі гаворка ніжэй).

І тое, што нам у жніўні 1991-га ўдалося „зламаць" Кебіча, павярнуць яго ў бок да сувэрэнітэту, адыграла выключную ролю пры падпісаньні, а затым ратыфікацыі Віскулёўскіх пагадненьняў.

Дарэчы, наколькі я магу меркаваць, ініцыятыва сустрэчы кіраўнікоў трох краінаў сыходзіла ад Кебіча. Ва ўсялякім разе, пра неабходнасьць такога спатканьня я пачуў ад яго яшчэ ўвосень 1991 году, падчас размовы ў фае Дома ўраду. Адзін з удзельнікаў той увогуле выпадковай, кароткай сустрэчы – дэпутат Яўген Глушкевіч – ужо не жыве. Акрамя мяне і, зразумела, Кебіча, гэта мог бы пацьвердзіць чацьверты ўдзельнік той размовы – Аляксандар Лукашэнка.

Віскулёўскія пагадненьні ад імя Беларусі падпісаў не адзін Шушкевіч, як прынята лічыць, а яшчэ і Кебіч, як старшыня ўраду (адпаведна, падпісаліся і кіраўнікі ўрадаў Расеі і Украіны). Падаецца,



(Архіў БНФ).

*Пахаваньне камунізму. Хэпэнінг на вуліцах Менска, 24 жніўня 1991 г.*

што менавіта наяўнасьць подпісу Кебіча, які ў сьнежні 1991 году ў значнай ступені кантраляваў Вярхоўны Савет, і паспрыяла таму, што дэпутаты (за выключэньнем аднаго толькі Ціхіні) прагаласавалі за ратыфікацыю пагадненьняў аб ліквідацыі СССР.

Пры ўсёй крытычнасьці ацэнкі дзейнасьці Кебіча ў наступны пэрыяд, вось гэтую акалічнасьць канца 1991-ага году нельга выкрасьліць з гісторыі.

Словам, калі б рашэньне аб Дэклярацыі 25 жніўня не было прынятае, Расея ўжо ў 1992 годзе магла б паглынуць Беларусь, паколькі ў рэальнасьці адразу пасьля Віскулёў пачаўся працэс энэргічнага ўцягваньня нашай краіны ў арбіту расейскіх палітычных і вайсковых інтарэсаў.

Нарэшце, тыя, што гавораць пра „дармовасьць” Незалежнасьці, забываюцца на ахвяры, якія пакаленьні беларусаў на працягу стагодзьдзяў прыносілі дзеля таго, што ў жніўні 1991 ўдалося зрабіць бяскроўна.

Увогуле ж прыкра, што даводзіцца неяк нібы апраўдвацца за дзейнасьць ў справе дасягненьня дзяржаўнай незалежнасьці. Прыкра, але ня дзіўна, калі ведаць беларускую спэцыфіку абплёўваньня ды ахайваньня. Падобнае магчыма бадай што толькі ў Беларусі – і больш нідзе ў сьвеце. Падазраю, што менавіта з прычыны гэтай беларускай спэцыфікі прыйдзецца яшчэ не аднойчы выслухоўваць словы розных экзальтаваных камэнтатараў пра „плыні бурапеннага часу”, што ўсё робяць „самахоць”.

У суцяшэньне ж паплечнікам па Апазыцыі (калі яны маюць у ім патрэбу) магу толькі выказаць прагноз, што ў гісторыі застануцца ня гэтыя ацэнкі, а – словы Васіля Быкава: „Што ж датычыцца Апазыцыі ў Вярхоўным Савеце, дык я думаю, што ў тых умовах, у той час менавіта Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту зрабіла гераічны ўчынак з таго, што дамаглася менавіта гэтай сувэрэннасьці. І чым далей, незалежна ад таго, чым гэта скончыцца, незалежна ад лёсу Беларусі наа-

гул, у гістарычным вымярэньні гэта будзе вельмі значна, гэта будзе ацэнена празь вякі”.

Бясспрэчна, што гэтая ацэнка належыць да ўсіх актывістаў БНФ, якія дамагаліся сувэрэнітэту ды ўсіх тых грамадзянаў, якія прыйшлі ў жнівеньскія дні 1991 году на плошчу Незалежнасьці, каб спраўдзіць мару пакаленьняў беларусаў.

# СА СЬЦЯГАМ, З „ПАГОНЯЙ”, АЛЕ БЯЗ ГІМНУ

Фактычна, апошнія дні жніўня – гэта адзіны час, калі нацыянальныя сілы маглі эфэктыўна ўплываць у тым ліку на дзеяньні органаў выканаўчай улады. Дарэчы, сьцьвярджэньні пра тое, што Кебіч нібыта прапаноўваў Пазьняку „ўзяць сфэру адукацыі і культуры” – ня больш, чым міт. Ніякай падобнай прапановы не было (як і не прапаноўвалася прадстаўнікам БНФ увайсьці ў склад ураду). Усё – стварэньне новых беларускамоўных навучальных установаў, гістарычных часопісаў, і гэтак далей – даводзілася „выбіваць”. Аднак калі гэта яшчэ ўдавалася, дык нашыя патрабаваньні аб нацыянальнай валюце ды ўласным войску кіраўніцтвам новаўтваранай краіны не ўспрымалася. Ні парляманцкая большасьць, ні Савет Міністраў не імкнуліся скарыстаць час і замацаваць незалежнасьць стварэньнем неабходных атрыбутаў дзяржаўнасьці – што актыўна рабілася ў краінах Балтыі.

У пачатку верасьня група дэпутатаў ВС (у тым ліку і Зянон Пазьняк) удзельнічалі ў працы Зьезду народных дэпутатаў СССР. Па вяртаньні з Масквы, 6 верасьня, дэпутаты Апазыцыі БНФ правялі прэсавую канфэрэнцыю, пад час якой Пазьняк распавёў, што „зьезд фактычна праходзіў пад дыктоўку расейскага прэзыдэнта Барыса Мікалаевіча Ельцына, са шматлікімі парушэньнямі рэгляманту, пры рашэньні большасьці пытаньняў дамінавала пазыцыя Расеі… Галіна Старавойтава таксама пацьвердзіла нам, што сапраўдныя дэмакраты апынуліся ў меншасьці, многіх захаланулі імпэрскія амбіцыі. Гэта значыць, навідавоку пэўная тэндэнцыя, і яе трэба ўлічваць, інакш яна, сапраўды, можа ўвасобіцца ў канкрэтныя справы. Між тым Беларусь, абвясьціўшы аб незалежнасьці, ў дастатковай ступені да яе не падрыхтаваная. Нам тэрмінова трэба прыняцьцё тых законаў, пра якія ўжо неаднаразова казала Апазыцыя – аб грамадзянстве, аб зямлі і ўласнасьці, аб нацыянальнай гвардыі, аб межах і мытні і іншых. Трэба неадкладна прыняць захады па абароне маёмасьці рэспублікі, інакш усё будзе проста расьцягнута”.

Прагноз аб імпэрскіх амбіцыях Ельцына, выказаны Пазьняком 25 жніўня, за некалькі сэкундаў да галасаваньня аб канстытуцыйнасьці Дэклярацыі. Тады ж, 6 верасьня, Апазыцыя БНФ пацьвердзіла патрабаваньне склікаць нечарговую сэсію ВС, каб прыняць найважнейшыя для ўмацаваньня дзяржаўнасьці рашэньні, а таксама – прызначыць выбары ў новы Вярхоўны Савет.

19-га верасьня ў якасьці дзяржаўных сымвалаў былі зацьверджаныя Бел-Чырвона-Белы Сьцяг і гэрб „Пагоня”. Але зроблена гэта было вялізнымі намаганьнямі – дастаткова сказаць, што рашэньні былі прынятыя „голас у голас”. Іншымі словамі, адсутнасьць хаця б аднаго прыхільніка незалежніцкай сымволікі ў залі не дала б патрэбнага выніку галасаваньня. Таму аўтар гэтых радкоў шчасьлівы, што раніцай у той дзень разам з дэпутатам М. Сьлямнёвым адмовіўся ад паездкі ў Малдову на выбары ў якасьці назіральніка.

Істотна паўплывалі на вынікі галасаваньня выступы на карысьць нацыянальных сымвалаў былога Старшыні Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета, а ў той момант члена Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета СССР Георгія Таразевіча і Прэзыдэнта Акадэміі навук Уладзімера Платонава.

Заставалася зьмяніць гімн. Быў абвешчаны конкурс. У лістападзе Алесь Адамовіч, Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў выступілі са зваротам, у якім прапанавалі зрабіць дзяржаўным гімнам „Мы выйдзем шчыльнымі радамі”. Арыгінал гэтага звароту на просьбу Васіля Ўладзімеравіча Быкава я перадаў у сакратарыят Вярхоўнага Савета; ён павінен знаходзіцца ў архіве ВС (сабе пакінуў копію): „Ці трэба нам новы, сьвежаствораны, не ахрышчаны часам і гісторыяй каньюнктурны гімн? Ці хутка ён стане адной з найважнейшых сьвятыняў нацыі? Асабліва калі ў гістарычнай народнай памяці яшчэ велічна гучыць колішні, ахрышчаны нешчасьлівым лёсам (дарэчы, тым, які

хрысьціў беларускі народ і саму Рэспубліку Беларусь) гімн на словы Макара Краўцова. А між тым, гэта велічная мэлёдыя і выдатны тэкст. І ня так важна, што некаторыя моманты яго не адэкватныя сучаснай палітыцы Беларусі, што яны, можа, палітычна састарэлыя. Гэта зусім ня той выпадак, калі патрэбна злабадзённасьць. Тэксты гімнаў цывілізаваных краінаў звычайна архаічныя, але яны нязьменна кананічныя, ахрышчаны крывавай гісторыяй, і ў тым іх мастацкая і духоўная сіла. Мы прапануем узаконіць гімн на словы М. Краўцова, ажыцьцявіўшы тым важнейшы дзяржаўны акт па шляху да сапраўднай сувэрэннасьці Рэспублікі Беларусь".

Словы гэтыя, аднак, не былі пачутыя: ня выключана, што некаторым хацелася самім выступіць у якасьці стваральнікаў гімну. Конкурс доўжыўся не адзін год – аж да таго часу, пакуль да ўлады не прайшоў Лукашэнка, які „мадэрнізаваў" савецкі гімн. Курыраваў конкурс старшыня парлямэнцкай камісіі па адукацыі Ніл Гілевіч.

Былі прапановы зрабіць дзяржаўным гімнам і „Магутны Божа". Зрэшты, я перакананы, што, калі б камісія Гілевіча апэратыўна ўнесла адзін з гэтых твораў на разгляд ВС, ужо ў лістападзе 1991-га большасьць дэпутатаў прагаласавала б супраць; за два месяцы пракамуністычная намэнклятура ачуняла ад пасьляпутчавага шоку і, нягледзячы на супраціў Апазыцыі БНФ, імкліва адваявала свае пазыцыі ў Вярхоўным Савеце. Не ў малой ступені спрыяла гэтаму і палітыка новаабранага сьпікера Станіслава Шушкевіча, накіраваная на пошукі „згоды".

## СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ: „ДАЗВОЛЬЦЕ МНЕ НЕ СТАНАВІЦЦА ПАД ВАШЫЯ ШТАНДАРЫ"

Яшчэ ў верасьні 1991–га Сойм БНФ вырашыў правесьці навукова – практычную канфэрэнцыю, на якой вырашылі распрацаваць і прапанаваць Вярхоўнаму Свету і ўраду шляхі пабудовы сувэрэннай дзяржавы. Канэрэнцыя БНФ „Незалежнасьць і Адраджэньне" адбылася 12-13 кастрычніка.

З асноўнымі дакладамі выступілі У. Заблоцкі (канцэпцыя эканамічнай рэформы), В. Голубеў (дзяржаўнае будаўніцтва сувэрэннай Рэспублікі Беларусь), Ю .Хадыка (культурніцкая палітыка), З. Пазьняк (зьнешняя палітыка). Працавалі некалькі сэкцыяў – „Культура і адукацыйная палітыка" ( удзельнікі Вінцук Вячорка, Лявон Баршчэўскі, Алесь Марачкін, Адам Мальдзіс, Віктар Шматаў, Генадзь Сокалаў –Кубай, Ігар Цішкін, Уладзімер Колас, Анатоль Астапенка і іншыя), „Зьнешняя палітыка" (А. Навуменка, А. Кацапава, А. Перапечка, Ю. Пасельнікаў, сэкцыя эканомікі (У.Заблоцкі, А. Станкевіч. Г. Лех, М. Куняўскі іінш.), Дзяржаўнае ўладкаваньне" (У. Анцулевіч, М. Сатоліна, Я. Юхо, А. Гурыновіч, Г. Андрэеў і іншыя).

На канфэрэнцыі абмяркоўваліся варыянты дзяржаўнага ўладкаваньня, пералічваліся нэгатыўныя наступствы магчымага ўвядзеньня пасады прэзыдэнта. Выказвалася пажаданьне правесьці парлямэнцкія выбары па зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай сыстэме (з партыйнымі сьпісамі), рэфармаваць сыстэму мясцовага самакіраваньня.

Пры абмеркаваньні праблемаў адукацыі і культуры адзначалася, што „галоўны рэсурс Беларусі – інтэлектуальны патэнцыял, аднак ён не рэалізуецца. Адсутнічае кадравая палітыка. Настаўнікаў-беларусістаў ў паўтара разы менш, чым настаўнікаў расейскай мовы і літаратуры. Існуе супраціў настаўніцтва, у тым ліку і русістаў, пераарыентацыі школы...падрыхтоўка падручнікаў, тэрміналёгіі, у тым ліку па негуманітарных дысцыплінах, перападрыхтоўка кадраў ідзе квола й стыхійна. Патрэбная каардынацыя на дастаткова высокім узроўні і пэрсанальная адказнасьць рэктараў за ход беларусізацыі ВНУ...". Адам Мальдзіс паставіў пытаньне аб вяртаньні нацыянальных каштоўнасьцяў з Расеі (Масквы і Пецярбургу), Польшчы, Ангельшчыны, Аўстрыі, Летувы, Нямеччыны, Швэцыі. Пад час абмеркаваньня канфэсійнай тэмы быў выказаны непакой, што „Расейская праваслаўная царква, атрымліваючы храмы, перабудоўвае іх, не зважаючы на беларускую традыцыю".

Распрацоўвалася мадэль эканамічнага разьвіцця Беларусі (на пазыцыях сацыяльна ары-

ентаванай рынкавай эканомікі), прамоўцы выказаліся за стварэньне „ўласнай манэтарнай палітыкі і ўводу ў абарачэньне беларускай нацыянальнай валюты – талера”. Прапаноўвалася неадкладна пачаць дэманапалізацыю вытворчасьці, распрацоўку антыманапольнага заканадаўства, раздрабненьне буйных прадпрыемстваў прамысловасьці, адкрыцьцё ўнутранага рынку для заходняга бізнэсу, увядзеньне ў таварнае абарачэньне зямлі, абсталяваньня, будынкаў. Прагучалі рэкамэндацыі правесьці „малую” прыватызацыю – і адначасна ўвесьці мараторый „на „дзікую” прыватызацыю, мэтаю якой зьяўляецца захаваньне эканамічнай улады былой намэнклятуры”. Прыкметна, што ўжо ў гэты час прагучалі словы пра „неабходнасьць вырашэньня праз двухбаковыя перамовы шэрагу гаспадарчых пытаньняў: вызначэньне долі Беларусі ў агульнасаюзнай маёмасьці – марскім і паветраным флёце, інтэлектуальнай маёмасьці, уласнасьці саюзу за мяжой і г.д.” (усё гэта будзе праігнараванае пасьля падпісаньня Віскулёўскіх пагадненьняў – Менск адмовіцца ад сваёй часткі маёмасьці за даруваньне „запазыкаў СССР”, якіх Беларусь ніколі не брала).

На канфэрэнцыі прысутнічалі прадстаўнікі ўраду. Аднак прапановы ўдзельнікаў скарыстаныя не былі.

9 лістапада Апазыцыя БНФ прыняла заяву, у якой адзначалася, што Дэклярацыя аб сувэрэнітэце застаецца толькі на паперы. Войска, спэцслужбы (у тым ліку КДБ) знаходзіліся збольшага ў падпарадкаваньні Масквы. Вонкавая палітыка таксама вызначалася ў Маскве (усё яшчэ дзейнічала „саюзнае” МЗС). Беларусь ня мела ўласных грошай. Беларусь ізноў страчвала час – замест каб ствараць рэальныя інстытуцыю дзяржаўнасьці, вышэйшае кіраўніцтва (С. Шушкевіч і В. Кебіч) уцягнуліся ў навязаны М. Гарбачовым так званы „новаагароўскі працэс” у справе падпісаньня Саюзнай Дамовы, гэтым разам – на падставе канфэдэрацыі.

Тым ня менш, прыняцьцё былымі рэспублікамі Дэклярацыяў аб сувэрэнітэце давала свой плён.

У пачатку сьнежня стала вядома, што ў Менск прыедуць прэзыдэнт Расеі Барыс Ельцын і прэзыдэнт Украіны Леанід Краўчук (ва Ўкраіне прайшоў рэфэрэндум, дзе ўкраінцы выказаліся за незалежнасьць ад Масквы).

5 сьнежня Старшыня ВС С. Шушкевіч сустрэўся з дэпутатамі Апазыцыі БНФ (гэта быў першы і апошні раз за ўсе гады яго сьпікерства, калі ён прыйшоў у памяшканьне Апазыцыі). Мы выказалі яму сваю трывогу ягоным удзелам у працэсе стварэньня „саюзнай дамовы”, заявіўшы, што Беларусі патрэбныя ўласнае войска і ўласныя грошы. Вось некалькі фрагмэнтаў той сустрэчы:

„*Голубеў:* Незалежнасьць. Мы ня ведаем Вашай пазыцыі ў адносінах да будучыні Беларусі. Саюзная дамова: Вы сказалі, што Вы – за падпісаньне эканамічнага пагадненьня, заявілі, што палітычнага пагадненьня ня будзе, але цяпер гэта робіце. Мы тут ня бачым плюсаў для Беларусі. Чаму старшыня ВС не праводзіць палітыкі па войску? Ельцын можа пераўтварыць яго ў акупацыйнае войска... Адносіны да ўвядзеньня ўласнай валюты – адзін месяц купонаў прывядзе да дыскрэдытацыі.

*Пазьняк:* Уяўленьне ад Вашай дзейнасьці – ігнараваньне гэтых фактараў, што падводзіць да страты сувэрэнітэту, крызысу эканомікі. Палітык павінен мець апору. Вы разьвіваліся на нашых вачах, ня можаце абаперціся ні на Фронт, ні на камуністаў. Абапіраецеся на палітыку Ельцына і Гарбачова. Мы стаім на парозе згубы сувэрэнітэту.

*Шушкевіч:* На здаровы сэнс абапіраюся. У нас з вамі розныя погляды на свабоду і дэмакратыю. Наконт Саюзнай дамовы – дазвольце мне не станавіцца пад вашыя штандары... Вялікае войска ніколі не ўтворыцца, Ельцын можа паставіць войскі супроць Беларусі вельмі проста...

*Пазьняк*: Мы былі ініцыятарамі, каб склікаць сэсію надзвычайную. Мы не пераканалі Вярхоўны Савет. Але цяпер апынуліся ў найбольш небясьпечным становішчы. Альбо мы возьмем гэтае войска і прывядзем яго да прысягі...

*Шушкевіч:* Вы – дрэнны тактык і лічыце сябе вялікім стратэгам.

*Пазьняк:* Вы ў гэтай сытуацыі несяце адказнасьць...

*Шушкевіч:* Вы, мышы, сабраліся і хочаце кату павесіць званочак на хвост. Хоць хто-небудзь з вас працаваў ва ўрадзе? Начхаць нам на саюз з Малдовай і Прыбалтыкай – у іх нафты няма! Так,

я чакаю, што Масква можа пайсьці на параліч эканомікі Беларусі. Але ў нашым урадзе не такія дурні...

*Пазьняк:* Вы правільна ацэньваеце Расею. Але чаму тады Вашая палітыка ўвесь час абапіраецца на Расею? А не на Прыбалтыку. Захад?

*Шушкевіч:* Да палітыкі, якую можа праводзіць дзяржава – нам трэба ісьці яшчэ доўга".

Сярод іншага, Шушкевіч на той сустрэчы сказаў: „Я езьдзіў, ежджу і буду езьдзіць у Нова-Агарова" (на абмеркаваньне з Гарбачовым „саюзнай дамовы").

Такім чынам, у выказваньнях Шушкевіча не было нічога, што давала б падставы прагназаваць тое, што адбылося празь некалькі дзён у Віскулях – наадварот, ён выступаў за „саюзную дамову" і нярэзкія дзеяньні. Верагодна, у Віскулях меў месца ўплыў Ельцына і Краўчука.

І тым ня менш, ужо празь некалькі дзён Шушкевіч паставіў подпіс пад Віскулёўскім пагадненьнем аб ліквідацыі СССР, што, бясспрэчна, упісала ягонае імя ў гісторыю.

Аднак адначасна зь ліквідацыяй Саюзу было заяўлена аб стварэньні СНД, у чым мы пабачылі небясьпеку рэстаўрацыі старой імпэрыі, але ў новай форме. Мы лічылі, што ў справе сувэрэнітэту Беларусь павінна заняць пазыцыю, аналягічную Летуве, Латвіі і Эстоніі: незалежнасьць і ніякіх палітычных альбо вайсковых саюзаў з Масквой.

Ратыфікацыя Віскулёўскага пагадненьня ў сьнежні 1991 г., відавочна, была апошнім радыкальным крокам Вярхоўнага Савета ў накірунку ўмацаваньня дзяржаўнасьці.

## АДРАДЖЭНЬНЕ РАЗБУРАНАЙ БЕЛАРУСКАСЬЦІ І ЯЕ ПРАЦІЎНІКІ

Актывісты Народнага Фронту выкарыстоўвалі ўсе магчымасьці для адраджэньня беларускасьці краіны, нібыта адчуваючы, што часу застаецца ўсё менш і менш.

Дзякуючы намаганьням Камісіі па культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны ВС, у лістападзе 1991-га загадам Міністэрства адукацыі на базе ранейшага нядзельнага ліцэю ствараецца Беларускі гуманітарны ліцэй. А 15 студзеня 1992 году распараджэньнем Савета Міністраў яму перадаецца будынак на Кірава, 21. У Менску і ў іншых гарадах павялічваецца колькасьць беларускамоўных школ, выходзяць новыя падручнікі, выдаецца гістарычная літаратура, друкуюцца раней забароненыя творы. Праўда, друкуюцца абмежаваным накладам – у параўнаньні зь нізкапробнай расейскамоўнай літаратурай, на якой новаўтвораныя камэрцыйныя структуры зарабляюць капіталы.

Прыклад таго, што беларускамоўны друк можа мець камэрцыйны посьпех, паказаў наш калега па дэпутацкай Апазыцыі Ігар Гермянчук. Ён рэдагаваў „Свабоду", якая ня толькі выдавалася па-беларуску, але ў 1991–1994 гг. выходзіла на тарашкевіцы, і пры гэтым яе наклад дасягаў да 100 тысячаў асобнікаў. Газэта выдавалася зусім невялікім калектывам (у рэгіёнах быў толькі адзін карэспандэнт – Сяргей Астраўцоў), чыноўнікі не спрыялі ні ў друкаваньні, ні ў распаўсюдзе, і ўсё ж у пачатку 90-ых „Свабода" Ігара Герменчука была адной з найбольш папулярных газэт.

Беларускамоўныя незалежныя газэты ствараліся і ў рэгіёнах („Выбар" у Віцебску выдаваў Барыс Хамайда), прычым некаторыя выданьні былі піянэрамі ў спэцыялізаваных галінах – так, у тым жа Віцебску Уладзіслаў Яндзюк пачаў выдаваць „Кампутарную прахтыку".

У 1992 годзе з 1 верасьня малодшыя клясы сярэдніх школаў перайшлі на беларускую мову. Дзесяць гадоў такой практыкі – і на пачатку XXI стагодзьдзя праблемы выжываньня беларускай мовы папросту не існавала б.

Аднак палітыка адраджэньня беларускасьці сустрэла вялізнае непрыманьне праімпэрскіх сілаў – прычым пачалося з так званых „нізавых ініцыятываў".

У чэрвені ў парлямэнцкай „Народнай газэце" намесьнік яе рэдактара Іван Макаловіч канстатаваў, што „ў Беларусі працэс нацыянальнага Адраджэньня ідзе надзвычай марудна, квола, робяцца толькі першыя няўпэўненыя крокі, але нават яны выклікаюць абурэньне расейскамоўнага насельніцтва". Гэтак быў пракамэнтаваны ліст групы бацькоў з Рагачова (17 подпісаў), у якім

тыя называлі Закон аб мовах „антынародным”, палітыку адраджэньня беларускасьці – „генацыдам”, запалохваючы „спальваньнем на плошчах усёй рускай літаратуры” і г.д. Завяршаўся ліст заклікам да бацькоў першаклясьнікаў „не прыводзіць дзяцей у школы 1 верасьня” – у беларускія клясы – „пакуль ня будзе прадастаўленае свабоднае права выбару, раўнапраўе навучаньня як для беларускамоўных, так і для расейскамоўных дзяцей...”.

Супраць беларускасьці былі накіраваныя і выступы газэты, якую выдаваў кіраўнік фірмы „Эрыдан” Аляксандар Патупа (гэты ў чэрвені 1993 г. прапанаваў рэфэрэндум аб дзяржаўнасьці двухмоў’я). На аналягічных пазыцыях знаходзілася і газэта „Европейское время”, якую рэдагаваў Сямён Букчын. Шэраг падобных расейскамоўных выданьняў выходзіў пры падтрымцы Фонду Сораса, некаторыя прадстаўнікі якога ў Беларусі насаджалі „лібэральныя каштоўнасьці” і ў лепшым разе вельмі насьцярожана ставіліся да праяваў нацыянальнага Адраджэньня.

Ужо летам 1992 году падкантрольныя Кебічу расейскамоўныя выданьні (якія мелі вялікі наклад) пачалі пераходзіць на антынацыянальныя пазыцыі.

Тут прывяду ў прыклад публікацыю ў газэце Савета Міністраў „Рэспубліка” ад 10 чэрвеня 1992 г.: „Хіба не цікава, што 16-гадовы чалавек думае пра наш час”, – пытаецца рэдакцыя ва ўступным слове і аддае пад развагі падлетка цэлую паласу (тым часам як ніколі „Рэспубліка” не надрукавала ніводнага радка дэпутатаў Апазыцыі БНФ).

Што ж напісана гэтым падлетакам**.** Увесь артыкул – гэта трызьненьне па разбуранай савецкай імпэрыі, абарона „патрыётаў, якія стаялі за вялікую і непадзельную Айчыну”, апэляцыя да гарбачоўскага „рэфэрэндуму” 1991 году аб захаваньні СССР, бо „воляй лёсу мы апынуліся юрыдычна і палітычна ізаляванымі ад Расеі”, але, спадзяецца аўтар, „гэта часовы разрыў”.

Фактычна, распад савецкай імпэрыі, свабода і стварэньне сувэрэннай дзяржавы падаюцца як вялізнае зло – і гэта ва ўрадавай дзяржаўнай газэце. Была заяўленая катэгарычная падтрымка пракамуністычнаму Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў, і сказана, што „вельмі неабходна супрацьпаставіць „нацыянал-дэмакратам”, як яны самі сябе называюць, магутную патрыятычную арганізацыю, якая б аб’яднала людзей, якія ўсьведамляюць пагібельнасьць залежнасьці ад Захаду”.

Непаўнагадовы аўтар гэтай у поўным сэнсе „ветэранскай” публікацыі – Усевалад Янчэўскі. (Зусім ня дзіўна, што праз некалькі гадоў ён узначаліць пралукашэнкаўскую моладзевую арганізацыю (так званы „лукамол”) – дзіўнавата тое, што пасьля такіх заяваў яго возьме да сябе ў каманду Станіслаў Шушкевіч).

Можна заўважыць такую зьяву: з аднаго боку, у саўмінаўскай газэце друкуюцца антынезалежніцкія антыбеларускія артыкулы, з другога – у тым жа чэрвені 1992-га Саўмін прымае рашэньне аб выданьні часопісу „Беларуская мінуўшчына”, а часопіс „Спадчына” атрымлівае дзяржаўныя датацыі (праўда, у мізэрных памерах, калі параўноўваць з антынезалежніцкімі выданьнямі).

Гэта тлумачыцца пастаянным ціскам дэпутатаў Апазыцыі БНФ на органы дзяржаўнага кіраваньня там, дзе трэба было прымяніць ціск, і „кулуарнай працай” з тымі прадстаўнікамі апарату, якія хаця б не адрыналі ідэі Адраджэньня, а ў шэрагу выпадках і спрыялі ім.

Ці былі прыхільнікі беларускага адраджэньня ў дзяржаўным апараце, у выканаўчых органах улады? Бясспрэчна, былі, хоць і няшмат. На вышэйшым узроўні варта адзначыць віцэ-прэм’ера Міхаіла Дзямчука і міністра замежных справаў Пятра Краўчанку, міністра інфармацыі Анатоля Бутэвіча (пры тым, што ў шэрагу палітычных пытаньняў іх пазыцыя кардынальна разыходзілася з поглядамі БНФ і ацэньвалася намі як антыдэмакратычная). Іх дзеяньні найчасьцей былі даволі асьцярожнымі, аднак зь іх дапамогай удалося рэалізаваць некаторыя нацыянальныя ініцыятывы.

Галоўны здабытак нацыянальна арыентаваных сілаў у гэты пэрыяд – якраз стварэньне адукацыйных ды прапагандысцкіх беларускамоўных асяродкаў ды закладаньне сыстэмы нацыянальнай адукацыі. Усё гэта дзейнічала яшчэ і ў першыя гады пасьля прыходу да ўлады Лукашэнкі і дазволіла выхаваць нацыянальна сьвядомую частку новага пакаленьня, якое ўступіла ў палітычную дзейнасьць на мяжы стагодзьдзяў. Варта адзна-

чыць і тое, што Беларусь пачала ўсьведамляцца ўсясьветнай супольнасьцю як сувэрэнная і незалежная дзяржава.

І ўсё ж, усе здабыткі на ніве нацыянальнага Адраджэньня былі дасягнутыя ня дзякуючы пазыцыі вышэйшага кіраўніцтва, а насуперак ёй. Палітычная ж сытуацыя ў Беларусі наагул рабілася ўсё больш напружанай. Адна з прычынаў гэтага выкладзеная ў Заяве Апазыцыі БНФ у жніўні 1992 году: ”З аднаго боку, адсутнасьць найважнейшых законаў у сфэры эканамічнага жыцьця, якія абавязаны быў прыняць Вярхоўны Савет, пазбавіла народ Беларусі права на ўласнасьць, на валоданьне зямлёй і сродкамі вытворчасьці і, фактычна, пакінула людзей безабароннымі перад хваляй беспрацоўя. З другога боку – шалёныя тэмпы намэнклятурнай прыватызацыі, калі ня толькі сотні мільёнаў дзяржаўных рублёў, але і цэлыя прадпрыемствы, установы пераходзяць у прыватную ўласнасьць былых камуністаў”.

Найважнейшай адметнасьцю гэтай ня вельмі і прыхаванай намэнклятурнай прыватызацыі было тое, што новая кляса ўласьнікаў, якая стваралася з былых партыйных, камсамольскіх чыноўнікаў і супрацоўнікаў КДБ, была ня проста цалкам пазбаўленая нацыянальнай сьвядомасьці, але мела прамаскоўскую, і часам вельмі агрэсіўную антыбеларускую арыентацыю.

Тут таксама быў парадокс: з усіх партыяў толькі БНФ прадставіў законапраекты, накіраваныя на рынкавыя пераўтварэньні („Канцэпцыя эканамічнай рэформы”, прапанаваная Апазыцыяй БНФ, надрукаваная на двух палосах „Народнай газэты” 16 красавіка 1992 г). Але БНФ практычна ня меў падтрымкі буйных прадпрымальнікаў. Тлумачыцца гэта тым, што новым бізнэсоўцам было куды больш выгадна падтрымліваць прадстаўнікоў улады, бо менавіта ад чыноўніка, а не ад закону, залежаў лёс таго альбо іншага бізнэсу. Словам, бізнэсоўцы, якія не існавалі ў сфэры нацыянальна-дэмакратычных ідэй, паводзілі сябе вельмі недальнабачна, спакусіўшыся на імгненныя выгады і адмовіўшы ў падтрымцы сіле, якая б у пэрспэктыве магла стварыць гарантыі для вольнага бізнэсу. Зрэшты, магчыма, якраз такая сытуацыя гэтых бізнэсоўцаў задавальняла куды болей, чым магчымая свабодная канкурэнцыя, дзе посьпех вызначаецца, галоўным чынам, ня блізкасьцю да чыноўніка, а прадпрымальніцкімі здольнасьцямі. Ключавыя пазыцыі ў бізнэсе занялі асобы, набліжаныя да былых высокапастаўленых кіраўнікоў партыі і КДБ, з традыцыйна антыбеларускай арыентацыяй; пад іх падладжваліся і астатнія.

Канешне, сярод дробных прадпрымальнікаў былі і нацыянальна сьвядомыя, але, як правіла, гэта былі людзі з зусім сьціплымі „капіталамі”, якіх, да прыкладу, не хапіла б на выпуск уласнай газэты. Толькі ўладальнікі кампутарнай фірмы „Дайнова” падкрэсьлена дапамагалі беларускім




*Новыя маркі Рэспублікі Беларусь. 1992 г.*

(Архіў С. Навумчыка)

культурніцкім ініцыятывам. Але і гэта была ня самая магутная фірма ў сваёй сфэры – самыя буйныя, ізноў жа, арыентаваліся на Расею.

Што будуць уяўляць сабою мас-мэдыі, створаныя буйнымі прадпрымальнікамі, мы маглі меркаваць паводле неўзабаве ўзьніклай „Газеты Андрея Климова”, якая выходзіла па-расейску і зьедліва пісала пра БНФ і беларускае Адраджэньне.

Мы прагназавалі, што пры такім разьвіцьці падзеяў праз некалькі гадоў новаўтвораная дэнацыяналізаваная кляса буржуа самым „дэмакратычным” чынам – праз свабодныя выбары з дапамогай уласных СМІ і нанятых паліттэхнолягаў – правядзе і ў парлямэнт і ў выканаўчыя структуры прарасейскія антыбеларускія сілы, якія нават у выпадку ляяльнасьці да сувэрэнітэту адвядуць беларускай мове месца духоўнай рэзэрвацыі (дарэчы, гэта можа здарыцца і хутчэй за ўсё зда-

рыцца пасьля падзеньня лукашэнкаўскага рэжыму – бізнэс у сёньняшняй Беларусі збольшага прарасейскі). Калі такое адбудзецца, на дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі будзе пастаўлены крыж.

# АПОШНІ ВАГОН, ЯКІ АДЧАПІЛІ

Патрабаваньне новых выбараў, якое гучала і раней, у 1992-м зрабілася лейтматывам палітычнай дзейнасьці БНФ. У мэтах зьмены ўлады БНФ ініцыяваў у парляманце закон аб рэфэрэндуме, і калі яго прынялі, пачаў зьбіраць подпісы за рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах. Выбары мусілі прайсьці паводле новага закону на падставе прапарцыйна-мажарытарнай сыстэмы (50 на 50, палова мандатаў – па акругах, палова – па партыйных сьпісах). Такі варыянт падаваўся бяспройгрышным: на рэфэрэндуме большасьць праглаласавала б за новыя выбары, а партыйныя сьпісы дазволілі б правесьці ў Вярхоўны Савет значна больш прадстаўнікоў БНФ і дэмакратычных партыяў, чым іх было ў ВС 12-га скліканьня. Народны фронт сабраў амаль паўмільёна подпісаў (442 тысячы). ЦВК прызнала сапраўднымі неабходную колькасьць подпісаў і гэта па закону азначала рашэньне аб правядзеньні рэфэрэндуму. Вярхоўны Савет павінен быў толькі прызначыць дату рэфэрэндуму.

Аднак ідэя рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах у Вярхоўны Савет паводле дэмакратычнага выбарчага закону не знайшла падтрымкі ні ў Станіслава Шушкевіча, ні ў большасьці дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Паказальна, што супраць ініцыятывы БНФ выступілі і прамаскоўскія лібэралы. Ва ўрадавай газэце „Советская Белоруссия" быў надрукаваны артыкул кандыдата філасофскіх навук (тэма дысэртацыі – „Гуманизм насильственной задачи социалистической революции" Вольгі Абрамавай „Распустить проще всего, или Какой референдум необходим сегодня», у якім яна пужала, што „в случае положительных результатов референдума есть вариант получить впоследствии новый парламент, составленный из защитников политики изоляционизма – политики, неприемлемой для рыночных отношений. Ведь как Сойм БНФ мотивировал свою идею о подготовке отставки того же правительства? Дескать, это правительство не в состоянии создать национальную гвардию, собственную таможенную службу, ввести национальную валюту. Здесь просматривается больше забота об атрибутике суверенитета республики, чем о неотложных нуждах экономики, а значит, и общества". Фактычна, ў тых умовах гэта быў выступ супраць найважнейшых элемэнтаў дзяржавы – нацыянальнай валюты, войска, а ў клопаце аб сувэрэнітэце бачылася крамола

Абрамава наракала, што „когда белорусский парламент принимал известное решение о придании статуса государственного белорусскому языку или когда Декларация о государственном суверенитете получила статус закона (насамрэч – статус канстытуцыйнага закона – С.Н.), мнением общественности не больно-то интересовались". „Какой референдум необходим сегодня" задавалася яна пытаньнем, і адказвала: рэфэрэндум аб дзяржаўнасьці беларускай і расейскай моваў: „Уверена, статус государственного языка должны получить оба общеупотребляемых в республике языка – и белорусский, и русский. В противном случае гражданского согласия нам не достичь". (Такім чынам, ужо ў 1992 годзе прамаскоўскія лебэралы выступілі за ліквідацыю статусу беларускай мовы як адзіна дзяржаўнай мовы. Пазьней Абрамава адкрыта стварыла ў Беларусі філію расейскай партыі).

Супраць рэфэрэндуму выступаў і Старшыня ВС Станіслаў Шушкевіч, які распусьціў вясеньнюю сэсію Вярхоўнага Савета і аж да восені цягнуў з прызначэньнем сэсіі, якая павінна была абвясьціць рэфэрэндум. (Рашэньне ЦВК аб правядзеньні рэфэрэндума адбылося ў красавіку). За гэты час антыбеларускія сілы падрыхтаваліся і арганізаваліся пры дапамозе Масквы.

Нарэшце, у кастрычніку 1992 г. ВС приступіў да разгляду пытаньня аб рэфэрэндуме.

Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах і рэфэрэндумах Аляксандар Абрамовіч сказаў: „Цэнтральная камісія праверыла кожны ліст, а ня толькі тыя 2 тысячы 372 лісты, якія былі перададзеныя на графалягічную экспэртызу. У выніку было выяўлена, што з агульнай колькасьці 442

тысячаў 61 подпіс – 51 тысяча 363 подпісы былі прызнаныя Цэнтральнай камісіяй як аформленыя з рознымі адступленьнямі. Зь яўнымі парушэньнямі патрабаваньня закону аб рэфэрэндуме была аформленая колькасьць падпісных лістоў і подпісаў, якая складае менш за адну адсотку ад агульнай колькасьці сабраных подпісаў. Зыходзячы з патрабаваньняў і духу Закону аб рэфэрэндуме, камісія вынесла папярэдняе заключэньне, якое, паважаныя дэпутаты, вам трэба разгледзіць. Мы добрасумленна выканалі свой абавязак, які вынікае з патрабаваньняў закона, і як бы там не было, у нас сумленьне застаецца чыстым перад вамі, паважаныя народныя дэпутаты. А рашэньне – за вамі".

Прымаць станоўчае рашэньне аб прызначэньні даты большасьць дэпутатаў не жадалі. Старшыня парлямэнцкай камісіі па заканадаўстве Дзьмітры Булахаў „абгрунтаваў" немэтазгоднасьць такога рэфэрэндуму.

Супраць рэфэрэндуму выступілі, сярод іншых, дэпутаты Аляксандар Лукашэнка і Васіль Лявонаў, якія параўнаў распад СССР з наступствамі Чарнобыля.

За датэрміновыя выбары прагаласавалі толькі 35 дэпутатаў (фактычна, Апазыцыя БНФ), супраць – 213. Аказалася, што акрамя дэпутатаў БНФ, ніхто ня здольны быў разьвітацца з гэтым камуністычным парлямантам. Такі быў палітычны ўзровень рэшты дэпутатаў.

Праз сем гадоў, у ліпені 1999-га, Зянон Пазьняк для радыё „Свабода" наступным чынам пракамэнтаваў тыя падзеі: „Вялікую ролю мог бы адыграць у гэтай сытуацыі Станіслаў Шушкевіч. Але ён ад самага пачатку не ўспрымаў ідэю рэфэрэндуму, пастаянна крытыкаваў фармулёўкі, крытыкаваў саму ідэю, і дзейнічаў заадно з Кебічам, з камуністычнай большасьцю. І разам зь імі ён знайшоў Булахава, які выканаў гэтую ролю „чорнага маўра". Станіслаў Станіслававіч вясной 1992-га мог стаць на пазыцыі законнасьці, на пазыцыі Канстытуцыі, ён меў вялікую падтрымку ў грамадзтве, больш за 50 адсоткаў, і безумоўна, ягоная пазыцыя адыграла б вялікую ролю. Тым больш, што яна была б законная. І ўсё, што было зроблена намі ў справе рэфэрэндуму – было таксама законна. Ён гэтага не зрабіў. Ён пайшоў на змову з намэнклятурай,. І самае дрэннае, што ён зрабіў – ён распусьціў сэсію Вярхоўнага Савету ў траўні 1992 году, і паўгода не зьбіраўся Вярхоўны Савет. Быў страчаны час, была страчана псыхалягічная сытуацыя. Што да рашэньня аб непрызначэньні рэфэрэндуму, дык, безумоўна, гэта быў найвялікшы ўдар па ўсёй беларускай Апазыцыі, і ўвогуле па беларускаму Адраджэньню. Гэты ўдар можна параўнаць з тым, калі б у Польшчы, скажам, у свой час не адбыўся „круглы стол". Калі б адбыўся рэфэрэндум – адбыліся б выбары, прыйшлі б новыя людзі, пачаліся б рэформы, была б новая Беларусь. Гэта быў адзіны шанец. Усе такія падзеі адбыліся ў былых краінах СССР ў 1991 годзе адразу, як праваліўся маскоўскі путч. Гэта быў час, калі людзі жылі чаканьнем пераменаў, чаканьнем разбурэньня старой савецкай машыны. Як толькі гэты час мінуў, пачаўся час арганізацыі, час стварэньня. І мы, беларусы, ужо страцілі той час разбурэньня старой савецкай машыны, мы ўжо былі ў 1992 годзе. Фактычна, мы ўскоквалі ў апошні вагон. І вось гэты апошні вагон, дзякуючы стараньням і камуністычнай большасьці, і Станіслава Шушкевіча, і Кебіча – адчапілі".

Такім чынам, воля 442 тысячаў грамадзян была праігнараваная; адмаўляючы ў рэфэрэндуме, Вярхоўны Савет прыняў нелегітымнае рашэньне і, фактычна, паставіў сябе па-за законам. З гэтага моманту – з 29 кастрычніка 1992 году – прарасейскія сілы і ў парлямэнце, і ў структурах выканаўчай улады адкінулі прыгожыя фразы і адкрыта паўсталі на шлях ліквідацыі беларускай дзяржаўнасьці.

У палітычным жыцьці краіны ўзьнікла і яшчэ адна адметнасьць: зь лета 1992 году пачалі ствараца альбо ўзмацняцца партыі, якія абвяшчалі сябе альтэрнатывай Народнаму фронту. Была ўтвораная Партыя народнай згоды – з ініцыятывы былой і дзейнай прамысловай намэнклятуры, якую ўзначаліў Генадзь Карпенка.

Зянон Пазьняк меў зьвесткі, што бальшыня партыяў была створана альбо інфільтравана КДБ для аслабленьня Народнага фронту. Аналягічнага меркаваньня прытрымліваўся і Васіль Быкаў, які да таго ж ставіў пад сумнеў іхны дэмакратызм: „У Беларусі ёсьць некалькі дэмакратычных партыяў – ва ўсялякім разе, намінальна дэмакратычных.

Я асабіста сумняюся ў дэмакратызме некаторых зь іх. Магу і памыліцца, але пакуль яны нешта не сьпяшаюцца выявіць сваёй дэмакратычнасьці на справе. Што ж да Беларускага Народнага Фронту, гатовы гарантаваць, што гэта сапраўды дэмакратычная арганізацыя". Гэтыя словы Быкаў сказаў у інтэрвію „Свабодзе" ў пачатку 1996 году; а ў 1992-м некаторыя дэмпартыі раптам (ці ня раптам?) зрабілі заявы, дыямэтральна супрацьлеглыя стратэгічным прынцыпам БНФ.

Захаваньне парлямэнцкай рэспублікі было адным з галоўных патрабаваньняў Апазыцыі БНФ, і да нейкага часу нам удавалася ўтрымліваць членаў Канстытуцыйнай камісіі ад уключэньня „прэзыдэнцкіх" разьдзелаў у праект Канстытуцыі. Сытуацыя карэнным чынам зьмянілася, калі супраць парлямэнцкай рэспублікі выступілі нашыя „саюзьнікі" па дэмакратычным лягеры.

8 чэрвеня 1992 году ў менскай газэце „Добры вечар" дэпутат сталічнага гарсавета, намесьнік Старшыні Аб'яднанай дэмакратычнай партыі (потым улілася ў АГП) Міхась Пліска заявіў пра неабходнасьць увядзеньня ў Беларусі прэзыдэнцтва; у якасьці аргумэнтаў супраць парлямэнцкай рэспублікі прыводзіліся прыклады краінаў, дзе перамогу атрымалі нацыянальныя дэмакраты. М. Пліска канстатаваў: „Былых прадстаўнікоў ад парт- і дзяржнамэнклятуры, нацыянальных дэмакратаў, як, зрэшты, і дэмакратаў-дзяржаўнікаў, родніць адных з другімі абсалютызацыя ўлады парляманта". Міне колькі гадоў – і прыклад Летувы, Латвіі і Эстоніі будзе, наадварот, менскімі лібэраламі прыводзіцца як станоўчы, у немалой ступені дзякуючы таму, што пачатковы пэрыяд дзяржаўнага станаўленьня і пачатку рынкавых рэформаў супаў менавіта зь вяршынствам парлямэнту, дзе захоўваўся баланс інтарэсаў.

Што да „балянсу інтарэсаў" у нашай Канстытуцыйнай камісіі, дык гэтым і падобнымі выступамі ён быў парушаны. „Кебічысты" адчулі, што сярод дэмакратаў ужо няма адзінства (за прэзыдэнцтва пачалі выступаць Карпенка, Ганчар і іншыя, пабачыўшы ў гэтай пасадзе магчымасьць уласнай самарэалізацыі) і фарсіравалі ўвядзеньне прэзыдэнцкіх разьдзелаў – пры згодзе старшыні Канстытуцыйнай камісіі Станіслава Шушкевіча.

Дарэчы, артыкул М. Пліскі называўся „Прэзыдэнцкая рэспубліка як сродак падзелу выканаўчай і заканадаўчай улады". Міжволі прыгадваецца, што добрымі жаданьнямі брукаваная дарога ў пекла.

## ДВА ФОРУМЫ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ТРЫЮМФУ

У 1993 годзе адбыліся падзеі, якія – пасьля аднаўленьня незалежнасьці – можна лічыць самымі знакавымі ў апошнім Адраджэньні – але на гэты ж год прыпадае і найбольш брутальны (да пэрыяду прэзыдэнцтва) наступ праціўнікаў нацыянальнай ідэі.

У сакавіку 1993 году адзначаліся 75-я ўгодкі ўтварэньня Беларускай Народнай Рэспублікі. Урачыстае паседжаньне прайшло ў будынку філярмоніі з удзелам Старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча і Старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча. Урачыстасьці па-за межамі сталіцы былі значна больш сьціплымі. Але вось у Беластоку, дзе ў тыя дні мне давялося прадстаўляць БНФ, на сьвяткаваньне прыехаў і нават выступіў з прамовай амбасадар Беларусі ў Польшчы У. Сянько. Сёньня немагчыма ўявіць, каб на сьвяткаваньні 25 сакавіка прысутнічаў хаця б самы нізкапастаўлены чыноўнік райвыканкаму – калі не лічыць высокапастаўленых супрацоўнікаў міліцыі і спэцслужбаў падчас разгону маніфэстацыяў. Дый беларускія дыпляматы не наведваюць урачыстасьці, якія ў гонар БНР штогод ладзяцца ва ўсіх буйных асяродках беларускай дыяспары – у Празе, Лёндане, Антвэрпэне, Нью-Ёрку, Кліўлендзе, Таронта, Сіднэі, Мэльбурне ды іншых месцах.

У опэрным тэатры на працягу трох дзён, з 8 да 10 ліпеня адбываўся Першы зьезд беларусаў сьвету. Варта нагадаць, што да пабудовы „Палаца Рэспублікі" менавіта ў опэрным тэатры адбываліся найбольш важныя ўрачыстасьці, прычым далёка не штогод (на памяць прыходзіць ўручэньне Л. Брэжневым залатой зоркі гораду-героя Менску ў 1978 годзе). Нацыянальным сілам удалося прадухіліць задуму, якую выношвалі ў Саўміне

– каб Рада БНР склала свае паўнамоцтвы і перадала іх ураду Кебіча (аналягічны крок зрабіла Ўкраінская Народная Рада). Менская дыпляматыя актыўна „апрацоўвала” сябраў Рады, аднак, да гонару кіраўніцтва, і найперш тагачаснага Старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча – свае паўнамоцтвы яна ня склала. У прэзыдыюме зьезду былі С. Шушкевіч, віцэ-прэм’ер М. Дзямчук, міністры П. Краўчанка, А. Бутэвіч і іншыя высокапастаўленыя дзеячы. Зьезд віталі Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк. Большасьць замежных удзельнікаў упершыню прыехалі ў Беларусь пасьля дзесяцігодзьдзяў жыцьця на чужыне – яшчэ зусім нядаўна іх называлі абразьлівымі словамі (праз тры-чатыры гады гэтая лексіка вернецца).

Зрэшты, ужо праз некалькі тыдняў пасьля зьезду само гэтае мерапрыемства і ягоныя ўдзельнікі былі раскрытыкаваныя. Іван Антановіч (былы загадчык аддзелу культуры ЦК КПБ і будучы міністар замежных справаў пры Лукашэнку) у „Звяздзе” (7 верасня 1993 г.) выказаў незадавальненьне, што ў сваёй прамове на зьездзе С. Шушкевіч „бярэ на сабе цяжкі грэх, калі проціпастаўляе камуністычную ідэю праблемам і задачам нацыянальнага адраджэньня. Мы ня можам згадзіцца, што калі-небудзь на Беларусі камуністычная ідэя супрацьстаяла нацыянальнай”. Насамрэч, усе сем дзесяцігодзьдзяў панаваньня камуністычнай улады гэтая ўлада зьнішчала галоўную нацыянальную ідэю – ідэю беларускай Незалежнасьці. Зьнішчала і яе носьбітаў – у Курапатах ды іншых месцах. Свой артыкул Іван Антановіч падпісаў навуковымі тытуламі – „доктар філязофскіх навук, прафэсар”, не пазначыўшы, што зьяўляецца адным з галоўных ідэалягічных дарадцаў прэм’ера Кебіча. Зрэшты, пра пазыцыю Кебіча ў 1993 годзе – крыху пазьней, а пакуль адзначым яшчэ некалькі станоўчых прыкладаў беларускага Адраджэньня.

У 1993 годзе ў дзяржаўных выдавецтвах пачалі выдавацца раней забароненыя творы рэпрэсаваных аўтараў і пісьменьнікаў-эмігрантаў. Працягваў друкавацца збор твораў Васіля Быкава, выходзілі кнігі Рыгора Барадуліна, Уладзімера Арлова. У выдавецтве „Беларусь” у перакладзе з польскай пабачыла сьвет дасьледаваньне Юрыя Туронка „Беларусь пад нямецкай акупацыяй” – упершыню масавы чытач мог пазнаёміцца зь невядомымі, забароненымі старонкамі нядаўняй гісторыі.


(Архіў С. Навумчыка)

***Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк. 1993 г.***

Зрэшты, беларускае кнігадрукаваньне разьвівалася не дзякуючы дзяржаўным органам, а, хутчэй, насуперак ім. Да прыкладу, 4-ы том збору твораў В. Быкава быў здадзены ў набор 15 траўня 1992 году, а падпісаны ў набор толькі праз пятнаццаць (!) месяцаў – 10 жніўня 1993 году. Зборнік Уладзімера Арлова „Пяць мужчын у лесьнічоўцы” здадзены ў набор 3 красавіка 1993 году, а падпісаны ў набор 14 лютага 1994-га. Гэта можна было б патлумачыць тагачасным дэфіцытам паперы – але ў той самы час зь менскіх друкарняў ледзь не мільённымі накладамі выходзілі сотні і тысячы найменьняў расейскамоўнай „жоўтай” прадукцыі. Пазьней нават у афіцыйным друку зьявіліся сьведчаньні, што бізнэсоўцы плацілі грошы кіраўнікам выдавецтваў асабіста, што, аднак, можа зьяўляцца толькі частковым тлумачэньнем. Гэта была праява агульнай, дзяржаўнай тэндэнцыі – кіраўнікі друкарняў разумелі, што выканаўчая ўлада, ад якой яны залежалі, у разьвіцьці беларускай культуры і кнігадруку не зацікаўленая.

# ШУШКЕВІЧ ШУКАЕ ЗГОДЫ

Пасьля забароны ў кастрычніку 1992 году рэфэрэндуму аб датэрміновых выбарах пракамуністычныя, антыбеларускія сілы ўзмацнілі наступ і на нацыянальны рух, і на кіраўніка парляманту Станіслава Шушкевіча.

Суб'ектыўна, Шушкевіч працягваў заставацца незалежнікам (у чым я перакананы). Лічыў і лічу Станіслава Станіслававіча маральным, сумленным чалавекам; займаючы найвышэйшую ў краіне пасаду, ён паказваў прыклад асабістай сьціпласьці (і тым самым выклікаў нянавісьць у намэнклятуры). Сын рэпрэсаванага пісьменьніка, ён меў дэмакратычны сьветапогляд, быў высокаадукаваным – напэўна, упершыню гэтыя якасьці сышліся ў асобе, якая займала найвышэйшую ў Беларусі пасаду (я пішу ў мінулым часе, бо ацэньваю ягоныя якасьці на пасадзе старшыні ВС, у гістарычным ўжо кантэксьце).

Вялікім мінусам Шушкевіча была ягоная непасьлядоўнасьць і нейкае наіўнае жаданьне знайсьці паразуменьне з тымі, хто мовы кампрамісаў не разумее ў прынцыпе. У выніку кампрамісы абарочваліся здачай вельмі істотных пазыцыяў. Ён увесь час шукаў „згоды" паміж Апазыцыяй БНФ і парляманцкай пракамуністычнай большасьцю, і вынік гэтых пошукаў быў заўсёды не на нашу карысьць (часам пішуць – „Шушкевіч лавіраваў"; насамрэч з восені 1992 году ніякіх палітычных „рэвэрансаў" у бок БНФ сьпікер ужо не рабіў).

У адрозьненьне ад Шушкевіча, Кебіч быў чалавекам пасьлядоўным. На мяжы 1989–90 гадоў ён выгадна вылучаўся зь ліку найвышэйшай гаспадарчай партыйнай намэнклятуры сваёй энэргічнасьцю; неўзабаве пасьля таго, як увесну 1990-га ён заняў пасаду Старшыні Саўміну, Васіль Быкаў у артыкуле ў маскоўскай „Литературной газете" назваў яго прэм'ерам, зь якім зьвязаныя спадзяваньні. Асабіста на мяне першая асабістая гутарка з Кебічам (я прыйшоў прасіць трубы для камунальных службаў маёй выбарчай акругі) таксама зрабіла станоўчае ўражаньне.

Намэнклятурнае пакаленьне Кебіча асабіста я вызначаю як „дзяцей вайны" – іх дзяцінства альбо раньняе юнацтва прыпала на гады нястачаў, калі вельмі шмат значылі чалавечыя якасьці, што часта толькі і былі адзінай надзеяй на выратаваньне ад самага звычайнага голаду. Прычым гэта быў час усенароднага гора (у пазьнейшыя часы нястачы дзіцяці маглі быць вынікам нейкіх сямейных прычынаў альбо п'янства бацькоў, і на фоне адноснай дагледжанасьці раўналеткаў гэта магло спарадзіць звыродлівыя комплексы). Да таго ж, гэтае пакаленьне ў большасьці вучылася ў беларускіх школах. Ва ўсялякім разе, не магу дапусьціць думкі, каб Кебіч аддаў каманду на брутальныя дзеяньні кшталту зьбіцьця дэпутатаў, альбо пасьлядоўна і мэтанакіравана, крок за крокам, вынішчаў бы беларускія асяродкі, што рабілі прадстаўнікі наступнага пакаленьня – прэзыдэнт Лукашэнка і кіраўнікі ягонай адміністрацыі Сініцын, Латыпаў, ды Шэйман. Усё ж для Кебіча існавала нейкая мяжа.

Канешне, кожны чалавек, як кажуць, – „сам стваральнік свайго лёсу", у тым ліку і палітычнага, і асабіста нясе за яго адказнасьць. У трансфармацыі іміджу Кебіча – ад „прэм'ера спадзяваньняў" да ўвасабленьня антыдэмакратычных сілаў – найперш вінаваты сам Вячаслаў Францавіч. Аднак адбылося гэта не ў апошнюю чаргу дзякуючы некаторым асобам зь ягонага найбліжэйшага атачэньня, якія свае пасады выкарыстоўвалі выключна ў інтарэсах уласнага матэрыяльнага дабрабыту. Гуляючы на некаторых чалавечых слабасьцях, у гэтае „найбліжэйшае кола" ўвайшлі і тыя, для каго галоўным быў інтарэс Масквы.

Да 1993 году пазыцыя Кебіча (ва ўсялякім разе, палітычная пазыцыя ягонага ўраду) канчаткова сфармавалася і палягала ў жаданьні ўтрымаць уладу праз падтрымку (найперш эканамічную) Масквы. Гэтыя спадзяваньні на расейскія нафту, газ ды пазыкі Крэмль і Лубянка выкарыстоўвалі, каб як мацней прывязаць да сябе Беларусь. Чым больш слабой эканамічна была Беларусь – тым больш шанцаў на посьпех мела такая стратэгія. Беларускі Народны Фронт успрымаўся імі (і абсалютна справядліва) як галоўная сіла, якая перашкаджала такой палітыцы.

У сярэдзіне студзеня 1993 году адбылося сумеснае паседжаньне Прэзыдыюму Вярхоўнага Савета і прэзыдыюму Савета Міністраў, зь яко-

га, у парушэньне закону, выставілі „звычайных” дэпутатаў. Паседжаньне вялі С. Шушкевіч і С. Кебіч. Было вырашана, як пазьней праінфармаваў Шушкевіч, „пайсьці па шляху пераважна дзяржаўнай уласнасьці на зямлю”. 18 студзеня С. Шушкевіч правёў кансультацыйную сустрэчу з прадстаўнікамі парляманцкіх фракцыяў. Сьпікер выказаў незадавальненьне тым, што сэсія ВС ідзе „марудна”. На нарадзе я дыскутаваў з каардынатарам групы „Беларусь” Г. Казловым, які прапанаваў скасаваць „Рознае” (штодня перад пачаткам паседжаньняў на працягу паўгадзіны дэпутаты маглі выступіць на самыя розныя тэмы, зрабіць запыты і г.д. Мы актыўна выкарыстоўвалі „Рознае”, паколькі яно перадавалася ў радыё і тэлебачаньні ў поўным запісе, без купюраў). У выніку С. Шушкевіч прыняў прапанову скасаваць „Рознае” (што, аднак, не было зроблена – нават „большасьць” парлямэнцкай „большасьці” не пагадзілася на гэта, бо губляла магчымасьць „сьвяціцца” перад уласнымі выбарцамі).

3 лютага большасьць дэпутатаў ВС галасуе за скасаваньне Пастановы аб прыпыненьні дзейнасьці КПБ–КПСС – пры працэдурных парушэньнях з боку Шушкевіча (адключаў мікрафоны ў дэпутатаў Апазыцыі).

## У ВАЙСКОВУЮ АРБІТУ РАСЕІ

Зь вясны 1992 году набірае абароты кампанія па ўцягваньні Беларусі ў Дамову аб калектыўнай бясьпецы СНД (ДКБ). Вайсковым міністэрствам краінаў СНД у блёку адводзіцца дэкаратыўная роля; стратэгію выпрацоўвае расейскі Генштаб. У Вярхоўным Савеце кампанію ўзначальваюць старшыня парляманцкай камісіі па справах бясьпекі М. Грыб, а таксама намесьнікі начальніка Ўпраўленьня грамадзкай бясьпекі і абароны Саўміну Генадзь Казлоў і Валер Паўлаў. Уласна, патрабаваньне аб далучэньні краіны да ДКБ робіцца лейтматывам дзейнасьці парлямэнцкай большасьці на працягу ўсяго 1993 году.

19 сакавіка Апазыцыя БНФ выступае з Заявай „Аб дачыненьнях у войску”, у якой выказваецца супраць далучэньня да ДКБ і ваеннага саюзу з Расеяй. У пачатку красавіка кіраўнікі грамадзкіх арганізацыяў і вядомыя дзеячы (у тым ліку В. Быкаў, Р. Барадулін, С. Законьнікаў, У. Арлоў, Р. Гарэцкі, А. Дудараў, М. Купава, А. Мальдзіс, Г. Сурмач) выступілі са Зваротам „Беларускі народ ня можа плаціць за нафту крывёю сваіх сыноў”.

8 красавіка Зянон Пазьняк зьвяртаецца да жанчын Беларусі з заклікам падаць голас пратэсту супраць ваеннага саюзу і скасаваньня нэўтралітэту. „Ня верце ні гэтаму ўраду, ні гэтаму Вярхоўнаму Савету. Яны створаныя з камуністычнай намэнклятуры яшчэ пры савецкім таталітарным рэжыме...”.

Падчас абмеркаваньня вайсковага пытаньня на 11-ай нечарговай сэсіі ВС Станіслаў Шушкевіч фактычна блякуе дзеяньні Апазыцыі БНФ. „Гэтым разам выбар быў пастаўлены вельмі сур’ёзна. Адмова ад нэўтралітэту і бязьядзернасьці Беларусі, ваенны саюз з Расеяй і азіяцкімі краінамі – гэта ня толькі пэрспэктыва страты незалежнасьці, гэта крах мірнай незалежнай палітыкі, страты прэстыжу і пазіцыяў у сьвеце. Гэта пагроза жыцьцям грамадзянаў Беларусі... Намэнклятура паставіла сьпікера (ці, як яны вымаўляюць, „скіпера”) перад выбарам, намякаючы адначасна пра магчымасьць яго адстаўкі. Прыём заўсёды спрацоўваў бездакорна. Ад „скіпера” патрабавалася ня даць нармальна працаваць Апазыцыі БНФ – адзінай сіле ў Вярхоўным Савеце, якая можа сапсаваць гульню большасьці. Кіраўнік сэсіі заўсёды стараўся. Груба парушаліся законы, рэглямант, адключаліся мікрафоны, не давалася слова, галасаваньнем большасьці спынялася дыскусія. Ужываліся нават адкрытыя падтасоўкі галасаваньня... Дэпутатаў Апазыцыі пад гіканьне і выкрыкі, ёрніцтва Старшыні, разьлічаныя на ўхваленьне камуністычнай большасьці, фактычна пазбаўлялі на сэсіі дэпутацкіх правоў”, – пісаў у „Навінах БНФ” (спэцвыпуск, красавік 1993 г.) Мар’ян Ванькевіч (псэўданім З. Пазьняка).

Шушкевіч рабіўся закладнікам уласнай непасьлядоўнасьці.

Вынік: большасьцю галасоў Вярхоўны Савет прымае рашэньне даручыць С. Шушкевічу падпісаць ад імя Беларусі Дамову аб калектыўнай бясьпецы СНД (сярод 188 дэпутатаў, якія прагаласавалі за гэта – А. Лукашэнка).




(Калекцыя З. Пазьняка)

***Падпісаньне „Антыкрызіснага Пагадненьня" 14 сакавіка 1992 г. Менск, Дом літаратара. У цэнтры З. Пазьняк і С. Шушкевіч***

Шушкевіч заяўляе: „Я павінен выконваць рашэньне Вярхоўнага Савета, хоць я ня згодны", – і адначасна выступае з прапановай рэфэрэндуму аб захаваньні вайсковага нэўтралітэту. 27 красавіка ўдзельнікі Кансультацыйнай нарады патрыятычна-дэмакратычных сілаў Беларусі падтрымліваюць ініцыятыву С. Шушкевіча. Аднак прапанова ня мела заканадаўчага разьвіцьця.

Яшчэ ў 1992 годзе афіцэры не былі прыведзеныя да прысягі на вернасьць Беларусі. (!) Шмат хто зь іх заяўляў, што „прысягаў СССР" і „перапрысягаць" не зьбіраецца. Каму служыць – справа кожнага; аднак у іншай краіне пасьля такіх заяваў афіцэр быў бы звольнены на працягу 24 гадзін. У Беларусі ж неабходнасьць прыняцьця прысягі ўсё яшчэ дэбатавалася, а звальнялі афіцэраў зусім за іншае.

Рукамі міністра абароны Казлоўскага ўрад распачынае звальненьне з войска афіцэраў – актывістаў Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў, якія ўзяліся „ў цяжкіх умовах нярэдка непрыхільнай да беларушчыны атмасфэры ў сучасным войску прапагандаваць уласным прыкладам беларускі дзяржаўны патрыятызм, вяртаць у войска беларускую мову і традыцыі, тым самым пераадольваючы адчужэньне паміж наваствoранай беларускай арміяй і беларускім народам".

Апошняя цытата – са Звароту да грамадзян Беларусі ў абарону актывістаў БЗВ і яго кіраўніка М. Статкевіча, які падпісалі больш як восемдзясят палітычных і грамадзкіх дзеячоў – у тым ліку В. Быкаў (ягоны подпіс стаіць першым), Б. Сачанка, А. Пісьмянкоў, Г. Сагановіч, М. Чарняўскі, У. Кулажанка, Т. Мархель. Пад зваротам подпісаліся 55 дэпутатаў Вярхоўнага Савета, у тым ліку Апазыцыя БНФ у поўным складзе.

У красавіку 1993 года Апазыцыя БНФ канстатуе, што „Савет Міністраў, якому цяпер падпарадкоўваюцца Узброеныя Сілы, да гэтай пары не прыступіў да выкананьня дадзенага яму да 1 сакавіка г.г. Вярхоўным Саветам даручэньня пачаць рэалізацыю зацьверджанай на 10 сэсіі Вярхоўнага Савета Беларусі „Ваеннай дактрыны Рэспублікі Беларусь". Мы прапанавалі перападпарадкаваць




(Калекцыя З. Пазьняка)

*Дэлегаты III Зьезду БНФ Адраджэньне. Менск, Тэатр імя Янкі Купалы 29 – 30 траўня 1993 г.*

Узброеныя Сілы парляманту, але нашая прапанова не была прынятая. Расейскі Генштаб праз сваіх прыхільнікаў ў Савеце Міністраў ўцягваў Беларусь у арбіту расейскіх вайсковых інтарэсаў.

## „НАС ПАВІННА НАТХНЯЦЬ СЬВЯТАСЬЦЬ НАШАЕ МЭТЫ"

Праімпэрскія сілы актыўна ідуць у наступ: дэпутаты-вэтэраны ініцыююць дыскусію аб скасаваньні Бел-Чырвона-Белага Сьцяга і гэрба „Пагоня" ў якасьці дзяржаўных сымваляў і пераносе сьвяткаваньня Дня сувэрэнітэту з 27 ліпеня на іншы дзень (ужо тады ў апошняй прапанове праглядалася мэта – зьнішчыць прызнаньне дзяржаўным сьвятам юрыдычнае прыняцьцё Дэклярацыі аб сувэрэнітэце, а фактычна – незалежнасьці ад Масквы; бо 3 ліпеня – гэта дзень вызваленьня Менску ад нямецкай акупацыі і вяртаньня старой – савецкай, з ідэяй сувэрэнітэту ён ніяк не зьвязаны).

У чэрвені 1993-га Савет Міністраў спрабуе юрыдычна перападпарадкаваць сабе КДБ (паводле Закону, КДБ падпарадкоўваецца Вярхоўнаму Савету; насамрэч інфармацыю з КДБ маюць толькі С. Шушкевіч, М. Грыб і яшчэ, магчыма, два–тры дэпутаты. Фактычна, КДБ знаходзіцца ў падпарадкаваньні Саўміну).

29–30 чэрвеня дэлегацыя на чале з Кебічам наведвае Маскву і дамаўляецца з расейскім прэм'ерам Чарнамырдзіным аб умовах, на якіх у Беларусі будзе ўведзены расейскі рубель у якасьці "адзінага законнага плацежнага сродку". З гэтага моманту ідэя ўвядзеньня расейскага рубля робіцца галоўнай прапагандысцкай тэмай В. Кебіча; пазьней яе будзе выкарыстоўваць і А. Лукашэнка.

„Нацыя і воля – вось вечныя праблемы і калізія, ці можа што быць важнейшым за іх? Ворагі – так, ворагаў у нас заўсёды хапала, не паменела іх і зараз… Усё нацыянальна беларускае для іх – варожае, а ўсё агіднае, варожае для нацыі – іхняе… – казаў Васіль Быкаў падчас адкрыцьця 3-га зьезду БНФ, які адбыўся ў апошнія дні траў-

ня. – І калі нам кажуць: трэба болей цярпімасьці, памяркоўнасьці, трэба менш радыкалізму і рыгарызму, бо важней за ўсё паступовасьць, нацыянальная згода – мы ведаем: гэта гавораць яны ці іхнія адвакаты, нават тады, калі гавораць па-беларуску. Увесь наш гістарычны вопыт пярэчыць супраць іх д'ябальскай лёгікі... Так, цяпер можна з упэўненасьцю сказаць, што менавіта БНФ напрыканцы XX стагодзьдзя абудзіў нацыю, даў ёй надзею... І калі не перамог канчаткова, дык у тым адлюстравалася не заганнасьць ягоных мэтадаў, а найбольш – грандыёзнасьць задачы. Але БНФ і не ўяўляў яе меншай, тая задача сапраўды нечувана грандыёзная, і як цяпер відаць, па сіле хіба не аднаму пакаленьню нацыянальна-сьведамых беларусаў... Няўдач і перамог яшчэ будзе нямала. Але ў нас ёсьць гарант – найперш гэта незваротная хада гісторыі, прагрэсу і чалавечнасьці. Нас павінна натхняць сьвятасьць нашае мэты, зарука дасягненьня якой – народная воля, выпрабаванае, узбагачанае вопытам кіраўніцтва БНФ. А таксама ягоны лідэр, які ў шматлікіх варунках барацьбы засьведчыў сваю надзвычайную вартасьць. Можна з упэўненасьцю сказаць, што нацыі пашчасьціла на яе лідэра, якім зьяўляецца пасланы нам Богам Зянон Станіслававіч Пазьняк".

Зьезд БНФ абвясьціў галоўнай мэтай сваёй праграмы свабоднага чалавека ў адноўленай незалежнай Беларусі і пацьвердзіў, што выступае за беларускую мову як адзіную дзяржаўную, пры роўных умовах разьвіцьця нацыянальных меншасьцяў. Пры гэтым Зянонам Пазьняком упершыню была вылучана тэза „парытэту" правоў чалавека і правоў дзяржавы (пад апошнім мелася на ўвазе ня тое, што завецца „машынай дзяржаўнага апарату", а незалежная Беларусь). Нягледзячы на тое, што гэтая тэза была падтрымана Васілём Быкавым, лібэральныя „дэмакраты" ўчынілі енк з той прычыны, што БНФ, нібыта, хоча такім чынам прынізіць правы чалавека, свабоду асобы, што супярэчыць прынцыпам так званага „адкрытага грамадзтва" і фундамэнту, на якім пабудаваная самая дэмакратычная краіна – ЗША. Міне восем гадоў, і пасьля атакі мусульманскіх тэрарыстаў на Нью-Ёрк і Вашынгтон ідэя парытэту знойдзе ўвасабленьне ў ЗША.




*Васіль Быкаў выступае на Сойме БНФ. Справа З. Пазьняк.*

# СПРОБА АДСТАЎКІ ШУШКЕВІЧА

У канцы чэрвеня парляманцкая большасьць пачынае працэс адхіленьня ад улады Станіслава Шушкевіча. На сэсіі Вярхоўнага Савета В. Ціхіня заяўляе пра неабходнасьць адстаўкі старшыні, Ціхіню падтрымліваюць А. Лукашэнка, Д. Булахаў, В. Ганчар, Г. Карпенка (на той час – кіраўнік Партыі народнай згоды, складзенай пераважна з прадстаўнікоў прамысловай намэнклятуры).

„Атака – гэта працяг помсты, імкненьне ў апошні раз нашкодзіць, грымнуць дзьвярыма перад сваім канцом. Яны аджываюць, будучага няма, і тычыцца тое як адкормленых у партыйных сьвінарніках парсюкоў, так і атлусьцелай на дзяржаўных раскрадзеных сродках новай буржуазіі – намэнклятуры, якая своечасова апынулася



*1993 г.*

менавіта там, дзе нешта прыватызуецца. І вось тут змыкаюцца інтарэсы Івана Трусава і Генадзя Карпенкі, вось тут і сябруюць камуніст з „дэмакратам”. У захаваньні такога сэнсу і шукаюць апору „товарищи” з „господами”, заклікаючы да „згоды” і „стабільнасьці”, – пісала ў тыя дні менская газэта „Добры вечар” (3 ліпеня 1993 г.).

Аднак былі і куды больш сур’ёзныя прычыны, чым прыватныя інтарэсы асобных дэпутатаў ці нават інтарэсы асобных партыяў. Праімпэрскія сілы разумелі, што Шушкевіч, пры ўсёй ягонай непасьлядоўнасьці, застаецца перашкодай на шляху стварэньня вайсковага саюзу і, далей, поўнага вяртаньня Беларусі ў зону маскоўскага ўплыву.

Паказальна, што сярод ініцыятараў адстаўкі Шушкевіча былі тыя самыя дэпутаты, што актыўна дамагаліся ўцягваньня Беларусі ў зону калектыўнай бясьпекі – палкоўнікі Генадзь Казлоў і Валер Паўлаў. А галоўным закідам Шушкевічу было тое, што ён не падпісвае Дамову аб Калектыўнай бясьпецы СНД.

Спрабуючы прадухіліць адстаўку, Шушкевіч заявіў, што накіраваў лідэрам дзяржаваў СНД ліст, у якім паведаміў аб далучэньні Беларусі да Дамовы, і што гэта, на яго, Шушкевіча, думку, фактычна зьяўляецца актам падпісаньня. У адказ на гэта міністар замежных справаў П. Краўчанка заявіў, што такі ліст ня мае юрыдычнай сілы. Прадстаўнікі парляманцкай большасьці (а таксама „незалежныя” дэпутаты) абвінавацілі Шушкевіча ў падмане і вынесьлі пытаньне аб недаверы.

Словы Шушкевіча адносна далучэньня да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы выклікалі ў нас абурэньне.

Тым ня менш, менавіта Апазыцыя БНФ выратавала Шушкевіча ад адстаўкі. (Вырашылі што Шушкевіча трэба яшчэ падтрымаць.)

Так, ужо на стадыі ўключэньня пытаньня аб адстаўцы мы ў галасаваньні ня ўдзельнічалі. Для прыняцьця рашэньня трэба было 174 галасы, „за” было 148, не хапіла 26. Зразумеўшы, што легітымнае рашэньне аб адстаўцы правесьці ня ўдасца, апанэнты прапанавалі паставіць пытаньне аб даверы праз галасаваньне бюлетэнямі ў кабінах – з тым разьлікам, што калі большасьць выкажацца за недавер, Шушкевіч сам будзе вымушаны сысьці.

Дэпутаты БНФ адмовіліся ўдзельнічаць і ў гэтай працэдуры, не рэгістраваліся і ня бралі бюлетэні. У выніку за недавер прагаласавалі 166 дэпутатаў – не хапіла 8 галасоў.

Між іншым, гэта абвяргае пазьнейшыя сьцьверджаньні Станіслава Станіслававіча, што нібыта Апазыцыя на чале з Пазьняком жадала ягонай адстаўкі – калі б мы жадалі, дык узялі б бюлетэні.

Але такое меркаваньне Шушкевіч выкажа толькі праз некалькі гадоў.

У тыя ж дні Шушкевіч даў інтэрвію карэспандэнтам БелаПАНу:

„Найбольш пасьлядоўна і адкрыта адстойвала Вас у гэтай сытуацыі Апазыцыя БНФ. Ці перагледзіце Вы цяпер свае адносіны зь ёю?” – запытаўся карэспандэнт. Адказ: „Што тычыцца ацэнкі дзеяньняў Апазыцыі ў апошнія дні... Я зразумеў,

што яна стала „глыбейшай”. Паглядзіце, наколькі эфэктыўна прымяніла яна яшчэ адну сваю „зброю” – байкот. Адзначу, што па пытаньнях культуры, мовы і гістарычнай спадчыны я заўсёды быў з Апазыцыяй. Але па пытаньнях эканомікі трэба капаць глыбей, чым яна гэта робіць...” („Зьвязда”, 3 ліпеня 1993 г.). Станіслаў Станіслававіч зрабіў выгляд, нібыта і ня ведае пра дзесяткі эканамічных заканадаўчых прапановаў, вылучаных Апазыцыяй і яе Ценявым Кабінэтам і адрынутых парляманцкай большасьцю, часам не без удзелу сьпікера...

У тыя дні ў Драздах у рэзыдэнцыі амэрыканскага амбасадара Дэвіда Сўорца адбыўся прыём з нагоды Дня незалежнасьці ЗША. Пасьля прыёму там жа, у рэзыдэнцыі, мы сабраліся ў больш вузкім коле – С. Шушкевіч, З. Пазьняк, І. Сярэдзіч, У. Заблоцкі – і падрабязна (трэба прызнацца, даволі эмацыйна) абмеркавалі сытуацыю. Мы раілі Шушкевічу вызначыцца, перахапіць ініцыятыву і запатрабаваць адстаўкі ўраду Кебіча – але Станіслаў Станіслававіч быў пераананы, што тактыка „згоды” яшчэ ня вычарпала свайго патэнцыялу.

Праз два дні, выступаючы на 3-й усебалерускай палітычнай канфэрэнцыі, Зянон Пазьняк наступным чынам ахарактарызаваў сытуацыю: „Фармальна зьняцьцё С. Шушкевіча з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета не ўяўляе ніякіх цяжкасьцяў. Ён ня мае ніякай апоры. Ні Апазыцыя Народнага фронту, ні іншыя дэмакратычныя дэпутаты яго не падтрымліваюць за згодніцтва, бесхрыбетнасьць і беспрынцыповае ўгодніцтва перад камуністычнай большасьцю ў Вярхоўным Савеце. С. Шушкевіч актыўна спрычыніўся да такіх чорных яе справаў, як антызаконная забарона рэфэрэндуму 29 кастрычніка 1992 г. і аднаўленьне дзейнасьці КПБ–КПСС на Беларусі. С. Шушкевіч моцна вінаваты перад дэмакратамі, якія падзнялі яго зь невядомасьці і зрабілі галоўнай службовай асобай дзяржавы. Тым ня менш, Апазыцыя БНФ, ад якой залежаў лёс С. Шушкевіча на пасадзе Старшыні, і іншыя дэмакратычныя дэпутаты спакойна ацанілі гэту пэрманэнтна парадаксальную сытуацыю і вырашылі падтрымаць С. Шушкевіча байкотам рэгістрацыі і галасаваньня, штучным стварэньнем адсутнасьці кворуму. Бо справа, як бачым, зусім не ў яго асобе, як бы крытычна да яе ні адносіцца. Справа ў пагрозе незалежнасьці Беларусі. Ва ўсялякім разе С. Шушкевіч – не намэнклятура, не крадзе і адстойвае беларускую культуру... Выходзячы са здаровай лёгікі, яму варта было б зрабіць рашучыя высновы і каваць жалеза, пакуль „праціўнік” падаўлены паражэньнем... На жаль, гэты чалавек наўрад ці здольны на рашучыя і асэнсаваныя дзеяньні. Найбольш верагодна, што застанецца балотнае „ўсё як было”, быццам нічога ня сталася. Пры такім дачыненьні ў наступны раз захаваць статус-кво ў Вярхоўным Савеце і не дапусьціць безразьдзельнага панаваньня намэнклятурна-камуністычнай арды ня здолее ўжо і Апазыцыя...”.

Камэнтуючы няўдалую спробу адстаўкі Шушкевіча, аналітыкі (напрыклад, Віталь Цыганкоў) адзначалі, што ў Шушкевіча ёсьць тры варыянты паводзінаў: гучна падаць у адстаўку і расставіць для грамадзтва кропкі над „і”, ліквідаваўшы дэмакратычную шырму кіраўніка дзяржавы пры недэмакратычным урадзе; далучыцца да Апазыцыі або зрабіць выгляд, што нічога ня здарылася. Апошні варыянт толькі замаруджваў бы сытуацыю. „Альбо памяняецца Шушкевіч, альбо (рана ці позна) памяняюць яго”, – пісаў Віталь Цыганкоў („Зьвязда”, 3 ліпеня 1993 г.).

На вялікі жаль, Шушкевіч абраў гэты трэці шлях.

## ЭНЭРГЕТЫЧНАЯ ЗАЛЕЖНАСЬЦЬ. ІДЭЯ БАЛТА-ЧАРНАМОРСКАГА КАЛЕКТАРА

У ліпені 1993 году адбылася праведзеная з ініцыятывы Зянона Пазьняка і лідэра Народнага Руху Ўкраіны Вячаслава Чарнавіла канфэрэнцыя „Шляхі выхаду з паліўна-энэргетычнага крызысу”, на якой абмяркоўвалася стварэньне Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара. У канчатковым выглядзе калектар мусіў зьвязаць парты Чорнага і Балтыйскага мораў, для Беларусі гэта азначала б выхад да альтэрнатыўных крыніцаў нафты і ліквідацыю поўнай паліўнай залежнасьці

ад Расеі. Былі падрыхтаваныя фінансавыя і тэхнічныя абгрунтаваньні.

Разьвіваючы аргумэнтацыю на карысьць стварэньня Балта-Чарнаморскай Садружнасьці, З. Пазьняк заўважыў, што „пасьля распаду СССР нашыя краіны выпалі са складзенай геапалітычнай прасторы паміж Усходам і Захадам. Вырваўшыся з імпэрскіх межаў, кожная з нашых краінаў сьпяшаецца як найхутчэй на Захад, імкнучыся вярнуцца ў Эўропу, прагне знайсьці новую стабільнасьць у сыстэме новых узаемаадносінаў. Але Захад існуе ў іншай сыстэме эканамічных каардынатаў. Нават такія краіны, як Польшча, Чэхія, Славаччына, Вугоршчына пайшлі ўжо далёка наперад. Эканамічныя раўнапраўныя партнэрскія дачыненьні зь імі з гэтай прычыны ўскладненыя. У той жа час, мы чуем за сьпінай цяжкі подых старой імпэрыі, якая ўсё яшчэ трымае нас за рукі, імкнучыся вярнуць. Мы апынуліся як бы паміж Усходам і Захадам. У гэтай сытуацыі найбольш плённым рашэньнем, на мой погляд, было б асэнсаваньне агульнасьці сваіх інтарэсаў, разуменьне сваёй ролі як стабілізуючай супрацьвагі паміж Усходам і Захадам. Пра гэта сьведчыць уся наша (дарэчы, у значнай частцы агульная) гісторыя і рэальная сытуацыя ў нашым рэгіёне Эўропы. Калі мы не пачнем рабіць крокі насустрач адзін аднаму і аб’ядноўваць намаганьні – мы ўскладнім сваё становішча. Калі, напрыклад, у Беларусі з прычыны штучна створаных умоваў адбудзецца эканамічны абвал, і наша краіна згубіць частку свайго сувэрэнітэту, вынікам гэтага будзе стварэньне тут расейскага стратэгічнага пляцдарму”.


(Калекцыя З. Пазьняка)

*Рабочы момант. Зь мікрафонам Віктар Алампіеў. 1993 г.*

Апошняе, як вядома, і адбылося – а ў тыя дні афіцыйная (і ня толькі афіцыйная) прэса абсьмяяла як ідэю стварэньня Садружнасьці, так і нафтавага калектара. Значна пазьней стала вядома, што спэцслужбы Расеі паставіліся да гэтага праекту вельмі сур’ёзна, паколькі ён супярэчыў таму, што Крэмль вызначае як „нацыянальныя інтарэсы Расеі” (а папросту – супярэчыў імпэрскай ідэі). Адказны за праект з украінскага боку, адзін з кіраўнікоў Народнага Руху Міхайла Байчышын бясьсьледна зьнік неўзабаве пасьля Менскай канфэрэнцыі, разам з дакумэнтамі па калектары. Пошукі яго, у тым ліку на патрабаваньне Чарнавіла, з удзелам украінскіх спэцслужбаў, не далі выніку. І толькі ў канцы 2005 году ідэя Садружнасьці пачала рэалізоўвацца на кіеўскай сустрэчы кіраўнікоў усходнеэўрапейскіх дзяржаваў.

Урад Кебіча, наадварот, усё мацней прывязваў Беларусь да расейскага прамысловага комплексу; праблемы з пастаўкай нафты, якія абвастрыліся ў канцы лета 1993 году, былі скарыстаныя афіцыйнай прапагандай для замацаваньня стэрэатыпу, што „Без России нам не прожить!”. Адсутнасьць рынкавых рэформаў у спалучэньні з намэнклятурнай прыватызацыяй спрыялі паглыбленьню эканамічнага крызысу, росту сацыяльнай напружанасьці. Менавіта ў 1993 годзе колькасьць памерлых пераўзышла колькасьць народжаных. Зь сярэдзіны 1993 году кіраўнікі буйных прадпрыемстваў, якія ўвайшлі ў так званы „Беларускі навукова-вытворчы кангрэс” (Санчукоўскі, Устымчук і інш.) пры падтрымцы Савета Міністраў распачалі кампанію за „аднаўленьне абарваных эканамічных сувязяў з Расеяй”.

## МАНАПАЛІЗАЦЫЯ СМІ

Расейскі ўплыў адбываўся і праз сродкі масавай інфармацыі. На Беларусі працягвалі трансьляцыю некалькіх расейскіх тэлеканалаў,

ствараючы парадаксальнае ўспрыманьне насельніцтвам рэчаіснасьці. У Расеі ва ўладзе фармальна знаходзіліся „дэмакраты” (набліжаныя да Ельцына Чубайс, Гайдар, Шахрай, Бурбуліс, пазьней прыйшоў Нямцоў), якія энэргічна праводзілі прыватызацыю на карысьць, пераважна, „прызначаных” алігархаў, ігнаруючы інтарэсы шырокіх колаў насельніцтва Расеі. Празь некалькі гадоў шмат хто з ініцыятараў і праваднікоў той прыватызацыі абнародаваў свае шматмільённыя назапашваньні (дарэчы, ужо ў 1992 годзе Пазьняк выступіў супраць прыватызацыі „пачубайсаўску”, прапанаваўшы цывілізаваны „чэскі” варыянт). Шмат хто, працягваючы лічыць Маскву „сталіцай нашай Радзімы” і ўспрымаць Беларусь з Расеяй адной дзяржавай, убачанае на маскоўскім ТВ успрымаў як падзеі, датычныя і Беларусі. Таму тэзы „дэмакраты ва ўладзе” і „дэмакраты – раскрадальнікі” прымаліся насельніцтвам як канстатацыя факту.

Беларускае тэлебачаньне і радыё праводзіла збольшага антынацыянальную, антыбеларускую палітыку, падтрымліваючы ў людзей ураженьне, што дэмакратычныя рэформы, якія нібыта адбыліся ў Беларусі – прычына іх цяжкага эканамічнага становішча. У чэрвені 1992 году Вячаслаў Кебіч заявіў, што „наступствы „перабудовы” роўныя ваенным” („Мінская праўда”, 16 чэрвеня 1992 г.), у 1993-м жа годзе падобныя заявы зрабіліся звычайнымі.

Яшчэ ў канцы 1991 году на даручэньне Апазыцыі мне давялося распрацаваць канцэпцыю інфармацыйнай палітыкі, у аснове якой было разьдзяржаўленьне СМІ і стварэньне спрыяльных умоваў беларускамоўнай прэсе. Летам 1992-га, ужо як сакратар парлямэнцкай Камісіі па СМІ, я прапанаваў рэдактарам дзяржаўных выданьняў адмовіцца ад заснавальніцтва іх Саветам Міністраў і іншымі органамі, пайсьці на акцыянаваньне, аднак рэдактары палічылі за лепшае захаваць статус-кво.

Гэткая актыўнасьць, а таксама некалькі маіх размоваў з Кебічам адносна становішча ў СМІ былі ўспрынятыя прэм’ер-міністрам своеасабліва – ён падумаў, што я нечага дамагаюся асабіста для сябе. Мне прапанавалі заняць пасаду генэральнага дырэктара Белінфарму (так тады называлася БелТА); у сытуацыі, калі астатнія СМІ былі пад кіраўніцтвам адданых Кебічу асобаў і элемэнтарна блякавалі б інфармацыю, гэтая пасада ня мела ніякага істотнага значэньня, і я адмовіўся (пазьней ва ўспамінах Аляксандар Фядута апісвае, як увесну 1994 году Кебіч аддае абавязковы для выкананьня загад кіраўніку Белінфарму; безумоўна, пры такім стылі ўзаемаадносінаў прэм’ера са СМІ я б і да вясны 1994-га не дапрацаваў).

Дарэчы, гэта якраз была адна зь дзьвюх прапановаў заняць дзяржаўную пасаду з боку Кебіча прадстаўнікам Апазыцыі БНФ. Дэпутат С. Слабчанка ўзначальваў Дзяржзнак, але на патрабаваньне Пазьняка, у інтарэсах забесьпячэньня выпуску нацыянальнай валюты. Аднак ні кіраўнік Белінфарму, ні кіраўнік Дзяржзнаку не ўваходзілі ў склад ураду, так што нават гэта ня можа лічыцца прапановамі „ўвайсьці ва ўрад”. Прызначэньне ж дэпутата Апазыцыі БНФ Пятра Садоўскага амбасадарам у Нямеччыне наагул рабілася Прэзыдыюмам Вярхоўнага Савета.

Да восені 1993 году працэс манапалізацыі СМІ, супраць якога актыўна выступала Апазыцыя БНФ, быў завершаны – Кебіч кантраляваў значную большасьць штодзённых газэт і цалкам тэлебачаньне і радыё. У Савеце Міністраў былі створаныя Ўпраўленьне інфармацыі на чале з В. Драгаўцом і Аддзел друку, радыё і тэлебачаньня на чале з С. Паваляевым – неканстытуцыйныя фармаваньні, якія, у абыход Міністэрства інфармацыі, кантралявалі дзяржаўныя СМІ. Меркаваньні парлямэнцкай Камісіі ў пытаньнях СМІ (пасьля сыходу І. Каратчэні на пасаду каардынатара СНД Камісіяй фактычна кіраваў А. Вярцінскі), якая заяўляла аб антыдзяржаўнасьці некаторых тэле- і радыёперадач і недапушчальнасьці манапалізацыі, цалкам ігнараваліся.

У жніўні Апазыцыя БНФ дапрацавала Канцэпцыю інфармацыйнай палітыкі, якая прадугледжвала прыняцьцё дэмакратычнага Закону аб друку, дэманапалізацыю СМІ, спрашчэньне працэдуры рэгістрацыі, прыярытэтнае разьвіцьцё цалкам беларускамоўных СМІ і інш. Гэтыя палажэньні былі пацьверджаныя ў Заяве Апазыцыі БНФ, дзе таксама прапаноўваліся і кадравыя зьмены. Нашыя прапановы былі абсьмяяныя (менавіта абсьмяя-

ныя, як раней ідэя Балта-Чарнаморскага калектара) у дзяржаўных выданьнях.

Гэтая манапалізацыя прэсы захаваецца і падчас першых прэзыдэнцкіх выбараў, а пасьля „кантрольны пакет СМІ" пяройдзе ў рукі новаабранага прэзыдэнта.

Аднак Лукашэнка на гэтай пасадзе мог і не апынуцца.

## БЫКАЎ СУПРАЦЬ ЛУКАШЭНКІ

Наша Заява аб сытуацыі ў СМІ была надрукаваная ў „Народнай газэце" 2 верасьня 1993 г., а на дзень раней газэта зьмясьціла артыкул, які мог бы вызначыць гісторыю Беларусі, калі б некаторыя дэпутаты нібыта дэмакратычнай арыентацыі (В. Ганчар, Д. Булахаў, А. Лябедзька і інш.) кіраваліся інтарэсамі Беларусі, а ня ўласнымі палітычнымі амбіцыямі.

Артыкул Васіля Быкава „Каб захаваць уладу, яны здольныя аб'яднацца хоць з самім д'яблам" займаў больш як паўпаласы і быў рэакцыяй на інтэрвію дэпутата А. Лукашэнкі маскоўскай газэце „Правда", у якім той заклікаў да аднаўленьня СССР.

Ні да гэтага, ні пасьля Быкаў не адгукаўся асобным артыкулам на нейкую канкрэтную публікацыю – несумненна, у словах Лукашэнкі ён адчуў вялізную небясьпеку, пра якую палічыў неабходным папярэдзіць нацыю.

„Народы былога Савецкага Саюза мелі нядаўна шчасьлівую магчымасьць пазнаёміцца ў „Правде" з адметным сваёй незвычайнасьцю матэрыялам, – пісаў Быкаў. – Маецца на ўвазе інтэрвію з выразна малітоўнаю назвай „Да возродится!", арганізаванае ўласным карэспандэнтам гэтай газэты па Беларусі. Канешне, у свой час у гэтай газэце даводзілася чытаць і не такія матэрыялы (зрэшты, і ў пазьнейшы таксама), але каб з гэткай ашаламляльнай адкрытасьцю паставіцца да кволай незалежнасьці краіны, дзе нарадзіўся і жывеш, дзе будуць жыць твае дзеці, – такое трэба пашукаць у наш час сярод самай чырвона-карычневай прэсы".

Ужо ў першых радках артыкулу Быкаў даў маральную ацэнку праціўнікам беларускай незалежнасьці, а далей выкрыў сапраўдныя інтарэсы старой і новай пракамуністычнай намэнклятуры: „Глядзіш, народ раптам паразумнее, забярэ зямлю і пачне ладзіць жыцьцё на свой лад, як спрадвеку ладзілі яго продкі і ладзяць цяпер па ўсім сьвеце – на аснове здаровага сэнсу і прыватнай уласнасьці. Значыць, спадзяванка адна: звыклы камуністычны рэжым, дзе так салодка жылося вялізнай зграі партыйна-гаспадарчых захрыбетнікаў. І цяпер, спахапіўшыся, яны пачалі адмаўляць у сувэрэннасьці краіне, у якой звыкла валадарыць. Так, цяпер кепска – і зьбяднeньне, і разлад, якія яны спрабуюць сьпісаць на дэмакратаў, на славуты разрыў сувязяў, на ізаляцыянізм як палітыку нацыяналістаў. Але ўсё тое – чыста бальшавіцкая прапаганда, замяшаная на гебэльсаўскіх рэцэптах: чым болей неверагодная хлусьня, тым ахвотней у яе павераць. Дзе ў Беларусі тыя дэмакраты, пры якой служаць уладзе? Жменька дэпутатаў БНФ у Вярхоўным Савеце... Астатнія – камуністы ў сталіцы і раёнах".

„Нацыяналізм бывае розны, – пісаў далей Быкаў, – як і яго палітычныя антыподы. Характар яго вызначаюць шмат якія элемэнты нацыянальнай сутнасьці, геапалітычнай канкрэтнасьці. Нацыяналізм датчан ці фінаў, напрыклад, зусім іншая зьява, чым арабскі нацыяналізм. Зноў жа, у пэўных абставінах нават і антыподы могуць стацца роднаснымі, калі не па форме, дык па сэнсе. Прыгадаем расейскі бальшавізм і нямецкі фашызм, гэтыя два канцы адной палкі. Беларускі нацыяналізм больш вядомы як нацыянал-дэмакратызм, ён ня супраць каго-небудзь, ён – за. Найперш за лёс свае нацыі…

Сувэрэннасьць нацыі і дзяржавы – адна з самых сьвяшчэнных даброт супольнага чалавечага існаваньня, і толькі ва ўмовах скажонай, перакуленай сьвядомасьці зьяўляецца патрэба тое даказваць. Толькі зьнешні вораг ці ўнутраны здраднік можа ў наш час выступаць супраць права народа на самавызначэньне, на самастойнасьць яго існаваньня... Нацыянальная незалежнасьць, дзяржаўная сувэрэннасьць нацый і народаў сталі адметнай вяхой напрыканцы XX стагодзьдзя. Іншая справа, як распарадзіцца той сувэрэннасьцю, як на яе аснове наладзіць эканоміку, урэгу-

ляваць прававое жыцьцё. Вядома, у нас яны ладзяцца з рук вон кепска. І тут галоўная прычына ў кіраўніцтве, ва ўладзе. Стала відавочна, што са зьменай сацыяльных адносін патрэбна і зьмена ўлады...”

Такім чынам, акрамя сьцьверджаньняў прыярытэту нацыянальнай незалежнасьці як бясспрэчнай каштоўнасьці, Быкаў адзначыў неабходнасьць палітычных пераўтварэньняў, зьмены ўлады, але пры гэтым – усім сваім артыкулам – паказаў, што Лукашэнка служыць інтарэсам той самай намэнклятуры, якая ўладарыць.

Ніхто з каманды так званых „маладых ваўкоў” (некаторыя потым будуць клясьціся на творах Быкава) не пажадаў тады прыслухацца да быкаўскіх слоў ні пра сьвятасьць сувэрэнітэту і лёсу Беларусі, ні пра самога Лукашэнку, якога яны жадалі скарыстаць як таран для таго, каб „зваліць Кебіча” і задаволіць уласныя палітычныя амбіцыі. Лёсу Беларусі ў гэтых разьліках месца не было.

І толькі дэпутаты Апазыцыі БНФ запатрабавалі ў тыя дні пазбавіць Лукашэнку дэпутацкіх паўнамоцтваў, чаму папярэднічалі і падзеі, што на пачатку восені адбыліся ў Маскве.

## АПАЗЫЦЫЯ БНФ ПАТРАБУЕ ПАЗБАВІЦЬ ЛУКАШЭНКУ ДЭПУТАЦТВА

Яшчэ летам вялікая група высокапастаўленых чыноўнікаў Савета міністраў, старшыні аблвыканкамаў і некаторыя дэпутаты Вярхоўнага Савета (зрэшты, большасьць зь іх сумяшчалі свае пасады з дэпутацтвам) правялі па-за межамі Менску сход, які потым атрымаў назоў „патаемнай вячэры”. На ім было вырашана давесьці да канца працэдуру адстаўкі Шушкевіча і фарсіраваць увядзеньне прэзыдэнцкага кіраваньня пад Вячаслава Кебіча. Адным з ініцыятараў гэтага сходу і прэтэндэнтам на пасаду сьпікера быў старшыня Горадзенскага аблвыканкаму Дзмітрый Арціменя – адзін з найбольш антыдэмакратычных і антынезалежніцкіх дэпутатаў ВС зь ліку дзейнай намэнклятуры (з дэпутатамі-вэтэранамі параўнацца ў рэакцыйным маразме ня мог ніхто, але гэтыя былі пазбаўленыя рэальнай улады).

Аднак у верасьні Д. Арціменя быў забіты непадалёк ад свайго дома. Гэта было першае ў краіне забойства чыноўніка такога рангу, прычым адметна, што забойства не лічылі палітычным нават прадстаўнікі ўладаў. Пачалі абмяркоўвацца вэрсіі, зьвязаныя зь бізнэсовымі праектамі, да якіх меў дачыненьне Арціменя. Сьледзтва вялося ў таямніцы, у прэсу выплывала няшмат, аднак мы, дэпутаты, ведалі, што ў сэйфе Арціменi былі знойдзеныя 30 тысяч даляраў – астранамічныя па тым часе грошы (месячная зарплата Шушкевіча і таго ж Арціменi была значна меншая за 100 даляраў; трохпакаёвая кватэра ў цэнтры Менску каштавала 3–4 тысячы).

У гэтыя ж дні, выступаючы на Гомельшчыне, В. Кебіч заявіў, што лічыць сваёй памылкай удзел у падпісаньні Віскулёўскіх пагадненьняў аб дэнансацыі Саюзнай дамовы. Гэта была адкрытая заява супраць беларускай дзяржаўнасьці. Кебіч таксама зрабіў некалькі закідаў у бок Шушкевіча. Супрацьстаяньне паміж Шушкевічам і Кебічам напрыканцы верасьня набыло адкрыта канфрантацыйны характар.

Аднак працiўнікі Шушкевіча меркавалі, што ў сьпікера ёсьць моцная падтрымка Ельцына, зь якім у Шушкевіча, як лічылася, добрыя асабістыя адносіны. Але ў канцы верасьня і сам Ельцын апынуўся ў крытычным становішчы.

Палітычныя апанэнты расейскага прэзыдэнта Ельцына на чале зь віцэ-прэзыдэнтам Руцкім і сьпікерам Вярхоўнага Савета Хасбулатавым паспрабавалі правесьці рэстаўрацыю, заявілі пра імпічмэнт Ельцыну і ўчынілі тое, што Быкаў назваў „мяцежом”. У выніку супрацьстаяньня (штурму будынку парлямэнту войскамі, перастрэлкі ля тэлецэнтру) у Маскве 3–4 кастрычніка былі забітыя некалькі дзесяткаў (паводле іншых зьвестак – некалькі соцень) чалавек. У беларускай незалежнай прэсе прайшла інфармацыя, што пасьля правалу путчу баевікі хаваюцца на тэрыторыі Беларусі. Але яшчэ да таго, як мяцеж быў падаўлены, у Маскву зь Менску накіравалася дэлегацыя дэпутатаў Вярхоўнага Савета і высокапастаўленых чыноўнікаў Саўміну для „ўсталяваньня кан-



*Пяць гадоў БНФ. 19.Х.1993 г. Сядзіба БНФ. На здымку: Яўген Кулік, Алесь Лукашук, Зянон Пазьняк, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Купава, Васіль Быкаў, Алег Трусаў.*

тактаў" з групай Руцкога–Хасбулатава (а фактычна, іх падтрымкі).

5 кастрычніка дэпутаты Апазыцыі БНФ прынялі Зварот, у якім канстатавалі, што, „грамадзтва Беларусі стала сьведкам здрады Радзіме часткі дэпутатаў пракамуністычнай большасьці Вярхоўнага Савета... пры спагадных адносінах пэўных структураў і асобаў ураду Беларусі (Г. Данілава, С. Гайдукевіча, В. Паўлава і інш.). Мы, дэпутаты Апазыцыі БНФ, настойваем на тэрміновым скліканьні нечарговай сэсіі Вярхоўнага Савета Беларусі. Мы патрабуем ад Савета Міністраў Беларусі тэрміновых захадаў. Менавіта: забясьпечыць бясьпеку тэрыторыі Рэспублікі Беларусь ад пранікненьня злачынных груповак і асобаў пасьля разгрому фашысцка-камуністычнага мяцежа ў Расеі; тэрмінова ўвесьці дакумэнтальны і мытны кантроль на межах Беларусі з Расеяй. А ў бліжэйшы час разгледзець пытаньне аб увядзеньні візавага рэжыму; забараніць дзейнасьць камуністычных і праімпэрскіх партыяў і арганізацыяў (ПКБ–КПБ–КПСС, ДСПС, Саюз афіцэраў, Славянскі Сабор „Белая Русь")... Мы зьвяртаемся да Генэральнага пракурора Беларусі сп. Шаладонава з патрабаваньнем прыступіць да расьследаваньня антыдзяржаўнай дзейнасьці гэтых арганізацыяў... Мы лічым неабходным паставіць пытаньне перад Вярхоўным Саветам аб пазбаўленьні дэпутацкіх паўномоцтваў народных дэпутатаў Беларусі Генадзя Казлова, Мікалая Скарыніна, Аляксандра Лукашэнкі, Івана Трусава, Мікалая Грынёва, якія выступілі супраць незалежнасьці Беларусі... Мы патрабуем неадкладна спыніць распаўсюджваньне на Беларусі расейскіх камуністычных і фашыстоўскіх газэт...". Зварот падпісалі 24 дэпутаты Апазыцыі БНФ на чале з З. Пазьняком плюс член дэпутацкай групы „Згода" В. Даўгалёў (пазьней, пры Лукашэнку – кіраўнік Берасьцейшчыны, віцэпрэм'ер і амбасадар у Расеі).

Калі б гэты зварот быў успрыняты іншымі дэпутатамі – Лукашэнка быў бы пазбаўлены дэпутацкіх паўнамоцтваў, не было б праз два месяцы „антыкарупцыйнага" дакладу і, адпаведна, праз дзевяць месяцаў – ягонага прэзыдэнцтва.

# ШУШКЕВІЧ: „ВЫ МНЕ КОЛА ВЫРАТАВАЛЬНАЕ КІДАЕЦЕ. А Я ВАМ КАЖУ: НЯ ТРЭБА!”

У тыя першыя дні кастрычніка 93-га склалася ўнікальная сытуацыя (упершыню пасьля жніўня 1991 году), калі дэмакратычныя сілы маглі б правесьці свае патрабаваньні (адстаўка Кебіча і стварэньне кааліцыйнага ўраду). Але – пры ўмове, што будзе скліканая нечарговая сэсія ВС і што Шушкевіч, рэйтынг якога тады быў надзвычай высокі, запатрабуе адстаўкі ўраду Кебіча, папярэдзіўшы, што ў выпадку ігнараваньня парлямэнтам гэтага патрабаваньня наўпрост зьвернецца да нацыі.

Рэалізацыя гэтага залежала выключна ад Старшыні ВС – ён меў права склікаць сэсію ўласным рашэньнем. І паводле пэўнай інфармацыі мы ведалі, што Шушкевіч схіляецца да гэтага: на паседжаньні Прэзыдыюму ВС яшчэ ў сярэдзіне верасьня Шушкевіч выступіў з рэзкай крытыкай як заяваў Кебіча наконт „развалу СССР”, так і эканамічнай палітыкі ягонага ўраду.

Гэтыя заявы Шушкевіча далі нам надзею.

Наагул, галоўнае патрабаваньне, якое мы вылучалі да Шушкевіча што да тактыкі ягоных паводзінаў – больш пасьлядоўнасьці і рашучасьці.

Нашыя апанэнты паважалі толькі сілу – і ў Шушкевіча была магчымасьць у гэтым пераканацца.

На вакантнае месца старшыні Гродзенскага аблсавета і аблвыканкаму замест забітага Арцімені намэнклятура мела свайго кандыдата; Шушкевіч жа аддаваў перавагу Сямёну Домашу. Раней Шушкевічу не ўдавалася правесьці ўласныя крэатуры на вакантнае месца свайго намесьніка. І гэта пры тым, што пасада віцэ-сьпікера была шмат у чым дэкаратыўная, у адрозьненьне ад пасады кіраўніка вобласьці якая давала абсалютную паўнату ўлады ў рэгіёне і значны ўплыў ва ўрадзе (і, між іншым, кантроль над немалой часткай дэпутатаў ВС ад „сваёй” вобласьці). Дэпутаты Гарадзенскага абласнога Савета (а зацьвярджаць кандыдатуру павінны былі менавіта яны), безумоўна, ведалі пра „вайну” Кебіча і Шушкевіча. Намэнклятурныя, пракамуністычныя дэпутаты з задавальненьнем чакалі зьяўленьня ў залі Шушкевіча, каб даць яму „чарговую лекцыю”, правёўшы сваю кандыдатуру, ды заадно і „прыгадаць Віскулі”. Як казаў у такіх выпадках адзін камуністычны дэпутат – „уваліць, як каню”. Ды і калі яшчэ правінцыйнаму чынавенству выпадзе задавальненьне прынізіць кіраўніка дзяржавы зь ліку дэмакратаў? Энтузіязм імгненна зьнік, калі дэпутаты ўбачылі, што разам з Шушкевічам у залю ўбеглі аўтаматычыкі. Насамрэч, да кадравай палітыкі гэта ня мела ніякага дачыненьня – патрэбы бясьпекі прадыктавалі менавіта такую сыстэму аховы першай асобы дзяржавы ў горадзе, дзе нядаўна быў забіты кіраўнік вобласьці. Аднак псыхалягічнае ўзьдзеяньне было такім моцным, што тыя, хто зьбіраўся „ўваліць“ Шушкевічу, хуценька прагаласавалі за прапанаваную сьпікерам кандыдатуру.

Не зьяўляючыся прыхільнікам „галасаваньня пад рулямі аўтаматаў”, я ўсё ж быў перакананы, што незалежнасьць дзяржавы можа і павінна быць абароненая тымі спосабамі і мэханізмамі, якімі гэтая дзяржава, у адпаведнасьці з Канстытуцыяй, валодае. Ветлівая гутарка ў пракуратуры ці іншых адпаведных органах наконт антыканстытуцыйнасьці заклікаў да ліквідацыі Беларусі магла б пазбавіць шкоднай актыўнасьці шмат якіх дзеячоў; некаторым можна было б прадэманстраваць факты іх уласных незаконных бізнэс-гешэфтаў ці сумнеўныя зьдзелкі іхных родзічаў-кампаньёнаў.

Унікальнасьць выключна спрыяльнай для беларускіх дэмакратаў сытуацыі кастрычніка 1993-га была яшчэ і ў тым, што бок Шушкевіча ўзялі старшыня КДБ Эдуард Шыркоўскі і міністар унутраных справаў Уладзімер Ягораў.

Такая падтрымка магла б стаць вызначальнай. Гэта аксіёма, якую палітык павінен ведаць гэтак жа, як фізык – закон Ньютана: ва ўсе часы пры неабходнасьці ўтрымаць уладу (альбо ўзяць яе) палітыкі імкнуліся перацягнуць на свой бок сілавых міністраў. Як правіла, менавіта іх падтрымка (альбо непадтрымка) вызначала часам лёс улады. Тут жа і ня трэба было нікога перацягваць. Міністар унутраных справаў і старшыня КДБ галосна (у адкрытым лісьце на імя дэпутатаў ВС) выступілі супраць найбліжэйшага атачэньня Кебіча і спадзяваліся на спрыяньне Старшыні Вярхоў-

нага Савета. Гэта, паўтаруся, была ўнікальная сытуацыя, якую Шушкевіч павінен быў скарыстаць.

У разгар канфлікту паміж сьпікерам і прэм'ерам да мяне зьвярнуўся начальнік аддзела інфармацыі апарату ВС Васіль Вераб'ёў (ён уваходзіў у лік давераных асобаў Шушкевіча) з просьбай пасрыяць сустрэчы Шушкевіча з прадстаўнікамі Апазыцыі БНФ. Паколькі сам Станіслаў Станіслававіч выступіць з такой ініцыятывай ня мог (напэўна, не дазваляў гонар). Шушкевічу накіравалі ліст з просьбай правесьці такую сустрэчу. Тым болей, што была нагода – Апазыцыя БНФ патрабавала правядзеньня нечарговай сэсіі, адстаўкі ўраду Кебіча і стварэньня кааліцыйнага ўраду. Паводле нашых зьвестак, даволі значная частка дэпутатаў – колішніх прыхільнікаў Кебіча, былі згодныя зьмясьціць яго з пасады прэм'ера і стварыць новы ўрад з удзелам Апазыцыі. Прычынай такіх зьменаў было абвастрэньне эканамічнай сытуацыі (найперш – дэфіцыт паліва; у мяне на балконе стаяла як НЗ каністра з 10 літрамі бэнзіну, а калі спатрэбілася заліць бак, каб паехаць па даручэньню Пазьняка ў Беласток, давялося прасіць міністра, і той асабіста даваў распараджэньне на бэнзазапраўку).

Уласна, для дэпутатаў, у тым ліку й для Апазыцыі, не было ніякай праблемы сустрэцца з Шушкевічам у любы дзень – ён вызначаўся дэмакратызмам паводзінаў і звычайна нас прымаў, мы гэтым карысталіся, праўда, усё радзей, паколькі Станіслаў Станіслававіч любіў паўтараць, што ягоная ўлада распаўсюджваецца толькі на працэдурныя пытаньні падчас сэсіі. Але, як мне падавалася, цяперашняя сустрэча – а яна мела сэнс толькі пры ўдзеле лідэра Апазыцыі Пазьняка – мела б зусім іншую танальнасьць; узьнікала магчымасьць скаардынаваць сумесныя дзеяньні, каб узяць палітычную ініцыятыву ў свае рукі.

Сустрэча адбылася 6 кастрычніка ў будынку ВС на К. Маркса. Ад Апазыцыі БНФ былі Пазьняк, Трусаў, Голубеў, Холад і я, ад Партыі народнай згоды (лідэр – Карпенка) – Даўгалёў. У пакоі быў ахоўнік Шушкевіча, але зьдзівіла прысутнасьць прадстаўніка парлямэнцкай большасьці Івана Бамбізы. Мы яго не запрашалі – значыць, запрасіў Шушкевіч. Бамбіза ўсю сустрэчу прасядзеў моўчкі; празь некалькі тыдняў ён быў абраны намесьнікам сьпікера (пры Лукашэнку – кіраўнік нафтапаліўнага комплексу).

Ужо зь першай фразы Шушкевіча было зразумела, што ягоныя пляны зьмяніліся: „У апошні час узмацнілася такая тэндэнцыя – даваць шэраг даручэньняў Старшыні Вярхоўнага Савета, даваць іх праз СМІ, і пасьля гаварыць, што ён ніяк не рэагуе на іх". Раздрукоўка магнітафоннага запісу сустрэчы займае некалькі дзясяткаў старонак, прывяду толькі некаторыя характэрныя эпізоды:

**„Голубеў:** Вярхоўны Савет павінен вызначыцца, у сувязі з тым, што шэраг дэпутатаў Вярхоўнага Света, якія працуюць на вельмі адказных пасадах, выступалі і выступаюць супраць незалежнасьці Беларусі – за аднаўленьне старога, таталітарнага ў нашай дзяржаве.

**Навумчык:** ...Пра стварэньне кааліцыйнага ураду. Гэты кааліцыйны ўрад, як мы лічым, павінен зьдзейсьніць тры мэты. Першая – гарантаваць пачатак перадумоў для рынкавых рэформаў, спыніць гэтае раскраданьне маёмасьці. Другое – гарантаваць правы асобы, у тым ліку і правa свабоды слова. І трэцяе – правесьці выбары. Гэта ўрад на 7–8 месяцаў, гэта ўрад бяз гэтага Старшыні Савета Міністраў.

**Пазьняк:** Тая работа, якую робіць Кебіч – актыўная работа – па развалу дзяржавы – Рэспублікі Беларусь, па зьнішчэньні яе сувэрэнітэту, – яна цалкам падтрымліваецца Вашай пазыцыяй. Вашай пазыцыяй нічоганерабленьня, безыніцыятыўнасьці. Больш за тое. Няма ніякай розьніцы – ці дзяржава Беларусь пойдзе ў пашчу Расеі хасбулатаўскай, ці яна пойдзе ў пашчу Расеі ельцынаўскай. Усё роўна вынік будзе адзін і той жа. І калі Ельцын расправіцца з камуністамі, – а ён расправіцца, гэта чалавек-танк, ён даказаў гэта ня раз, – ён будзе праводзіць тую самую геапалітыку, якую праводзіў усе гэтыя два гады. Войны ў Грузіі, у Таджыкістане, у Прыднястроў'і. Яны стварылі гэтую банду, яны пастваралі гэтых баевікоў, яны захлынуліся гэтай жа самай крывёю... Вось у чым справа. Таму Вашая пазыцыя зараз абсалютна неініцыятыўная, Вы не выкарыстоўваеце момант. Заўтра будзе позна. „Хороша ложка к обеду". Вы працягваеце тую самую палітыку, якую намеціў Кебіч па ліквідацыі нашых магчымасьцяў у фінансава-крэдытнай сыстэме, тое, што

Вы зараз падтрымліваеце аб'яднаньне грашовых сыстэм – гэта поўная ліквідацыя суверэнітэту. І ў гэтай сытуацыі, калі Вы не выкарыстаеце зараз – а з кожным днём Вашыя магчымасьці падаюць – калі Вы ня выкарыстаеце зараз мінімальных магчымасьцяў, то 9 лістапада (меркаваны пачатак чарговай сэсіі ВС – *С.Н.*) хутчэй за ўсё Вас ня будзе. Вас ня будзе каму болей падтрымліваць.

**Шушкевіч:** Добра, дзякуй, у Вас усё? Значыць, я разумею, што ваш зварот накіраваны на тое, каб, ня дай Бог, я ня страціў сваёй пазыцыі, ня страціў падтрымкі, і вы проста зьвярнуліся да мяне, каб мяне падтрымаць. Я вам удзячны.

**Пазьняк:** Не, ня так. Прабачце, што Вы, што Кебіч – для нас адно і тое. І каб былі б гарантыі – вам трэба ісьці абодвум. Таму што ня можа быць дзяржава закладнікам двух пасрэдных людзей, якія паміж сабою як бараны сталі, і талкуцца. Вось што: Вы нясеце такую ж самую адказнасьць, як Кебіч, за гэта ўсё, і Вы павінны пра гэта ведаць. Поўную адказнасьць Вы нясеце, і ня думайце, што Вы...

**Шушкевіч:** Зянон Станіслававіч, Вы зноў будзеце пачынаць некалькі разоў? Я Вас выслухаў...

**Пазьняк:** Пра Вас размова ня ідзе.

**Шушкевіч:** Добра. Значыцца, калі растлумачыць вашу пазыцыю, вы мне кола выратавальнае кідаеце. А я вам кажу: ня трэба!..

**Навумчык**: Шаноўны Старшыня...

**Шушкевіч:** Адну хвілінку! І нічога, акрамя лёзунгаў, у вас на сёняшні дзень няма.

**Навумчык**: У якой ступені была, выбачайце, падрыхтавана сэсія 25 жніўня 91 году? Акрамя таго, што падрыхтавала Апазыцыя, не было нічога. Але была ж палітычная сытуацыя, якая вымагала пэўных палітычных дзеяньняў. Тое самае і цяпер, Станіслаў Станіслававіч...

**Трусаў:** Вы цудоўна ведаеце: структура Савета Міністраў нагадвае ЦК КПБ. Гэтых камітэтаў розных і службаў больш, чым міністэрстваў. Калі міністры нават не сядзяць з Кебічам, а сядзяць, як хлопчыкі, ззаду, а тут сядзяць нейкія невядомыя нам людзі. Калі мы да канца году захаваем старую структуру Саўміну – нас нічога добрага не чакае, што б там ні было ў Расіі ці ў Вашынгтоне. Вы паглядзіце, што атрымліваецца, як раздуўся гэты апарат.

**Шушкевіч**: Спадар Трусаў, а як яго зьмяніць?

**Трусаў:** Як зьмяніць? Вельмі проста – пачаць з кіраўніка.

**Навумчык**: Выйдзіце з ініцыятывай!

**Шушкевіч:** Вас падрымае Вярхоўны Савет?

**Навумчык**: Выйдзіце з ініцыятывай!

**Шушкевіч:** Вас падтрымае Вярхоўны Савет?

**Навумчык**: Народ падтрымае.

**Пазьняк:** І можа падтрымаць Вярхоўны Савет, калі правільна арганізаваць работу.

**Навумчык:** Калі падтрымае народ – падтрымае і Вярхоўны Савет. Вярхоўны Савет не падтрымліваў незалежнасьці яшчэ ў маі 91 года".

Шушкевіч адмовіўся склікаць сэсію (казалі, што „замірыўся" з Кебічам). Ініцыятыва пераходзіла ў рукі кіраўніцтва Савета Міністраў, якое адразу ж узмацніла дыскрэдытацыю Вярхоўнага Савета, не чапаючы пакуль пэрсанальна Шушкевіча.




***Дэпутацкае пасьведчаньне С. Навумчыка.***

На наступны дзень пасьля сустрэчы з Шушкевічам, 7 кастрычніка, разам з Анатолем Вярцінскім мы сабралі адмысловае паседжаньне Камісіі па галоснасьці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека, куды запрасілі і іншых дэпутатаў, якія ў склад Камісіі не ўваходзілі – З. Пазьняка, А. Трусава, Я. Цумарава, а таксама старшыню Дзяржтэлерадыё А. Сталярова і кіраўнікоў структураў Саўміну. Тэма паседжаньня была вызначаная каротка – „інфармацыйная бясьпека”.

У гэты момант антынезалежніцкая гістэрыя ў афіцыйных СМІ дасягнула апагею; як адзначыў Зянон Пазьняк, „СМІ развальваюць нашую незалежнасьць”. Яўген Цумараў зьвярнуў увагу на тое, што не выконваецца Закон аб мовах, прычым не выконвае яго, фактычна, Старшыня Савета Міністраў, пад чыім кантролем знаходзяцца дзяржаўныя СМІ – акрамя газэтаў „Зьвязда” і „Народнай газэты”, заснавальнікамі ці сузаснавальнікамі якіх выступіў Вярхоўны Савет. Член камісіі, галоўны рэдактар „Народнай газэты” Ісоіф Сярэдзіч прывёў лічбы фінансаваньня, якое Саўмін выдаткаваў на расейскамоўныя газэты, у якіх, да таго ж, праводзілася праімпэрская, антынезалежніцкая прапаганда: „Знамя юности” – 162 мільёны рублёў, „Советская Белоруссия” – 133 мільёны, „Республика” – 85 мільёнаў.

Кіраўніцтва антыбеларускай прапагандай ішло са структураў Саўміну; Камісія большасьцю галасоў (супраць выступілі дэпутаты пракамуністычнай арыентацыі) вырашыла патрабаваць ад В. Кебіча ліквідаваць неканстытуцыйныя структуры ў апараце Саўміну, на чале якіх былі В. Драгавец і С. Паваляеў. Апошні заявіў на паседжаньні: „Мяне прызначаў Кебіч – ён мяне і будзе здымаць”, – і дадаў: „Паменей палітыкі – паболей спраў” (гэта ў твар дэпутатам парлямэнту).

Вынікі паседжаньня камісіі у той жа дзень былі дакладзеныя намі С. Шушкевічу, аднак ніякіх канкрэтных захадаў ён не прыняў. Станіслаў Станіслававіч сапраўды паверыў у тое, што яму ўдалося знайсьці з Кебічам „згоду”.

16 кастрычніка з ініцыятывы Зянона Пазьняка ў Доме літаратара адбылася Канфэрэнцыя некамуністычных і антыімпэрскіх сілаў Беларусі, на якой з палітычнымі дакладамі выступілі З. Пазьняк і А. Трусаў, з эканамічнымі – В. Алампіеў, С. Гусак, І. Нікітчанка, пра структуры і задачы пераходнага кааліцыйнага ўраду гаварыў У. Заблоцкі. Канфэрэнцыя прыняла рэзалюцыю „Аб абароне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі”, адзначыўшы, што лічыць незалежнасьць „абавязковай умоваю, якая гарантуе магчымасьць пабудовы дэмакратычнага грамадзтва, здаровай рынкавай эканомікі, забесьпячэньня правоў чалавека і неабходнай сацыяльнай абароненасьці асобы, захоўвае пэрспэктыву існаваньня і разьвіцьця беларускага народу”.

## ВОЙСКІ Ў ПАРЛЯМАНЦЕ – „ДАКЛАД” ЛУКАШЭНКІ – ПАДПІСАНЬНЕ ВАЙСКОВАЙ ДАМОВЫ

У пачатку лістапада Апазыцыя БНФ правяла перад будынкам ВС мітынг супраць карупцыі ў дзяржаўных органах, гучалі прыклады незаконных дзеяньняў самых высокапастаўленых чыноўнікаў. Дзяржаўныя СМІ праігнаравалі абвешчаныя намі зьвесткі, сам жа мітынг ацанілі як праяву палітыканства. Максымальны розгалас з жывой тэле- і радыётрансьляцыяй рыхтаваўся ўрадам для іншага „антыкарупцыйнага” выступу. Якраз у гэтыя самыя дні ў будынку Дома ўраду пісаўся даклад Лукашэнкі – пры актыўным удзеле Людзьмілы Масьлюковай, супрацоўніцы газэты Савета Міністраў „Советская Белоруссия”, і аднаго зь лідэраў камуністычнай партыі Васіля Новікава. Асноўны ўдар рыхтаваўся па Шушкевічу і дэмакратычных дэпутатах – і менавіта Лукашэнку атачэньне Кебіча абрала ў ролі тарана, які павінен быў зваліць Шушкевіча (а каманда „маладых ваўкоў” вызначала яму тую самую ролю ў дачыненьні да Кебіча).

Усе гэтыя дні апрацоўвалі дэпутатаў, якія засумняваліся ў праве Кебіча займаць пасаду кіраўніка ўраду.

5 лістапада бліжэйшае атачэньне Кебіча нанесла першы ўдар. Урад выступіў са зваротам, у якім абвінаваціў БНФ у тым, што той нібыта заклікае да стварэньня баявых дружын, узброеных выступаў ды распальвае міжнацыянальную варожасьць.



*25 Сакавіка 1994 г. З. Пазьняк, М. Анцыповіч, М. Купава, В. Быкаў, С. Навумчык.*

Як нам адразу стала вядома, заява пісалася ў кабінэце прэс-сакратара прэм’ера Ўладзімера Замяталіна. 6 лістапада прадстаўнікі дэмакратычных сілаў выступілі з заявай, у якой абверглі сьцьвярджэньні „заявы” ўраду, назваўшы яе „правакацыйнай”. „Мы проціпастаўляем правакацыйным, гвалтоўным дзеяньням ураду цывілізаваныя крокі ў межах законнасьці. Мы патрабуем ад Вярхоўнага Савета прыняць канстытуцыйнае рашэньне – стварыць пераходны ўрад і правесьці датэрміновыя выбары паводле новага сапраўды дэмакратычнага выбарчага закону, за што падпісаліся 442 тысячы грамадзянаў Беларусі, патрабуючы рэфэрэндум”, – гаварылася ў заяве, падпісанай лідэрамі трынаццаці партяў і арганізацыяў, у тым ліку БНФ, БСДГ, ЗБС „Бацькаўшчына”, БЗВ, ТБМ.

Сэсія ВС была прызначаная на 9 лістапада. 8 лістапада ў 14 гадзін Шушкевіч правёў прэс-канфэрэнцыю. Ён заявіў, што будзе галасаваць за „ўсе пазыцыі гэтай Канстытуцыі“ (а значыць, і за прэзыдэнцтва), дапусьціў магчымасьць увядзеньня расейскага рубля („нават увядзеньне ўласнай валюты не супярэчыць адзінай рублёвай зоне, паколькі абапірацца будзе на расейскі рубель”). На пытаньне Аляксандра Старыкевіча адносна таго, чаму спэцназ пераведзены на казарменнае становішча (гэта значыць – прыведзены ў баявую гатовасьць), а па Менску распаўсюджваюцца ўлёткі нібыта ад БНФ з заклікам да пагромаў, і ці ня бачыць ён у гэтым ініцыятывы Саўміну, Шушкевіч адказаў: „Я адрынаю такое падозраньне. Ня трэба правакатараў атаясамліваць з урадам. Надышоў час паважаць уладу”.

Праз гадзіну адбылося паседжаньне Апазыцыі БНФ – у прысутнасьці міністра ўнутраных справаў Уладзімера Ягорава (ён быў у канфлікце са сваім намесьнікам, камандуючым унутранымі войскамі Канстанцінам Платонавым, які быў на баку Кебіча). Міністар пацьвердзіў, што найбліжэйшае атачэньне Кебіча мае самае непасрэднае дачыненьне да выпуску масавым накладам улётак ад імя БНФ.

Увечары 8 лістапада мне паступіла інфармацыя, што якраз атачэньне Кебіча і лідэры дэпутацкай групы „Беларусь” рыхтуюць правакацыю заўтра, ў першы дзень сэсіі, і маюць намер распачаць працэдуру адстаўкі Шушкевіча. Я патэлефанаваў Шушкевічу дахаты і папрасіў тэрмінова сустрэцца. Сустрэцца ён ня мог, прапанаваў перадаць інфармацыю пісьмова, дзеля чаго ён прышле свайго чалавека. Праз паўгадзіны да мяне ва Ўручча прыехаў адзін з супрацоўнікаў аховы Шушкевіча, празь якога я й перадаў ліст, у якім прапаноўваў ужо назаўтра, у першы дзень сэсіі, рэальна ацаніць сытуацыю, ня верыць „замірэньням” Кебіча, узяць ініцыятыву ў свае рукі і запатрабаваць адстаўкі ўраду (у мяне няма сумневу, што ліст ня трапіў да Кебіча – ахоўнікі Шушкевіча былі адданыя яму людзі, да таго ж старшыня КДБ Шыркоўскі быў на ягоным баку.

Настоящим уведомляется, что

РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ

присоединяется к

ДОГОВОРУ О КОЛЛЕКТИВНОЙ БЕЗОПАСНОСТИ,

подписанному на заседании

Совета глав государств

Содружества Независимых Государств

в г.Ташкенте I5 мая I992 года

С.С.Шушкевич

Председатель Верховного
Совета Республики Беларусь

Совершено в г.Минске 3I декабря I993 года

***„Прымусовы дакумант".***

Тэкст: „Гэтым паведамляецца, што Рэспубліка Беларусь далучана да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы, якая падпісана на паседжаньні Рады кіраўнікоў Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў у г. Ташкенце 15 траўня 1992 г. С. С. Шушкевіч, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Зьдзейсьнена ў г. Менску 31 сьнежня 1993 г."

Нараніцу 9 лістапада, у першы дзень сэсіі, каля Дома ўраду стаялі БТРы, а ў самім будынку знаходзілася больш за тысячу ўзброеных байцоў унутраных войскаў са зброяй. Шушкевіч не пажадаў выносіць на сэсію пытаньне аб адстаўцы ўраду; прапановы аб адстаўцы, зробленыя Апазыцыяй БНФ, не ўключаліся ў парадак дня сэсіі. Аднак у парадак парлямэнцкая большасьць прасунула пытаньне пра Дамову аб калектыўнай бясьпецы СНД.

Праімпэрскае лобі адразу актывізавала ідэю ўвядзеньня расейскага рубля і каардынатар групы „Беларусь" Генадзь Казлоў заявіў, што зацьвердзіць разьліковы білет Нацыянальнага банка РБ у якасьці адзінага плацежнага сродку (г.зн., увесьці нацыянальную валюту) нібыта імкнецца парляманцкае лобі, якое адстойвае інтарэсы камэрцыйных банкаў, і ён „не пераканаavy, што ў дадзеным выпадку інтарэсы камэрцыйных банкаў супадаюць з інтарэсамі беларускага грамадзтва" (інфармбюлетэнь агенцтва „Павет", 20.11.1993). Нацыянальную валюту адстойвала якраз Апазыцыя БНФ. У той момант я, зьяўляючыся яе каардынатарам, ня быў знаёмы ні з водным кіраўніком камэрцыйных банкаў – яны, як і 99,99 % бізнэсоўцаў, пазьбягалі кантактаў з намі, бо гэта магло б скампрамэтаваць іх перад уладай і пашкодзіла б іх бізнэсу.

14–15 сьнежня Аляксандар Лукашэнка выступіў са сваім „антыкарупцыйным" дакладам, у якім мінімальна казалася пра карупцыю ў структурах Савета Міністраў, затое на Шушкевіча і некаторых дэмакратычных дэпутатаў выліваліся памыі хлусьні. Прамовы Лукашэнкі (14 сьнежня быў даклад, 15-га – адказы на пытаньні) трансьляваліся ў жывым тэле- і радыёэфіры. Гэта надало Лукашэнку вялізны рэйтынг у вачах значнай часткі насельніцтва; з гэтага моманту спыніць ягонае імкненьне да прэзыдэнцтва можна было толькі адмовіўшыся ад самой ідэі ўвядзеньня прэзыдэнцкай улады (Апазыцыя БНФ працягвала выступаць супраць прэзыдэнцтва).

У апошні дзень 1993 году, 31 сьнежня, Станіслаў Шушкевіч афіцыйна пацьвердзіў далучэньне Беларусі да Дамовы аб Калектыўнай бясьпецы СНД.

Дэпутаты Апазыцыі БНФ склікалі экстранную прэс-канфэрэнцыю, на якой Пазьняк ацаніў учынак Шушкевіча як здраду нацыянальным інтарэсам Беларусі і зьвярнуў увагу на тое, што раней Шушкевіч заяўляў пра мэтазгоднасьць рэфэрэндуму адносна Дамовы аб КБ. Пазьняк таксама заявіў, што мае доказы дзеяньняў расейскіх разьведслужбаў у Беларусі.

Гэтак – уваходжаньнем Беларусі ў сыстэму расейскага ваенна-прамысловага комплексу, тую сыстэму, якая пазьней, з прыходам Пуціна, зрабілася асноўнай дамінантай імпэрскай палітыкі Крамля – завяршыўся для Беларусі 1993 год. А канфлікты, якія набылі гранічную палярызацыю, разьвязаліся ў першыя тыдні новага году.

## ТРЫ ПАДЗЕІ АДНАГО ДНЯ

Неяк ужо даводзілася зьвяртаць увагу на цікавы зьбег акалічнасьцяў – у адзін дзень, а менавіта 15 студзеня 1994 году, адбыліся тры адметныя падзеі найноўшай беларускай гісторыі.

15 студзеня Менск наведаў прэзыдэнт ЗША Біл Клінтан – гэта быў візыт кіраўніка самай магутнай дзяржавы ў незалежную Беларусь. Гэтым самым выказвалася падтрымка Беларусі як дзяржаве, якая з уласнай ініцыятывы адмовілася ад ядзернага статусу. Мне даводзілася мець дачыненьне і да падрыхтоўкі гэтага візыту яшчэ ўлетку 1993 году, і да тых драматычных падзеяў, якія адбыліся за дзень да прыезду Клінтана вакол яго сустрэчы з прадстаўнікамі Апазыцыі БНФ і наведваньня Курапатаў (выканаўчая ўлада рабіла ўсё, каб гэтага наведваньня не было). Тым ня менш, Клінтан прыехаў у Курапаты і, такім чынам, сустрэўся з З. Пазьняком двойчы на працягу дня (была яшчэ сустрэча ў Доме прыёмаў па вул. Захарава). З Кебічам (у прысутнасьці яго намесьнікаў і міністра Краўчанкі) Клінтан таксама сустрэўся. Гэтай гутарцы з Кебічам афіцыйныя СМІ надалі максымальную ўвагу, пра сустрэчы з Пазьняком была дадзена мінімальная інфармацыя. Не маглі СМІ ігнараваць і таго, хто сустракаў, суправаджаў і праводзіў амэрыканскага прэзыдэнта – Старшыню Вярхоўнага Савета. У тыя дні прэса слушна адзначыла, што гэта быў „зорны дзень" Шушкевіча, ягоны трыюмф.



(Фота А. Каляды)

*Прэзыдэнт ЗША Уільям Клінтан і Зянон Пазьняк у Курапатах 15.01.1994 г.*

Дарэчы, праімпэрскія сілы ў Вярхоўным Савеце намагаліся скінуць Шушкевіча яшчэ да візыту, небеспадстаўна разьлічыўшы, што пасьля ягонай адстаўкі Клінтан можа і абмінуць Менск. Гэта было цалкам у інтарэсах Масквы – візыт амэрыканскага прэзыдэнта быў Крамлю нявыгадны, бо прыцягваў, хай сабе і на адзін дзень, увагу вядучых сродкаў масавай інфармацыі і, фактычна, інфармацыйна замацоўваў Беларусь на мапе сьвету, інфармацыйна легітымізаваў існаваньне незалежнай Беларусі. Аднак гэты разьлік уступіў у супярэчнасьць з асабістым інтарэсам Кебіча – яму, трэба думаць, параілі не ўпускаць магчымасьці засьвяціцца з прэзыдэнтам ЗША у прапагандысцкіх інтарэсах будучай прэзыдэнцкай кампаніі.

15 студзеня ў „Народнай газэце" быў надрукаваны артыкул Зянона Пазьняка „О русском империализме и его опасности".

Гэты артыкул выклікаў гістэрыю як у афіцыйнай прэсе, так і ў дэмакратычна-лібэральных выданьнях; аднак ніводны з аргумэнтаў Пазьняка да сёньня не абвергнуты. Калі б тады грамадзтва прыслухалася да высноваў, не былі б страчаныя гады на ілюзіі адносна Расеі, на ўсьведамленьне геапалітычных аксіёмаў ды месца Беларусі на мапе Эўропы.

У той жа дзень, 15 студзеня, летувійскія праваахоўныя органы арыштавалі на тэрыторыі Беларусі і вывезьлі ў Летувы лідэраў літоўскай кампартыі, якія абвінавачваліся ў падтрымцы антыдзяржаўнага путчу ў студзені 1991 году і нелегальна хаваліся ў Менску.

Віна за „выдачу камуністаў" пракамуністычнай большасьцю была ўскладзеная на Старшыню КДБ Э. Шыркоўскага і міністра ўнутраных справаў У. Ягорава. Як узгадвалася вышэй, у апошнія тыдні 1993 году Шыркоўскі і Ягораў зьвярнуліся зь лістом да дэпутатаў Вярхоўнага Савета, у якім абвінавацілі атачэньне Кебіча ў неканстытуцыйных дзеяньнях. У прыватнасьці, у стварэньні неканстытуцыйных структур. Апазыцыя БНФ выказала падтрымку пазыцыі Шыркоўскага і Ягорава. Шушкевіч ад заяваў устрымаўся.

Пасьля закрытага паседжаньня ВС Шыркоўскі і Ягораў былі адпраўленыя ў адстаўку. Шушкевіч не абараняў падначаленых і адданых яму міністраў.

## АДСТАЎКА ШУШКЕВІЧА

На тым жа закрытым паседжаньні ВС, калі разглядалася справа Шыркоўскага і Ягорава, Лука-

шэнка выступіў з крытыкай С. Шушкевіча за тое, што ён не ўратаваў агентаў расейскай выведкі, якія былі выяўленыя ў нью-ёрскім прадстаўніцтве Беларусі ў ААН і высланыя з тэрыторыі ЗША. Між іншым, менавіта гэтае абвінавачваньне, а не знакамітая „скрыня цьвікоў", якую нібыта Шушкевіч скраў для пабудовы дачы, была нагодай для ўключэньня ў парадак дня пытаньня аб адстаўцы. 26 студзеня 1994 году Шушкеевіч быў зьняты з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета.

Дэпутаты Апазыцыі БНФ ня ўдзельнічалі ў галасаваньні, але нашыя галасы ўжо не маглі нічога вырашыць: супраць Шушкевіча была настроеная значная частка дэпутатаў, якія называлі сябе дэмакратамі.

„Упаў першы белавескі зубар" – трыюмфальна заявіў адразу пасьля галасаваньня адзін з ініцыятараў адстаўкі Віктар Ганчар. „Ня справа мышэй ацэньваць паводзіны зуброў" – парыраваў Шушкевіч.

Пасьля гэтага кебічаўская намэнклятура, „маладыя ваўкі" і група Карпенкі пачалі фарсіраваць прыняцьцё варыянту Канстытуцыі з прэзыдэнцкім кіраваньнем.

## ПРЭЗЫДЭНЦТВА ПАД ПРЫМУСАМ

На працягу месяца, які папярэднічаў прыняцьцю Канстытуцыі, Апазыцыя БНФ тройчы прымала заявы супраць увядзеньня прэзыдэнцтва, але нашыя аргумэнты адносна таго, што такая форма кіраваньня пагражае Беларусі дыктатурай, зьдзекліва адрыналіся і атачэньнем Кебіча, і „маладымі ваўкамі" і групай Карпенкі.

У лютым лідэры групы „Беларусь" ініцыявалі галасаваньне пайменнымі бюлетэнямі за „прэзыдэнцкія" разьдзелы – прычым на працягу трох дзён. Такі варыянт супярэчыў Рэгляманту ВС і, па сутнасьці, быў нелегітымны. У будынак Дома ўраду звозіліся дэпутаты, якія на сэсіях не былі гадамі (некаторых я ўвогуле бачыў упершыню), прывозілі дэпутатаў-вэтэранаў са шпіталяў – зьбіраўся патрэбны для прыняцьця канстытуцыйнага рашэньня (дзьве траціны галасоў ад колькасьці мандатаў) кворум.

І тут таксама мы скарысталі тактыку байкоту – дэпутаты Апазыцыі БНФ ня бралі бюлетэні і ня ўдзельнічалі ў галасаваньні. Аднак за ўвядзеньне прэзыдэнцтва выказаліся „маладыя ваўкі" Лукашэнкі, група Карпенкі і ўся намэнклятура – і нашыя галасы ўжо не маглі паўплываць на вынік.

Пасьля таго, як прэзыдэнцтва было прынятае, мы запатрабавалі, каб прэзыдэнт ня быў кіраўніком выканаўчай улады, і каб яго выбары адбыліся не раней чым праз паўгода пасьля парлямэнцкіх выбараў. Гэтая прапанова таксама была праігнараваная – сьпяшаўся Кебіч, сьпяшаліся „маладыя ваўкі" (сьпяшалася Масква).

Большасьць дэпутатаў адрынула і прапанаваную дэпутатамі Апазыцыі БНФ прэамбулу Канстытуцыі, дзе нагадваліся вытокі беларускай дзяржаўнасьці – Вялікае Княства Літоўскае і Беларуская Народная Рэспубліка.

15 сакавіка Канстытуцыя з прэзыдэнцтвам шляхам грубага парушэньня Рэгляманту ВС была прынятая.

## „МАЛАДЫЯ ВАЎКІ" СУПРАЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

У тыя дні я сказаў Кебічу, што ён вельмі памыляецца, калі бачыць у Лукашэнку свайго палітычнага партнэра. Вячаслаў Францавіч адказаў нешта накшталт таго, што, магчыма, я і маю рацыю, але „час пакажа".

Доўга чакаць прэмьер-міністру не давялося.

27 сакавіка Лукашэнка падчас выступу ў жывым эфіры беларускага радыё (па распараджэньню Саўміну Лукашэнку, у адрозьненьне ад нас, усё яшчэ прадстаўлялі эфір) заявіў, што „калі Кебіч ня будзе прэзыдэнтам – ён будзе сядзець у турме".

З гэтага моманту Лукашэнка пачаў адкрытую палітычную гульню, незалежную ад Кебіча, але, як выглядае, вельмі залежную ад імпэрскіх інтарэсаў Масквы. Сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савета ўтварылася група, якая падтрымала чалавека, што адкрыта і пасьлядоўна выказваўся за зьнішчэньне беларускай дзяржаўнасьці, ганьбіў нацыянальныя сымвалы – Дзьмітры Бу-

лахаў, Віктар Ганчар, Віктар Кучынскі, Анатоль Лябедзька, Леанід Сініцын, Іван Ціцянкоў, Віктар Шэйман ды некаторыя іншыя. Вясной 1994г. Юры Хадыка адзначыў, што, нягледзячы на заклікі Лукашэнкі „павярнуць назад у сацыялізм", бізнэсоўцы яго не спалохаліся – „ягоную групу ўзначаліў былы камсамольскі важак сп. Фядута зь сябрамі-бізнэсмэнамі. Да яе далучыліся і сумнавядомыя сваёй палітычнай беспрынцыповасьцю спадары Булахаў і Ганчар" („Свабода", 16 красавіка 1994 г.).

Асновай прапагандысцкай кампаніі Лукашэнкі зрабілася хлусьня, замяшаная на антынезалежніцкай рыторыцы.

Ні на якім этапе выбараў Лукашэнка і ягоныя хаўрусьнікі ня выступілі ў падтрымку беларускай мовы; ўся іх кампанія вялася па-расейску.

Паказальны рэпартаж А. Тамковіча ў газэце „Свободные новости" пра сустрэчу Лукашэнкі з выбарцамі ў Ашмянах.

Лукашэнка заявіў пра неабходнасьць аб'яднаньня грашовых сыстэмаў Беларусі і Расеі, з чым, на ягоную думку, урад Кебіча марудзіў. „Аддаўшы належнае Кебічу за правал з аб'яднаньнем грашовых сыстэмаў, Аляксандар Рыгоравіч панаракаў, што СССР развалены быў злачынна, так як тыя, хто сабраліся ў Белавескай пушчы, не ўяўлялі і не прагназавалі магчымае разьвіцьцё падзеяў. І за гэта некаторым, менавіта Кебічу і Шушкевічу, яшчэ давядзецца адказваць...

Пытаньне: Чаму Вы ўзялі ўдзел у ганебным зьняцьці з пасады С. Шушкевіча?

Адказ А. Лукашэнкі: Шушкевіча зьнялі не за кіляграм цьвікоў, а за развал дзяржавы.

Пытаньне: Выступаючы ў Ашмянах, Зянон Пазьняк назваў Вас палітычным авантурыстам, які працуе па ўказцы Кебіча і на замежныя спэцслужбы.

Сьмех у залі.

Адказ: Слава Богу, што, у адрозьненьні ад некаторых палітыкаў, я не прэтэндую на бранскія і смаленскія землі.

З Лукашэнкам на ашмянскай сустрэчы прысутнічалі дэпутаты з руху „Новыя імёны – новая палітыка" Анатоль Лябедзька і Алякесандар Шыпко. І на душы было неяк весялей ад думкі, што палітыкай у Беларусі займаюцца ня толькі пэнсіянэры" („Свободные новости", №8, красавік 1994 г.).

Такім чынам, яшчэ на самым пачатку выбарчай прэзыдэнцкай кампаніі Лукашэнка пацьвердзіў сваю пазыцыю як антынезалежніка (ліквідацыя нацыянальнай валюты, суд над „віноўнікамі" распаду СССР і інш.); пры поўнай згодзе членаў ягонай каманды.

## ЖАДАНЬНЕ БЫКАВА, ЯКОЕ НЕ СПРАЎДЗІЛАСЯ

Дэбаты – на каго з двух дэмакратычных лідэраў, на Пазьняка ці на Шушкевіча, павінна была ставіць Апазыцыя, разгарнуліся ўжо пасьля першага туру выбараў і доўжацца да сёньня. Так, дэпутаты БСДГ на чале з Алегам Трусавым (які адначасна зьяўляўся намесьнікам Пазьняка па Апазыцыі БНФ) раптам падтрымалі Шушкевіча. Мы ж не маглі зрабіць гэтага з тае прычыны, што, пры ўсёй сваёй сумленнасьці і маральнасьці, на працягу больш як двух гадоў знаходжаньня на пасадзе першай асобы ў дзяржаве Станіслаў Станіслававіч выявіўся непасьлядоўным, а ў шэрагу выпадкаў і непрадказальным палітыкам. Да таго ж ён быў не зусім разборлівы ў выбары найбліжэйшага палітычнага атачэньня (сярод ягоных дарадцаў былі Валер Цапкала, акадэмік Анатоль Міхайлаў (нас насьцярожвалі непрыхільныя заявы акадэміка адносна беларускай мовы); пазьней у ягонай камандзе апынуўся і маладзён Ўсевалад Янчэўскі – і гэта пасьля ягонага праімпэрскага артыкулу ў „Рэспубліцы").

Яшчэ на этапе вылучэньня кандыдатаў публіцыст Валеры Дранчук надрукаваў у „Свабозе" артыкул „Лепш Пазьняк, чым ніколі!". „Чаму я ня буду галасаваць за Шушкевіча? – тлумачыўён сваю пазыцыю. – … за час ягонага кіраваньня парлямантам я зьведаў столькі расчараваньня, колькі ня зьведае, мусіць, самы апантаны заўзятар, калі яго любімы клюб прагульвае з разгромным лікам. Шушкевіча – беларуса і дэмакрата – народ, вобразна кажучы, паставіў на браму. А ён прапусьціў усе галы! Нават тады, калі білі не з адзінаццаці мэтраў, а з брамы праціўніка. Я ня ў сілах дараваць гэтага галкіпэру Шушкевічу…

Будзе куды лепш, калі шчыры беларус Станіслаў Шушкевіч аддасьць „свае галасы Зянону Пазьняку. Упэўнены, гэта будуць галасы сумленных людзей” („Свабода”, 16 красавіка 1994 г.).

Паказальнымі былі словы аўтара публікацыі ў „Свабодзе” адразу пасьля выбараў, 28 жніўня: „Што датычыць маўклівага супрацьстаяньня камандаў Пазьняка і Шушкевіча, дык наяўнасьць двух кандыдатаў адназначна касавала шанцы абодвух... Але, не зважаючы на самаўпэўненую заяву Шушкевіча адной маскоўскай газэце „я выйграю”, ён, безумоўна, меў меншыя за Пазьняка шанцы. Мне неаднаразова даводзілася чуць, як звычайныя людзі разважалі наконт ягонай кандыдатуры: „Ужо раз пасядзеў там, нічога не зрабіў”. Не, Шушкевіч якраз сваю місію выканаў, узяўшы ўдзел у скасаваньні СССР. Дзякуючы гэтаму ён ужо ўпісаў сваё імя ў беларускую гісторыю. Але ў астатнім Шушкевіч сам адвёў сабе бясьпечную ролю начальніка над 5-ю мікрафонамі” (маючы на ўвазе мікрафоны ў Авальнай залі парлямэнту).

У каманду Пазьняка ўвайшлі, апроч палітыкаў, юрыстаў ды эканамістаў, і вядомыя прадстаўнікі творчай эліты.

Праграма Пазьняка, распрацаваная пры ўдзеле Ценявага кабінэту Апазыцыі БНФ на чале з У. Заблоцкім, палягала ва ўмацаваньні незалежнасьці Беларусі, эўрапейскім выбары ў міжнародных дачыненьнях і рынкавых прынцыпах у эканоміцы.

Мэтай было стварэньне прававой дэмакратычнай дзяржавы, дзе паважаліся б правы ўсіх нацыяў, дзе было б гарантаванае ўжываньне адзінай дзяржаўнай мовы – беларускай. Павінна была быць уведзеная забарона ўсіх арганізацыяў, якія выступаюць супраць незалежнасьці Беларусі. Пазьняк лічыў неабходным выхад Беларусі з СНД, вывад з тэрыторыі краіны расейскіх войскаў. Разам з тым, у праграме падкрэсьлівалася, што „галоўная задача беларускай зьнешняй палітыкі – наладжваньне раўнапраўных, узаемавыгадных партнэрскіх дачыненьняў з Расейскай Фэдэрацыяй”.

У праграме Пазьняка не было ні слова, што дало б падставы папракнуць яго „экстрэмізмам” – нават тыя палажэньні, якія здаваліся найбольш радыкальнымі, рэалізоўваліся ў краінах Усходняй Эўропы (і менавіта яны, дарэчы, зьявіліся перадумовамі эканамічнага разьвіцьця гэтых краін у параўнаньні з краінамі СНД). І падчас сустрэчаў ужо праз гадзіну, пачуўшы тлумачэньні палажэньняў праграмы, большасьць аўдыторыі выяўляла прыхільнае стаўленьне да кандыдата ад Народнага фронту.

Аднак у Пазьняка (як і ў іншых кандыдатаў) было толькі чатыры тэлевізійныя эфіры, адзін зь якіх мы скарысталі для трансьляцыі адмыслова зробленага Ўладзімерам Коласам фільму „Невядомы Пазьняк”, які павінен быў разбурыць гадамі ствараны афіцыйнай прапагандай імідж. У адным з жывых тэлеэфіраў выступіў Васіль Быкаў, які ўваходзіў у лік дваццаці зарэгістраваных ЦВК давераных асобаў кандыдата – ён заклікаў беларускі народ галасаваць за Пазьняка. А за некалькі дзён да першага туру, ў дзень свайго 70-годзьдзя, выступаючы перад прыхільнікамі ў сквэры Янкі Купалы, Быкаў, называючы свае самыя вялікія жаданьні, сказаў: „я вельмі хачу, каб першым прэзыдэнтам Беларусі стаў яе самы найлепшы сын – Зянон Станіслававіч Пазьняк

Рэальна, Лукашэнка перамог ужо ў першым туры, набраўшы больш як 50% галасоў; на другім месцы быў Пазьняк, на трэцім – Шушкевіч, а Кебіч на чацьвёртым. Аднак афіцыйна (у выніку маніпуляцыяў) ў другі тур выйшлі Лукашэнка і Кебіч. Але і на гэтым этапе яшчэ была магчымасьць не пусьціць Лукашэнку ў прэзыдэнцтва.

Празь дзень ці два пасьля першага туру выбараў мне патэлефанавалі ад Кебіча і папрасілі падтрымаць яго (была гаворка і з самім Кебічам).

Сытуацыя была такая, што адказ трэба было даваць імгненна, параіцца з Пазьняком магчымасьці не было. Я параіў Вячаславу Францавічу зьняць сваю кандыдатуру, пакінуўшы ў бюлетэні адно прозьвішча – Лукашэнка. У сваю чаргу, сказаў я, БНФ зьняў бы ўсіх сваіх назіральнікаў – а яны ў нас былі практычна на ўсіх выбарчых участках.

З улікам таго, што значная частка людзей (ня большая, але значная) ішла ня столькі „за Лукашэнку”, колькі „супраць Кебіча”, – на другі тур прыйшло б людзей значна менш, чым калі б Кебіч заставаўся ў бюлетэні. У выніку такіх дзеяньняў Кебіч прэзыдэнтам стаць ня мог – бо пасьля зьняцьця ягонай кандыдатуры ў бюлетэнях ягонага прозьвішча не было б, застаўся б адзін Лукашэн-

ка. Па-другое, пры адсутнасьці назіральнікаў ад БНФ улада атрымала б магчымасьць скарыстаць „адміністрацыйны рэсурс”, што перад небясьпекай прыходу Лукашэнкі на прэзыдэнцкую пасаду падавалася меншым злом.

У адказ я пачуў, што „будзем думаць”.

Пазьней выявілася (і гэта адлюстравана ва ўспамінах Фядуты), што якраз гэты, прапанаваны Кебічу варыянт, – быў той адзіны варыянт, які найбольш палохаў каманду Лукашэнкі.

Пакуль Вячаслаў Францавіч і ягонае найбліжэйшае атачэньне (Мясьнікові, Антановіч, Краўчанка, Патупа, Замяталін і інш.) разважалі, мы зь Зянонам Пазьняком правялі перамовы зь некаторымі асобамі „першага эшалёну ўлады”, якія тычыліся далейшых дзеяньняў у тым выпадку, калі прэзыдэнт у другім туры ня быў бы абраны. Падрабязнасьці гэтых перамоваў абнародаваць яшчэ ня час, пакуль жа адзначу, што варыянт – шляхам пэўных канстытуцыйных захадаў – прадугледжваў немагчымасьць абраньня Лукашэнкі ў наступным раўндзе выбараў (разглядалася і магчымасьць скасаваньня прэзыдэнцтва наагул).

На жаль, Кебічу „нараілі” ўдзельнічаць у другім туры. Тады мы зьвярнуліся з просьбай даць нам хаця б пяць хвілінаў тэле- і радыёэфіру, каб абвясьціць рашэньне Сойму БНФ і заклікаць нашых прыхільнікаў не ісьці на другі тур, альбо, у крайнім выпадку, выкрэсьліваць абодвух – Лукашэнку і Кебіча. Натуральна, мы пасьпелі распаўсюдзіць заклік сярод свайго актыву – але толькі тэлебачаньне і радыё магло б даць магчымасьць данесьці аргумэнтацыю да кожнага з тых, хто галасаваў за Пазьняка. Верагодна, да такой парады прыслухалася б і значная частка прыхільнікаў Шушкевіча.

Аднак людзі Кебіча эфіру нам не далі.

## ПАЗЬНЯК І ЛУКАШЭНКА БЫЛІ НЯ Ў РОЎНЫХ УМОВАХ

Зьвярну ўвагу на адзін вельмі важны фактар, пра які ўжо аднойчы даводзілася казаць. Традыцыйна, аналізуючы прэзыдэнцкую кампанію 1994 году, аналітыкі гавораць пра „роўныя магчымасьці” тых кандыдатаў, якія былі ў Апазыцыі да Кебіча. Асабліва любяць паўтараць гэта цяпер ужо былыя арганізатары выбарчай кампаніі Лукашэнкі – маўляў, Лукашэнка і Пазьняк былі пастаўленыя ў падобныя ўмовы, іх аднолькава прыціскалі ўлады. І таму барацьба была нібыта справядлівай.

Усё гэта вельмі далёка ад ісьціны.

Выбарчую кампанію 1994 году шмат у чым вырашыла пазыцыя сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку (і ў першую чаргу) і да пачатку самой кампаніі. І тут варта параўнаць інфармацыйныя магчымасьці Лукашэнкі і Пазьняка і інфармацыйную атмасфэру вакол іх.

З самага моманту ўтварэньня Аргкамітэту БНФ Пазьняк стаў мішэньню для зьнішчальных паклёпаў – прычым па ўсіх каналах афіцыйнай прапаганды. Ніводны рэдактар афіцыйных (тады – камуністычных) газэт падчас свайго знаходжаньня на пасадзе не пажадаў разабрацца, дык ці сапраўды лідэр БНФ „фашыст”, „экстрэміст”, і што павінна, а што не павінна ўкладацца ў паняцьце „нацыяналіст”. Пасьля абраньня Пазьняка дэпутатам гэтая паклёпніцкая хваля спачатку прыцішылася, аднак недзе з 1992 году зноў узмацнілася – толькі паклёпы былі ўжо больш вытанчаныя, калі такое вызначэньне дапушчальнае ў дачыненьні да паклёпаў.

Той вельмі абмежаваны доступ да эфіру, які мелі дэпутаты Апазыцыі, Пазьняк выкарыстоўваў не дзеля самарэклямы, а ў мэтах тлумачэньня праграмных палажэньняў БНФ ды захадаў, якія ўрад павінен быў бы рабіць дзеля ўмацаваньня сувэрэнітэту.

Мэтанакіраваная, пасьлядоўная прапагандысцкая стратэгія паклёпу мела свой эфэкт. У дні выбарчай кампаніі ў Воршы, здаецца, мне давялося быць удзельнікам адной фантасмагарычнай размовы, у рэальнасьць якой я б не паверыў, калі б мне расказаў пра яе хтосьці іншы. Я даводзіў выбарцу-пэнсыянэру, што Пазьняк ня мог у час вайны служыць у паліцыі. „У якім годзе вайна скончылася? У 1945-м, правільна?” – „Правільна” – „А Пазьняк нарадзіўся ў 1944-м, дык колькі яму было? Толькі год быў, згодны?” – „Згодны... Ай, не дурыце мне галаву. Служыў ён у паліцыі!”

Лукашэнка ж быў „любімцам” СМІ – часьцей, праўда, ён нёс бязглузьдзіцу, але пры гэтым да-


(Фота Ул. Кармілкіна, Архіў БНФ).

*Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк у кабінэце В. Быкава на вул. Танкавай у Менску. 19.06.1993 г.*

ваў нейкую інфармацыйную нагоду. У 1993 годзе пасьля абраньня (з падачы Шушкевіча і Лябедзькі) кіраўніком „антыкарупцыйнай камісіі” на яго была зробленая стаўка як праімпэрскімі сіламі ў Маскве (адсюль інтэрв’ю ў маскоўскіх газэтах), гэтак і камандай Кебіча (жадалі рукамі Лукашэнкі зваліць Шушкевіча і запляміць Апазыцыю). У верасьні 1993 – сакавіку 1994 году Лукашэнка атрымаў практычна неабмежаваны доступ да тэле- і радыёэфіру – аж да моманту антыкебічаўскага выступу 27 сакавіка. Вось тут каналы яму перакрылі – але было позна.

Зрэшты, і пасьля гэтага дзяржаўныя СМІ працавалі на Лукашэнку – бо афіцыйная прапаганда была накіраваная супраць ідэяў Народнага фронту. І гэта нават было больш вызначальна, чымсьці колькасьць зьяўленьня Пазьняка альбо Лукашэнкі на тэлеэкранах ці падтрымка асобнымі журналістамі.

З другой паловы 1992 году афіцыйная прапаганда заняла агрэсіўна антынезалежніцкія, пасутнасьці, антыбеларускія пазыцыі. Практычна два гады грамадзтва наступальна апрацоўвалася ў прарасейскім, „інтэграцыйным” і антыдэмакратычным духу. З пачаткам выбарчай кампаніі гэтая рыторыка толькі ўзмацнілася.

Фармальна афіцыйная прапаганда, тэлебачаньне, радыё і друк агітавалі за Кебіча – а рэальна агітавалі за тое ж, за што выступаў і Лукашэнка. Прычым Лукашэнка на фоне гэтых антынезалежніцкіх лёзунгаў выглядаў больш энэргічным палітыкам, чым прэм’ер. Кебіч агітаваў за далу-

чэньне да расейскай рублёвай зоны – Лукашэнка крытыкаваў прэм’ера за прамаруджваньне і абяцаў, што пры ім рубель зьявіцца хутчэй. Кебіч вінаваціў у „развале экономікі” распад СССР – Лукашэнка нагадваў, што ў тым ліку і Вячаслаў Францавіч падпісаў віскулёўскія пагадненьніі. Кебіч заяўляў, што без Расеі беларуская эканоміка ня вытрымае – Лукашэнка ішоў далей і патрабаваў аднаўленьня СССР.

Словам, агульны тон афіцыйнай прапаганды быў вельмі выгадны Лукашэнку і адыграў, мяркую, ключавую ролю ў ягонай перамозе. Гэтую акалічнасьць замоўчваюць колішнія паплечнікі Лукашэнкі – магчыма, таму, што ў іншым разе ім давядзецца тлумачыць, чаму ж яны самі выступілі супраць незалежнасьці Беларусі.

Дарэчы, аналізуючы і параўноўваючы прапагандысцкі фон пачатку 1990-ых і пачатку 2000-ых, на якім падаецца вобраз лідэра Народнага Фронту, заўважаеш шмат паралеляў і адсутнасьць якіх-небудзь істотных зьменаў. І тычыцца гэта ня толькі афіцыйных СМІ.

То Дземянцей напіша ў мэмуарах, што нібыта Пазьняк з Навумчыкам пагражалі яго павесіць (пры гэтым патрабаваньне аб адстаўцы з вуснаў Лукашэнкі ў жніўні 1991-га Дземянцей „таварышу прэзыдэнту” дараваў) . То Кебіч заявіць, што бачыў кінастужку, дзе нібыта Пазьняк заклікаў выпусьціць з турмаў усіх злачынцаў і пасадзіць туды членаў ураду і актыўных камуністаў (пра словы Лукашэнкі вясной 1994-га, што Кебіч „будзе сядзець у турме”, экс-прэм’ер ня ўзгадвае. А стужка такая пра Пазьняка, калі б існавала, не сыходзіла б з тэлеэкранаў).

І ўжо ўсе, без выключэньня былыя дэпутаты ВС 12 скліканьня, якія пасьлядоўна блякавалі прапановы Апазыцыі БНФ, якія падтрымалі рэфэрэндум 1995 года і радаваліся зьбіцьцю дэпутатаў – абавязкова падкрэсьляць „нацыянал-радыкалізм” Пазьняка і тут жа расшыфруюць: хацеў, каб размаўлялі па-беларуску. На гэтым звычайна ставяць кропку і той хто адказвае, і той хто пытае, не спрабуючы высьветліць – дык а ў чым быў „радыкалізм”? Насамрэч, БНФ не прапаноўваў нічога больш „радыкальнага” за практыку, якая існуе ў цывілізаваных краінах (у Францыі, напрыклад, закон прадугледжвае прыярытэты французкай мовы над ангельскай, за шыльду па-ангельску ўладальнік бізнэсу можа заплаціць салідны штраф; існуе нават „моўная паліцыя”. Аднак нават да гэтага Пазьняк ніколі не заклікаў).

Паводзіны беларусафобаў зразумелыя: у справе дзяржаўнай незалежнасьці і існаваньня Беларускай нацыі беларуская мова ёсьць галоўным чыньнікам і яны (у адрозьненьне ад некаторых беларусаў) ўсьведамляюць гэта.


ПАСВЕДЧАННЕ

Навумчых
Сяргей Іосіфавіч

зарэгістраваны даверанай асобай кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь

Пазьняка Зянона
Станіслававіча

(прозвішча, імя, імя па бацьку кандыдата ў Прэзідэнты)

Старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

Сакратар Цэнтральнай камісіі па выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

7. [illegible] 1994 г.
(дата рэгістрацыі)

***Пасьведчаньне С. Навумчыка аб даверанай асобе кандыдата ў Прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь З. Пазьняка. 7.06.1994 г.***

Але вось дзіўная акалічнасьць: сярод паплечнікаў Пазьняка, ды наогул сярод дэпутатаў ВС 12 скліканьня, шмат тых, хто актыўна выступаў і выступае ў абарону беларускай мовы (а нават і часьцей, бо ў асноўным Пазьняк закранае тэмы палітыкі, дзяржаўнага будаўніцтва і Незалежнасьці). Аднак найбольш абразьлівыя абвінавачваньні накіраваныя менавіта Пазьняку.

Калі прычыны заяваў афіцыйнай лукашэнкаўскай прапаганды зразумелыя, дык чым патлумачыць непрыхільныя словы тых, хто цяпер залічвае сябе да Апазыцыі?

Прычым нікому зь іх асабіста Пазьняк, як кажуць, не перайшоў дарогу – ні ў атрыманьні грантаў на палітычную дзейнасьць (бо ніколі іх ня меў), ні ў чарзе ў маскоўскія кабінэты (бо наконт Расеі



(Фота Галіны Навумчык)

*Мітынг БНФ. Ліпень 1994 г. Выступае Васіль Быкаў. Вядучы С. Навумчык.*

выказаўся адназначна). Можна было б уявіць, што баяцца палітычнай канкурэнцыі – але ж заяўляюць, што не баяцца, зусім не баяцца і, як заклінаньне, паўтараюць, што „Пазьняка ўжо няма”.

Можа быць толькі адно тлумачэньне.

Пазьняку ня могуць даравац Курапатаў і аднаўленьня Незалежнасьці.

Масква ня можа даравац сваёй паразы. Ворагі беларушчыны разумеюць, што ягонае імя воляю лёсу ўжо зрабілася назыўным, пераўтварылася ў сымвал, і ў сьвядомасьці грамадства зьвязанае з Незалежнасьцю і нацыянальнай ідэяй. Менавіта Пазьняк і Народны Фронт валодаюць гэтай магутнай і небясьпечнай для Крамля ідэяй. І гэтую ідэю немагчыма ні адабраць, ні зьнішчыць – у гэтым і небясьпека. Ім добра вядома, што шукаць кампраміс з Пазьняком, што да беларушчыны і Незалежнасьці – марная справа. Якраз таму нянавісьць да Пазьняка і набыла пэрманэнтны характар, яна ўсьвядомленая і пасьлядоўная, бо за ягоным імем стаіць нешта большае, чым ён сам як чалавек, за гэтым імем – ідэя вольнай Беларусі і змаганьня зь яе нішчыцелямі.

Адкрыцьцё пахаваньняў дзесяткаў тысячаў ахвяраў было ўдарам ў самае сэрца камунізму. Як Асвэнцым ёсьць напамінкам пра злачынствы фашызму, аб які разьбіваюцца аргумэнты адрынальнікаў існаваньня Галакосту, - гэтак жа Курапаты застаюцца сьведчаньнем зьверстваў камуністычнага тэрору, перад якім спробы апраўдаць, адмыць ідэалёгію Маркса-Энгельса-Леніна ўспрымаюцца альбо глупствам, альбо цынізмам. Курапаты застануцца, нават калі іх закатаюць пад асфальт (але пераканаными, што ў будучым беларусы створаць тут нацыянальны мэмарыял. Ён ужо ствараецца народам і ўжо існуе).

Абнародаваньне праўды пра Курапаты надало імпульс новаму нацыянальнаму Адраджэньню, і ў выніку – аднаўленьню беларускай Незалежнасьці. Гэта дыямэтральна супярэчыць спрадвечным (менавіта так – цягам стагодзьдзяў, незалежна ад канфігурацыі сымвалаў на крамлёўскіх вежах) інтарэсам Масквы, якая стагоддзямі ставіла мэту зьнішчыць Вялікае Княства Літоўскае – Беларусь і думала, што ў ХХ стагодзьдзі зь беларусамі расправілася назаўсёды. Тое, што Беларусь, дзякуючы намаганьням Народнага Фронту і яго лідэра, аднавіла сваю незалежнасьць і зноў існуе як дзяржава– з пункту гледжаньня імпэрыі і яе абаронцаў – недаравальна.

З імем гэтага чалавека вяжацца для Масквы пастаянная небясьпека. Таму ў Менску, Варшаве альбо Нью-Ёрку, ды хоць на Месяцы – Пазьняк будзе ўспрымацца імпэрыяй ворагам нумар адзін.

І ў 1994 годзе супраць яго была накіраваная ўся моц праімпэрскай прапагандысцкай машыны.

## КДБ І ЛУКАШЭНКА: НЕРАЗЛУЧАНЫЯ БЛЯЗЬНЯТЫ

Лукашэнка сам неаднаразова прызнаваўся ў тым, што роля КДБ у ягоным прасоўваньні на пасаду прэзыдэнта была вызначальнай.

Вядома, што Лукашэнка служыў у памежных войсках КДБ СССР, пад час дэпутацтва абараняў



(Архіў С. Навумчыка).

***Аблічча намэнклятурнага рэжыму. АМАП перагарадзіў дарогу калёне БНФ 9 траўня 1994 г. У цэнтры С. Навумчык, З. Пазьняк, В. Быкаў.***

„чэкістаў", а ягонае прэзыдэнцтва адзначанае прызначэньнем афіцэраў КДБ на ключавыя пасады, ўзмацненьнем ролі спэцслужбаў і вяртаньнем іх да мэтадаў часоў сумнавядомага Андропава.

Што ж да падзеяў 1994 году, дык кропкі над „і" ў гэтай тэме паставіла прызнаньне былога афіцэра контравыведкі КДБ Сяргея Аніські, апублікаванае ў 1996 годзе:

„Няма нічога патаемнага, што калі-небудзь не зрабілася б відавочным. Аляксандар Рыгоравіч сваім узыходжаньнем шмат у чым абавязаны Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі, альбо, па меншай меры, асобным яго кіраўнікам. У пэрыяд прэзыдэнцкіх выбараў у спэцслужбе была створаная ініцыятыўная група падтрымкі Аляксандра Лукашэнкі, ідэйным натхняльнікам якой зьяўляўся Валеры Кез (генэрал, намесьнік старшыні КДБ РБ – С.Н.). Шматлікія супрацоўнікі цэнтральнага апарату Камітэту ў Менску і абласных упраўленьняў КДБ адсочвалі абстаноўку пад час выбараў, кантралявалі дзеяньні асноўных канкурэнтаў на прэзыдэнцкую пасаду і прадстаўлялі папераджальную інфармацыю ў штаб Аляксандра Рыгоравіча. Менавіта камітэтчыкі своечасова атрымалі зьвесткі аб прыбыцьці з Уралу двух кілераў і іх месцазнаходжаньні на адной з дзяржаўных рэзідэнцыяў. Наўмысная ўцечка інфармацыі ў прэсу не дазволіла некаторым экс-чыноўнікам дзяржаўнага маштабу ажыцьцявіць гэтую злачынную акцыю. Менавіта чэкісты ведалі сапраўдную карціну лёзьненскага замаху, фінансаваньня прэзыдэнцкай кампаніі і парупіліся схаваць „канцы ў ваду". Матэрыялы аб нэгатыўных аспэктах гандлю зброяй, развале войска і злачыннай дзейнасьці дзяржчыноўнікаў, якія знаходзілі жывы водгук у выбаршчыкаў, таксама перадаваліся Аляксандру Рыгоравічу з будынку па вул. Камсамольскай" („Белорусская деловая газета", 15 лютага 1996 г.).

## НОВЫ ПАРАДАК. АНТЫБЕЛАРУСКІ

Бясспрэчна – ў прыходзе Лукашэнкі была зацікаўленая Масква. Аднак свае „варыянты" Крэмль навязваў і летувісам, і, пазьней, украінцам – аднак яны іх адрынулі; беларусы ж, як бы там ні было, самі схапіліся за кола гісторыі ў жаданьні яго спыніць.

Дзень абраньня Лукашэнкі прэзыдэнтам можна было б назваць канцом пэрыяду апошняга беларускага Адраджэньня. Аднак яшчэ на працягу дзесяці месяцаў над краінай лунаў Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, „Пагоня" была дзяржаўным гэрбам, а беларуская мова мела статус адзінай дзяржаўнай. Але ўжо ў пачатку верасьня ўдзельнікі Дня вайсковай славы (гадавіны бітвы пад Воршай) былі сустрэтыя кардонам АМАПу.

Кіраўніком новаўтворанай прэзыдэнцкай адміністрацыі стаў Леанід Сініцын, і літаральна зь першых дзён пачалося „інтэграваньне" ў Расею.

Праз тыдзень пасьля інаўгурацыі Лукашэнкі, 28 ліпеня, дэпутаты Апазыцыі БНФ і члены Ценявога Кабінэту адаслалі ў адміністрацыю прэзыдэнта заўвагі (па пунктах) да праекту Дамовы аб дружбе і супрацоўніцтве паміж Беларусьсю і Расеяй. Мы



(Архіў БНФ).

***Пратэст супраць „новага парадку" Лукашэнкі і К°. Снежань 1994 г.***

папярэджвалі, што Дамова (праект распрацоўваўся ў Маскве) складзеная „з мэтай забясьпечыць на міждзяржаўным узроўні палітычныя, прававыя і эканамічныя ўмовы для інкарпарацыі Беларусі ў Расейскую Фэдэрацыю, падрыву нашай дзяржаўнай самастойнасьці, падпарадкаваньня нашай эканомікі Расеі, захопу нацыянальнай уласнасьці і маёмасьці расейскімі суб'ектамі гаспадараньня, юрыдычнымі і фізычнымі асобамі".

Адказу на гэта мы не атрымалі. Каманда „маладых ваўкоў" адразу дала зразумець, якія парадкі будуць усталяваныя ў краіне і якая будзе існаваць мадэль узаемаадносін зь беларускімі нацыянальнымі сіламі, у якіх яны бачылі нават не палітычных апанэнтаў, а праціўнікаў.

Сутнасьць гэтых узаемаадносін – „вас папросту не існуе". Калі пры віцэ-прем'еру Дзямчуку як куратару СМІ, і Бутэвічу як міністру інфармацыі дэпутаты Апазыцыі БНФ з другога, з трэцяга разу, але „выбівалі" паўгадзіны тэлеэфіру – пры віцэ-прем'еру Ганчару і Начальніку ўпраўленьня інфармацыі А. Фядуце мы не атрымалі ніводнай хвіліны; новыя гаспадары нават не абцяжарвалі сябе адказаць хаця б фармальнымі адпіскамі. Між тым, гэта ішло насуперак закону, у дадзеным выпадку – Закону аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета. І гвалт над законнасьцю ў краіне пры новаабраным прэзыдэнце пачаўся менавіта з гэтага.

## АПОШНІ ШАНЕЦ ПАРЛЯМАНТАРЫЗМУ

Пасьля прэзыдэнцкіх выбараў лідэры парлямэнцкіх фракцыяў (БНФ, камуністаў і сацыялістычнай партыі на чале зь віцэ-сьпікерам Кузняцовым) у выніку перамоваў і кансультацыяў пагадзіліся на прыняцьцё новага Закону аб выбарах па прапарцыйна-мажарытарнай сыстэме. 75% парлямэнту (215 мандатаў) абіраліся па акругах, а 25 адсоткаў (65 мандатаў) па партыйных сьпісах (Пазьняк і я згодна фронтаўскага праекту закона аб выбарах накіравалі прапанову аб суадносінах 50/50, але для большасьці дэпутатаў гэта быў за-

надта „рэвалюцыйны” крок. Зрэшты, мы адмыслова прапанавалі такі варыянт, каб суадносіны 75/25 успрымаліся як кампраміс і былі заканадаўча прынятыя). Канешне, гэта задавальняла партыйных лідэраў найбольш уплывовых партыяў, паколькі ўсе яны (лідэры) гарантавана праходзілі ў парлямэнт.

Што такі варыянт мог даць Беларусі?

Найперш – Вярхоўны Савет 13 скліканьня меў бы прынцыпова іншы расклад палітычных сілаў. За кандыдатаў БНФ на выбарах у 1995 годзе прагаласуе каля мільёна выбарцаў. Гэта значыць, што ў выпадку наяўнасьці партыйных сьпісаў дэпутаты Фронту мелі б мінімум 20 адсоткаў „партыйных” мандатаў, гэта значыць – каля 15 чалавек (гэта мінімум). І нават пры тым, што ніводны дэпутат БНФ не абраўся б па акрузе (што пазьней і адбылося), БНФ меў бы прадстаўніцтва ў Вярхоўным Савеце ў якасьці найменш як пятнаццаці дэпутатаў.

Зразумела, што ўзначальваў бы сьпіс БНФ і прайшоў бы ў ВС Пазьняк. Пазьней Лявон Баршчэўскі заўважыў, што менавіта адсутнасьць Пазьняка на сумна вядомых начных перамовах Шарэцкага і членаў Прэзыдыюму ВС з Лукашэнкам пры пасярэдніцтве Чарнамырдзіна і іншых прадстаўнікоў Крамля ў лістападзе 1996 г. дазволіла падпісаць пагадненьне аб спыненьні імпічмэнту. Сам Пазьняк на пытаньне, што ён рабіў бы ў той сытуацыі, адказвае, што фізычна выцягнуў бы Шарэцкага за каўнер. У верагоднасьці менавіта такога варыянту паводзін Пазьняка ў мяне асабіста няма ніякага сумневу. Аднак быць на тых перамовах Пазьняк мог толькі ў адным выпадку – калі б меў статус дэпутата Вярхоўнага Савета (прысутнічалі ж там Карпенка і Калякін). Калі б Пазьняк быў на тэрыторыі Беларусі, але ня быў бы дэпутатам – шанцаў патрапіць на перамовы ў яго не было б ніякіх (як не патрапіў ён ні на воднае паседжаньне ці мерапрыемства ВС 13 скліканьня – бо не было дэпутацкага мандату).

Шэраг палітолягаў і палітыкаў (напрыклад, той жа Пазьняк) лічаць, што шанец на дэмакратычнае разьвіцьцё Беларусі быў страчаны ўвосень 1992 году, калі ВС адмовіўся прызначыць рэфэрэндум аб новых выбарах. Мне ж падаецца, што канчаткова ён быў страчаны якраз увосень 1994-га, калі быў заблякаваны закон аб выбарах па зьмяшанай сыстэме.

Да моманту пачатку восеньскай сэсіі мы ўжо пераканалі большасьць дэпутатаў у мэтазгоднасьці прыняцьця такога закону. Канструктыўную пазыцыю заняў і Старшыня ВС М. Грыб. Перад сэсіяй дэпутатаў Грыб сабраў дэпутатаў, у тым ліку і прадстаўнікоў антынацыянальна настроенай вэтэранскай арганізацыі, каб ужо ўласным аўтарытэтам паўплываць на іх пазыцыю. Былі запрошаныя і лідэры партыяў, якія не былі дэпутатамі. Аргумэнты прыхільнікаў новага варыянту выбарчага закону, як быццам, успрымаліся. Аднак потым на трыбуну ўзьнялася, як яе прадставілі, „палітоляг” Вольга Абрамава (пазьней – лідэр арганізацыі, якая пазыцыянавала сябе часткай расейскай партыі „Яблоко”). Абрамава азнаёміла прысутных з вынікамі нейкага быццам бы сацыялягічнага апытаньня. Зь яго нібыта вынікала, што калі выбары пройдуць па новым варыянце Закону – „бэнээфаўцы возьмуць 80 працэнтаў складу парлямэнту, а то і болей”. Гэтае глупства выклікала шок у дэпутатаў-вэтэранаў.

І ўсё ж, верагоднасьць правесьці закон на сэсіі ўсё яшчэ заставалася. Як пацьвярджаюць дэпутаты Апаазыцыі БНФ, арганізатарам блякаваньня гэтага законапраекту ў Вярхоўным Савеце выступіў прадстаўнік прэзыдэнта ў ВС Анатоль Лябедзька. Тады, увосень 1994-га, Лябедзька не ўваходзіў ні ў якую партыю, але аддана праводзіў у Вярхоўным Савеце палітыку Лукашэнкі.

Прыход да ўлады Лукашэнкі практычна адразу спыніў працэс фрагмэнтарнага адраджэньня беларускасьці, які БНФ удавалася праводзіць праз дзяржаўныя структуры і мэханізмы. Калі пры Кебічу яшчэ можна было – на ўзроўні асабістых кантактаў – дамовіцца пра рэалізацыю нейкіх адукацыйных ці культурніцкіх праектаў, дык з новай камандай, як яны сабе называлі, „прагматыкаў”, гэта ня мела выніку.

Не спрыяў разьвіцьцю беларускасьці і новапрызначаны віцэ-прэм’ер па культурных і сацыяльных пытаньнях Віктар Ганчар, ад якога я ў тыя часы ніколі ня чуў беларускага слова. Зрэшты, Ганчар хаця б не перашкаджаў. З пачатку 1995 году ўся ідэалёгія апынулася ў руках расейскага палкоўніка Ўладзімера Замяталіна, які і не хаваў

свайго варожага стаўленьня як да беларускай мовы, гэтак і да самога права беларускай нацыі на дзяржаўную незалежнасьць.

# РЭФЭРЭНДУМ-95. ГАЛАДОЎКА Ў ПАРЛЯМАНЦЕ СКОНЧЫЛАСЯ ПЕРАМОГАЙ ДЭПУТАТАЎ БНФ, АЛЕ БЫЛА ЛІКВІДАВАНА СІЛАЙ

Вясной 1995 года Лукашэнка выступіў з ініцыятывай правесьці рэфэрэндум, вынікам якога павінны стаць скасаваньне беларускай мовы як адзінай дзяржаўнай, скасаваньне Бел-Чырвона-Белага Сьцяга і гэрбу „Пагоня" як дзяржаўных сымваляў, эканамічная інтэграцыя з Расеяй і права прэзыдэнта на роспуск парлямэнту. Адным з праваднікоў ідэі рэфэрэндуму быў кіраўнік прэзыдэнцкай адміністрацыі Леанід Сініцын.

Прэзыдэнцкая ініцыятыва мела антыканстытуцыйны характар, паколькі супярэчыла артыкулам Закону аб рэфэрэндуме (галоўнае – на рэфэрэндум не павінны выносіцца пытаньні, якія закранаюць нацыянальныя каштоўнасьці).

Яшчэ 23 сакавіка 1995 г. дэпутаты Апазыцыі БНФ падрыхтавалі праект пастановы ВС, у якой прапаноўвалася адхіліць прапанову Лукашэнкі аб рэфэрэндуме на той падставе, што „пытаньні аб статусе рускай мовы і дачыненьнях з Расейскай Фэдэрацыяй супярэчаць частцы 3 артыкула 3 Закону „Аб народным галасаваньні (рэфэрэндуме) у Рэспубліцы Беларусь", а пытаньні аб Дзяржаўным гербе і сьцягу, а таксама магчымасьці роспуску Вярхоўнага Савета ня маюць юрыдычнай дакладнасьці і не даюць магчымасьці атрымаць адназначны адказ".

Гэтыя і іншыя аргумэнты пра антызаконнасьць рэфэрэндуму прыводзіліся намі на сэсіі, але прыхільнікі Лукашэнкі, пракамуністычныя дэпутаты (асабліва так званыя „вэтэраны"), былі безаглядныя ў сваёй антыбеларускасьці.

Да дня галасаваньня 11 красавіка ўсе традыцыйныя, клясычныя парлямэнцкія мэтады (унясеньне альтэрнатыўных варыянтаў, выступы на сэсіі, звароты да камісіяў і да дэпутацкіх групаў, да Старшыні парляманту, апэляцыі да законнасьці і Канстытуцыі, кулюарная праца) былі намі вычарпаныя і не далі эфэкту. Заставаліся – нетрадыцыйныя.

Увечары 10 красавіка, сабраўшыся ў 363 пакоі Апазыцыі, мы абмеркавалі варыянты магчымых дзеяньняў. Не выключалася і галадоўка. Рашаючае слова па агульнай згодзе пакінулі за Пазьняком, якое ён паведаміць кожнаму на раніцы ў залі за хвіліну да пачатку паседжаньня (гэта былі меры перасьцярогі перад подслухам, інакш нашыя пляны маглі сарваць). Вечарам Пазьняк быў на Ўправе БНФ і папярэдзіў Фронтаўцаў пра магчымыя важныя падзеі заўтра ў Вярхоўным Савеце. На выпадак узьнікненьня „надзвычайнай сытуацыі" (калі дзеяньні Старшыні Фронту будуць абмежаванымі) ён абавязаў свайго намесьніка Ю. Хадыку ўзяць тады на сябе арганізацыю дзеяньняў БНФ. На раніцы Хадыку быў перададзены ліст Пазьняка пра сутнасьць акцыі ў Вярхоўным Савеце і адпаведныя распараджэньні. Канчатковае рашэньне пра дзеяньні ў парляманце было прынятае ўначы на кватэры Валянціна Голубева, да якога прыехалі Зянон Пазьняк і Сяргей Антончык. (А 8-й раніцы Пазьняк, як было дамоўлена, удакладніў яшчэ сваё рашэньне з А. Трусавым і, здаецца, з У.Заблоцкім – сваімі намесьнікамі па Апазыцыі.)

Але раніцай наступнага дня на сэсію я ўжо ехаў з поўным разуменьнем, што будзе абраны менавіта такі (галадовачны) варыянт (здаецца, мне нехта патэлефанаваў, ці Пазьняк, ці Голубеў, і паведаміў пра рашэньне).

Я нават за некалькі хвілінаў да сэсіі заехаў у офіс нашага агенцтва "Павет" і даслаў факс у Мюнхэн, дзе на радыё „Свабода" была на стажыроўцы жонка Галіна, якая павінна была назаўтра вяртацца ў Менск. Паведаміў, што сустрэць яе не змагу (сустрэла яе ў аэрапорце Галіна Вашчанка). Я таксама рыхтаваўся 14 красавіка, не спыняючы галадоўкі, выступіць у Канстытуцыйным Судзе.

Раніцай 11 красавіка ў 9.30 сэсія, як заўсёды, пачалася з разьдзелу „Рознае". Анатоль Вяр-

цінскі, Мікалай Крыжаноўскі гаварылі пра ганебнасьць рэфэрэндуму. Юры Беленькі сказаў пра пляны „Газпраму” забраць сабе беларускую транспартную сыстэму (вось калі яшчэ прагучала папярэджаньне з трыбуны ВС!). Сяргей Анончык выступіў пра карупцыю ў бліжэйшым атачэньні Лукашэнкі. Выступіў і я, расказаўшы пра сустрэчу ля Вярхоўнага Савету з выбаршчыкамі.

„Навумчык С.І.: Мне даручана зачытаць наказ выбаршчыкаў, дадзеных дэпутатам Вярхоўнага Савета ад Апазыцыі БНФ падчас справаздачнай сустрэчы ў красавіку ў Менску. „Выслухаўшы інфармацыю аб працы ў Вярхоўным Савеце, аб прапановах па ратыфікацыі пагадненьняў з Расеяй, пра ініцыятывы прэзыдэнцкай улады ў правядзеньні рэфэрэндуму аб мове, аб адмаўленьні ад гістарычнай беларускай і дзяржаўнай сімволікі, аб эканамічнай інтэграцыі з Расеяй і аб наданьні абсалютных уладных паўнамоцтваў прэзыдэнту, мы, выбаршчыкі горада Менска, што сабраліся 9 красавіка 1995 года на спатканьне з дэпутатамі Вярхоўнага Савета ад Апазыцыі БНФ, заяўляем, што прэзыдэнцкая ініцыятыва аб рэфэрэндуме супярэчыць закону і Канстытуцыі. Гэтыя рэфэрэндумы, калі б яны адбыліся, толькі зганьбілі б нашу краіну, раскалолі і пасварылі наш народ, яны не палепшылі б, а пагоршылі б жыцьцё людзей.

Мы, выбаршчыкі з розных раёнаў Менску, даем наказ нашым дэпутатам Вярхоўнага Савета ад Апазыцыі адстойваць канстытуцыйныя нормы і законы нашай дзяржавы ў Вярхоўным Савеце і не пагаджацца з прэзыдэнцкай ініцыятывай ганебных для Беларусі рэфэрэндумаў, не галасаваць за ратыфікацыю невыгодных пагадненьняў з Расеяй. Лукашэнка ня выканаў сваіх абяцаньняў – не спыніў рост цэнаў, не запусьціў заводы, не пачаў рэформы, не зьнішчыў карупцыю. Жыць стала яшчэ горай і цяжэй. Зьневажаецца чалавек, наша краіна, наша мова, нашы нацыянальныя каштоўнасьці. Улада ня мае права зьдзекавацца з народа, які гэту ўладу стварыў.

Мы пратэстуем і не прымаем такую антынародную палітыку. Патрабуем ад прэзыдэнта Лукашэнкі зьняць сваю ініцыятыву аб рэфэрэндуме. Просім нашых дэпутатаў ад Апазыцыі Народнага Фронту адстойваць нашы грамадзянскія, чалачечыя, сацыяльныя правы. Наша краіна наш народ дастойны лепшага жыцьця і лепшай долі”. Прынята аднагалосна”.

У 9.25 да трыбуны выйшаў лідэр БНФ.

Пазьняк З.С.: „Спадары дэпутаты! Мінула амаль пяць гадоў дзейнасьці Вярхоўнага Савета, у якім усё вызначала і вызначае былая камуністычная наменклятурная большасьць. Які ж вынік вашай дзейнасьці за пяць гадоў, спадары дэпутаты? Што вы нарабілі і што натварылі?

Пяць гадоў назад у нас быў аднолькавы жыцьцёвы ўзровень, як і ў краінах Балтыі. Але краіны Балтыі пайшлі па шляху свабоды і эканамічных рэформаў і цяпер ужо пачынаюць карыстацца пладамі сваёй разумнай палітыкі. Беларусь жа, дзякуючы перш за ўсё вашай дзейнасьці, пакацілася ў яму жабрацтва, разбурэньня эканомікі, інфляцыі. Ад рэформаў адмовіліся, краіну абрабавалі, народ абакралі, маёмасьць „прыхватызавалі”. У людзей забралі грашовыя ўклады і аблігацыі, не далі ні зямлі, ні працы, ні нармальнага сацыяльнага зебесьпячэньня. На кожную душу павесілі велізарную дзяржаўную пазыку.

І што ж прапануеце вы цяпер, разам з вашым прэзыдэнтам, якога вы прыдумалі, спадары дэпутаты? Што прапануеце вы цяпер, пад заслону, у канцы вашай бясплённай і разбуральнай дзейнасьці? Абрабаваўшы народ, вы, топчучы Канстытуцыю і закон, прапануеце яму рэфэрэндум аб яго сьвятой беларускай мове, аб яго гістарычным сьцягу і гэрбе ва ўмовах жабрацтва, бяспраўя, інфармацыйнай блякады і поўнага беззаконьня. Абрабаваўшы народ, вы прапануеце яму грамадцкі раскол і грамадзянскае супрацьстаяньне. Абрабаваўшы народ, вы гатовыя прадаць незалежнасьць яго Бацькаўшчыны, кінуць яго пад эксплуатацыю і расправу сваёй і замежнай мафіі. Вось вынік вашай пяцігадовай дзейнасьці.

Мы, дэпутаты Апазыцыі Беларускага Народнага Фронту, пратэстуем супраць зьдзекаў над нашым народам, над нашай Айчынай, над вашай Канстытуцыяй і законамі Рэспублікі Беларусь. Вычарпаўшы ўсе магчымасьці, у знак пратэсту супраць антызаконнасьці і згубнасьці вашых дзеяньняў мы аб’яўляем галадоўку тут, у цэнтры гэтай залі. Пачынаем яе цяпер, з гэтай хвіліны. Мы патрабуем выкананьня Канстытуцыі, законаў



*Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.*

Рэспублікі Беларусь, свабоды слова і ліквідацыі цэнзуры… (Шум у зале)… спыніць рабаваньне народа і Бацькаўшчыны! (Шум у зале), Шаноўная Інэса Міхайлаўна! Вы – міністар аховы здароўя. Прашу Вас прыслаць урача і зафіксаваць пачатак галадоўкі. (Шум у зале). Прадаўжайце, спадары дэпутаты, сэсію".

Мы, некалькі дэпутатаў, выйшлі ў цэнтар залі і разам з Пазьняком селі на подыюм паабапал моўнай трыбуны тварам да залі, гледзячы дэпутатам намэнклятурнай большасьці проста ў вочы.

Мечыслаў Грыб, распачынаючы паседжаньне пасьля перапынку, заявіў, што „ёсьць прапанова параіцца з народам – трэба раіцца з народам". Трэба вызначыць, так мы робім ці ня так. Я хацеў бы, каб вы гэта зразумелі і не рабілі тое, што непатрэбна сёньня рабіць".

Аднак да мікрафонаў падыходзілі дэпутаты, зьнішчальна крытыкуючы ідэю рэфэрэндуму і самога Лукашэнку; некаторыя заяўлялі, што далучаюцца да галадоўкі.

„Трусаў А.А.: Фракцыя беларускай сацыялдэмакратычнай Грамады. Я зьвяртаюся першнаперш да спадара прэзыдэнта, да міжнароднай супольнасьці і да дэпутатаў Вярхоўнага Савета. Выведаеце, што спадар прэзыдэнт груба парушыў Канстытуцыю, груба парушыў усе магчымыя законы, зьняўшы з пасады галоўнага рэдактара спадара Сярэдзіча. Я патрабую ад спадара Прэзыдэнта адмяніць свой незаконны ўказ і ў знак пратэсту далучаюся да сяброў па Апазыцыі і аб'яўляю галадоўку"

Алег Трусаў сеў побач з намі.

„Антончык С.А.: Апазыцыя Беларускага Народнага Фронту. Спадары дэпутаты! Дзе вы бачылі краіну, дзе судзяць ня тых, хто кразе, а тых, хто выступае супраць гэтага крадзяжу? Спадар прэзыдэнт, ці ведаеце Вы, што банкам „Белаграпрамбанк", дзе быў старшынём Чыгір, у 1993–пачатку 1994 года было выдзелена 145 мільярдаў крэдытных рэсурсаў фірме „Пушэ"? Ці ведаеце вы, што фірма „Пушэ" зараз будуе катэдж Чыгіру? Ці мае права прэм'ер-міністар Чыгір займацца зараз кіраўніцтвам у вашай структуры? Чаму да гэтага часу не адхілены ад улады Сініцын, сыну якога плацяць камэрцыйныя фірмы больш за дзесяткі тысяч даляраў кожны год? Чаму не адхілены Ціцянкоў і іншыя людзі? Таму ў знак пратэсту я далучаюся да галадоўкі і патрабую адстаўкі тых людзей, якія зараз ня могуць, ня маюць права па маральных законах кіраваць нашай беларускай незалежнай дзяржавай".

Сяргей спусьціўся да трыбуны і сеў на падлозе.

„Маісееў Г.Ф. ….это делается для того, чтобы окончательно искоренить и белорусское сознание, и белорусский язык, и белорусскую государственность. .. Уважемый Лукашенко! Я боюсь, чтобы Вы не остались в лучшем случае в должности губернатора одной из российских областей. Подумайте, что Вы делаете. Остановитесь, пока не поздно".

Праз некалькі хвілінаў ў Авальную залю прыбег Лукашэнка, заявіў, што „порядок здесь будет наведён".

Пасьля дэпутаты Апазыцыі Барыс Гюнтэр і Галіна Сямдзянава ізноў спрабавалі зьвярнуць увагу на неканстытуцыйнасьць рэфэрэндуму, на парушэньне працэдуры галасаваньня.

Выступіў Ніл Гілевіч: „Для мяне няма сумненьняў, што ўвесь гэты рэфэрэндум задуманы дзеля першага пытаньня – пытаньня аб мовах. Бачыце, учора прэзыдэнт ўжо даў згоду апошняе пытаньне зьняць, калі застануцца тры першыя. Калі мы добра патаргуемся, як учора, прадаючы свой гонар, ён здыме яшчэ два, запэўніваю вас. Але ніколі ня здыме пытаньня аб мове, таму што і ён, як і мы, выдатна разумее: будзе жыць мова беларуская – будзе Беларусь, ня будзе – будзе „Северо-Западный край". Курс, аб'яўлены на ліквідацыю мовы, гэта курс на ліквідацыю Беларусі".

Танальнасьць выступаў Лукашэнкі (ён сядзеў за сваёй прэзыдэнцкай трыбунай) рабілася ўсё больш істэрчынай. Нарэшце, ён даў зразумець, што ўсе ягоныя ініцыятывы накіраваныя супраць Незалежнасьці Беларусі: „мы окончательно сегодня воздадим должное и отдадим народу то, что мы здесь отняли у этого народа, в этом зале, с подачи вот этого деятеля, который там сидит тихонько в конце и улыбается. (тут і далей маюцца на ўвазе Шушкевіч і ратыфікацыя Вярхоўным Саветам Віскулёўскіх пагадненьняў – С.Н.) Ну, неужели вам принести стенограмму, я её прочитал, ещё с того страшного заседания, кторое мы провели здесь? Неужели вам надо напоминать



(Фота С. Грыца).

***Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце.***

то, что мы здесь натворили? Так если нашёлся человек, плохой или хороший, и берёт на себя ответственность, инициирует эти вопросы, почему вы не хотите подержать?... Сегодня для каждого вопрос – это вопрос детей. По той же русской мове. Я приезжаю на свою родину, и мне говорят в Шклове: сегодня первый, второй, третий классы насильственно переводят на соответствующий язык. Зачем, говорю. Зачем?" (Лукашэнка нават не палічыў патрэбным ўзгадаць беларускую мову, пагардліва назваўшы яе „соответстующим языком". Ратыфікацыю пагадненьня аб спыненьні існаваньня СССР Лукашэнка палічыў „страшным", не кажучы ужо пра хамскі зварот да Шушкевіча.)

І ўсё ж, нягледзячы на лакейскія паводзіны старшыні камісіі па дзяржаўным будаўніцтве Уладзімера Леўчыка (які прадстаўляў тэму з трыбуны) пытаньні рэфэрэндуму пачалі правальвацца, не набіралі патрэбнай колькасьці (і шмат, недзе каля трыццаці галасоў). Гэта была нашая маральная і палітычная перамога. Лукашэнка ў істэрыцы пад тупат сваёй аховы, што бегла вакол яго табуном, выскачыў з залі, сыплючы пагрозамі.

Дэпутаты ў залі вымушаныя былі глядзець нам у вочы і, напэўна, ўбачыўшы, што мы гатовыя ісьці да канца, зразумелі, што для нас, іхных калег, гэта сапраўды жыцьцёва важна, – і ў некаторых прачнулася сумленьне. У перапынках сэсіі да нас падыходзілі шмат якія дэпутаты і выказвалі падтрымку.

З дадзенага Леанідам Сініцыным праз дзесяць гадоў інтэрвію зразумела, што ў той момант у камандзе Лукашэнкі пачалася паніка. „Банда" пачала шукаць спосабы гвалтоўных дзеяньняў; але варыянт адмовіцца ад злачыннага рэфэрэндуму імі нават не разглядаўся.

Прадстаўнікамі Лукашэнкі ў Вярхоўным Савеце заставаліся Дзьмітры Булахаў і Анатоль Лябедзька (ва ўсялякім разе, ні адзін, ні другі не выступілі і не зьнялі з сябе гэтых паўнамоцтваў, дадзеных ім Лукашэнкам публічна на сэсіі ў верасьні 1994 года („Булахов и Лебедько … становятся официальными представителями в Верховном Совете"). Булахаў, як старшыня камісіі па заканадаўству, у тыя дні выступіў зь крытыкай рэфэрэндумнай ініцыятывы Лукашэнкі, праў-

да, вельмі мяккай. А вось Лябедзька захоўваў непахісны спакой. Пазьней у адным інтэрв'ю Лябедзька заявіць, што ставіўся да галадоўкі „пазытыўна-спачувальна", але вось ніхто з дэпутатаў Апазыцыі БНФ зь ім перад яе пачаткам ня раіўся, і таму ён не далучыўся. Сярод тых, хто выказваў нам тады спачуваньне, Лябедзькі не было. Што ж да „параіцца", дык гэта папросту выключалася. Лябедзька ўспрымаўся намі як правая рука Лукашэнкі ў парлямэнце. Сініцын, Шэйман, Ціцянкоў у Авальнай залі звычайна не прысутнічалі, яны былі ня ў полі зроку, а Лябедзька быў. У маёй памяці зафіксаваліся шматлікія сцэны, як ён стаіць перад Лукашэнкам, каля прэзыдэнцкай трыбуны, плячыма да залі – перад нейкімі важнымі галасаваньнямі Лукашэнка лічыў неабходным давесьці сваё меркаваньне да прапрэзыдэнцкай групы, якую ўзначальваў Лябедзька. І раіцца перад пачаткам галадоўкі зь Лябедзькам для нас было – як раіцца з самім Лукашэнкам.

На вечар 11 красавіка нас было 19 чалавек: Мікалай Аксаміт, Сяргей Антончык, Лявон Баршчэўскі, Юрась Беленькі, Ігар Гермянчук, Валянцін Голубеў. Уладзімер Заблоцкі, Барыс Гюнтэр, Лявон Дзейка, Лявонцій Зданевіч, Мікалай Крыжаноўскі, Мікола Маркевіч, Віталь Малашка, Сяргей Навумчык, Зянон Пазьняк, Сяргей Папкоў, Пётра Садоўскі, Аляксандар Шут.

Да галадоўкі хацеў далучыцца Ігар Пырх, але ў яго былі вялікія праблемы са здароўем, чакалася апэрацыя, і мы параілі яму ўстрымацца (праз некалькі гадоў Ігар пайшоў з жыцьця). Зразумела, што нехта павінен быў застацца для сувязі. Пазьняк папрасіў застацца Галіну Сямдзянаву. Начныя падзеі паказалі слушнасьць такой пазыцыі. Менавіта Сямдзянава даведалася і папярэдзіла нас, што ноччу лукашысты рыхтуюць нейкую правакацыю.

Нашыя патрабаваньні былі наступныя (цытую паводле копіі тэксту, перададзенага Пазьняком сьпікеру Мечыславу Грыбу):

„1. Не прымаць супярэчную Закону і Канстытуцыі ініцыятыву Прэзыдэнта аб рэфэрэндуме. Выканаць у гэтым пытаньні Канстытуцыю і закон.

2. Адмяніць незаконны ўказ нумар 113 Прэзыдэнта Лукашэнкі аб увядзеньні цэнзуры ў Беларусі і звальненьні з пасады рэдактара „Народнай газэты" (Сярэдзіча – С.Н.). Адмяніць манаполію на сродкі масавай інфармацыі ў руках прэзыдэнцкай улады, паколькі гэта супярэчыць закону, Канстытуцыі і парушае правы чалавека.

3. Прыцягнуць да адказнасьці людзей з адміністрацыі Прэзыдэнта Лукашэнкі, замяшаных у карупцыі. Спыніць судовы перасьлед дэпутата Сяргея Антончыка (ён перасьледаваўся за даклад аб карупцыі ў найбліжэйшым атачэньні Лукашэнкі – С.Н.)".

Яшчэ днём мы атрымалі ад Сямдзянавай інфармацыю, што супраць нас можа быць ужытая сіла. У 16 гадзін мы зьвярнуліся да Грыба з просьбай забясьпечыць нашу ахову. Грыб зьвязаўся з кіраўніцтвам КГБ. Тыя паабяцалі прыслаць на ноч сваю ахову. Натуральна што нікога не прыслалі. Але ноччу зьявіліся іншыя „госьці".

Пасьля заканчэньня паседжаньня, у 18 гадзінаў, прэзыдэнцкая ахова запатрабавала ад журналістаў пакінуць вальную залю Застацца ўдалося толькі карэспандэнтцы радыё „Свабода" Алене Радкевіч.

У 20 гадзінаў 11 хвілінаў начальнік галоўнага упраўленьня дзяржаўнай аховы Міхаіл Цесавец і кіраўнік службы аховы прэзыдэнта Вячаслаў Каралёў прыйшлі да нас і паведамілі, што паступіла ананімнае тэлефанаваньне аб бомбе ў Доме ўраду. Нам прапанавалі пакінуць залю і дадалі, што гэта – загад Лукашэнкі. Мы адмовіліся, заявіўшы, што ня будзем перашкаджаць працы сапёраў. (Пазьней Леанід Сініцын сказаў, што яшчэ ў абед пра „бомбу" яму „паведаміў" намесьнік міністра ўнутраных спраў. Калі б бомба была, дык навошта чакалі, чаму не эвакуявалі больш як 200 дэпутатаў, а працягвалі вечаровае паседжаньне з 16 да 18 гадзін? Зрэшты, на наступны дзень генпракурор Шаладонаў заявіў, што званок аб „бомбе" паступіў па унутранай урадавай сувязі. Асабіста я перакананы, што тут не абышлося без майстра правакацыяў Уладзімера Замяталіна. А магчыма, і самога Сініцына).

Каралёў паводзіў сябе нахабна, заяўляючы, што „после 14 мая мы с вами разберёмся" (гэта значыць пасьля выбараў і іхнага „рэфэрэндуму"). На бальконе зьявіліся два чалавекі з відэакамэрамі.

Сапёры пачалі правяраць Авальную залю.

А 23 гадзіне ў залю прыйшлі некалькі дзесяткаў чалавек у міліцэйскай форме і ў цывільным на чале з Міхаілам Цесаўцом і кіраўніком прэзыдэнцкай аховы Вячаславам Каралёвым. Мы селі ў правым сэктары прэзыдыюму (я быў у паліто, Уладзімер Заблоцкі ў куртцы, Ігар Гермянчук накінуў на плечы коўдру). Каралёў з Цесаўцом учапіліся за Барыса Гюнтэра. Побач стаялі людзі ў скураных куртках, але ніякіх дзеяньняў не прадпрымалі. Мы таксама учапіліся за Гюнтэра і не далі яго выцягнуць. У гэты момант Лявон Дзейка зрабіў некалькі фотаздымкаў…

Алену Радкевіч ахова выдаліла, забраўшы ў яе аўдыякасэту. Крыху пазьней мы даведаліся, што Радкевіч дапытваюць ў памяшканьні аховы. Я спусьціўся на першы паверх. Ля дзьвярэй, з боку вуліцы стаялі журналісты. Міліцыянты прапанавалі мне выйсьці, але без гарантыяў вяртаньня, і інтэрвію я даваў праз дзьверы. Журналісты паведамілі, што ў Дом ураду праехаў прэзыдэнцкі картэж, а ў кабінэце Лукашэнкі запалілася сьвятло. Праз некалькі хвілінаў, з вэстыбюля, я пабачыў, што ля прэзыдэнцкага пад’езду стаіць лукашэнкаўскі „мэрсэдэс”, а з побач – аўтамабіль суправаджэньня.

Сваю прысутнасьць у Доме ураду Лукашэнка будзе настойліва адмаўляць. Але пазьней Ленанід Сініцын прызнаўся, што яны разам з Лукашэнкам сапраўды прыехалі ў Дом ураду, выклікалі да сябе камандуючага ўнутранымі войскамі генэрала Валянціна Агальца і загадалі яму за трыццаць хвілінаў падрыхтаваць плян, як выказаўся Лукашэнка, „вызваленьня будынку”. Па словах намесьніка старшыні КГБ Валерыя Кеза, яму „быў аддадзены загад выехать на месца разам з падразьдзяленьнем „Альфа” і з падразьдзяленьнем ўнутраных войск пад кіраўніцтвам Агальца прыняць удзел у выдаленьні дэпутатаў” (Аляксандар Фядута, „Лукашенко. Политическая биография”, стар. 235)

Дарэчы, мы з Валянцінам Голубевым, калі выйшлі папаліць у калідор за Авальнай заляй (я не паліў, але вось захацелася), убачылі, як па сходніках спускаліся супрацоўніцы аддзелу стэнаграмаў – пасьля таго, як закончылі працу; жанчын ніхто і не зьбіраўся „эвакуяваць”.

У 0 гадзін 41 хвіліну сапёры завяршылі праверку Авальнай залі, ніякай «бомбы” не знайшлі, пра што Алег Трусаў і Барыс Гюнтэр падпісалі пратакол разам з палкоўнікам, які кіраваў сапёрамі.

Недзе пасьля гадзіны ночы мы пакlаліся спаць, на падлозе. Я спачатку лёг каля прэзыдэнцкай трыбуны, але там падалося няўтульна, перабраўся ўніз.

У 2 гадзіны 35 хвілінаў Валянцін Голубеў пачуў нейкія падазроныя гукі, пайшоў па цэнтральным праходзе да дзьвярэй і ўбачыў, што ўсё фае было запоўненае ўзброенымі вайскоўцамі; адзін зь іх накіраваў на яго ручны кулямёт.

Валянцін закрычаў – „Хлопцы, аўтаматычыкі! Уставайце!”, у залі імгненна запалілася сьвятло. На бальконе зьявілася два чалавекі з відэакамэрамі, мы ізноў селі ў правы сэктар прэзыдыюму.

У 2.45 па цэнтральным праходзе ў наш бок спусьціліся тры чалавекі – Цесавец, Каралёў і нехта трэці, у камуфляжнай форме (гэта быў камандзір „Альфы” Юры Бародзіч, пазьней – начальнік прэзыдэнцкай аховы). Яны сказалі, што нам даецца пяць хвілінаў, каб вызваліць памяшканьне.

Мы адказалі, што мы – дэпутаты парлямэнту, і не пакінем Авальную залю. Каралёў крыкнуў, што ў нас засталося тры хвіліны Тройца моўчкі ўзьнялася па цэнтральным праходзе, і як толькі за імі зачыніліся дзьверы – з усіх бакавых дзьвярэй ўбеглі аўтаматчыкі – хто ў камуфляжнай форме, хто ў касках. Яны імгненна чачапілі залю па пэрымэтру, наставіўшы на нас дулы аўтаматаў.

І тут жа аднекуль зьверху наляцелі людзі ў чорнай вопратцы і ў чорных масках, іх было чалавек дваццаць-трыццаць, можа, крыху болей. Слова „наляцелі”, бадай, тут самае дакладнае – яны, што здавалася неверагодным, перакульваліся ў паветры, выкрыквалі „к’я!”, і у тры – чатыры сэкунды ўжо былі каля нас (гэта і была група „Альфа”) .

Я сядзеў за Пазьняком; верагодна, ён быў вызначаны асноўнай мішэньню. Адзін з „альфаўцаў” скокнуў на яго, адной нагой спружыніўшы аб бардзюр, другой стараўся ўдарыць Пазьняка ў грудзі. Наскочылі яшчэ двое і пачалі хапаць яго рукамі. Пазьняк сарваў ў аднаго маску з галавы (пад маскай быў тыпчык не беларускай зьнешнасьці з чорнымі валасамі). Тады яны накінуліся на яго скопам, пачалі мясіць, закручваць рукі і выціскаць вочы.

Ігару Гермянчуку ўдалося сарваць маску з дваіх бандытаў. Я сядзеў у цэнтры, таму ў гэты

момант да мяне ніхто не дастаў; пачалі выцягваць Юрася Беленькага, я ўстаў і паспрабаваў нешта казаць пра дэпутацкую недатыкальнасьць – як мне імгненна заламалі рукі, галава апынулася ля падлогі і некалькі спэцназаўцаў (трое ці чацьвёра) праз левы бакавы праход пацягнулі да цэнтральных дзьвярэй. Дзьверы былі зачыненыя, і маёй галавой з разгону, як таранам, іх адчынілі; было даволі балюча. Далей ужо валаклі па мармуровай лесьвіцы; перада мной цягнулі Юрася Беленькага, і я бачыў, як вайсковец некалькі разоў ўдарыў яго нагой у жывот. Білі і астатніх.

Як вядома, афіцэраў „альфы" вытрэніроўваюць такім чынам, што кожны зь іх здольны супрацьстаяць некалькім спэцназаўцам: нас жа яны маглі забіць яшчэ ў Авальнай залі ў лічаныя сэкунды. Але каманда была не забіваць, а моцна, зьневажальна біць. Такая ж каманда была і ў тых спэцназаўцаў, хто нас выцягваў з крэслаў, хто круціў рукі, цягнуў па залі, вэстыбюлі і потым закідваў у „варанкі". Тэарэтычна, пры такой колькасьці задзейнічаных у апэрацыі (а было нагнана ў Дом ураду больш за 600 (!) чалавек (батальён), гэта па 30 на кожнага дэпутата), нас маглі проста скруціць і акуратна вынесьці з залі. Так робяць паліцыянты з удзельнікамі акцыяў пратэсту ў заходніх краінах. Але – білі, білі моцна, білі нават тады, калі мы ўжо не маглі аказаць ніякага супраціву (які супраціў, калі цябе цягнуць пяцёра?) – так, як білі Юрася Беленькага нагой у жывот. Думаю, што і адчыненьне дзьвярэй маёй галавой было таксама прадыктавана жаданьнем зьняважыць.

У двары Дома ўраду нас закінулі ў міліцэйскія УАЗікі, прычым кідалі з размаху, як бярвеньне. Нумар „майго" УАЗу быў 09-03 МІМ. Высадзілі нас у раёне Кастрычніцкай плошчы. Мы сабраліся ў адным з нумароў гатэлю „Кастрычніцкая", вырашылі пайсьці ў лечкамісію, каб зрабіць судова-мэдычную экспэртызу. Дзяжурныя лекары зафіксавалі ў нас пабоі; прыехалі журналісты, першым – Аляксандар Старыкевіч.

Тым часам другая група нашых дэпутатаў напачатку сабралася каля Генэральнай пракуратуры. Пазванілі Генэральнаму пракурору Шаладонаву. Шаладонаў прыняў рашэньне і тут жа была ўзбуджана крымінальная справа па факту зьбіцьця дэпутатаў і ўвядзеньня войскаў у будынак парляманту.

Пазьней зьявіліся вэрсіі, што зьбівала нас дасланае самалётам з Расеі адмысловае падразьдзяленьне. Сапраўды, ў нас склалася ўражаньне, што некаторыя з гэтых людзей не разумеюць беларускай мовы, проста ніколі ня чулі беларускіх слоў і ня ведаюць іх сэнс. Генэрал Кез пазьней прызнаў, што гэта было падразьдзяленьне КГБ „Альфа", але не сказаў якое – менскае ці расейскае.

Выказвалася таксама меркаваньне, што адным з людзей ў масцы быў Аляксандар Лукашэнка. Супраць гэтай вэрсіі, аднак, патрабаваньні бясьпекі прэзыдэнта. Справа ў тым, што ў момант апэрацыі ў зале было дзесяткі адзінак зброі (а ў фае – сотні адзінак), і ніхто ня мог гарантаваць, што Лукашэнка не атрымае (выпадкова) кулю ў лоб. Звычайна служба бясьпекі катэгарычна супраць прысутнасьці „аб'екта аховы" ў месцы падвышанай рызыкі. Зрэшты, Лукашэнка мог назіраць за дзеяньнямі сваіх бандытаў з балькону.

На раніцы ў 8.30 мы былі ўжо ў старшыні ВС Мечыслава Грыба, распавялі яму і намесьніку старышыні ВС Івану Бамбізе пра начныя падзеі ў парляманце. У 10.00 пачалося пасяджэньне Прэзыдыюму ВС, дзе паведамілі пра падзеі. Першая рэакцыя Грыба была адэкватная: ён падтрымаў прапанову працягавць праводзіць сэсію не ў Доме ўраду, а ў будынку Вярхоўнага Савета па Карла Маркса, нягледзячы на непадрыхтаванасьць залі да галасаваньня (хаця імпічмант Лукашэнку можна было б правесьці і праз бюлетэні). Генэральны пракурор Васіль Шаладонаў заявіў, што ўзбудзіў крымінальную справу. Грыб сказаў фразу, якую адразу распаўсюдзілі журналісты: „Беларусь, як ніколі, блізкая да грамазянскай вайны". Член Прэзыдыюму ВС Барыс Савіцкі заявіў, што „парлямант павінен альбо адправіць у адстаўку прэзыдэнта, альбо сысьці сам". Члены Прэзыдыюму выказаліся за тое, каб на бліжэйшым пасяджэньні ВС прыняць палітычную заяву (супраць гэтага выступіў Іван Бамбіза, пазьней прызначаны Лукашэнкам віцэ-прэмьерам).

Ля Дому ўраду сабраіся некалькі сотняў чалавек у нашу падтрымку; міліцыя іх разагнала, зьбіваючы старых, жанчын і дзяцей (Хадыка не



(Фота Л. Дзейкі)

*Ноч у Вярхоўным Савеце 12 красавіка 1995 г. „Шукаюць бомбу”*

датрымаў ўказаньняў Пазьняка, не мабілізаваў і не падняў Фронт). Па загаду кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Леаніда Сініцына, нас не прапускалі ў Дом ураду; затрымлівалі нават Генэральнага пракурора Васіля Шаладонава і сьпікера парляманта Грыба.

Толькі пасьля паўгадзінных перамоў Грыба з Лукашэнкам нас пусьцілі ў Авальную залю (гэта пасьля таго як мы сілай прарваліся ў Дом Ураду)..

Са спазьненьнем Мечыслаў Грыб усё ж пачаў сэсію. Ад імя Апазыцыі з інфармацыяй пра начныя падзеі выступіў Ігар Гермянчук. Калі Аляксандар Шут на недаверлівыя рэплікі дэпутатаў зьняў кашулю і прадэманстраваў крывападцёкі, Дземянцей крыкнуў „Мало вам дали!”. За мной сядзела міністар аховы здароўя Інеса Драбышэўская, і я пачуў яе рэпліку „Зверьё!”. Была яна ня ў бок тых, хто зьбіваў, а ў наш бок (так былая дэпутатка і член „дэмклюбу”, што атрымала пасаду ад Лукашэнкі, ахарактарызавала колішніх сваіх калег). На сэсіі выступіў міністар абароны Кастэнка, які спрабаваў давесьці, што у будынку была бомба, і што да нас сілавыя мэтады не прымяняліся. Але перад вачыма дэпутатаў былі паламаныя крэслы прэзыдыюму. Выступіў Валянцін Голубеў. Я сказаў, што ўначы бачыў „мэрсэдэс” Лукашэнкі, і ён быў у будынку і кіраваў апэрацыяй. Калі ў залі зьявіўся Лукашэнка, да мікрафону падышоў Пазьняк і сказаў, што „парлямант, у які ўведзеныя войскі – ужо не парлямант”. Мы, не жадаючы знаходзіцца з Лукашэнкам у адным памяшканьні, пакінулі Авальную залю і сышлі ў прэсавы цэнтар, назіраючы за сэсіяй па тэлеманіторах.

„Лукашэнка А.Р.: „Знал или не знал президент о том, что происходит здесь в моей резиденции, в резиденции правительства? Уважаемые депутаты! Ну конечно же, знал. Президент не просто знал. Президент каждые 30 минут был информирован (как глава государства) министром обороны о том, что происходит здесь…… Правда, вы не волнуйтесь, никто тут не голодал. Всё тут было: и поспать, и закусить…

Паспрабаваў Лукашэнка абвергнуць і тое, што сам знаходзіўся ў Доме ураду.



(Фота Л. Дзейкі)

***Ноч у Вярхоўным Савеце 12 красавіка 1995 г. М. Цесавец і В. Каралёў хапаюць і спрабуюць цягнуць дэпутата Барыса Гюнтара.***

„Лукашэнка А.Р.: „Я ни на каких „мерседесах” сюда не ехал. Наумчик (я слышал) говорит, что там флажок был в чехле…. Флажок мой, на моём автомобиле, снимается, не зачехляется. И как Наумчик, если он здесь сидел, он не мог в час ночи выйти. Насколько я знаю, выйти он не мог, потому что я распорядился: смотрите депутатов, чтобы что-нибудь не случилось. Пусть находятся в пределах этого зала… Они просто физически не могли куда-то пойти, выйти, и так далее.. И, если уже откровенно говорить, – дай Бог чтобы они вышли. Нам не надо было тут сними воевать, как-то их выводить. О они никуда не выходили. По моей информации, которую я получил, они вцепились тут друг за друга и сидели, а потом уснули. Поэтому это враньё, что они видели тут, как на „мерседесе” приехал Лукашенко,…Я абсолютно не препятствовал никаким действиям МВД, спецподразделениям, которые эвакуировали отсюда людей… Единственное, я просил: учтите, вас провоцируют. Ни в коем случае, даже не царапните этого человека (Пазьняка – С.Н.), поскольку будет гвалту на весь мир…Да никто никого не бил, никто никого не ломал. Сейчас с бытовой кассеты, которая здесь была отснята, мы перегоняем на „бэтэкам” или какая там кассета. и мы покажем не только депутатам. Как только эта перегонка будет закончена, мы покажем это не только депутатам, мы это покажем народу... Мне Тесовец со слезами на глазах позвонил около 12 часов ночи и сказал, Александр Григорьевич, не получается по-хорошему, повынимали ножи, достали лезвия... Первое, говорят, вскрываем вены, отрезаем себе головы и вас повырезаем, кровью зальём здесь всё… Поэтому мы покажем народу эту плёнку...”

Як і ўсё ў ягоным палітычным жыцьці, гэты выступ Лукашэнкі замешаны на прымітыўнай хлусьні, ў кожнай фразе. Стужку ніколі не паказалі – ні дэпутатам, ні народу. Не паказалі кадры зьбіцьця і сьледчаму ў асабліва важных справах Язэпу Бролішсу. Калі я быў у пракуратуры, Бролішс паказаў мне фрагмэнт відэазапісу, як мы сядзім у крэслах прэзыдыюму – але далей запіс абрываецца. Ас-



(Фота Л. Дзейкі).

*Ноч у Вярхоўным Савеце 12 красавіка 1995 г. На другім пляне чатыры функцыянеры спэцслужбаў, якія прышлі ў залю перад штурмам (у разьведку) і спрабавалі хапаць дэпутатаў Апазыцыі БНФ. На пярэднім пляне Лявон Зданевіч і Лявон Баршчэўскі.*

татняе Леанід Сініцын адмовіўся яму перадаваць. 12 кастрычніка 1995 года Бролішс быў вымушаны прыпыніць справу, пры гэтым адназначна заявіўшы, што факт зьбіцьця быў, хаця гэта абвяргалі Лукашэнка і ягонае атачэньне.

Пазьней Сініцын прызнаецца свайму паплечніку па камандзе Фядуце, што бачыў касэту, і што паказваў яе Чыгіру, і тое, што яны там пабачылі, было „жудасна". Сініцын сказаў, што перадаў касэту Замяталіну (ідэолягу рэфэрэндуму 1995 года, у той час – кіраўніку управы інфармацыі прэзыдэнцкай адміністрацыі).

У той жа дзень, 12 красавіка, Мечыслаў Грыб сустрэўся з Лукашэнкам і пасьля гэтага зьмяніў сваю пазыцыю. „Я не схіляюся ні да аднаго з бакоў" – заявіў ён журналістам. Гэтая „нэўтральная" пазыцыя на практыцы азначала маўклівую згоду з крымінальнымі дзеяньнямі Лукашэнкі. Ізноў ісьці нам ў залю і працягваць галадоўку пасьля гэтага ўжо не было сэнсу. Тут адбылася перамога, разбой грубай крымінальнай улады, здрады і маладушнасьці Прэзыдыюма Вярхоўнага Савета, які яшчэ на раніцы 12 красавіка быў поўны рашучасьці аднавіць канстытуцыйны парадак у краіне.

Увечары мы перайшлі ў будынак Вярхоўнага Савету па Карла Маркса, які быў літаральна нашпігаваны міліцыянтамі і супрацоўнікамі КГБ. Ахова не прапусьціла журналістаў і лекара, якія былі разам з намі. Некаторыя дэпутаты яшчэ прапаноўвалі працягваць ўжо бяссэнсоўную галадоўку; аб далучэньні да галадоўкі заявіў дэпутат Віктар Алампіеў. Абмеркаваўшы сытуацыю, у 20 гадзін 15 хвілін мы прынялі заяву аб пытаньні палітычнай галадоўкі, у якой канстатавалі, што „гвалтоўным незаконным спосабам нас пазбавілі магчымасьці праводзіць грамадзянскую акцыю, чым груба парушылі нашыя грамадзянскія, чалавечыя правы, дэпутацкую недатыкальнасьць, Канстытуцыю і Закон аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь".

Непасрэдную – крымінальную – адказнасьць за злачынствы ў Авальнай залі ў ноч з 11 на 12 красавіка 1995 года павінны несьці, акрамя непасрэдных выканаўцаў, камандзір „Альфы"

Юры Бародзіч, начальнік службы аховы Міхаіл Цесавец, кіраўнік службы аховы прэзыдэнта Вячаслаў Каралёў, камандуючы ўнутранымі войскамі Валянцін Агалец, намесьнік старшыні КГБ Валер Кез, міністар абароны Анатоль Кастэнка, кіраўнік справамі прэзыдэнта Іван Ціцянкоў, кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта Леанід Сініцын і, канешне, прэзыдэнт Аляксандар Лукашэнка (называю пасады на момант здзяйсьненьня злачынства).

Пакуль над гэтымі асобамі не адбудзецца суд (ён і вызначыць ступень адказнасьці кожнага) – Беларусь ніколі ня стане дэмакратычнай краінай.

Варта сказаць і пра палітычную ды маральную адказнасьць іншых – за маўчаньне, якоя, у той сытуацыі і ў той час успрымалася намі як згода з дзеяньнямі Лукашэнкі. Тут нагадаю, што на той час Старшынём Вярхоўнага Савета быў Мечыслаў Грыб, кіраўніком ураду – Міхаіл Чыгір, прадстаўнікамі прэзыдэнта ў Вярхоўным Савеце Дзьмітры Булахаў і Анатоль Лябедзька, старшынём КГБ Уладзімер Ягораў, міністрам унутраных спраў Юры Захаранка. Назаву імёны і тых, хто блякаваў праўдзівую і падаваў скажоную інфармацыю ў СМІ – кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель, рэдактар „Народнай газэта" Мікалай Галко, першы намесьнік рэдактара газэты „Советская Белоруссия" Павал Якубовіч.

„Краінай закіруе прэзыдэнцкая хунта", – прадбачліва пракамэнтаваў зьбіцьцё дэпутатаў Апазыцыі БНФ Васіль Быкаў.

13 красавіка, праз дзень пасьля ўвядзеньня войска у парлямант і зьбіцьця дэпутатаў БНФ, 177 парлямэнтарыяў выказаліся за правядзеньне рэфэрэндуму. Зроблена гэта было фармальна па прапанове дэпутата ад вэтэранскай арганізацыі Міхаіла Качана, пры падтрымцы ад мікрафонаў дэпутатаў Мікалая Дземянцея (былы Старшыня ВС), Аляксея Камая (былы другі сакратар ЦК КПБ); асаблівую ролю адыграў сьпікер Мечыслаў Грыб, які спачатку, адразу пасьля зьбіцьця дэпутатаў заявіў, што „Беларусь як ніколі блізкая да грамадзянскай вайны", але потым павёў сэсію па сцэнары, выгодным Лукашэнку. Тут жа была ратыфікаваная дамова аб супрацоўніцтве з Расеяй.

Прагаласаваўшы за рэфэрэндум, дэпутаты вярнулі дню 7 лістапада (бальшавіцкі пераварот у Расеі ў 1917 г.) статус дзяржаўнага сьвята, а затым Лукашэнка запрасіў іх на банкет: „Я приглашу сейчас весь этот зал за счёт государства. Слышите? Я имею право. И выпьем и по сто, и по двести граммов... (шум у зале. Аплядысмэнты) ".

Апошнія словы сьпікера Грыба на гэтай фатальнай для лёсу Беларусі сэсіі былі – „Усіх нас чакаюць у буфэце ўнізе. Калі ласка! Дзякуй за працу".

13-14 красавіка мне давялося прадстаўляць у Канстытуцыйным Судзе пазыцыю 84 дэпутатаў ў справе манапалізацыі прэзыдэнтам сродкаў масавай інфармацыі. Я ні слова не сказаў пра начныя падзеі ў Авальнай залі – лічыў, што працэс павінен палягаць у выключна прававым, юрыдычным полі, што павінна быць спаборніцтва фармулёвак, а не палітычных ацэнак. Праўда, пра зьбіцьцё дэпутатаў сказаў Алег Трусаў. Дарэчы, працэс мы выйгралі, і адзін з Указаў прэзыдэнта ўпершыню быў прызнаны неканастытуцыйным. Лукашэнка, аднак, насуперак рашэньню Канстытуцыйнага суда яго не скасаваў, і гэта магло б ужо тады быць пачаткам працэдуры імпічмэнту – калі б на тое была палітычная воля Вярхоўнага Савету.

Рэфэрэндум адбываўся са шматлікімі парушэньнямі закона. Ад адміністрацыі рэфэрэндум „курыраваў" Міхаіл Сазонаў, намесьнік Сініцына, яшчэ за год да гэтага – маёр міліцыі. Юрысты адзначылі, што ў бюлетэнях (у кожным бюлетэні!) па закону павінна была быць зьмешчаная дакладная выява вынесеных Лукашэнкам на рэфэрэндум гербу і сьцягу. Гэтага зроблена не было – грамадзянам прапанавалася выказаць адносіны да „новай" сімволікі (і многія, вельмі многія галасавалі за „новую", мяркуючы, што галасуюць за прынятую ў 1991 годзе). Прэзыдэнцкая адміністрацыя сьвядома заблытвала людзей, а мы былі пазбаўленыя магчымасьці патлумачыць сытуацыю праз прэсу.

Грамадзяне не валодалі поўнай інфармацыяй і не маглі прыняць узважанае рашэньне па ўсіх чатырох пытаньнях, бо апанэнты прэзыдэнта не атрымалі магчымасьці агітацыі праз СМІ. Дарэчы, гэта прамое парушэньне Закона.

Так, 9 мая тры дэпутаты (З. Пазьняк, Л. Баршчэўскі, С. Навумчык) зьвярнуліся да старшыні

Дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Р. Кісяля і Цэнтравыбаркаму з просьбай прадставіць групе дэпутатаў Апазыцыі БНФ 45 хвілінаў тэлеэфіру 13 мая – за дзень да галасаваньня. Такое права гарантавалася трыма законамі – Законам аб выбарах, Законам аб усенародным галасаваньні (рэфэрэндуме) і Законам аб статусе дэпутата Вярхоўнага Савета. Ні эфіру, ні нават фармальнага адказу не было.

Акрамя парушэньня заканадаўства падчас агітацыі, былі зафіксаваныя і шматлікія фальсыфікацыі на выбарчых участках (рэфэрэндум праходзіў у адзін дзень зь першым турам выбараў у Вярхоўны Савет).

Усё гэта ў сукупнасьці, а менавіта: неканстытуцыйнасьць вынесеных на рэфэрэндум пытаньняў, парушэньне закону падчас прызначэньня рэфэрэндуму і яго правядзеньня, фальсыфікацыі, – дае падставы лічыць, што вынікі рэфэрэндуму нелегітымныя. І Бел-Чырвона-Белы Сьцяг, і „Пагоня” дэ-юрэ застаюцца дзяржаўнымі сымбалямі Беларусі.

Новаму дэмакратычнаму беларускаму парлямэнту спатрэбіцца некалькі хвілінаў, каб пацьвердзіць дзяржаўны статус гістарычных сымбаляў і прыярытэт беларускай мовы.

Але гэта – у будучым. У нядаўнім жа мінулым адразу пасьля „рэфэрэндуму” кіраўнік справамі Адміністрацыі прэзыдэнта Іван Ціцянкоў разам са сваімі хаўрусьнікамі ўзьлез на будынак адміністрацыі і перад відэакамэрай разарваў бел-чырвона-белы сьцяг.

Сродкі масавай інфармацыі – і расейскія, і ўсясьветныя – паведамілі, што ў Беларусі вернутая пракамуністычная сымболіка, што беларусы нібыта ледзь не адмовіліся ад сваёй гісторыі. Палітыкі ЗША і Эўропы збольшага праігнаравалі заявы Апазыцыі БНФ аб нелегітымнасьці рэфэрэндуму – яны былі занятыя праблемамі Югаславіі; паплечнікі ж Лукашэнкі (якія потым перайшлі ў апазыцыю) старанна стваралі свайму патрону імідж цывілізаванага палітыка.

Паказальна, што і цяпер абставіны правядзеньня рэфэрэндуму 1995 году замоўчваюцца, у чым я пераканаўся, наведаўшы ў кастрычніку 2005 году ў Брусэлі Эўрапарлямэнт і Эўракамісію. Калі я распавядаў пра зьбіцьцё дэпутатаў у залі парлямэнту, эўрапейскія дэпутаты папросту не жадалі гэтаму верыць. Больш за тое: яны ўвогуле ня чулі пра рэфэрэндум 1995 году, калі былі зьняважаны нацыянальныя сымбалі і беларуская мова, – затое шмат ведалі пра рэфэрэндум 1996 году, калі па-за сьценамі Авальнай залі апынуліся некаторыя былыя сябручкі Лукашэнкі – цяперашнія лідэры апазыцыі.

## КАНЕЦ АДРАДЖЭНЬНЯ

У сукупнасьці з тым, што на выбарах 1995 г. ніводны кандыдат БНФ ня быў абраны ў Вярхоўны Савет (што таксама можна патлумачыць фальсыфікацыямі), рэфэрэндум зрабіў вялікі дэпрэсіўны эфэкт на прыхільнікаў беларускай ідэі. У Радашкавічах пэнсіянэр, былы настаўнік ангельскай мовы Ўладзімер Халопік, даведаўшыся пра вынікі рэфэрэндуму, памёр ад інфаркту. .

Для актывістаў БНФ Бел-Чырвона-Белы Сьцяг па-ранейшаму заставаўся дзяржаўным; для ўладаў і паслухмянай ім міліцыі ён ужо быў падставай для рэпрэсій, зь першых дзён пасьля рэфэрэндуму:

„В.а. Генэральнага пракурора Рэспублікі Беларусь сп. Васілю Капітану. Нам паступіла копія скаргі, адрасаваная Вам групай грамадзянаў (Несьцер Уладзімер, Сіўчык Вячаслаў, Івашкевіч Віктар і іншыя). Гэтыя грамадзяне былі затрыманыя супрацоўнікамі органаў унутраных справаў 27 ліпеня на плошчы Незалежнасьці. Прычынай затрыманьня зьявілася тое, што яны трымалі Бел-Чырвона-Белыя сьцягі. Грамадзяне былі дастаўленыя ў Маскоўскі РАУС г. Менска. Акрамя таго, супрацоўнікамі міліцыі быў зьбіты і затрыманы дэпутат Менскага гарадзкога Савета Ўладзімер Несьцер – за тое, што спрабаваў высьветліць прозьвішча міліцыянта, які кіраваў акцыяй. Гэтаксама нам вядома, што 27 ліпеня як у Менску, так і ў некаторых іншых населеных пунктах супрацоўнікі міліцыі прымянілі сілавыя мэтады да грамадзянаў, якія сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці зь Бел-чырвона-Белымі Сьцягамі... Дэпутаты ВС Зянон Пазьняк, Сяргей Навумчык, 30 ліпеня 1995 г.”.

Канешне, такія адносіны да нацыянальных сымвалаў міліцэйскіх ніжэйшых чыноў (ніхто



(Архіў БНФ)

***Пачатак „новага парадку" Лукашэнкі і К°. 8-га верасьня 1994 г. АМАП па загаду Міністра МУС Ю. Захаранкі спрабуе перашкодзіць мерапрыемствам БНФ у Дзень Беларускай Вайсковай Славы. На пярэднім пляне В. Голубеў, З. Пазьняк і дружыньнік БНФ..***

зь іх, канешне, ня быў пакараны) не магло быць іх уласнай ініцыятывай (яны таксама насілі бел-чырвона-белыя нашыўкі ды значкі з „Пагоняй", бо „лукашэнкаўскія" зрабіць яшчэ не пасьпелі). Міністрам унутраных справаў у той момант зьяўляўся Юры Захаранка.

Неўзабаве пасьля рэфэрэндуму паліцэйскія мэтады былі ўжытыя і да сфэры адукацыі. Лукашэнка распарадзіўся вярнуцца да сыстэмы, якая існавала да моманту абвяшчэньня Незалежнасьці. „Распараджэньне Прэзыдэнта Лукашэнкі аб выключэньні падручнікаў 1992–1995 гадоў з сыстэмы школьнай і вышэйшай адукацыі зьяўляецца, на наш погляд, працягам небясьпечнай палітыкі, пачатай рэфэрэндумам 14 траўня 1995 году. Новы крок вышэйшай улады ёсьць нішто іншае, як замах на духоўную і інтэлектуальную свабоду нацыі, а значыць, на яе будучыню. Тое, што пад забарону трапляюць усе без выключэньня новыя падручнікі гуманітарнай сфэры, перакрэсьлівае вялізную працу ў пераарыентацыі на ўсясьветны ўзровень адукацыі, у вяртаньні гістарычнай праўды і вызваленьня грамадзтва ад дурману таталітарызму. Сыстэма нацыянальнай адукацыі будзе адкінутая ў мінулае і не дазволіць даць краіне духоўна свабодных і высокаадукаваных грамадзянаў, гатовых да жыцьця ў сучасным дэмакратычным сьвеце. На практыцы рэалізацыя распараджэньня азначае, што ў новым навучальным годзе школьнікі і студэнты апынуцца без падручнікаў па гісторыі, мове, літаратуры і іншых гуманітарных дысцыплінах, якія фармуюць сьветапогляд асобы. Можна ўявіць, у колькі абыдзецца дзяржаве падрыхтоўка і выданьне новых падручнікаў. А дзе гарантыя, што іх абяцанае „шырокае грамадзкае рэцэнзаваньне" ня будзе нагэтульскі галосным, як і дзейнасьць таямнічай экспэртнай камісіі, матэрыялы якой

зрабіліся падставай прэзыдэнцкага рашэньня? Робіцца спроба павярнуць гісторыю назад. Хаця вопыт эўрапейскіх краінаў, у тым ліку і найбліжэйшых суседзяў Беларусі, сьведчыць, што падобныя сацыяльна-палітычныя экспэрымэнты рана ці позна завяршаюцца крахам", – адзначалася ў заяве, якую падпісалі Васіль Быкаў, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Уладзімер Арлоў, Сьвятлана Алексіевіч, Васіль Зуёнак, Карлас Шэрман, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законьнікаў і Анатоль Кудравец.

„Мэта – выкрасьліць з нацыянальнай памяці ўсялякую інфармацыю пра тое, што Беларусь да 1919 году мела незалежнасьць – і ў часе Беларуска-Літоўскага княства, і ў 1918 годзе", – пракамэнтаваў у тыя дні агенцтву „Павет" прэзыдэнцкае распараджэньне Лявон Баршчэўскі.

Дзесяткі тысяч беларускіх падручнікаў былі зьнішчаныя.

Магу памыліцца, але, здаецца, на тэрыторыі Эўропы гэта было першае аўтадафэ такога маштабу – пасьля спаленьня фашыстамі тысяч „няўгодных" кніг у Мюнхэне і Бэрліне 10 траўня 1933 году.

Дадам, што таямнічай „экспэртнай камісіяй" кіраваў палкоўнік Уладзімер Замяталін. Ён, як і начальнік прэзыдэнцкай Адміністрацыі Леанід Сініцын, быў ідэолягам „рэфэрэндуму".

Увосень 2005 году ў інтэрвію радыё „Свабода" Сініцын прызнаўся, што гэта менавіта ён, Сініцын, „маляваў" лукашэнкаўскі герб і сьцяг, і пацьвердзіў „слушнасьць" рэфэрэндуму. „Дзесяць гадоў людзі жывуць з гэтымі сімваламі... Гэта быў паварот, пачаўся новы этап".

Гэта быў сапраўды паварот – паварот у супрацьлеглы бок ад нацыянальнага Адраджэньня, для якога 14 траўня 1995 году было днём катастрофы. Менавіта ў гэты дзень апошняя хваля Адраджэньня скончылася.

## ШЛЯХ ДА ЗЬНІШЧЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

Мне могуць запярэчыць – ну як жа, ня зьнікла ж беларуская мова, зьяўляюцца і кнігі, існуюць – нават! – беларускія клясы.

Усё гэта так, але беларускае слова жыло і пры Мураўёве, „Знак бяды" пісаўся пры Брэжневе, а клясы (праўда, не ў сталіцы) існавалі і пры Машэраве. Але калі казаць пра Адраджэньне як працэс нацыянальнага разьвіцьця, дык усё, што было пасьля траўня 1995 году – гэта толькі падтрыманьне нацыянальнай ідэі намаганьнямі энтузіястаў, безь дзяржаўнага спрыяньня, а ў абсалютнай большасьці выпадкаў – насуперак афіцыйнай палітыцы.

Паказальная ў гэтым сэнсе сытуацыя з коласаўскім гуманітарным ліцэем – адзінай сярэдняй навучальнай установе ў сталіцы краіны, дзе выкладаньне ўсіх прадметаў вядзецца на беларускай мове. Вучні выкідваюцца з будынку; у сьцены былога ліцэю засяляюць суд, які пры Лукашэнку зьяўляецца часткай рэпрэсіўнай сыстэмы. Настаўнікі вымушаныя праводзіць заняткі на канспіратыўных кватэрах; хіба што толькі Інтэрнэт ды іншыя прыкметы XXI стагодзьдзя адрозьніваюць гэтых дзяцей ад першых хрысьціян-катакомбнікаў.

У катакомбы загнаная і ўся нацыянальная культура; апошнія свае гады Васіль Быкаў быў вымушаны правесьці на чужыне.

У пачатку XXI стагодзьдзя, пры Лукашэнку, упершыню з моманту панаваньня расейскага царызму беларускае слова можа быць падставай для арышту. І гэта не эфэктная фраза. Калі я запытаўся ў аднаго былога высокапастаўленага чыноўніка (у Лукашэнкі ён займаў пасаду вышэйшую, чым міністар) – што было б, калі б на нарадзе ў прэзыдэнта нейкі чыноўнік, напрыклад, міністар, раптам загаварыў па-беларуску, пачуў у адказ: „Адназначна – арышт. Ня ў той жа момант, але праз некалькі тыдняў гэты чалавек бы сядзеў, бо беларуская мова атаясамліваецца зь неляяльнасьцю да рэжыму, гэта знак, што „ня наш", ну а знайсьці, за што пасадзіць, можна ў кожнага чыноўніка. А ня знойдуць – дык прыдумаюць".

Дзяржаўная палітыка, накіраваная на ліквідацыю сфэры ўжытку беларускай мовы, на выкрэсьліваньне з гістарычнай памяці пэрыядаў незалежнага існаваньня, выцясьненьне нацыянальнай эліты ў рэзэрвацыі, на маргінэз – служыць стварэньню дэнацыяналізаванага грамадзтва. Леанід Лыч слушна заўважыў, што „па-за роднай

культурай беларусы становяцца бессыстэмнай этнічнай масай", – можна было б дадаць, што, пры патрэбе, могуць зрабіцца, як гэты ўжо здаралася ў гісторыі, і „біямасай", якую кінуць абараняць геапалітычныя імпэрскія інтарэсы.

Бясспрэчна, што такое грамадзтва ў выпадку рэфэрэндуму прагаласуе за ліквідацыю Беларусі як дзяржавы – і Масква падасьць гэта сьвету як заканамерную зьяву: „Гэта – рускія людзі. Яны ж самі прызналі, што іх мова – расейская, іх гісторыя – расейская, і аб'ядналіся з намі самым дэмакратычным чынам – рэфэрэндумам. Талерантна і негвалтоўна".

І Эўропа з гэтым пагодзіцца.

# СУПРАЦЬ „САЮЗУ"

Наступныя старонкі – апісаньне высілкаў прадстаўнікоў нацыянальных сілаў захаваць тое беларускае, што яшчэ ня зьнішчана, і найперш – саму дзяржаву.

І пасьля рэфэрэндуму 1995 году яшчэ некалькі месяцаў у дзяржаўных выдавецтвах выходзілі запланаваныя раней кнігі, дзе гісторыя Беларусі падавалася зь незалежніцкіх пазіцыяў, друкаваўся Васіль Быкаў, – але гэта, хутчэй, ішло па інэрцыі.

Камісія па культуры, адукацыі і захаваньні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета імклiва згубіла ўплыў на „профільныя" міністэрствы – разам з рэфэрэндумам адбыліся і выбары, на якіх БНФ пацярпеў паразу, ніхто з членаў камісіі ня быў пераабраны ў новы Вярхоўны Савет. Да таго ж, прэзыдэнт Лукашэнка заявіў, што ВС-12 павінен скласьці свае паўнамоцтвы, і адміністрацыя прэзыдэнта на чале зь Леанідам Сініцыным зрабіла ўсё, каб сарваць верасьнёўскую сэсію.

У апошнія месяцы кадэнцыі Вярхоўнага Савета 12 скліканьня ўплыў дэпутатаў нацыянальнай арыентацыі быў, фактычна, зьведзены да нуля, нават мясцовыя выканаўчыя структуры не лічылі патрэбным рэагаваць на афіцыйныя дэпутацкія запыты. Абараняць нацыянальныя інтарэсы на дзяржаўным узроўні ўжо не было каму.

Са спыненьнем парлямэнцкай дзейнасьці прадстаўнікоў БНФ (фармальна гэта адбылося 9 студзеня 1996 году, у дзень пачатку працы Вярхоўнага Савета 13 скліканьня, калі паўнамоцтвы ВС 12 скліканьня скончыліся) быў канчаткова страчаны ўплыў нацыянальных сілаў і на дзейнасьць дзяржаўных органаў, у тым ліку ў галіне адраджэньня і разьвіцьця беларускасьці.

У пачатку 1996 году Крамлю і Лукашэнку здавалася, што, не прапусьціўшы ніводнага прадстаўніка БНФ у Вярхоўны Савет, яны паставілі крыж на нацыянальным руху (як ня без іроніі пісаў публіцыст Анатоль Майсеня, ужо ніколі ня будзе ў Менску шматтысячных шэсьцяў пад Бел-Чырвона-Белымі сьцягамі). Прадстаўнікі АГП і іншыя агульнадэмакратычныя дэпутаты (за выключэньнем Паўла Знаўца) не ўздымалі пытаньні нацыянальнай культуры, беларускай мовы, і не выказвалі пратэсту супраць запланаванага саюзу з Расеяй. Новаабраны сьпікер новаабранага парлямэнту Сямён Шарэцкі заявіў, што падпісаньне дамовы аб беларуска-расейскім саюзе – „выпраўленьне таго павароту ў лёсе нашых народаў, які ў свій час адбыўся. Я шчасьлівы, што гэта здарылася пры маім жыцьці" („Народная газэта", 4 красавіка 1996 г.).

Аднак 24 сакавіка 1996 году БНФ, якому аналітыкі пасьля паразы на выбарах прадраклі хуткую сьмерць, вывеў на вуліцы Менску дзесяткі тысячаў людзей пад нацыянальнымі сьцягамі – сьвяткаваньне ўгодкаў БНР спалучылася з пратэстам супраць падпісаньня незаконнай дамовы аб утварэньні так званай „беларуска-расейскай дзяржавы". Выступ быў жорстка падаўлены, дзесяткі людзей былі зьбітыя, аднак у сьвеце ўбачылі, што беларусы ня згодныя зьмірыцца зь ліквідацыяй сваёй краіны.

Такі масавы выступ быў поўнай нечаканасьцю і для Крамля, і для лукашэнкаўскай адміністрацыі. Таму вырашылі ўжыць самыя жорсткія на той час меры супраць арганізатараў. Мы з Пазьняком былі вымушаныя зьехаць зь Беларусі – як тады падавалася, на некалькі тыдняў, каб пазьбегнуць перасьледу ды адначасна праінфармаваць Эўропу пра пагрозу ўзмацненьня імпэрскай палітыкі Крамля.

Пасьля першай жа нашай прэсавай канфэрэнцыі ў Кіеве генпракуратура Беларусі накіравала ва Ўкраіну патрабаваньне аб нашай выдачы, аднак генэральны пракурор Украіны адмовіўся гэта зрабіць. (Інфармацыя пра гэта, як і пра аўтаматчыкаў

каля дамоў, дзе жылі Пазьняк і я, была ў тыя дні ў менскім незалежным друку – аднак пазьней некаторыя журналісты пачалі пісаць, што нам „нічога не пагражала” – што, пэўна, адпавядала нечым інтарэсам). Перамовы аб нашым лёсе вёў Вячаслаў Чарнавіл; шмат што ў той сытуацыі залежала ад прэзыдэнта Кучмы. Канешне, нашае знаходжаньне ў Кіеве пры штодзённых інтэрвью ўкраінскім і заходнім СМІ ставіла ў двухсэнсоўную сытуацыю ўкраінскія ўлады і самога Кучму, і ўрэшце нам стварылі ўмовы для выезду на Захад.

У Чэхіі мы заявілі, што Беларусь павінна далучыцца да НАТО; гэтая заява была незразуметая кіраўніцтвам БНФ у Менску. Там палічылі, што казаць пра гэта занадта рана; мы ж лічылі, што сказана пра гэта запозна.

Падчас сустрэчы ў адміністрацыі прэзыдэнта Вацлава Гаўла нас спрабавалі пераканаць, што Расея – дэмакратычная краіна, што Ельцын – дэмакратычны прэзыдэнт, і ён хутка выведзе Лукашэнку на шлях дэмакратызацыі. А ўвогуле, Беларусь – занадта на ўсходзе, а Чэхія – ужо на Захадзе, каб беларуская праблематыка падавалася такой ужо істотнай. Нам, аднак, паабяцалі, у выпадку патрэбы, уладкаваць у чэскія ВНУ беларускіх студэнтаў.

Было зразумела, што Захад не ўсьведамляе сутнасьці крамлёўскай палітыкі і ня бачыць яе небясьпекі.

Летам 1996 году Аляксандар Лукашэнка наведаў Парыж; прэзыдэнт Францыі Жак Шырак зрабіў яму ганаровае прыняцьцё – нібыта не было ні зьбіцьця дэпутатаў, ні разгону масавых шэсьцяў, ні хвалебных словаў пра Гітлера. Узьнікла пагроза палітычнай і маральнай легітымізацыі рэжыму Лукашэнкі. У такой сытуацыі палітычную ініцыятыву прыйшлося браць на сябе лідэрам БНФ, якія апынуліся ў замежжы.

Пасьля таго, як стала вядома аб падрыхтоўцы расейска-беларускімі спэцслужбамі „нэўтралізацыі” (забойства) нас у Польшчы (куды мы павінны былі вярнуцца з Амэрыкі) стала зразумела, што вяртацца нельга. Намі было канчаткова прынятае рашэньне прасіць палітычнага прытулку, тым больш мы праверылі інфармацыю, што падрыхтавалі для нас спэцслужбы Лукашэнкі. Белы Дом быў пастаўлены перад выбарам, які ён вельмі не жадаў рабіць. (З пазьнейшых мэмуараў Строба Тэлбата, намесьніка Дзяржсакратара і асабістага сябра Клінтана, стала зразумела, што Вашынгтон збольшага быў гатовы працягваць палітыку ігнараваньня таго, што адбываецца ў Беларусі – эпізадычныя пратэсты Дзярждэпу не ішлі ў разьлік. Паказальна, што на 500 старонках тэксту кнігі намесьніка кіраўніка Дзярждэпу па СНД Беларусь узгадваецца толькі два разы).

Прадстаўленьне палітычнага прытулку Зянону Пазьняку было фактычна прызнаньнем існаваньня ў Беларусі дыктатарскага рэжыму Лукашэнкі. „Краіна мяняе статус”, – напісала ў тыя дні „Наша Ніва”. Характэрна, што напачатку ў Сэнаце ЗША нам сказалі: „Калі мы, амэрыканцы, не пагодзімся з аб’яднаньнем Беларусі і Расеі – Масква не дазволіць нам прыняць краіны Балтыі ў НАТО”. Але, як бачым, падзеі прымусілі Вашынгтон зьмяніць сваю думку. Гэта прыцягнула ўвагу да Менску вядучых усясьветных СМІ, і падзеі вакол патэнцыйнага імпічмэнту Лукашэнку ды „рэфэрэндуму” адбываліся ўжо пад увагай міжнароднай супольнасьці. Імпічмэнт, аднак, быў бяздарна правалены кіраўніцтвам Вярхоўнага Савета і старшынём Канстытуцыйнага Суду, якія спакусіліся на пасярэдніцтва Крамля, а дакладней проста здрадзілі.

Апошнія надзеі на нацыянальна-культурнае разьвіцьцё Беларусі і адраджэньне беларускасьці былі пахаваныя пасьля лістападаўскага рэфэрэндуму 1996 году, які Беларускім Народным Фронтам і міжнароднай супольнасьцю быў ацэнены як антыканстытуцыйны пераварот.

Аднак нацыянальная ідэя ня зьнішчаная, і найбольш красамоўны гэта выявілася на Віцебшчыне, усходняя частка якой лічыцца найбольш русыфікаванай. Адразу пасьля лукашэнкаўскага рэфэрэнлдуму на недасягальных для паслугачоў рэжыму месцах пачалі З’яўляца Бел-Чырвона-Белыя Сьцягі. Іх вывешваў легендарны Мірон (сёньня можна назваць некаторых арганізатараў гэтых гераічных акцыяў – актывісты Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі Беларускага Народнага Фронту Уладзімер Плешчанка. Зьміцер Піменаў...).

Бел-Чырвона-Белыя Сьцягі ўзьняла і беларуская моладзь на плошўшчы Каліноўскага ў Менску.

# АДМЕТНАСЬЦІ І ВЫСНОВЫ




*Прэсавая канфэрэнцыя ў Кіеве 30 сакавіка 1996 г. На здымку: Д. Панамарчук, В. Чарнавіл, З. Пазьняк, С. Навумчык.*

Можна вызначыць некалькі адметнасьцяў і заканамернасьцяў апошняга этапу нацыянальнага Адраджэньня (1988–1995), магчыма, у беларускай сытуацыі ўнівэрсальных.

Гучаць меркаваньні, што дэпутатам Апазыцыі БНФ варта было б адмовіцца ад чыста палітычнай барацьбы і сканцэнтравацца выключна на культурна-асьветніцкай дзейнасьці, што дало б магчымасьць у значна большай ступені, чым гэта адбылося, рэалізаваць нацыянальныя ініцыятывы. Такое сьцьверджаньне не падаецца слушным, паколькі магчымасьць уплываць на гэты працэс знаходзілася ў непасрэднай залежнасьці ад ступені палітычнага ўплыву і ад палітычнай актыўнасьці парлямэнцкіх прадстаўнікоў БНФ. Магчымасьць была большай у жніўні 1991 году, калі БНФ удалося дасягнуць найважнейшай праграмнай палітычнай мэты – дзяржаўнай незалежнасьці, і мінімальнай – пасьля прыходу Лукашэнкі да ўлады, калі прынцыпы парлямэнтарызму пачалі зьнішчацца прэзыдэнцкай адміністрацыяй.

Такім чынам, Адраджэньне наўпрост было зьвязанае з вынікамі палітычнай дзейнасьці яго ініцыятараў – актывістаў Беларускага народнага фронту. Прычым найбольшыя посьпехі беларусізацыі дасягаліся менавіта тады, калі БНФ удавалася захапіць „пляцдармы” ў дзяржаўных сфэрах, і гэта тычыцца як канстытуцыйна-прававога поля (Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце, шэраг заканадаўчых пастановаў ВС), так і органаў кіраваньня (парлямэнцкія камісіі, пры ўсёй абмежаванасьці іх уплыву і практычна поўнай адсутнасьці рэальнай улады).

Вопыт паказаў, што адраджэньне і разьвіцьцё беларускасьці немагчымае пры аўтарытарызме і дыктатуры, яно магчымае толькі пры дэмакратыі.

Але адметнасьць у тым, што сама па сабе дэмакратыя яшчэ не гарантуе ажыцьцяўленьня нацыянальнага адраджэньня.

І тут выяўляецца істотная заканамернасьць – палітычнае дамінаваньне дэмакратычных партыяў, для якіх нацыянальная ідэя не зьяўляецца прыярытэтнай, ні ў якім разе не спрыяе рэалізацыі гэтай ідэі.

Віцэ-прэм’ерства Віктара Ганчара ў першыя месяцы пасьля прыходу Лукашэнкі да ўлады адзначылася згортваньнем нацыянальных праграмаў (мне невядомы ніводны ягоны пратэст з гэтай нагоды; пазьнейшая адстаўка была ім матываваная іншымі прычынамі). У Вярхоўным Савеце 13 скліканьня Аб’яднаная грамадзянская партыя (АГП) была прадстаўленая ў працэнтных суадносінах да агульнай колькасьці дэпутатаў ня горш, чым БНФ у парлямэнце 12 скліканьня пасьля выбараў 1990 году (большасьць дэпутатаў будучай Апазыцыі БНФ далучыліся да Народнага фронту толькі пасьля пачатку першай сэсіі), а разам зь іншымі апазыцыйнымі дэпутатамі (так званымі „незалежнымі”) дык была і значна большай. Аднак за адзінаццаць месяцаў існаваньня Вярхоўнага Савета 13 скліканьня „дэмакраты” лібэральнага накірунку не вынесьлі ніводнай заканадаўчай прапановы, якая б была накіраваная на ўмацаваньне пазыцыяў беларускай мовы, разьвіцьцё нацыянальнай культуры ці захаваньне гістарычных каштоўнасьцяў. Наадварот – гэтыя дэпутаты прагаласавалі за прызнаньне вынікаў рэфэрэндуму 1995 году аб „дзьвюхмоўі”, ліквідацыі бел-чырвона-белага сьцягу і „Пагоні” як дзяржаўных сымбаляў і інтэграцыі з Расеяй. Натуральна, гэта адбывалася і пры аднадушнай падтрымцы камуністычнай фракцыі.

Гэта ставіць пад сумнеў папулярную ў некаторых палітолягаў тэзу, што, маўляў, галоўнае –

прывесьці да ўлады дэмакратаў, не істотна якіх, а яны ўжо гарантуюць адраджэньне нацыянальных каштоўнасьцяў. Не гарантуюць.

Яшчэ адной асаблівасьцю апошняга Адраджэньня было тое, што ні на якіх сваіх этапах яно не падтрымлівалася дзяржаўнымі органамі. Яно было ініцыяванае лідэрамі БНФ, дэпутаты парлямэнцкай Апазыцыі БНФ дамагаліся ўвасабленьня нацыянальных ідэалаў у дзяржаўнай практыцы (насуперак пазыцыі Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў). Шляхам брутальнага (у літаральным сэнсе – фізычнага) падаўленьня парлямэнцкай Апазыцыі БНФ гэтае Адраджэньне і было спыненае.

У 1988–1995 гг. – як, зрэшты, і на ўсіх этапах беларускай гісторыі – Масква не падтрымала ні нацыянальнага Адраджэньня, ні імкненьня да дэмакратычных рэформаў. Паўтаруся: глыбока памылковым уяўляецца меркаваньне, што ў жніўні 1991-га Масква „падаравала” Беларусі (як і іншым былым савецкім рэспублікам) сувэрэнітэт. На ўсіх этапах апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня яго прыхільнікам даводзілася супрацьстаяць уплыву і палітыцы Расеі, а адным з магутных інструмэнтаў у руках праціўнікаў выступала расейская мова.

Мы кажам пра сем гадоў Адраджэньня, але час, калі нацыянальныя сілы маглі больш-меньш эфэктыўна ўплываць на дзяржаўную палітыку, значна карацейшы – са жніўня 1991-ага да адстаўкі Шушкевіча ў студзені 1994-ага.

На жаль, краіна не прайшла праз этап фармаваньня і існаваньня нацыянальнай дзяржавы, якая б легітымна замацавала прыярытэты беларускай мовы, стварыла б умовы для разьвіцьця беларускай культуры, а галоўнае – нацыянальнай ідэнтыфікацыі грамадзтва, выпрацоўкі імунітэту да этнічнай асыміляцыі іншай нацыяй (праз такія этапы прайшлі практычна ўсе краіны ў розныя гістарычныя часы). Гэткія гарантыі былі б створаныя, калі б на чале Беларусі ў сярэдзіне 90–ых быў лідэр БНФ Зянон Пазьняк.

Прычыны – чаму ж не да канца быў скарыстаны грамадзтвам гістарычны шанец – будуць яшчэ неаднаразова праанализаваныя гісторыкамі, і, бясспрэчна, нашчадкамі з адлегласьці часу яны будуць бачыцца больш ясна, чым нам.

Галоўную прычыну, аднак, можна вызначыць ужо цяпер. Гэта – нізкі ўзровень нацыянальнай сьвядомасьці грамадзтва (вынік ідэалягічнай і рэпрэсіўнай расейскай палітыкі ў Беларусі).

„Шанец быў, вельмі рэдкі. Відаць, грамадзтва, з пэўных прычынаў, не магло пакарыстацца гэтым шанцам”, – казаў Васіль Быкаў.

І ўсё ж Адраджэньне было, і яно мела вынікі.

Галоўны вынік апошняй хвалі нацыянальнага Адраджэньня – аднаўленьне незалежнасьці Беларусі. На жаль, незалежнасьць не атрымала ў той час і ўсё яшчэ ня мае да сёньня гарантыяў незваротнасьці.

Стварыць такія гарантыі і будзе першачарговай мэтай наступнай (і па-сапраўднаму апошняй) хвалі.

*Нью-Ёрк – Прага*


(Фота Галіны Навумчык)

***Менск 24 сакавіка 1996 г. Родныя сымвалы.***

# ПАКАЗЬНІК АСОБАЎ

# ФАТАГРАФІІ

***Вокладка – 2:*** Сяргей Навумчык. Партрэт 2006 г. *(Фота Галіны Навумчык)*

1. Памятны знак. *(Фота: А. Рушнер)*
2. Дзяды. *(архіў БНФ)*
3. Дзяды ў Курапатах. 1989 г. *(Фота: К. Войтка)*
4. Запрашэньне на Устаноўчы сход „Мартыралогу”.
5. Устаноўчы сход „Мартыралогу”. (Зьлева направа: функцыянэр ЦК КПБ Р. Бузук, М. Хв. Дубянецкі, В. У. Быкаў.)
6. Дзяды – 88. Мітынг у полі пад Курапатамі.
7. Шэсьце на чарнобыльскую гадзіну смутку і маўчаньня. 1989 г. Менск.
8. Передвыбарчы стотысячны мітынг у Менску. 1990 г. Ля мікрафонаў З. Пазьняк, Я. Сакалоў.
9. „Першы мікрафон”. Юры Беленькі і Зянон Пазьняк.
10. „Першы мікрафон”. Лявон Дзейка, Уладзімер Грыбанаў, Зянон Пазьняк, Віталь Малашка. *(Фота: С. Брушко).*
11. Прэсавая канфэрэнцыя пасьля „Чарнобыльскага шляху” – 89. Менск. *(архіў БНФ)*
12. Чарнобыльская Беларусь. *(Архіў БНФ)*
13. 27 ліпеня 1992 г. у Менску. *(Калекцыя З. Пазьняка)*
14. „Трэці мікрафон”. Генадзь Майсееў, Сяргей Навумчык. *(Фота: Я. Пясэцкага).*
15. Сьпіс 14 - ці законапраектаў, падрыхтаваных дэпутатамі Апазыцыі БНФ на асеньнюю Сэсію ВС 8 кастрычніка 1990 г. *(Архіў С. Навумчыка).* *<u>Тэкст:</u>*

    8 кастрычніка 1990 г. У сакратарыят Вярхоўнага Савета БССР. У адпаведнасьці з „Часовым рэглямантам Вярхоўнага Савета БССР” просім памножыць у колькасьці 360 экз. і распаўсюдзіць паміж народнымі дэпутатамі БССР наступныя праекты, падрыхтаваныя дэпутацкай Апазыцыяй БНФ: 1.Закон „Аб грамадзянстве Беларускай ССР”, 2. „Зямельны кодэкс Беларускай ССР”, 3. Закон Беларускай ССР аб уласнасьці”, 4. Закон Беларускай ССР аб банках і банкаўскай дзейнасьці” 5.Закон Беларускай ССР аб мясцовым самакіраваньні” 6.Дэкрэт аб уладзе ў Беларускай ССР 7. Пастанова Вярхоўнага Савета БССР аб паясным часе 8. Заява ВС БССР па ваенных пытаньнях 9. Пастанова ВС БССР аб стварэньні камісіі ВС БССР па пытаньнях абароны і дзяржаўнай бясьпекі БССР 10. Пастанова ВС БССР аб асноўных задачах і парадку дзейнасьці Камісіі ВС БССР па пытаньнях абароны 11. Пастанова ВС БССР аб першачарговых мерах па рэалізацыі прынцыпаў Дэклярацыі аб дзяржаўным суверэнітэце БССР у галіне дзяржаўнай ваеннай палітыкі БССР 12. Пастанова ВС БССР аб ахвярах палітычных рэпрэсіяў у 60-80 гг 13. Пастанова ВС БССР аб дэнансацыі Саюзнага дагавору 1922 г. 14 Пастанова ВС БССР аб назве Рэспублікі. С. Навумчык, Л. Баршчэўскі, В. Голубеў, Г. Сямдзянава, Л. Дзейка, І. Гермянчук, Л. Зданевіч, У. Грыбанаў, П. Садоўскі, В. Галубовіч, А. Шут, М. Сукач, П. Драган, А. Паруль, С. Антончык, Г. Маісееў, Ю. Беленькі, М. Крыжаноўскі, З. Пазьняк.
16. Значок дэпутацкай Фракцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. 1990 г. *(Архіў С. Навумчыка).*
17. Красавік 1991 г. Рабочая дэманстрацыя каля Дому ўраду; першы дзень.
18. „Урад у адстаўку. Незалежнасьць!” 1991 г. Менск. *(Фота В. Драчова).*
19. Закратаваны вагон.
20. Жнівень 1991. Мітынг БНФ перад Вярхоўным Саветам. Выступае Аляксандар Сасноў. *(Фота С. Грыца)*

21,22. Пакой Апазыцыі БНФ. Позьняя праца над законапраектамі. На здымках відаць Сяргей Папкоў, Лявон Зданевіч, Уладзімер Заблоцкі, Вялянцін Голубеў, Зянон Пазьняк, Галіна Сямдзянава, Сяргей Антончык. *(Фота Сяргея Навумчыка)*

23. Заява на раздрукаваньне заканадаўчых праектаў, падрыхтаваных Апазыцыяй БНФ на Сесію ВС 24 – 25 жніўня.
24. 24 жніўня 1991 г. Вярхоўны Савет. В. Голубеў з Нацыянальным Сьцягам.
25. Дэпутаты Апазыцыі БНФ праганяюць А. Малафеева з трыбуны.
26. Прапановы Апазыцыі БНФ у парадак для Надзвычайнаў Сэсіі ВС 24 жніўня 1991 г. *(Архіў С. Навумчыка)*

27. Першая ноч незалежнасьці перад Вярхоўным Саветам.
28. Канец камунізму ў Беларусі. *(Архіў БНФ)*
29. „Хай здохне Палітбюро і ЦК!”. Канец камунізму ў Беларусі. *(Архіў БНФ).*
30. Пахаваньне камунізму. Хэпэнінг на вуліцах Менска, 24 жніўня 1991 г. *(Архіў БНФ).*
31. Новыя маркі Рэспублікі Беларусь. 1992 г. *(Архіў С. Навумчыка)*
32. Васіль Быкаў і Зянон Пазьняк. 1993 г. *(Архіў С. Навумчыка)*
33. Падпісаньне „Антыкрызіснага Пагадненьня” 14 сакавіка 1992 г. Менск, Дом літаратара. У цэнтры З. Пазьняк і С. Шушкевіч *(Калекцыя З. Пазьняка)*
34. Дэлегаты III Зьезду БНФ Адраджэньне. Менск, Тэатр імя Янкі Купалы 29 – 30 траўня 1993 г. *(Калекцыя З. Пазьняка)*
35. Васіль Быкаў выступае на Сойме БНФ. Справа З. Пазьняк. 1993 г. *(Фота С. Навумчыка)*
36. Рабочы момант. Зь мікрафонам Віктар Алампіеў. 1993 г. *(Калекцыя З. Пазьняка)*
37. Пяць гадоў БНФ. 19.X.1993 г. Сядзіба БНФ. На здымку: Яўген Кулік, Алесь Лукашук, Зянон Пазьняк, Анатоль Грыцкевіч, Мікола Купава, Васіль Быкаў, Алег Трусаў.
38. Дэпутацкае пасьведчаньне С. Навумчыка.
39. 25 Сакавіка 1994 г. З. Пазьняк, М. Анцыповіч, М. Купава, В. Быкаў, С. Навумчык.
40. „Прымусовы дакумант”. *Тэкст*: „Гэтым паведамляецца, што Рэспубліка Беларусь далучана да Дамовы аб калектыўнай бясьпецы, якая падпісана на паседжаньні Рады кіраўнікоў Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў у г. Ташкенце 15 траўня 1992 г. С. С. Шушкевіч, Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Зьдзейсьнена ў г. Менску 31 сьнежня 1993 г.”
41. Прэзыдэнт ЗША Уільям Клінтан і Зянон Пазьняк у Курапатах 15.01.1994 г. *(Фота А. Каляды)*
42. Рыгор Барадулін, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк у кабінэце В. Быкава на вул. Танкавай у Менску. 19.06.1993 г. *(Фота Ул. Кармілкіна, Архіў БНФ).*
43. Пасьведчаньне С. Навумчыка аб даверанай асобе кандыдата ў Прэзыдэнты Рэспублікі Беларусь З. Пазьняка. 7.06.1994 г.
44. Мітынг БНФ. Ліпень 1994 г. Выступае Васіль Быкаў. Вядучы С. Навумчык. *(Фота Галіны Навумчык)*
45. Аблічча намэнклятурнага рэжыму. АМАП перагарадзіў дарогу калёне БНФ 9 траўня 1994 г. У цэнтры С. Навумчык, З. Пазьняк, В. Быкаў. *(Архіў С. Навумчыка).*
46. Пратэст супраць „новага парадку” Лукашэнкі і К°. Снежань 1994 г. *(Архіў БНФ).*
47. Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. *(Фота С. Грыца).*
48. Галадоўка дэпутатаў Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце. *(Фота С. Грыца).*
49. Ноч у Вярхоўным Савеце 12 красавіка 1995 г. „Шукаюць бомбу” *(Фота Л. Дзейкі)*
50. Ноч у Вярхоўным Савеце 12 красавіка 1995 г. М. Цесавец і В. Каралёў хапаюць і спрабуюць цягнуць дэпутата Барыса Гюнтара. *(Фота Л. Дзейкі)*
51. Ноч у Вярхоўным Савеце 12 красавіка 1995 г. На другім пляне чатыры функцыянеры спэцслужбаў, якія прышлі ў залю перад штурмам (у разьведку) і спрабавалі хапаць дэпутатаў Апазыцыі БНФ. На пярэднім пляне Лявон Зданевіч і Лявон Баршчэўскі. *(Фота Л. Дзейкі).*
52. Пачатак „новага парадку” Лукашэнкі і і К°. 8-га верасьня 1994 г. АМАП па загаду Міністра МУС Ю. Захаранкі спрабуе перашкодзіць мерапрыемствам БНФ у Дзень Беларускай Вайсковай Славы. На пярэднім пляне В. Голубеў, З. Пазьняк і дружыньнік БНФ. *(Архіў БНФ).*
53. Прэсавая канфэрэнцыя ў Кіеве 30 сакавіка 1996 г. На здымку: Д. Панамарчук, В. Чарнавіл, З. Пазьняк, С. Навумчык. *(Фота Г. Навумчык)*
54. Менск 24 сакавіка 1996 г. Родныя сымвалы. *(Фота Галіны Навумчык)*

***Вокладка – 3:*** Менск 1995 г. На здымку: М. Купава, С. Навумчык, Р. Барадулін, В. Быкаў, З. Пазьняк, С. Папкоў. На другім пляне: Л. Баршчэўскі, А. Старыкевіч. *(Фота Галіны Навумчык)*

# З Ь М Е С Т

EAN 978-80-86961-11-8

Навумчык Сяргей Іосіфавіч

*ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЕ ВЫДАНЬНЕ*

*Надрукавана на сродкі аўтара*

**Сяргей Навумчык**. Сем гадоў Адраджэньня,
альбо фрагмэнты найноўшай беларускай гісторыі (1988–1995)
Выданьне: «Беларускія ведамасьці», Варшава –
„Člověk v tisni", Прага, 2006 г. – 140 стар.: іл.

Гэта – першая спроба падрабязнай пэрыядызацыі апошняй хвалі Беларускага нацыянальнага Адраджэньня. У кнізе дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня Сяргея Навумчыка распавядаецца пра ўтварэньне Беларускага Народнага Фронту і барацьбу з камунізмам, аднаўленьне Незалежнасьці Беларусі, працу дэпутацкай апазыцыі БНФ над канцэпцыяй дзяржаўнага будаўніцтва. Падаецца аналіз прычынаў згортваньня палітыкі беларускага нацыянальна-культурнага разьвіцьця пасьля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі. Упершыню публікуюцца матэрыялы з архіву дэпутацкай Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-скліканьня.

ISBN 80-86961-11-7
EAN 978-80-86961-11-8



Мастацкі макет, афармленьне, вокладка: *Зянон Пазьняк*
Кампутарны склад па макету: *Робэрт Стаховіч*
Друк: QLCO
Наклад: 1000 асобнікаў
Аддрукавана ў ліпені 2006 г. у Варшаве
Папера крэйдавая, фармат 68x86 см, 1/16 арк.
Ул. выдавецкіх арк.: 8,7
Ум. Друкаваных арк.: 10

„Беларускія Ведамасьці", Варшава 02-017, вул. Ерузалімскія алеі, 125/127.
„Člověk v tisni" („Чалавек у нядолі"), 12000 Прага 2, вул. Сакольская, 18.

**ISBN 80-86961-11-7**